Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



Мінск будуецца. Тысячы камсамольцаў нястомна працуюць на яго будоўлях, каб забяспечыць жыхароў новымі зручнымі кватэрамі. Сацыялістычнае спаборніцтва з сталінградцамі дапамагае мінчанам у іх рабоце.
На здымку: брыгадзір брыгады муляр Марыя Макарэвіч (справа) і яе сталінградская сяброўка Анна Гардзеева.

Фота А. Дзіглава.

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



7 (65)

Ліпень.

1958.

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
**Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.**

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-8-54.

Фармат паперы 70×108/16. Друк. арк. 10. Вуч-выд. арк. 12. Тыраж 12.000 экз. Цана 4 руб.

АТ 07880. Здадзена ў набор 27.V.58 г. Падпісана да друку 8.VII. 58 г. Заказ 338.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



Кастусь Кірэенка нарадзіўся ў 1918 годзе ў вёсцы Гайшын Слаўгарадскага раёна.

У 1940 годзе ён скончыў літаратурны факультэт Гомельскага педінстытута. У гады Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях супраць фашысцкіх захопнікаў.

Першыя вершы паэта з'явіліся ў друку ў 1939 годзе.

Выйшлі яго кнігі «Ранак ідзе», «Пасля навальніцы», «Мая рэспубліка», «Родны свет», «Маякі», «Алёнчына школа», «Зялёнае рэха», «Любоў і дружба», «Роднае слова».

К. Кірэенка працуе загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва часопіса «Беларусь».

**Кастусь КІРЭЕНКА**

# ТРУБА



**Не тугу апяваць,**
**Не маркоту,**
**Не смутак-жальбу —**
**Мне ўручыла Радзіма**
**У вялікім паходзе**
**Трубу.**
**Не маўчаць,**
**Не чакаць,**
**Не глядзець, пакуль скончыцца бой,**
**А на славу гукаць**
**І на подзвіг**
**Пявучай трубой...**
**Я часамі спыняўся**
**Я часамі трымаўся ледзь-ледзь,**
**Перад брацціямі паўшымі,**
**Ледзянеючы,**
**Плакала медзь,**
**Перад смуткам бясконцым**
**Часам**
**Ціха змаўкала труба,**
**І на сэрца,**
**Як попел,**
**Ападала**
**Маркота-жальба...**
**Але так**
**Як пад попелам**
**Не стухае на вогнішчы жар, —**
**Так і ў сэрцы**
**Гучаў,**

Не змаўкаючы,
Голас ахвяр,
І нязгасным агнём
Загаралася зноў
Барацьба,
І, ажыўшы,
Героям
Зноў гукала
На подзвіг
Труба!
І сягоння яна
Не прыстала
Ў паходзе трубіць,
І сягоння яна
Ненавідзець
Заве
І любіць, —
Ненавідзець ліхое,
Каб светач
Жыцця
Не пагас,
І любіць дарагое —
Назаўжды
І адзін толькі раз!

## Г Р О М



Чалавек прыпыніўся:
*за ракою—абвалам са стром—*
Загрымеў, пакаціўся,
віхравеі ўздымаючы, гром.
Чалавек пад вятрамі
пахіліўся, прысеў на траву.
Нестарымі рукамі
ў знямозе абняў галаву.
Галава ў чалавека
паплыла, як на хісткім чаўне.
Сын суровага века,
зненавідзеў ён гром на вайне.
Гром!.. Дажджын адгалоскі...
Буйны постук па свежай раллі.
Клейкі ліст для бярозкі.
Веснавое пітво для зямлі.
Гром! Усходы на гонях.
Жыватворная завязь садам.
Гром! Даруй, што сягоння
ты нялёгкія дні прыгадаў.



Чалавеку не проста
адмахнуцца ад сумнай імжы:
І дарог сваіх ростань,
і сіроцкі ён боль перажыў.
Чалавек гэты ўмее
і смяяцца і песняй сурміць.
Ды заўжды пацямнее,
калі раптам над ім загрыміць.
Але гэта, павер мне,
на малую хвілінку адну.
Вось ён зараз паверне
твар гарачы пад ліўня сцяну.
Вось ён зараз устане,
каб прымятае дрэўца падняць.
З маладым хваляваннем
ён захоча прасторы абняць...
Пад навалаю парнай
уздыхнулі палі і лугі.
Рупатлівы, ўладарны
дождж рачныя абмыў берагі,
На хмызы, на азерцы
льецца, льецца ён з хмарных засек...
І прымае ўсім сэрцам
гэту ласку вясны чалавек.
Ён глядзіць улюбёна
на вясёлку з агністым багром,
На палетак зялёны —
і вітае, ачнуўшыся, гром,
Гром пялёсткаў і лісця,
мядуніц і густой збажыны.
Для такога калісьці
зненавідзеў ён грукат вайны!

## НАВІНЬСКІ БОР



Здароў, Навіньскі бор дрымучы!
— Здароў, здароў!..
— То — я... Ты помніш — па-над кручай,
Над плынню сожавай пявучай
Я пасвіў тут кароў?..
— Так, так!.. Здароў, здароў!..

— Лягло слядамі год нямала
На нашу кожную вярсту.
Ну, як жывеш ты — як бывала
Шуміш? Ці сіл забракавала?
— Як? А ўсё так... Усё расту!

— Скажы, не крыўдзішся ты, дружа,
Што доўга так — і ў гром і ў сцюжу —
Быў я ў далечыні?
— Пашто!
Я крыўды, брат, не знаю,
Я крыллі ў небе развінаю,
Вось які я — зірні!

Я знаю, брат, што і праз годы
Вярну сяброў сваіх, заўсёды
Сваім іх гоманам знайду!
І ты... Куды б ты зноў ні крочыў,
А прыдзеш мне зірнуць у вочы,
Каб дужым стаць...

— Прыду!.. Прыду!

## КАЛІ Я ДАМОЎ ПРЫЕДУ



Калі я дамоў прыеду,
Усіх трывог зазнаўшы меру,
Пасцялі ты мне, матуля,
Пасцялі пасцель з аеру.

Ён расце ў нас недалёчка, —
Каля Сожа, ля прычала.
Ты ж заўжды — з маленства помню —
Мне пасцель з аеру слала.

Слала, думала аб лепшай,
Думкі з песняю ляцелі.
Толькі лепшае пасля я
Не знайшоў нідзе пасцелі.

Па франтах ішоў — вайна мне
Пад бакі кідала жорны,
Перапаленыя вёрсты,
Ланцугі акопаў чорных.

З бою выйшаў — на руінах
Доўга клаўся галавою,
Пакуль з домам сваім новым
Не ўздыхнуў пад сінявою.

Ну, а потым — апынуўся
У абдымках, нібы цаца.
І пад мляваю пяшчотай
Стаў пра мары забывацца.



Нават сноў няма ў пярынах,
Іх я ласкам больш не веру...
Пасцялі ты мне, матуля,
*Пасцялі пасцель з аеру.*

Не зважай, што не юнак я,
Што прайшло гадоў багата,
Не бяда, калі цяпер мне
Будзе трохі мулкавата.

А затое я адчую,
Што ізноў навек з табою:
І з надзеямі тваімі,
І з уцехай, і з журбою.

Са святлом душы, якога
Столькі трэба мне заўсёды —
І для пошукаў бясконцых,
І на новыя паходы.

## НА СЦЕЖКАХ СТАРЫХ



На сцежках старых
*перасыпалі смолкі траву.*
— Травінкі і смолкі!
Расціце. Я вас не сарву.
Няма больш яе,
ля другой яна сёння рукі.
А я толькі ёй
адной
і падносіў вянкі.
Травінкі і смолкі
сабраліся ў гурт залаты
І ўсе засмяяліся:
— Эх, і дзівак жа, брат, ты!
Твае ўсе вяночкі
так цяжка было ёй насіць,
Як лёгка было ёй
аб вечным каханні хлусіць.

# ДВА АПАВЯДАННІ



**Барыс САЧАНКА**

## СЛЯДЫ

Мал. Л. Шчэмелева.

Чалавека нешта непакоіла. Ён то сядзеў воддаль ад дарогі, прытуліўшыся да камля дуба, то ляжаў, падклаўшы пад галаву пацёрты рэчавы мяшок, то, унурыўшы ў плечы доўгую шыю, хадзіў сюды-туды па ўскрайку лесу і ўвесь час прагна ўглядаўся ў бок вёскі, што відна была за дробным бярэзнікам на пагорку. Часам яго позірк спыняўся на звітым з сухой травы і валосся гняздзечку, якое пагойдвалася на галіне кашлатай хваінкі. З яго, як толькі прылятала невялічкая шэрая птушачка, выглядалі амаль голыя птушаняты. Яны наперабой ціліўкалі і жоўтымі кволымі дзюбкамі хапалі прынесены корм. Чалавек тады ўмомант хмурнеў, аберуч браўся за галаву і доўга не варушыўся. Пасля, схамянуўшыся, ускідваў на плечы пакамечаны мяшок, але нешта кожны раз стрымлівала яго. Ісці ў вёску ён чамусьці не рашаўся...

Толькі калі шэрань надвячорка зацягнула далячынь, чалавек выйшаў на дарогу і, насцярожана ловячы шолахі, аглядаючыся раз-по-раз, пакрочыў памалу ў вёску.

Каля хаткі з чаратовым дахам, які нібы шапка-кучомка ссунуўся на бок, ён спыніўся. Агледзеўся навокал, зазірнуў праз шчыліну ў варотах на двор і, упэўніўшыся, што ніхто яго не бачыць, пералез праз нізкі дашчаны плот у сад. Прайшоў некалькі крокаў і спыніўся пад яблыняй, трошкі ўбаку ад святла, што падала з незавешанага акна...



У хаце вячэралі. Пажылая жанчына, стоячы каля засланага чыстым абрусам стала, налівала ў конаўку малако з вялікага гладыша. Да конаўкі цягнулася амаль яшчэ дзіцячая рука...

Чалавек уздрыгнуў: твар яго перасмыкнуўся. Прыгнуўшыся, каб не зачапіцца галавой за голле яблыні, ён асцярожна падкраўся да акна і прынік да сцяны. Але каго яму так хацелася ўбачыць — не ўбачыў: перашкаджаў вушак...

Дзесяць год назад чалавек нават не думаў, што зноў калі-небудзь прыдзе сюды. Ён пакідаў тады дом, каб больш ніколі не вярнуцца. Сям'я здавалася непатрэбнай, лішняй... Але не змог, прыехаў... Чаму? Што прыгнала яго сюды зноў? Адчуванне блізкай адзінокай старасці, бацькоўскае сумленне, якое прачнулася і нарэшце загаварыла, жаданне мецъ сталае жыллё? Хто ведае, што?.. I вось ён тут, каля свайго дома. Пераступі парог — і перад табой твае дзеці, твая жонка. Але ці захочуць яны мець яго бацькам?..

Улетку на вёсцы спаць кладуцца з прыцемкам. Чалавек гэта добра ведаў. Ён ведаў і другое: варта толькі пагаснуць лямпе, і ён ужо ніколі не зойдзе ў хату — не хопіць рашучасці. Зноў прыдзецца хавацца ад людзей у лесе да новага вечара ці зусім ехаць адсюль... Куды? Чаго?.. Але ён усё стаяў і стаяў, нібы нечым прывязаны да сцяны, і не мог адарвацца...

Святло пагасла.

Чалавек схапіўся за галаву і ўсхліпнуў...

Ціха над вёскай плыла ноч. Тлелі, міргаючы, дзесьці ў небе дробныя зоркі, цьмяна свяціўся млечны шлях, апускаўся нячутна ўсё ніжэй і ніжэй на лес надкусаны месяц. Аб нечым шапталася лісце... А чалавек усё стаяў...



Потым ён асцярожна, падоўгу спыняючыся каля кожнага дрэва, абышоў сад, прыблізіўся да хлява, паслухаў, як жуе карова, патузаў рукою плот.

«Новы... Хто паставіў яго?..»

Нечакана данёсся ціхі шэпт. Чалавек замёр... Шапталіся каля веснічак на вуліцы двое: хлопец і дзяўчына. Адзін голас яму здаўся як бы знаёмым. Чалавек доўга прыслухоўваўся і намагаўся ўспомніць, дзе і калі чуў яго.

«Мабыць, дачка... — узнікла думка. — Бач, ужо знаецца з хлопцамі... Каторая? Люда ці Жэня?..»

Лагодны, замілаваны шэпт хлапца, ціхі дзявочы смех так расчулілі чалавека, што ён зноў заплакаў, заплакаў так, як плачуць толькі мужчыны, скупа, горка...

Праз некаторы час ён бачыў,

як яна, рослая, стройная, папраўляючы на хаду валасы, ішла ў хату. Чалавек памацаў за плячыма мяшок, падаўся наперад, але так і застыў, не сышоўшы з месца. Ён баяўся сустрэцца са сваёй дачкой...

Ходзячы раніцою па садзе, гаспадыня ўбачыла на градках пад яблынямі, на прызбе каля акон, ля плоту сляды вялікіх мужчынскіх ботаў. Яна доўга стаяла і думала, хто гэта і чаго б мог хадзіць тут ноччу?!. І падумаўшы, што нехта хацеў абабраць сад, яна пайшла да суседа прасіць сабаку на час, пакуль даспеюць яблыкі...

# УРОК

Ты кажаш, што па-ранейшаму кахаеш, кахаеш так, што далей жыць не можаш без мяне. Хто ведае, можа гэта і праўда... Я не магу не верыць, бо ў самой не раз узнікалі такія ж думкі... Не, не. Я не выдумляю. Я расказваю аб тым, што сапраўды было, калі я даведалася аб тваёй жаніцьбе... Чакай, я прыпомню, як здарылася ўсё гэта...

Школа. Дзесяты клас. Выпускны вечар... Нейкай іншай здаецца мелодыя развітальных вальсаў ды і мы — радасныя, узбуджаныя, трошкі захмялелыя... Ты помніш, як, не саромеючыся больш ні настаўнікаў, ні аднакласнікаў, мы на вачах усіх выходзілі з класа, дзе былі танцы. Ой, што я кажу: не саромеючыся. Хіба ж не разгубілася я, калі ў дзвярах мы ледзь не сутыкнуліся з дырэктарам.

— Валодзя! — прашаптала я. — Давай можа лепш танцаваць. Усе ж нас бачаць.

— Дзівачка! — у тваім голасе чулася пяшчота і радасць. — Мы ж выпускнікі...

Мы пайшлі ціхай, дрэмлючай вуліцай. І ніхто з нас не заўважыў, як раптам апынуліся мы на скамейцы ў нашым садзе. Помню, мы доўга-доўга глядзелі адно аднаму ў вочы і слухалі, як шэпчацца лісце. Потым мы кляліся адзін аднаму ў каханні, прысягалі берагчы яго вечна. Тады ты неяк мяне па-асабліваму абняў і ўпершыню пацалаваў... Колькі год прайшло, а я помню, які быў пацалунак. Я часта і цяпер усё яшчэ закрываю вочы і стараюся вярнуць хоць у думках той момант. Гэта ж быў першы і непаўторны пацалунак, першае і непаўторнае адчуванне, што ты кахаеш і цябе кахаюць...

Мы сядзелі, абняўшыся, аж да саменькага світання, забыўшыся на ўсё на свеце, і нам абаім было так добра...

— Таня! — казаў ты. — Вось каб нам ніколі не расставацца! Як гэта добра сядзець побач з табою, чуць, як б'ецца тваё сэрца, гаварыць аб чым толькі захочацца...

Я перапыняла цябе:

— Пачакай, Валодзя. На ўсё свой час ёсць...

Хіба ж я тады ведала, што дарогі жыцця такія складаныя і што яны могуць прывесці чалавека часам не туды, куды ён імкнецца...



* * *

Я не буду таіцца. Навошта? Так, гэтае трывожнае прадчуванне, што ў нас з табою будзе не адна дарога ў жыцці, у мяне ўзнікла ўжо тады, пасля здачы экзаменаў у інстытут. Табе пашанцавала: ты стаў студэнтам... А я?.. Мне ішоў семнаццаты год. І чым здалася мне тады няўдача? Я плакала, бо верыла, што гора можа выплакаць слязьмі, не глядзела нават табе ў вочы...

— Ты не бядуй, Таня! — пачула я твой голас. — У цябе ж наперадзе ўсё жыццё. Было б толькі жаданне, а ўсё астатняе будзе...

І хоць гэтыя словы я чула не раз і раней з вуснаў дырэктара школы, яны неяк па-іншаму для мяне загучалі. Я ўдумалася ў іх сэнс і пакрысе супакоілася...

Пасля... Ага, я прачнулася ў той летні дзень чамусьці пазней звычайнага. Зірнула ў акно, і трывожная радасць агарнула мяне: я ўбачыла цябе. Як цяпер помню, ты. пераходзіў з двума поўнымі вёдрамі вады вуліцу супраць нашай хаты. І ранак здаўся такім светлым, такім свежым, што мне захацелася адзець сваю лепшую сукенку і выйсці на вуліцу. Але хутка я спалохалася: ты выглядаў куды статней, куды прыгажэй, чым год назад. Ты стаў зусім гарадскім, а я (не ведаю чаму) баюся гарадскіх.

Але ўсё гэта хутка знікла, бо, ідучы на сенакос, я ўбачыла цябе на лузе. Ты гэтак жа, як і ўсе нашы калгасныя хлопцы, махаў на ўсё плячо касой і гнаў пракос шырэйшы за ўсіх.

— Дзіва што?.. — нехта хацеў апраўдацца, калі дзяўчаты засмяяліся. — Выгуляўся за зіму ў горадзе, дык чаму б не касануць...

Увечары, калі ты прыйшоў да нас у сад, я адчула ўсім сэрцам, што пакахала цябе яшчэ мацней, і мне стала боязна. А што, калі ты закахаешся ў іншую? Я выказала табе гэта.

— Эх ты! — неяк з сумам паківаў ты галавой. — Ды хіба ж знойдзецца дзе лепшая за цябе? Я ж часам лекцыі не пішу, а сяджу і ўспамінаю кожнае тваё слова, кожную рысачку твару...

Ты пацалаваў мяне, і я, не маючы сіл больш стрымліваць сябе, пацалавала цябе...

Ці помніш ты гэта?

* * *

Я напісала табе, калі да мяне ў сваты прыйшоў Мікітаў Лявонка. Я ніколі б не выйшла за яго замуж, мне проста хацелася ведаць, як аднясешся ты да таго, што я падабаюся не толькі табе... Ды і нейкім стрыманым ты стаў у апошніх пісьмах...

«Таня! Няўжо ты і цяпер усё яшчэ сумняваешся? Ды калі ты толькі выйдзеш за каго-небудзь, я не ведаю, што зраблю з сабою».

Я хаваю гэты ліст і цяпер яшчэ чытаю, калі на душы робіцца дужа цяжка і тужліва...

* * *

Потым... Дай прыпомніць, што было потым... На канікулы ты прыехаў пахмурны і нейкі задумлівы. Я чакала цябе ў садзе, бо мы дамаў-



ляліся ў лістах сустрэцца ў наступны ж пасля прыезду вечар. Чакала цэлую ноч. Каб ты толькі ведаў, як калацілася маё сэрца, калі каля нашага плоту праходзіў хто-небудзь. Я думала, што гэта ты, і бегла насустрач...

Хлопцы і дзяўчаты расходзіліся з пагулянак, лопалі крыллем на ўсю вёску пеўні, гаслі адна за другой зоркі на небе, а ты не ішоў... Так было і ў першы, і ў другі, і ў трэці вечар...

Ты пачаў пазбягаць сустрэч са мною, знарок пакідаў раней танцы, каб толькі не праводзіць мяне. Я не гаварыла з табой. Мне і без таго было вельмі горка. Аднойчы я не вытрымала і спытала ў паштальёна, ад каго атрымліваеш ты пісьмы. Яна паказала канверт, падпісаны жаночай рукой, і мне стала без слоў усё зразумела.

* * *

Я ўбачыла яе, калі ты пасля заканчэння інстытута прыехаў праведаць бацькоў. Ты ішоў, абчэплены рознымі сумачкамі і чамаданамі, бы насільшчык, а побач — яна, важная, не ў меру тоўстая, з моднай завіўкай. Яна курыла...

Мне дужа хацелася разгледзець яе з усіх бакоў, бо брала цікаўнасць, на каго ж ты мяне змяняў, але не магла... Слёзы... Яны самі цяклі з маіх вачэй, і я адвярнулася. Ты прайшоў міма, нават не павітаўшыся. Ты пасаромеўся маёй спяцоўкі, як пасля пасаромеўся перад жонкай і сваіх жа бацькоў...

Больш у тое лета мы не бачыліся. Я паехала ў дзень твайго прыезду ў суседнюю вёску да цёткі, бо не магла сустракацца з табой.

— Кінь ты!— сказала цётка.— Хіба ж на ім свет клінам сышоўся?.. Ідзі весяліся, танцуй на злосць яму...

Але я не магла паслухацца цёткі. Добра, што твая жонка надзвычай далікатная, і той камфорт, які стварыў твой бацька, ёй хутка абрыдзеў...

* * *

Я кахала цябе, кахала гэтак, як можна кахаць толькі адзін раз, ды і то толькі ў маладосці. Я прадаўжала кахаць цябе і тады, калі нашы дарогі разышліся і не было ніякай надзеі, што яны зноў калі-небудзь сыйдуцца...

Можа ад таго я і не магла так доўга ні за што ўзяцца, калі прыехала ў завочны інстытут на сесію і ўбачыла цябе. Дзе падзелася твая былая, такая прыветная ўсмешка, што ніколі не сыходзіла з твару?



Дзе падзеўся такі добры позірк? Не было больш і той самаўпэўненасці, задаволенасці, весялосці... На экзаменах ты сядзеў бокам ка мне, схіліўшыся нізка над столікам, і я бачыла, як ты пастарэў, палысеў... Але для мяне ты заставаўся ўсё тым жа Валодзем, якога я кахала, і які быў ад мяне і блізка і далёка...

Я хвалявалася. Не, не тое... Я дрыжала, як той асінавы ліст, калі падыходзіла да экзаменацыйнага століка. Не помню, ведала я білет, альбо не, бо не магла не толькі пэўна гаварыць, але і думаць... Ты не забыў, як я, закрыўшы твар рукамі, выскачыла са слязьмі з аўдыторыі, калі ты сказаў:

— А ў вас, Вежнавец, якія пытанні?

Няўжо ты забыўся тады, як мяне зваць?

* * *

Ты вынес праз некалькі хвілін маю заліковую кніжку і падаў дзяўчатам. Усе думалі, што я правалілася. І раптам — тваё «выдатна».

— Трусіха, — нехта з дзяўчат-завочніц папракнуў мяне. — Атрымала выдатна і плача...

Нікому, канешне, было няўцям, што плачу я з-за іншага.

Тады ж даведалася я, што яна, жонка твая, дачка вядомага прафесара. І мне быццам бы адкрыў хто вочы на тваю жаніцьбу. Ты ж марыў стаць вучоным, марыў аб той славе, якой акружаюць іх за вялікія адкрыцці. Так, так. Не адмаўляй, не кажы, што гэта няпраўда. Ты яшчэ ў школе любіў, каб перад усімі цябе хвалілі. Ты спяшаўся першым заўсёды падняць руку на ўроку толькі з-за гэтага. Я не веру, што вы кахалі адзін аднаго. Ты яе проста ўзяў, каб бацька-прафесар дапамог застацца ў аспірантуры. Ты пераканаўся, што без асабістага сямейнага шчасця не можа быць ніякага і іншага. Яна пасмяялася над табою, пажаночаму адпомсціла табе за прытворнае каханне, хоць, магчыма, і яна цябе ніколі не кахала...

* * *

Ты кажаш, што цяпер усё скончана: вы развяліся, у вас няма дзяцей, няма аб чым думаць, бедаваць... Вы, маўляў, розныя людзі, у вас розныя інтарэсы, розныя дарогі ў жыццё... Але чаму ты толькі цяпер гэта ўбачыў, а не раней?

Я знарок прыпомніла ўсё гэта. Ты таксама шмат чаго, відаць, успомніў, калі рашыў сказаць тое ж, што было сказана яшчэ ў маладосці... Ну што ж, кахай. Я не забараняю, бо сама колькі год нічога не магла зрабіць з сабою...

— Я, Таня, зрабіў вялікую памылку, — прызнаешся ты. — Яе даравацъ нельга нікому.

Дык чаго ж ты хочаш яшчэ?



Кастусь ЦВІРКА

# ГОСЦЬ



Зноў я дома. Ад садоў
Пах плыве парэчкавы.
Тут не чуў я пяць гадоў
Звону кос за рэчкаю.

Бачу зноў, як землякі —
Ледзь зара над вулкаю —
Косяць, колюць кругляқі,
Зрубы ставяць гулкія.

Тут жа й я ганяў кароў
Колісь з торбай цяжкаю,
Тут жа й я каля дуброў
Сыпаў звон мянташкаю.

Мне б цяпер з братвою зноў
Выйсці ў шыр без меж,
Ну, а тут бацькі адно:
Пі ды еш.

Ледзь да дроў паткнуўся ў двор:
Ты ж нам госць,
Кінь рыдлёўку, кінь тапор —
Проста злосць.

Так без спраў я і сядзеў,
Сум у сэрцы рос,
Думаў: «’Шчэ пабуду з дзень»,
Ды не знёс.

За шмаццё я, і ў пуці —
Толькі пыл за коламі.
Не хачу нідзе ў жыцці
Госцем быць ніколі я!



Уладзімір Дамашэвіч нарадзіўся ў вёсцы Вадзяціна Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці ў 1928 годзе. Пасля заканчэння Клецкай сярэдняй школы паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна, які скончыў у 1953 годзе. Працаваў у Дзяржаўным вучэбна-педагагічным выдавецтве БССР. Цяпер працуе рэдактарам у аддзеле мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР.
Апавяданне «Трэці лішні» з'яўляецца першым друкаваным творам маладога пісьменніка.

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# ТРЭЦІ ЛІШНІ

## Апавяданне

*Мал. Б. Аракчэева.*

У абедзенны перапынак малады супрацоўнік выдавецтва Мікалай Васюк спяшаўся на спатканне. Здарылася так, што на суботніку ў падшэфным калгасе ён з першага позірку закахаўся ў адну дзяўчыну, як пасля высветлілася, студэнтку тэхнікума Веру Кавалёнак. У яго было некалькі выпадковых сустрэч з ёю, а перад ад'ездам у Мінск — студэнты яшчэ заставаліся ў калгасе — Мікалай убачыў яе зноў. Вера трымала на руках дзіця гаспадыні, у якой спынілася на кватэры.

Мікалай кіўнуў ёй пальцам, і праз хвіліну яна выбегла з хаты ў адной сукенцы і босая, хоць было ўжо даволі холадна. Ён пажартаваў спачатку наконт дзіцяці: ці не рана вучыцца гадаваць, на што яна адказала, смеючыся, што якраз пара. А пасля Мікалай спытаў яе адрас. Яна, доўга не думаючы, сказала, і ён абяцаў, зноў жартам, зайсці калі-небудзь у госці. Ён яшчэ не хацеў прызнацца сабе, што яна яму падабаецца, больш таго — што ён яе пакахаў.

І вось Мікалай хадзіў у другі канец горада раз і другі, і ні разу не застаў Веры. Яна займалася на другую змену. Нарэшце, напісаў ёй кароткае пісьмо, у якім прасіў сустрэцца.

Цяпер ён ехаў на ўмоўленае месца. Тралейбус, здавалася, ледзь цягнуўся, а прыпынкі былі доўгія, як асенняя ноч.

Ён чакаў Веру некалькі хвілін. Яна перамянілася — Мікалай першы раз бачыў яе ў бардовым асеннім паліто, у цёплай стракатай хустцы на русай галаве. Мікалай пайшоў ёй насустрач. Яна здалёк усміхнулася. Цеплынёй і ласкай павеяла ад гэтай простай дзявочай усмешкі.

— Добры дзень, Вера! — прамовіў Мікалай. — Я думаў, што ты не прыдзеш...

Некаторы момант яны пазіралі адно аднаму ў вочы, нібы стараліся прачытаць чужыя думкі.

Нарэшце, Мікалай узяў Веру за руку і сказаў:

— Зойдзем у скверык, пасядзім.

Яна згадзілася.

Пад нагамі ціха шапацелі кляновыя лісты, шчодра расквечаныя восенню. Здавалася, што яны яшчэ жывуць, саграваючы непрыветлівую зямлю сваім халодным лістападаўскім агнём.

Маладыя людзі зрабілі круг па скверыку і селі на лаўку. Мікалай распытваў яе, як жывецца, як ідзе вучоба, ці цягне дадому. Вера расказвала. Усяго паўгода, як яна ў горадзе, вучыцца ў статыстычным тэхнікуме. У мінулым годзе скончыла дзесяцігодку, а цяпер — у асобнай групе са скарочаным тэрмінам навучання. Жыве ў сваёй стрыечнай сястры, якая тут замужам. Сястра раней працавала, а цяпер у яе дзеці...

Вера ўсміхнулася. Сумачку-чамаданчык яна ўвесь час круціла ў руках, «кантуючы», і ўсё, што там было, перакочвалася з аднаго кутка ў другі.

— Пашкадуй ты гэтую пасудзіну,— сказаў Мікалай. Ён узяўся за ручку чамаданчыка і, дакрануўшыся да рукі дзяўчыны, адчуў, як лёгкі ток прабег па яго целе.

Вера падабалася яму ўсё больш і больш. Здавалася, ён бачыў дзяўчыну, якую даўно песціў у сваіх марах. Гэта быў яго ідэал, якога ён так доўга не мог знайсці. Маленькі, крыху кірпаты нос, ясныя, з дзіцячым бляскам сінія вочы, свежы твар, яшчэ не крануты адзнакай суровага жыцця... Яна нясмела апускала вочы пад яго напорыстым позіркам, а ён, як зачараваны, глядзеў ёй у твар, гладзіў яе тонкія, з доўгімі гнуткімі пальцамі рукі. У грудзях Мікалая стала раптам горача, сэрца застукала мацней. Хацелася абняць яе, моцна прытуліць да сябе. Але вакол хадзілі людзі. Яны сурова пазіралі на маладую пару, якая знайшла час забаўляцца сярод белага дня на людным скверыку...

Так непрыкметна праляцела гадзіна. Дамовіліся сустрэцца аж у нядзелю, бо заняткі ў яе канчаліся вельмі позна. А быў толькі аўторак! Развіталіся на тралейбусным прыпынку. Яна моцна, па-мужчынску, адказала на яго поціск рукі. Падышоў тралейбус, пасажыры выстраіліся ў доўгую чаргу. Мікалай быў адным з апошніх. Ён азіраўся, шукаючы сярод шматлікіх пешаходаў бардовае паліто Веры, і паволі пасоўваўся наперад, пакуль не наступіў на нагу суседу. Той азірнуўся, суха бліснуўшы акулярамі.

— Вінават, прашу прабачэння,— паспешна прамовіў Мікалай і, шмаруючы нагамі па асфальце, больш асцярожна пачаў прабірацца да дзвярэй.

Ён нічуць не пакрыўдзіўся на пасажыра, які нават нічога не адказаў на прабачэнне. Ён тут жа забыўся пра гэта. На губах яго блукала ледзь прыкметная ўсмешка, перад ім, здаецца, як жывы, стаяў вобраз Веры, такі непаўторны і блізкі.

Дні праходзілі марудна, асабліва да шасці гадзін вечара. Карэктура надакучыла, усё часцей і часцей між радкоў бачыў Мікалай знаёмы твар. Тады радкі зусім расплываліся, вочы бачылі толькі літары, сэнс губляўся, не даходзячы да свядомасці.



Мікалай быў чалавекам замкнёным, аб сваіх інтымных пачуццях не любіў гаварыць, і таварышы па рабоце не маглі адгадаць, чаму так перамяніўся чалавек. Працяглае маўчанне ў яго раптам перапынялася выбухамі вясёлай гаварлівасці, а пасля ён зноў змаўкаў.

У нядзелю, навёўшы парадак у сваёй «гаспадарцы», Мікалай схадзіў у бібліятэку, бегла прагледзеў часопісы і свежыя газеты.

Сустрэча намячалася на пяць гадзін, а роўна ў тры ён стаяў за білетамі ў кіно на вячэрнія сеансы. Першы раз яны пойдуць разам у кіно! Вольнага часу — паўтары гадзіны. Мікалай накіраваўся ў сталовую, пара абедаць. Гэта лепшы сродак супраць хвалявання, не адзін раз праверана практыкай.

«Чаму ж яна затрымліваецца так доўга?»— пытаў сам сябе Мікалай, калі прайшло паўтары гадзіны, а пасля дзесяць, пятнаццаць, дваццаць хвілін. «А можа зусім не прыдзе?» — закрадалася сумненне. Яно авалодвала ім усё больш і больш, калі стрэлка гадзінніка пасоўвалася далей ад лічбы «пяць». «А што, калі схадзіць да яе на кватэру?— раптам прышла думка.— Два кіламетры — недалёкая дарога».

Дзверы адчыніла яму маладая, хударлявая жанчына.

— Можна бачыць Веру Кавалёнак?

— Не, яна паехала дадому,— сур'ёзна адказала жанчына.

— Прабачце.

— Калі ласка.

Прайшло некалькі дзён. Аднойчы вечарам, у гадзін адзінаццаць, Мікалай вяртаўся з горада на сваю кватэру.

Ён толькі выйшаў з-за рогу вуліцы, як, адрывіста пазваніўшы, з месца крануўся трамвай. Мікалай на хаду скочыў на заднюю ляцоўку пярэдняга вагона. Стоячы ля дзвярэй, ён стаў безуважліва глядзець, як у заднім вагоне хадзілі людзі. Позірк Мікалая выпадкова спыніўся на дзяўчыне, якая сядзела плячыма да яго. Была яна ў стрататай цёплай хустцы і ў асеннім бардовым паліто. Яму раптам здалося, што гэта нехта знаёмы. Вось дзяўчына падняла ўгару рукі, тонкімі доўгімі пальцамі папраўляючы хустку. Сэрца яго нечакана страпянулася — ён пазнаў Веру. Яна ўстала і падышла да выхаду.

Мікалай пачакаў, пакуль яна сыйдзе на прыпынку і, саскочыўшы з падножкі, накіраваўся за ёю. У ім змагаліся два пачуцці: радасць ад нечаканай сустрэчы і крыўда за тое, што Вера не стрымала свайго слова. Але крыўда была маленькая і нязначная ў параўнанні з той вялікай радасцю, якая напоўніла сэрца.

Праз некалькі крокаў Мікалай апынуўся побач з Верай. Яна не здзівілася, наперакор яго спадзяванням, толькі ледзь прыкметна ўсміхнулася і працягнула руку. Яны так і ішлі, узяўшыся за рукі, як дзеці. Мікалай пачаў гутарку аб нечаканасці сустрэчы, але на языку круцілася пытанне: «Чаго ты ездзіла дадому?»

Аднак ён перамог сябе і, стрымліваючыся, спакойна гаварыў:

— Я цябе запомніў з першага разу і пазнаў бы, нават не гледзячы ў твар. Рукі ў цябе такія. Знаеш, нібы ў той індыйскай балерыны, што ў часопісе.

Яна крыва, нібы нехаця, усміхнулася.

— Што мне мае рукі? Яны не па спецыяльнасці. Мне патрэбны моцныя рукі хатняй гаспадыні,— прамовіла яна, і Мікалаю здалося, што ён упершыню чуе яе голас — такая незнаёмая, неўласцівая ёй сумная нота прагучала ў ім.

— Ты збіраешся быць хатняй гаспадыняй?
— А чаму не быць? Усе ўмовы для гэтага калі не ёсць, то скора будуць.
— Што ты гаворыш? Ты выходзіш замуж?! — амаль выкрыкнуў Мікалай.
— Так, выходжу,— нібы знарок спакойна адказала яна.
Ён выпусціў яе руку. Некаторы час ішлі моўчкі. Мікалай не знаходзіў слоў.
— А хто ж ён?— стараючыся гаварыць спакойна, спытаў нарэшце Мікалай.
— Ты ўсёроўна не ведаеш яго, — адказала яна.
— Скажы, буду ведаць,— спрабаваў ён жартаваць.
— Наш адзін выкладчык...
— Выкладчык? Фізкультуры?— чамусьці спытаў ён.
— Матэматык... Чаму ты думаеш, што фізкультуры?
— Ды так... Ім падабаюцца такія дзяўчаты, як ты,— адказаў Мікалай.
Вера не захацела ці не заўважыла іроніі за кампліментам. Твар яе стаў сур'ёзны і замкнёны.
Нарэшце, доўгі высокі плот, які адгароджваў будаўнічую пляцоўку, скончыўся: налева была яе кватэра. Яны спыніліся на рагу.
Мікалай зноў узяў яе за руку і, пазіраючы проста ў вочы, цвёрда спытаў:
— Скажы Вера, не крывячы душою: ты любіш яго?
І з трывогай у сэрцы чакаў адказу.
Яна апусціла галаву, раздумваючы, а пасля ціха, але рашуча сказала:
— Не.
Сэрца яго адазвалася радасным стукам. Але, не выдаючы сваёй радасці, ён суха, з ледзь прыкметным дакорам у голасе спытаў:
— А што-ж прымусіла цябе ісці за яго?
Яна глянула на яго поўнымі болю вачыма, твар яе раптам скрывіўся, і яна закрыла яго рукамі.
Тады Мікалай, прыгарнуўшы да сябе Веру, стаў цалаваць яе рукі. Яна асцярожна прыняла іх, і ён, п'янеючы, цалаваў яе мокры ад салёных слёз твар.
— А мяне ты любіш?— ціха спытаў яе Мікалай, не выпускаючы са сваіх абдымкаў.
— Цябе люблю,— прашаптала яна праз слёзы.
Ён цалаваў яе яшчэ і яшчэ, пакуль яна не адказала яму такім жа доўгім і гарачым пацалункам.
— Верачка, я цябе нікому не аддам. Ты будзеш толькі маёю...
— Позна, Коля... — яна зноў усхліпнула. — Я павінна табе ўсё сказаць... Я ўжо жанчына.
Апошнія словы нібы сцебанулі Мікалая па твары.
— Ты... ужо?— здзівіўся ён і змоўк. Многа крыўдных, балючых слоў прасілася на язык, але ён стрымаўся. Толькі шалёна праносіліся ўрыўкі думак: «Усё страчана, нічога не вернеш!.. Вось яно, шчасце. Лаві, не дагоніш!..»
А між тым Вера выглядала спакойнай, як чалавек, які выканаў свой абавязак. Толькі вочы яе хаваліся ад яго калючага позірку, у якім яна чытала сабе прысуд.



Хвіліну счакаўшы, нібы апраўдваючыся, яна гаварыла:
— Коля, ты асудзіш мяне за гэты ўчынак, я ведаю. Але што мне заставалася рабіць? Так ужо скналіся абставіны. Ты сам чалавек і ты павінен зразумець мяне... Ён хітры... Ён спачатку адносіўся да мяне, як добры дзядзька да малога дзіцяці — чула, хораша. А пасля я не заўважыла, як трапіла пад яго ўладу. І вось мы паехалі да маіх бацькоў, ён і ім спадабаўся, і яны запатрабавалі, каб я выходзіла за яго замуж. Я не хацела. Ды хто мяне слухаў?.. У гэтую нядзелю я дала згоду, а праз тыдзень будзе вяселле...
Спакойны, роўны тон яе гутаркі вывеў Мікалая з раўнавагі. Як можна спакойна гаварыць аб самагубстве! Яна нешта яшчэ хацела сказаць, але Мікалай, схапіўшы яе за руку, крыкнуў:
— Стой, хопіць!— і знізіўшы голас амаль да шэпту, не хаваючы злосці, загаварыў паспешліва і блытана:— Ты разумееш, што ты робіш, ці не? Ты думала аб сабе, калі давала згоду? Ён абдурыў цябе! Ён спадабаўся тваім бацькам! А табе ён падабаецца? Ён сам пацікавіўся гэтым ці не? Яму напляваць, любіць яго жонка ці не, абы яна яму была да спадобы. Але гэта пачатак! Ты мала пажыла яшчэ і не ведаеш, што такое жыць з нялюбым чалавекам. Рана ці позна вам стане цесна пад адной страхой, ты не зможаш заўсёды прытварацца. Нельга доўга ашукваць каго-небудзь, як і самога сябе. Ты не маеш права губіць сябе і сваю маладосць...
Вера слухала, не падымаючы галавы. Цяжка было пазнаць па яе замкнёным твары, якое ўражанне рабілі на яе словы Мікалая.
— А што ж ты зрабіў бы? — раптам устрапянуўшыся, спытала Вера.
— А ты згодзішся з маёй прапановай? — адказаў ён пытаннем.
— Калі яна чаго-небудзь варта...
— Скажы... вы зарэгістраваны?
— Яшчэ не, але ён падаў заяву.
— Заяву трэба забраць... і перапісаць... А пасля паедзем да тваіх бацькоў — сварыцца і мірыцца.
Хоць Мікалай гаварыў рашуча і цвёрда, аднак не было ў яго словах той упэўненасці і пачуцця справядлівасці ў сваім рашэнні, як гэта было ў пачатку. І таму, відаць, Вера сэрцам сваім адчула няўлоўную фальш яго слоў і пасля кароткай паўзы спакойна адказала:
— Гэта немагчыма... Такой я табе не патрэбна... Ды што скажуць мае бацькі і сваякі? Не, будзе так, як ёсць. Позна...— Апошняе слова прагучала, як стогн.
— Позна? Не, не позна! Ты не маеш сілы парваць з ім і не верыш мне!
Сапраўды ён не верыў сабе, а другіх хацеў пераканаць.
Можа таму Вера няпэўна адказала:
— Не ведаю... Мо' і так.
Мікалаю хацелася абразіць яе, назваць бязвольнай і безгаловай, але замест гэтага ён сказаў:
— Вось што, Вера... Я свайго слова не забіраю. Ты абдумай усё яшчэ раз. Аб сабе асабліва падумай, аб сваім будучым. І тады скажаш мне. Добра?
— Не ведаю,— быў адказ.
— Як хочаш,— сказаў Мікалай, адчуваючы, што ў грудзях у яго пачынае расці злосць.— Мне трэба ісці.
Мікалай глянуў на яе злым позіркам. Яна стаяла, панурыўшыся,

нібы пастарэўшы на некалькі год. Бледны твар пры святле ліхтара здаваўся яшчэ больш замкнёны і не выдаваў яе сапраўдных пачуццяў, але за гэтым шчытом Мікалай бачыў вялікую навальніцу ў душы чалавека, які стаіць на раздарожжы і выбірае, куды скіравацць,— якая дарога шчаслівейшая.

Вялікі жаль да гэтай дзяўчыны ахапіў яго на момант, але ён падавіў яго. Ён працягнуў руку і сказаў:

— Да сустрэчы.

Яе рука была халодная і вялая.

Мікалай дабіраўся дадому апошнім трамваем, а астатнюю дарогу ішоў памалу, каб развеяць свае думкі. На сэрцы было цяжка. Вера, як цень, неадступна ішла за ім, не давала спакою.

Ён не мог дараваць ёй такой паспешлівасці і лёгкадумнасці, а сабе — гэтай маруднай разважлівасці, якую цяпер праклінаў. Хацелася забыць пра ўсё, што адбылося нядаўна.

Было гадзіны тры ночы, калі Мікалай, стомлены і разбіты, дабраўся да кватэры.

Ён доўга не мог заснуць. Заламыўшы рукі за галаву, ляжаў, пазіраючы ў белую столь, па якой прабягалі зайчыкі ад фараў машын.

Думкі снаваліся адна за адной, як асенняя павуціна. Сон надышоў непрыкметна.

На работу Мікалай прышоў раней за ўсіх і адразу ж узяўся за працу, спадзеючыся развеяць кепскі настрой і свае думкі. Але ўсе старанні яго былі дарэмныя. Зноў і зноў ён варочаўся да ўчарашняй размовы з Верай, а сама яна паўставала перад ім, як прывід. Здавалася, ён чуе яе голас, чуе так ясна і выразна, што, страпянуўшыся, азіраецца навакол, баючыся, што гэты голас чуваць не толькі яму.

Мікалай пачынаў успамінаць.

...Суботнік у калгасе. Маладыя дзяўчаты-студэнткі выбіраюць бульбу. Уперадзе ўсіх — Вера.

...Бульбу нагружаюць на машыну. Дзяўчаты насыпаюць кошыкі, хлопцы носяць. Вера не дасыпае, калі Мікалаю прыходзіцца забіраць у яе. Ён напамінае ёй аб гэтым, а яна ціха адказвае: «Падарвешся...» — і чырванее, як мак.

... «Учора наплакалася невядома чаго. Убачыла на двары сабачку, на нашага падобны. Такі жаль ахапіў, здаецца, паляцела б дадому... Яшчэ не адвыкла». І такім вінаватым тонам!

...«Страшна!» — сказала і ўздрыганулася пры поглядзе на «Сядзячага дэмана» Врубеля, разглядаючы часопіс.

...«Трэба купіць паліто, а я распазычыла ўсе грошы таварышкам. Што зробіш? Сама не раз пазычаю».

І яшчэ многа дэталей прамільгнула ў яго памяці.

Чым больш думаў Мікалай, тым усё больш пераконваўся, што Вера — гэта якраз той чалавек, якога ён даўно шукаў і так доўга не знаходзіў. Яму падабалася яе наіўная прастата і непасрэднасць. У ёй няма ні кроплі фальшы і штучнасці. Яна не фарбуе пазногці і не робіць завіўкі. Усмешка яе — не какетлівая ўсмешка, пад якой хаваецца лёгкадумства, а выраз самых шчырых і чыстых пачуццяў. Яе сум — не капрыз распешчанай дачушкі, якой прышло ў галаву павадзіць цябе за нос. Яна — разумная, чулая дзяўчына, хоць ёй і трэба яшчэ многа вучыцца і многа пазнаць.

Як жа ён можа аддаць у чужыя рукі гэты скарб? Ён застанецца жабраком, з пустой душою, калі яго абміне святлом свайго



ззяння гэта дзяўчына. Толькі яна адна можа выратаваць яго, вярнуць надзею на асабістае шчасце.

Так, яны павінны быць разам! Ён любіць яе, якой яна ёсць. Толькі тады яму стала на момант балюча, толькі на хвіліну ім авалодала няпрошаная рэўнасць, але яна растала, як снег, што выпаў на цёплую зямлю. Вінавата не Вера, вінават ён сам. Ён сам не мог паверыць доўга ў сваё шчасце, прыглядаўся, чакаў, спадзяваўся на нешта, і сам не ведаў, на што. А цяпер... Праз пару дзён яна стане жонкаю таго, невядомага яму матэматыка, а Мікалай застанецца адзін, будзе цешыць сябе ўспамінамі аб далёкім-шчасці, якое аднойчы ўсміхнулася яму.

...Да абеду заставалася хвілін дваццаць, але Мікалай рашыў пайсці.

Тралейбус прымчаў яго ў горад. Прайшоўшы сквер, Мікалай стаў спускацца ўніз па знаёмай вуліцы. Ён ішоў хутка, гледзячы пад ногі і абмінаючы лужыны. Імжыў дробны асенні дождж.

Раптам сэрца Мікалая балюча страпянулася: насустрач ішла Вера, трымаючы пад руку... Мікалай спыніўся, як укопаны: Вера ішла пад руку з Адамам Жукам, з якім ён тры гады назад жыў у адным пакоі. Адам вучыўся тады на трэцім курсе фізмата. Гэта быў самаўпэўнены малады чалавек, высокай думкі аб сабе і сваіх здольнасцях. У сесію, калі яго пыталі, як ён здаў экзамен, ён адказваў: «Нармальна» — такім тонам, нібы ўсім было вядома і ўсім зразумела, што ён здае толькі на пяць. Ён меў прывычку ісці і не глядзець на людзей. І цяпер ён прайшоў бы міма, але Мікалай стаяў якраз на іх дарозе.

— Мікалай? — здзівіўся Адам.— Адкуль ты ўзяўся? Здароў! — Ён весела працягнуў руку Мікалаю, глянуў на Веру і дадаў: — Знаёмся з маёй жонкай.

Мікалай цяжка дыхаў. Бляднеючы і робячы паўзы пасля кожнага слова, прамовіў:

— Здароў... З неба... зваліўся... Жонкай?.. Мы знаёмы... без твайго... дазволу...— І ён кінуў кароткі позірк на Веру.

Яна глядзела сабе пад ногі. Твар яе быў белы, як палатно, а вусны шчыльна сціснуты. Усе трое маўчалі. Адам нібы нешта ўспомніў — ён рэзка насунуў капялюш на вочы: твар яго паволі залівала чырвань. Ён пераводзіў погляд то на Мікалая, то на Веру і, здавалася, не знаходзіў слоў. У ім бушаваў шалёны гнеў, і ён выбіраў, куды яго скіраваць, бо стрымацца не было сілы.

— Дык гэта і ёсць твой новы знаёмы? — звярнуўся ён да Веры, робячы націск на апошнія словы.— А чаму ты не сказала мне, што ён ведае дарогу на тваю кватэру? Я пытаю ў цябе, чуеш?— у голасе Адама загучала халодная, непрыемная нота.

Вера маўчала. Яна толькі рэзка павярнулася і стала бокам да Адама.

— Паслухай, Адам, не хвалюйся,— звярнуўся да яго Мікалай.— Ты дарэмна на яе нападаеш. Ды яна і не абавязана гаварыць табе ўсё, што ёй вядома, і рабіць перад табой справаздачы...

— А табе што да таго, як я абыходжуся з ёю? Ёй адвакатаў не трэба!— Адам збіў капялюш на патыліцу, адкрыўшы вялізны лоб са шрамам-абручом над белымі брывамі.— Я рашаю свае сямейныя справы так, як мне падабаецца.— Голас яго гучаў груба і нядобразычліва.

— Дазволь адзін раз умяшацца ў твае сямейныя справы. Толькі адзін раз.— Мікалай смела глянуў у вочы свайму суперніку і напружаным ад



хвалявання голасам дадаў:— Я павінен сказаць, што я кахаю Веру...— і асекся.

Скарыстаўшы гэтую замінку, Адам рэзка перабіў яго:

— Мне напляваць, што нехта кахае маю жонку. Я яе муж, я яе кахаю, і знаць больш нічога не хачу!

— А яна цябе кахае? Ты пацікавіўся гэтым ці не? Ты ведаеш, што яна прыносіць ахвяру твайму эгаізму? Ты губіш яе і сябе.

Вочы Мікалая загарэліся дзікім бляскам, а ўсё цела напружылася, нібы ён збіраўся кінуцца на Адама. Засунутыя ў кішэні паліто рукі сутаргава камячылі пальчаткі.

Адам памятаў па інтэрнату дабрату Мікалая, але ведаў і тыя рэдкія хвіліны, калі яму даводзілася бачыць яго гнеў.

Аднак Адам не разгубіўся. Ён паглядзеў спачатку на Веру, якая па-ранейшаму стаяла збоку ад іх і, здавалася, была безуважнай да ўсяго, пасля акінуў Мікалая знішчальным позіркам і спакойна, стрымліваючыся, сказаў:

— Не твая справа. Я ведаю, што раблю. Пойдзем, Вера! — І ён рашуча ўзяў яе за руку. Абмінаючы Мікалая, працадзіў праз зубы:— Блытаецца пад нагамі...

Толькі цяпер Мікалай успомніў, што Вера не прамовіла ні слова за ўвесь час іх гутаркі. Яна нібы набрала вады ў рот. Няўжо яна так і будзе маўчаць, няўжо так і пойдзе пад руку з Адамам, не сказаўшы праўды ў вочы гэтаму самаўпэўненаму чалавеку?



І трацячы апошнюю надзею, Мікалай нібы вырваў з грудзей набалелы крык:

— Вера! Скажы яму ўсю праўду!..

Але Вера маўчала. Яна пайшла пад руку з Адамам.

Мікалай стаяў, нібы прыбіты да зямлі, і пазіраў, як аддалялася шчасце. Няўжо такі недарэчны канец? Нехапала сілы верыць, што гэта так.

Ён скінуў шапку і стаяў, як над магілай блізкага чалавека. Кроплі дажджу асвяжалі яго гарачы твар.

Ён перайшоў на другі бок вуліцы і памалу пацягнуўся да трамвайнага прыпынку, каб ехаць на работу.

* * *

Нехта сказаў, што час — самы лепшы доктар. Ён лечыць самую глыбокую душэўную рану. Толькі па начах Мікалай доўга не мог заснуць. Было крыўдна, цяжка, часта да горла падступаў гарачы клубок, а на вочы наплывалі няпрошаныя слёзы.

Перадумваючы ўсё, Мікалай паволі прывучаў сябе да думкі, што зробленага ўжо не паправіш.

Прапала ранейшая ахвота да працы. Дзень цягнуўся марудна. Хацелася прычакаць вечара і пайсці ў кіно, каб там хоць на пару гадзін пазбыцца думак, якія не даюць спакою ні днём, ні ноччу.

Ды кіно не магло запоўніць тую пустату ў душы, якая палохала яго штораз болей. Першы раз у сваім жыцці ён напіўся адзін, думаючы ў гарэлцы знайсці збавенне. Але думкі і вобразы мінулага паўставалі ў яго свядомасці яшчэ больш ярка і выпукла. Як жывы, паўставаў перад ім бледны, нерухома-каменны твар Веры, плавала самаўпэўненая, задаволеная маска Адама. І адзін неадступны малюнак, як кадр кінафільма, стаяў перад вачыма: Адам пад руку з Верай адыходзяць... Вось, рукой падаць, яго шырокія плечы, абцягнутыя сінім драпавым паліто, чырвоная выбрытая шыя і сіні капялюш, засеўшы на адтапыраных вушах. І побач, на галаву ніжэй — Вера, у стракатай цёплай хустцы, у новым зімовым паліто, з галавой, чуць уцягнутай у плечы, нібы ў чалавека, які чакае ўдару ў спіну.

І сябе бачыць Мікалай. Ён стаіць, нібы прыціснуты да зямлі, няшчасны, разбіты, без шапкі, пад мараслівым дажджом. Ён адзін на вуліцы, адзінокі ў жыцці.

Лютая злосць закіпала тады ў сэрцы Мікалая. Да хрусту ў суставах сціскаюцца пальцы. Эх, няхай бы зноў паўтарылася на яве такая сцэна! Ён адкінуў бы прэч усе каноны ветлівасці, ён дагнаў бы іх і з усёй сілы ўчапіўся б у горла Адаму, пакуль той не адмовіўся б ад чужога шчасця.

Але вось, нечакана, як гром з яснага неба, пачулася вестка ад Веры.

Прышоўшы з работы, ён, па прывычцы, кінуў позірк на стол. Пісьмо! Ад каго ж? Ці не з дому? Ён падыходзіць — і раптам у сэрца кальнула: ён пазнаў яе почырк. Гэта Вера! Нешта здарылася, так не можа быць. Пісьмо было кароткае. Спачатку традыцыйныя пажаданні шчасця. Наіўная! За пажаданнямі — усяго пара слоў. Яна просіць прысці на старое месца а першай гадзіне дня, калі ён не лічыць гэта для сябе прыніжэннем. Ёй трэба параіцца з ім. І ў канцы — прабачэнне за турботы.

Мікалай цяжка ўздыхнуў. Так, нешта вельмі важнае, толькі не ў пісьме. Ясна, што тут не дагаворана, і за спакойным тонам чуваць вялікае хваляванне, можа нават гора.

Заўтра... Што ж яна скажа яму? Гэтае пытанне не выходзіла ў яго з галавы да канца дня.

...Вера спазнілася. Яна выскачыла з трамвая, азірнулася. Цень усмешкі прамільгнуў на яе твары, калі яна ўбачыла Мікалая.

— А я думала, што вы не прыдзеце... Вы не пакрыўдзіліся на мяне, што я патурбавала вас? — спытала Вера.

Яны ішлі ўверх па вуліцы, слізгаючы нагамі па свежым, але ўжо ўтаптаным снезе.

— Чаму «вы»? Я паспеў стаць чужым для цябе за гэты час, праўда? — дапытваўся ў сваю чаргу Мікалай.

— Вы не адказалі мне. Я маю права не адказваць вам у такім разе, — яна кінула на Мікалая жартаўлівы позірк, але не было ў ім ранейшай непасрэднасці і бесклапотнасці.

— Не вам, а табе,— папраўіў яе Мікалай і засмяяўся. Яму прыемна было бачыць яе вясёлаю. І тым не менш, ён адчуваў, што гэтая весялосць штучная. Ён чакаў, пакуль Вера сама скажа яму «нешта важнае», а яна чакала ад яго гэтага запытання.

Пасля кароткага перапынку Мікалай, нарэшце, спытаў яе:

— Як жа табе жывецца... замужам?.. Раскажы...

Нібы хмара на сонца, лёг суровы цень на яе твары. Вера, здавалася, пастарэла.

Мікалая кальнула ў сэрца гэтая перамена. Ён пашкадаваў, што так рэзка і неасцярожна паставіў пытанне.

Але Вера перамагла сябе, ускінула галаву і спакойна сказала:

— Прашу толькі не радавацца майму няшчасцю: я ўжо не замужам, а адна.

Мікалай не ведаў, што сказаць. У яго язык нібы прысох у роце і не мог павярушыцца, каб вымавіць слова.

— Што ты га-во-рыш? — трагічным голасам, расцягваючы склады, спытаў Мікалай. Ён проста не ведаў, як сустрэць такую навіну, што яна для яго азначае? І сапраўды, радавацца яму ці спачуваць ёй у такім няшчасці?

Вера прадаўжала:

— Але гэта не ўсё. Я больш не вучуся. Захварэла мая мама, я павінна была застацца дома, а пасля сама злягла і прабыла ў бальніцы два тыдні.

І яна замоўкла. «Падрабязнасцей і прычын не хоча гаварыць. Лічыць мяне чужым або саромеецца»,— падумаў Мікалай.

Размаўляючы, яны прайшлі кіламетры два, а можа і болей, і агледзеліся тады, калі апынуліся на вакзале, дзе Веры трэба было садзіцца на аўтобус. На прыпынку яна сказала, гледзячы ў зямлю:

— У мяне да цябе ёсць просьба. Я шукаю кватэру. Калі табе не цяжка, то праведай і скажы мне як-небудзь. Я паеду дадому. Пасля работу буду шукаць. Пра вучобу няма чаго думаць. І так я вельмі адукаваная. — І яна горка ўсміхнулася, а пасля спытала: — А як ты жывеш? Не жаніўся?

— Хацеў жаніцца, ды ноч малая,— сур'ёзна адказаў Мікалай.

Ён змоўк, хоць хацелася сказаць вельмі многа. Маўчала і Вера.

Маўчанне парушыў Мікалай.

— Ты мне нічога не сказала. А знаць я павінен усё, што ў цябе здарылася. Да нядзелі я пастараюся знайсці табе кватэру. Работу — цяжэй, але і яна таксама знойдзецца.



Яны цёпла развіталіся, умовіўшыся сустрэцца ў нядзелю.

Непрыкметна, у напружанай працы прайшоў тыдзень. Захварэла адразу два чалавекі з аддзела, прышлося цягнуць аднаму за траіх. Работа не чакала. Адзін толькі вечар быў патрачан на пошукі кватэры.

Прызнацца, Мікалай цяпер не хваляваўся за будучае. Яму здавалася, што Вера больш не пакіне яго. Цікава толькі, што паслужыла прычынай разрыву, хто першы пайшоў на такі крок? Яму думалася, што гэта яна. І можа нават з-за яго, Мікалая. Да гэтай думкі ён аднёсся даволі крытычна, бо ніколі не перабольшваў свае ролі. Не ў яго карысць гавораць і паводзіны і размова Веры.

У нядзелю яны сустрэліся, як добрыя знаёмыя, абмяняўшыся ўсмешкамі. Вера старалася быць вясёлай, хоць за гэтай весялосцю відаць быў вялікі боль душы. Мікалай падумаў сам сабе, што не кожны мог бы так трымацца. Але даволі было аднаго слова, якое вяртала яе да надзённых спраў, як яна рабілася сур'ёзная і задуменная.

Ёй проста трэба было хоць на гадзіну адагнаць ад сябе тыя цяжкія думкі, якія не давалі спакою ў адзіноце. Ёй патрэбен быў адпачынак, сапраўдны, глыбокі, але яна не магла яго знайсці. Можа Мікалай і быў тым адзіным чалавекам, з якім ёй было лягчэй і з якім, як-ні-як, у яе было нешта агульнае, з якім яна магла падзяліцца сваімі патаемнымі думкамі.

Размова спачатку не клеілася. Яны хадзілі па прывакзальным скверыку.

— Ну, Вера, раскажы, што ў цябе здарылася? Ты ж была дома, здаецца? Як мама, папраўляецца? Няма надзеі? Не можа быць!

Мікалай стараўся пераканаць яе, што аперацыя на апендыцыт — гэта глупства, але яна баялася, што маці не вытрымае. Відаць, Вера знала больш сваю маму, калі так гаварыла, а суцяшаць і падводзіць сябе не хацела.

Вера ўсё больш і больш хмурнела і гатова была заплакаць. Мікалай узяў яе за руку і ціха пагладзіў. Гэтай маленькай ласкі было даволі, каб Вера зусім расплакалася. Мікалай разгубіўся. Але яна хутка супакоілася, выцерла вочы і цераз сілу ўсміхнулася.

— Без слёз мы не можам. Гэта вы, мужчыны, з цвёрдымі сэрцамі...

— Як хто... Я сам магу пераносіць гора, боль — нават лёгка. А вось бачыць, як некаму цяжка, балюча — не магу. Здаецца, няхай бы ён мне аддаў сваю пакуту, а сам быў здаровы і вясёлы...

Затым Мікалай загаварыў пра тое, што яго так хвалявала: як яна думае жыць далей? Яна не прымае яго ў разлік... Яна лічыць, што ён перамяніў свой погляд на яе. Зноў і зноў натыкаўся Мікалай, як на сцяну, на гэты довад. А як ён мог даказаць, што ён застаўся па-ранейшаму аддааны ёй? О, калі б яна магла заглянуць яму ў душу, там яна ўбачыла б толькі адну сябе.

Мікалай не знаходзіў слоў, каб пераканаць яе. Не, не, цяпер ён будзе настойлівы, цяпер не будзе разважаць і марудзіць: усё передумана. Але чаго яна пярэчыць?

Нібы ў адказ на яго ўнутранае пытанне, Вера гаворыць:

— У галаве ў мяне кружыць і падварочвае пад грудзі... Зусім я хворая...



Мікалай на хвіліну задумаўся... Ды што, гэтага трэба было чакаць.

— Гэтым ты мяне не спалохаеш, Вера, і не адштурхнеш ад сябе. Калі я цябе люблю, то буду любіць і тваё... дзіця.

Апошняе слова ён вымавіў неяк асабліва, нібы яно было іншамоўнае і Мікалай не прывык да яго гучання.

— Гэта толькі так здаецца на першы погляд. Чужое — не сваё,— суха зазначыла Вера.

— А хіба мала сем'яў, дзе дзеці адной маці і не аднаго бацькі і наадварот? Няўжо мы горшыя за людзей? Няўжо ты мне ўсё яшчэ не верыш?— пытаў Мікалай.

— Родны бацька дзіцяці не хоча, каб яно ўбачыла свет, а што гаварыць аб чужым чалавеку?

— Як? І ты згадзілася з ім?— жах пачуўся ў голасе Мікалая.

— Я не магла згадзіцца... Таму мы і разышліся... Ён гаварыў, што мне яшчэ рана быць маткай, што дзіця будзе скоўваць мяне і яго, будзе перашкаджаць працаваць...

— Вось як? А я ламаў галаву, што за прычына, і саромеўся спытаць.

Мікалай сапраўды пачырванеў, і на твары яго паявіўся цень бездапаможнасці, які так не падыходзіў да яго суровага выразу і, здавалася, быў чужы і часовы.

Настала кароткая паўза. Але Вера раптам устрапянулася.

— Мне холадна. Давай пройдземся.

Зноў яны снавалі па скверыку сюды-туды. Мікалай збіраўся з думкамі, каб пачаць рашучую і апошнюю размову. Цягнуць больш немагчыма. Чалавек застаўся адзін, хто ёй дапаможа і пашкадуе?

— Вера, а што скажуць на гэта твае бацькі? Яны ведаюць?

Вера спахмурнела.

— Здагадваюцца. Я ім адкрыта не гаварыла, але хутка зноў паеду дадому і ўсё скажу. Няхай робяць, як хочуць. Шкада толькі турбаваць маму. Яна будзе хвалявацца.



— Слухай, Вера, што я табе скажу. Настаў час, калі можна паправіць памылку — тваю і маю. Ты рашылася парваць з ім, цяпер табе трэба рашыцца яшчэ на адзін крок. І калі ты мяне лічыш сваім, калі ты мною даражыла... і любіш, ты павінна выйсці за мяне замуж. Ты зноў пачнеш адгаворваць мяне, што ты не варта мяне, што я знайду дзяўчыну, што ты будзеш з дзіцем... Усё гэта я чуў, усё ведаю. Гэта мяне не палохае і не спыніць. Вось пабачыш, мы будзем шчаслівыя, і нам яшчэ пазайздросцяць добрыя людзі...

Мікалай быў як п'яны. Але ўсе словы яго ішлі ад сэрца, і ён нічуць не саромеўся іх. Толькі з ёй так мог гаварыць і гаварыў Мікалай. Вера слухала, іншы раз кідаючы позірк у яго бок. Яна бачыла, што ён сапраўды хвалюецца.

— Ой, як многа ты нагаварыў,— сказала Вера, калі Мікалай зрабіў перадышку.

— Яшчэ апошняе: мы павінны жыць разам.

— Не, не,— Вера замахала рукамі.— Што ты!

— Што ж цябе палохае? Чаму ты не можаш рашыцца? — дапытваўся Мікалай пасля кароткай заминкі.

— Усё невядомае палохае. Адкуль я ведаю, што мяне чакае з табою? Ён так падарваў маю веру ў чалавека... Ды яшчэ я буду не адна... Каму патрэбна чужая бяда, лішні клопат.

— Ты мяне хочаш спалохаць цяжкасцямі, нібы я іх баюся. Зразумей ты нарэшце, што не цягне мяне раскоша і спакой. Я не мару аб нечым звышнатуральным. Я хачу толькі сумленна жыць і працаваць. Нам будзе спачатку цяжка, гэта я знаю. Я быў студэнтам, жыў амаль на стыпендыю, цяпер — другі год на рабоце, толькі станаўлюся на ногі. Але затое мы ўсё будзем дзяліць папалам, і ў горы і ў радасці мы будзем разам. І асноўнае, што мы будзем разумець адзін другога. Гэта зблiжае нас, таму і здаецца мне, нібы я вырас разам з табою, ведаю цябе даўно, такая ты для мяне зразумелая і блізкая. Тваё дзіця... Яно будзе нашым, гэта будзе наша радасць.

Вера некаторы час маўчала.

— Гэта так здаецца. Ёсць вельмі многа непрыемнасцей і турбот, іх лягчэй пераносіць, калі яны ідуць ад роднага дзіцяці.

— Я думаў аб усім, Вера. Я згодзен на ўсё, што мяне чакае з табой, але нічога мяне не спыніць, калі толькі ты будзеш згодна.

— На гэта мне цяжка рашыцца. Табе прасцей.

Было відаць, што яна вагаецца. Мікалай прадаўжаў настойваць. Пaслязаўтра ён прыедзе да яе і перавязе яе рэчы на новую кватэру.

— Ты згодна? Згодна? — спытаў ён пад канец.

Яна задумалася і, здавалася, акамянела. У яе душы ішла барацьба.

Замест адказу яна сказала:

— Мне пара ісці.

Яны пайшлі на аўтобусны прыпынак. Мікалай пераконваў яе, што толькі так, а не інакш яны павінны рашаць гэтае пытанне. А яна маўчала. Прышоў аўтобус. Вера паімкнулася садзіцца, але Мікалай затрымаў яе.

— Ты не адказала мне нічога. Ты згодна?

Яе замкнёны твар выдаваў вялікую муку, нібы яна выбірала паміж жыццём і смерцю.

— Згодна,— ціха прамовіла яна нарэшце.

Мікалаю здалося, што ён сілаю вырваў у яе гэтае кароткае слова. Ён ішоў дадому і развважаў.

Няўжо яна кажа праўду? Ці будзе так, як малюе ён сам сабе? Ён ведае што многае залежыць ад яго самога. А калі не? Ці зможа ён сапраўды жыць з ёю добра, мірна, па-чалавечы? Ці не растане яго каханне пры першым сутыкненні з жыццёвай непрыемнасцю? Ці зможа ён па-сапраўднаму, без прытворства, любіць яе малое? Мікалай ламаў галаву над гэтымі пытаннямі, і ў канцы прыходзіў да заключэння, што ўсё будзе добра. Гучаў недзе і голас сумнення, але ён нібы не даходзіў да свядомасці.

Роўна ў назначаны час Мікалай пайшоў на яе старую кватэру. Гэта была проста «разведка». Якія ў яе рэчы? Ці трэба будзе браць машыну?

Але Веры ён не застаў дома. Кватарантка, маладая жанчына, сказала Мікалаю, што Веру выклікалі тэлеграмай — памерла маці. Вось што!.. Яму раптам стала душна, і ён амаль выскачыў з пакоя.

А здавалася, што перашкод больш няма, што ўсё пойдзе на лад. Вера, Вера! Колькі раптоўнага гора на тваю галаву!

Мікалай успомніў, што не ведае дамашняга адрасу Веры. Прыйшлося паслаць пісьмо ў пашпартны стол па месцу жыхарства Веры.

Марудна цягнуліся дні. Яму хацелася пачуць хоць адно слова ад Веры. Адказ прыйшоў праз тыдні тры. Мікалай напісаў кароткае пісьмо. У ім было толькі спачуванне і просьба напісаць пару слоў. Закранаць пытанне аб іх узаемаадносінах ён не асмельваўся. Ёй не да гэтага. Мікалай з трывогай стаў чакаць адказу. Але яго не было: тыдзень, месяц, другі...

Ну што ж? Трэба забыць усё і выкінуць з галавы думку аб тым, што іх дарогі яшчэ сыйдуцца.

Надышла вясна. Горад умываўся вясеннімі дажджамі, зелянеў першай ліствою. Вуліцы станавіліся люднымі, самі людзі — вясёлымі і ўзбуджанымі.

Мікалай усёй сваёй істотай адчуваў вясенняе адраджэнне, але частая туга і сум парушалі лепшыя хвіліны спакою. Ледзь толькі ён заставаўся адзін, як думкі яго зноў і зноў варочаліся да Веры. І што радаснага ён мог успомніць ад іх сустрэч? Адна горыч: нечаканыя разлукі, нечаканыя і кароткія сустрэчы. Нягледзячы на гэта, ён усё яшчэ ў глыбіні душы спадзяваўся, што яны сустрэнуцца.

Праз некаторы час яму давялося быць у камандзіроўцы ў тых мясцінах, адкуль была родам Вера. Вось тут і ажыла ў Мікалая надзея ўбачыцца з Верай. Неяк у нядзелю, калі час быў свабодны, Мікалай сеў на спадарожную машыну і праз колькі хвілін быў у вёсцы Трысцё. Верына хата стаяла далёка ад вуліцы, перад вокнамі быў добры сад, абгароджаны дротам.

Мікалай гадаў, ці ўбачыць ён Веру. Нешта не верылася ў такое шчасце.

Да хаты заставалася крокаў пяцьдзесят, калі дзверы ў сенцах адчыніліся. Дзяўчынка-падлетак выбегла ў сад і пачала ганяць курэй, якія грабліся на пасеяным.

У вочы кідалася поўнае падабенства дзяўчынкі да Веры. Такі ж колер валасоў, выраз твару. Нават голас, калі яна крычала на курэй, здаўся Мікалаю знаёмым. Таму, павітаўшыся, ён адразу спытаў:

— Вы Верына сястра?

Дзяўчынка здзіўлена паглядзела на яго.

— Якой Веры?— хітра спытала яна.

Мікалай усміхнуўся і назваў прозвішча.

— А што вам трэба?

— Я хачэў яе бачыць. Яна дома?



— Яе няма. Хіба вы не ведаеце, што яна замужам? Гэта вы пісалі ёй пісьмы?

Яна адразу паставілася варожа да Мікалая. Яго гэта крыху ўкалола, але ён тут жа рашыў, што яна робіць правільна. Таму ён, вінавата ўсміхнуўшыся, сказаў:

— Я ведаю, што яна была замужам, але ж яна апошні час не жыла з мужам. Таму я і пісаў. А цяпер яна што — зноў жыве з ім?

Апошняе пытанне ён вымавіў так, нібы гэта яго мала цікавіла.

— Жыве, — быў адказ.

— І яны добра жывуць?

— Добра,— коратка і рэзка адказвае дзяўчынка.

— А як вас зваць?— раптам пытае Мікалай.

— Навошта вам?— яна кідае на яго непрыветлівы позірк.

— Як навошта? Проста цікава ведаць, як завуць такую сярдзітую дзяўчынку.

— Не трэба вам маё імя. І пісем вы больш не пішыце,—гаворыць яна.

— Калі так, то не буду. Вы не кажыце ёй, што я быў у вас. І пісьма майго не перадавайце. Парвіце. Добра?

— Добра, добра,— заківала дзяўчына галавою.

Сур'ёзнасць знікае з яе твару, калі яна бачыць, што Мікалай не мае кепскіх намераў і збіраецца ісці. Развіталіся яны даволі мірна.

Прайшоў месяц, другі, трэці... Летні адпачынак дома, затым зноў праца... Мікалай крыху развеяў свой сум. І хоць думкі яго ўсё радзей былі звязаны з успамінамі, аднак канчаткова выкінуць Веру з галавы ён не мог. Ён цвёрда рашыў не жаніцца да канца дзён сваіх. Нічога не магло зачапіць Мікалая за жывое. Нават работа і звязаныя з ёю рэдкія радасці і частыя непрыемнасці не так хвалявалі яго, як раней.

Неяк у нядзелю раніцай Мікалай сядзеў за сталом і галіўся. Вось перад акном прамільгнуў паштальён. Мікалай з намыленым тварам выскачыў у сенцы — на лаўцы ўжо ляжала газета і пісьмо. Яму! Ад Веры? Гм... Адваротнага адрасу няма. Нават подпіс, які яна заўсёды рабіла на канверце, сцёрты гумкаю.

Мікалай нецярпліва адарваў пусты край канверта і выняў маленькі лісток паперы. Як заўсёды, першым стаяла традыцыйнае пажаданне здароўя і шчасця. А далей: «Нядаўна я была дома і даведалася, што ты заходзіў да нас. Прызнацца, я гэтага не чакала... Калі ў цябе ёсць магчымасць, прыходзь 20 верасня ў гадзіну дня на старое месца. Я табе павінна нешта сказаць. Вера».

Зноў! Няўжо зноў усё спачатку?..

Вось надышоў умоўлены дзень. Мікалай быў на месцы на паўгадзіны раней назначанага часу. Яго ўсхваляванасць узрастала з кожнай хвілінай. Цікава, як яна выглядае? Відаць, моцна змянілася, бо столькі прыйшлося ёй перанесці гора.

Але Мікалай быў прыемна здзіўлены, калі ўбачыў, што з трамвая сыходзіць Вера, такая ж самая, як год назад. Толькі прыгледзеўшыся бліжэй, ён заўважыў, што яна многа паблажэла, а выраз твару стаў яшчэ больш дзіцячым, вочы зрабіліся вялікія і, здавалася, больш глыбокія.

Яны прывіталіся стрымана, але Вера моцна паціснула яму руку. Мікалаю падабаўся гэты мужчынскі поціск. Была ў ім непадробная прастата.

Не згаворваючыся, яны пайшлі ў бок скверыка. Пытанняў у Мікалая было многа, і ён проста не ведаў, з чаго пачаць.

Вера сказала, вінавата ўсміхнуўшыся:

— Я крыху спазнілася. Сын мяне не пускаў... Прабач...
— У цябе сын?— У голасе Мікалая было здзіўленне, нібы гэта для яго было вялікай нечаканасцю.
— Месяц назад. Нядаўна толькі выйшла з бальніцы. Праляжала тры тыдні...
Мікалай глядзеў на яе худы, маленькі твар. Яму раптам стала шкада гэтага дзіцяці, якое так паспешна само стала маці.
— Сядзем, Вера, табе цяжка.
Яны селі на лаўку пад клёнам, які ўжо жаўцеў і асыпаўся. Пачыналіся асеннія вятры, але ў зацішку сонца яшчэ прыправала.
Вера расказвала ўсё па парадку. Тэлеграма аб смерці маці яе зусім ашаламіла. Як яна даехала — памятае, як у сне. А дома стала яшчэ горш. У такім стане яна прабыла некалькі тыдняў, пасля крыху папраўілася. Трэба было даглядаць гаспадарку. Спачатку ўся работа падала з рук.
Бацьку яна не сказала, што не мае намеру варочацца да мужа. Аднак бацька сам скора спытаў у яе, ці доўга яна яшчэ будзе дома.
Тады Вера рашылася і расказала ўсё. Яна нікуды не паедзе, хай бацька робіць з ёю, што хоча... Паднялася цэлая бура. Бацька крычаў і грозіў, што прагоніць яе з дому або сілаю завядзе да мужа. Вера слухала і плакала, а пасля, наплакаўшыся, дала згоду ехаць да яго бацькоў, куды павінен быў прыехаць і ён сам у адпачынак — хутка пачыналіся канікулы.
Можа і праўда, што якія бацькі, такія і дзеці. Да яе адносіліся, як да чужой, проста не звярталі ўвагі. Вера здагадвалася, што тут не абышлося без Адамавай інфармацыі. Яго бацькі жылі яго настроем.
Нарэшце, прыехаў ён сам. Як заўсёды, развязны, нахабны, прымушаў яе смяяцца, быць вясёлай у той час як яе сэрца аблівалася крывёю, калі яна ўспамінала сваю маці.
— ...Я ведала прычыну яго паводзін, я не паслухала яго і рашыла радзіць... Цэлых два месяцы прамучылася я ў іх, а пасля зноў мы паехалі ў Мінск. Адзін ён яшчэ горшы... Ну, хутка я нарадзіла... Пасля праляжала ў бальніцы, а ён быў у мяне ўсяго тры разы. Казала гаспадыня, што дадому амаль не прыходзіў... А калі забіраў мяне дадому і яму далі дзіця, ён узяў яго, як палена...
Доўга яшчэ расказвала Вера. Слёзы не давалі ёй спакойна гаварыць.
Мікалай спадзяваўся, што Вера, нарэшце, скажа сваю канчатковую думку. Ён чакаў, што яна абрушыць на мужа град наракання́ў і праклёнаў. Але Вера толькі апавядала, не робячы ніякіх заключэнняў. Мікалай пачынаў думаць, што ёй проста патрэбен субяседнік, перад якім яна магла б адкрыць сваю душу.
Нарэшце, Мікалай спытаў яе:
— І ты думаеш так жыць далей?
Яна ўскінула плячыма.
— Я і сама не ведаю...
— Ты ўсё не ведаеш. Хопіць, Вера, прыкідвацца. Табе там невыносна. Не з дабра ты пішаш мне пісьмы. Мы не можам забыць адно другога... Мы павінны быць разам. Ты мусіш набрацца сілы і парваць тыя ніці, што звязваюць цябе з ім.
— Добрыя ніці... Сын звязвае мяне, я нічога не магу рашыць. Што ён вінаваты? Ён павінен мець бацьку.
— Ты думаеш, ён будзе шчаслівы з такім бацькам? І ты таксама... Ты сама асуджаеш сябе на сямейную катаргу.



— Ну, што ж? Я заслужыла гэта. Я павінна адказваць за свае паводзіны.
— Гэта не адказ! — усклікнуў Мікалай. — Ты проста не асмелішся забраць дзіця і пайсці ад мужа.
— Куды? — рэзка спытала Вера. — Я бяздомная.
— На новае месца, да мяне. Больш няма чаго адкладваць.
Вера толькі цяжка ўздыхнула. Вочы яе заблішчэлі слязамі. Яна адвярнулася...
Толькі пасля развітання Мікалай успомніў, што Вера так і не сказала таго «нешта», для якога пісала пісьмо. Ён задумаўся. Ясна адно: яна шукае апоры. Ён у яе адзіны чалавек, які можа памагчы ў цяжкую хвіліну. А чым памог ёй Мікалай? Ён, як папугай, паўтарае адну фразу: «Ты не маеш сілы парваць з ім». Лёгка яму сказаць, ды цяжка ёй парваць. Яна лічыць сябе прыніжанай, нявартай яго. У той жа час самалюбства гаворыць ёй, што яна чалавек, што яна нават больш, чым іншыя, заслугоўвае павагі, бо яна вынесла столькі пакут, гора і слёз. Яна мае права не давяраць і яму, бо, акрамя слоў, нічога рэальнага ад яго не бачыла. Трэба любой цаной пераканаць яе, што ён гатоў на ўсё для яе, што не з-за вялікадушша, як яна аднойчы казала, прыносіць ён сваё жыццё ў ахвяру кахання.
Назаўтра, адпрасіўшыся з работы на гадзіну раней, Мікалай адразу ж накіраваўся ў дзіцячую кансультацыю, куды Вера павінна была прынесці малога. У прыёмным пакоі было некалькі маладых жанчын. Вера нахілілася над столікам, на якім ляжала спавітае дзіця. Яна раскручвала коўдру, і малы нездаволена крактаў і трапятаўся.
— Вось мой сын,— ціха сказала Вера, нібы знаёмячы Мікалая. Ёй, відаць, хацелася б, каб людзі, якія іх акружалі, лічылі Мікалая бацькам гэтага дзіцяці і яе мужам, а не проста пабочным чалавекам.
Мікалай заўважыў няўлоўныя, ледзь прыкметныя рысы падабенства малога да Веры.
Усмешка прамільгнула на твары Мікалая.
— Глядзі ты, вочы ў яго твае, рот таксама, толькі нос бацькаў, адразу ўверх задзіраецца. А як яго зваць? Ігар? Ах ты, вараг!
Ён глядзеў на малога і смяяўся, а той таксама скрывіўся, пускаючы сліну і паказваючы голыя чырвоныя дзясны.
Вера раскруціла яго і, узяўшы на рукі, зайшла ў другі пакой. Мікалай застаўся адзін каля століка з коўдрай і пялёнкамі. Яму было неяк дзіўна і нязвыкла ў такіх абставінах; разам з тым яго смяшыла думка, што вось гэтыя людзі, якія не чулі іх размовы, думаюць, што гэта маладыя бацькі. Вось ён, чужы чалавек гэтаму дзіцяці, збіраецца стаць яго бацькам.
Мікалай адагнаў ад сябе гэтыя думкі. Яму хацелася супакоіць сябе.
Праз некалькі хвілін выйшла Вера з малым на руках. Ён плакаў, а яна гайдала яго і старалася супакоіць. Аднак гэта было не так лёгка. Яны разам пачалі яго спавіваць. Рухі ў Мікалая былі нязграбныя і няўпэўненыя, ён баяўся сваімі жорсткімі рукамі моцна ўзяцца за гэтае далікатнае, кволае цельца. Вера ж упэўнена выконвала ролю маці, абвіваючы малое паяском, асцярожна пераварочваючы яго з боку на бок, гаварыла ласкавыя словы і час-ад-часу цалавала ў заплаканы тварык.
— Сынок мой, ты спалохаўся доктара... Не бойся, мой маленькі, з табою мама, яна не дасць цябе ў крыўду...
Мікалай слухаў гэтыя бясхітрасныя словы, і яму здавалася, што ён з кожным часам ясней разумее Веру, разумее яе пачуццё маці, глыбокае і

шчырае. Ён сам маладзеў душою, у яго сэрцы раставала чэрствасць, нараджалася вялікая любоў да новага чалавечка-чалавека.

Праз некаторы час яны ўжо ішлі да трамвайнага прыпынку. Вера асцярожна несла на руках малое. Нічога сур'ёзнага ў яго не аказалася, трэба было толькі купіць дзіцячага крэму. Заўтра Вера прыедзе ў аптэку. Таму Мікалай не закранаў балючага пытання, а гаварыў аб усім. Вера была вясёлая і, здавалася, бесклапотная. Ён праводзіў яе да самай кватэры, і яна не пярэчыла.

Мікалай пераконваўся, што Вера забывае аб сваім цяжкім становішчы, смяецца, нават жартуе, адчувае сябе свабодна і лёгка. Яна сама прызнавалася, што з ім яна адпачывае пасля дамашняга пекла. Дома яна не чуе ласкавага слова, не бачыць усмешкі, і сама заўсёды маўчыць. Адзіная яе ўцеха — гэта сын.

А Мікалая самога ўсё больш і больш цягнула да яе. Яму з ёю таксама было прыемна і весела. З кожнай новай сустрэчай Мікалай усё больш захапляўся Верай.

«Нарэшце Вера перастане вагацца»,—думаў Мікалай. Цяжкую дарогу яны прайшлі, шляхі іх сыходзіліся, скрыжоўваліся, зноў разыходзіліся, і вось, нарэшце, зноў сышліся, каб пайсці разам. Цяпер — або ніколі. Сумненняў ніякіх не можа быць. Усё абдумана і перадумана многа разоў.

... І вось яны зноў разам. Схаваўшыся ад асенняга ветру, яны сядзяць на вакзале, разам з пасажырамі. Вера зноў расказвала аб сабе, аб сваім жыцці. Яна гаварыла многа, нібы хацела выказаць усё набалелае.

Яе муж... Як ён не падобен на таго, якім ён сябе маляваў у размовах з ёю! Сціплы, сумленны, добры — такім ён заўсёды выстаўляў сябе. Як ён будзе кахаць яе, як яны будуць добра жыць! А на справе ў гэтага сціплага было не менш трох жонак, законных і незаконных. Цяжка пазнаць чалавека, а яшчэ цяжэй верыць у тое, што ён гаворыць.

— Ага, то ты і мне не верыш?— пытае Мікалай.

— А ты ўпэўнены, што ведаеш сябе?

— Каго-каго, а сябе, мне здаецца, я ведаю,— гаворыць Мікалай, і ў яго такое адчуванне, нібы ён на споведзі ці на экзамене.

— Вось іменна, — сурова гаворыць Вера, — табе здаецца. У цябе ў жыцці ўсё ідзе так, як ты хочаш?

Мікалай крыху задумаўся.

— Не, хутчэй наадварот...

— Вось бачыш. Ты малюеш сабе наша сумеснае жыццё яркімі фарбамі і не хочаш бачыць іншых. А яны ёсць, справядлівей, будуць. Аб іх мы ўжо не раз гаварылі, але ты не хочаш слухаць... Я табе не сказала яшчэ аб адным — аб мужчынскай рэўнасці. Ты сам мужчына і павінен ведаць гэтае пачуццё лепш за мяне. Але адна справа самому раўнаваць, а другая — адчуваць на сабе гэтую рэўнасць. О, як гэта цяжка! Здаецца, што цябе зачынілі ў адну клетку з дзікім зверам, які ў кожны момант можа на цябе накінуцца. Увесь час трэба асцерагацца, наравіць, дагаджаць...

Мікалай адчуў, што яму стала горача.

— Што? Ён раўнуе? Вось гэта навіна...

— Навіна... А для мяне гэта не навіна ад таго часу, калі ён даведаўся, што мы з табою знаёмы.

Мікалаю раптам стала сорамна за сябе. Вось гэта назіральнасць і глыбіня пранікнення ў чалавечую душу!

— А чаму ты мне раней не сказала?— нібы за саломінку, хапаецца Мікалай за гэты довад, і сам адчувае, што пытанне лішняе, неразумнае.



Яна нібы адчула, што Мікалай не гэта хацеў спытаць, дакорліва ківае галавою і ўсміхаецца:

— Хоць табе спакайней было, а мне ўсё роўна.

Мікалай разумее горкую праўду яе слоў і нічога не можа сказаць у сваё апраўданне. Гэтая «навіна» збіла яго з панталыку, ён страціў здольнасць думаць і разважаць.

Вера тым часам працягвае сваю думку:

— Праўда, у яго былі падставы раўнаваць: ён ведаў, што я атрымліваю твае пісьмы, што мы сустракаемся. Ён збіраецца пераехаць у другі горад, каб згубіць след. Яму проста сніцца, што я хаджу да цябе, што толькі і чакаю, каб ён пайшоў на работу. Ён не верыць ні аднаму майму слову. Ён нават думаў, што я нараджу не ад яго...

Тут Вера змоўкла і апусціла вочы. Словы проста сарваліся з языка, яна не думала іх гаварыць.

Мікалая нібы кальнула ў самае сэрца. Ён рэзка павярнуўся да Веры.

— Як ён мог так думаць?!— злосна і гучна спытаў Мікалай.

Вера стукнула яго па руцэ: цішэй.

Мікалай азірнуўся па баках і больш спакойна сказаў:

— Ён заслугоўвае толькі пагарды... І пасля ўсяго гэтага ты яшчэ думаеш з ім жыць? Гэта проста дзіка, гэта пачварна... Пражыць усё жыццё без давер'я, пад наглядам, як у турме.

— Ну што ж, як прыдзецца.

— Якая пакорнасць лёсу,— панура прамовіў Мікалай і раптам ажывіўся: — А я ў разлік не прымаюся? Ты думаеш, што я змяню свае адносіны да цябе. Не, я цябе не пакіну, я буду ісці за табою, як цень,— хай раўнуе, хай шалее, хай табе будзе дрэнна, бо ты сама гэтага захацела.

Злосць зноў кіпела ў грудзях Мікалая. Ён ніяк не мог перамагчы недавер'е гэтай упартай дзяўчыны. Перадыхнуўшы, ён прадаўжаў:

— Я ведаю, ты намякаеш, што я таксама буду раўнаваць, і ты скажаш, што ў мяне для гэтага больш падстаў, чым у яго. Загадзя гавару табе: гэтага не будзе. Я не раўную да мінулага.

— А адкуль я магу ведаць, што не будзе? Ты сам і то не ведаеш, хоць гаворыш упэўнена.

— Вера, ты захварэла на недавер'е. Дарэчы, каторы раз я гавару табе аб гэтым? Ты зварочваеш віну на выпадковасці, а я думаю, што справа не ў іх. Толькі мне незразумела, чаму цябе і цягне да мяне і ты баішся пераступіць парог, які нас раздзяляе. Я проста заблытаўся ў гэтым...

Гэты раз яна праводзіла яго на тралейбус — ён спяшаўся на работу. Па дарозе Вера сказала яму:

— Коля, я не прыду заўтра.

Мікалай спыніўся, аслупянелы.

— Што??? Чаму?

— Таму што так трэба. Я больш не магу.

— Дык гэта лішні раз гаворыць аб тым, што так жыць далей немагчыма. Ты павінна перамагчы свой страх перад будучыняй. Ты прыдзеш заўтра?

Ён бачыў, што яна вагаецца. Мікалай яшчэ раз паўтарыў пытанне.

— Прыду.

Але чамусьці ў свядомасці ён не верыў яе слову. Два разы ён паверыў і памыліўся.

Пераезд... Па сутнасці, яна хацела сказаць толькі гэта. А выйшла так, між іншым, нібы не ў гэтым уся справа...

Прайшоў дзень. Зноў прывакзальная плошча. Мікалай увесь час назіраў за аўтобусным прыпынкам. Час цягнуўся марудна, нібы знарок прадаўжаючы муку Мікалаевага цярпення.

Без дзесяці дзве гадзіны.

Мікалай уздыхнуў.

Ён пастаяў яшчэ некалькі хвілін і замест таго, каб ехаць на работу, накіраваўся да аўтобуса. Праз некаторы час ён быў на Верынай кватэры.

На кухні, куды ён прайшоў па вузкаму калідорчыку, пахла печаным салам. Каля прымуса ўходжвалася пажылая жанчына. Яна падалася да яго насустрач, калі ён спытаў у яе, ці тут жыве Жук Адам, — прымус заглушаў словы.

— Тут ён жыве, але яшчэ не прышоў з работы. А жонка з дзіцем недзе паехала, не сказала нават куды... Запіску толькі пакінула. Вунь у замку, прачытайце хіба, я не скажу...

Мікалай з хваляваннем, асцярожна, нібы капсуль з гранаты, выняў скручаную ў трубачку паперку.

Алоўкам было напісана ўсяго некалькі слоў: «Не шукай нас. В. Кавалёнак».

Паперка ўпала на зямлю з дрыжачых Мікалаевых рук, і калі ён нагнуўся, каб падняць яе, кроў ударыла яму ў галаву і ў вачах пацямнела.

— Яна паехала...— сказаў Мікалай нібы сам сабе.

— А куды?— спытала гучна кабета.

Мікалай толькі пацінуў плечукамі. Ён пастаяў нейкую хвіліну і пайшоў. «Не шукай нас, не шукай нас»,— звінеў у вушах яе голас, нібы яна не пісала, а сказала гэта яму асабіста. А можа і не яму...

Уладзімір **ПАЎЛАЎ**

# РОДНАЕ



Ветрам сыпле ў фіранкі-вышыўкі
Абляцеўшых пялёсткаў пух.
Як дзяўчаты на сцэне, вішанькі
Разышліся ў шырокі круг.

Бэз закінуў чупрыну сінюю,
Ля сцяжынкі стаіць, як сват,
Ды чакае, калі з дзяўчынаю
Прыдзе хлопец гуляць у сад.

У надрэччы туманы пеняцца,
Як няцэджаны сырадой.
Кліча з дому мяне аселіца
Песняй звонкаю, маладой.

Трактары, як аркестры зводныя,
На вясновай гудуць сяўбе.
Дарагое, з маленства роднае,
Як жа мне не любіць цябе!

Генадзі БУРАЎКІН

## ЖАДАННЕ



Я хачу прайсці па зямлі
Яе юным, любімым сынам,
Каб сцяжынкі мяне вялі
Па гарах, барах і лагчынах.

Каб спакойна ў мяне на плячах
Сінім ранкам спявалі птушкі,
Каб я кветкамі ўсімі прапах
Ад падэшваў да самай макушкі,

Каб паданні старой сівізны
Мне з давер'ем дубы шапталі,
Каб крыніц залатыя званы
Для мяне калыхалі хвалі,

Каб кармілі мяне каласы,
Каб паілі ягады сокам
І хавалі ў цяньку лясы
Ад паўдзённай нясцерпнай спёкі...

Я хачу прайсці па зямлі,
Каб мне людзі сэрцы адкрылі,
Слёзы шчасця і мазалі
Па-братэрску са мной падзялілі,

Каб мне роўную частку далі
Сваёй ношы нялёгкай пранесці
І свае галасы уплялі
У мае няхітрыя песні...

Калі так па зямлі я прайду —
Значыць, стану ёй сынам любімым
І харошыя словы знайду
Новай песні для любай Радзімы.

* * *



Я часам сам сябе не пазнаю:
Разважлівы, спакойны і цвярозы,
Пра маладосць бясхмарную маю
Усё часцей ка мне прыходзіць роздум.
Я ўсё стражэй да слоў сваіх і рук,
Трывожыць сэрца мне любая дробязь,
Нібы адказнасць я за ўсё бяру,
Што ў цэлым свеце думаюць і робяць.
І з кожным днём вярней мне дружбакі
І ўсё цвярдзей любоў, нянавісць, вера...
Ці то характар робіцца такім,
Ці гэта сталасць стукаецца ў дзверы?..

## У ПРЫСАДАХ



У прысадах цяністых
Я сустрэўся з табой,
Маёй светлаю, чыстай
Веснавою журбой,
Маёй ціхаю казкай,
Маёй першаю ласкай.

Тут з табой мы блудзілі
Каля лавак пустых,
Ціхім шэптам будзілі
Юных клёнаў лісты,
Новых сцежак шукалі,
Першых промняў чакалі.

Ды з другою дзяўчынай
Я хаджу да святла
І не знаю прычыны,
Што з табой развяла,
Маім шчасцем пявучым,
Маім болем пякучым.

І ўсё, як калісьці
У прысадах вясной:
Ліпкі ліпкае лісце
Paрасправілі зноў,

Клёны росамі ззяюць,
Птушкі сонца гукаюць,
Звоняць песняй прыгожай,
Маё сэрца трывожаць.
Успамінам трывожаць
Маё сэрца...

* * *



Не крыўдуй на мяне, харошая,
Што я столькі аб шчасці пеў,
Столькі слоў аб каханні выношваў—
Аб табе ж напісаць не паспеў.

Не крыўдуй, не сярдуй, прыгожая,
За прысвечаны іншым верш:
Як і ў сэрцы маім заварожаным,
Ты у кожным радку жывеш.

І якія завеі і вырак
Ні сустрэнуцца мне ў жыцці—
Знай,
        што песні самыя шчырыя
Я табе ды вясне прысвяціў.



Іван ГРАМОВІЧ

# ПРЫЯЗДЖАЙ, СЫНОК!

## Апавяданне

Мал. М. Залознага.

### I

Ідзе Барбара, ідзе ды і забудзецца, куды ідзе. Спыніцца і думае: куды гэта яна ішла, чаго?.. Ага, успомніла... завярнулася і зноў пайшла з хаты. Бярэцца за клямку дзвярэй...

А што гэта яна думала? От, старэчая памяць! Думкі блытаюцца, мітусяцца. То ж яна ўспамінала, як апынулася гэтак далёка ад родных мясцін.

...Жыла яна некалі ў бацькоў аж на Беларусі. Вёска звалася Качай-Балота. У даўняй маладосці падружылася Барбара з хлопцам са сваёй вёскі Яўхімам Ганчарыкам. Яўхім быў дужы, прыгожы і спадабаў яе, сінявокую і чарнабровую Барбару. Іх дружба была такая моцная, што ёй не іначай як трэ' было завяршыцца вяселлем. Але Ганчарыкі — сям'я бедная, надта вялікая. Яўхім лічыўся трэцім сынам, а ўсіх было аж трынаццаць душ-едакоў. Куды там спадзявацца на кавалак зямлі ці куток у роднай хаце! Балазе, што рукі ўмелыя меў Яўхім ды хадзіў у заработкі. Прыстаць у прымы ён, упарты, не захацеў. Ды навошта таіцца, Барбарын бацька не вельмі быў рады такому зяцю. Горка даводзілася дзяўчыне. Што ж было рабіць?

Вось і прыехалі яны шукаць шчасця ў Сібір. Сібір — люты, нязведаны край. Але тут, як хадзілі чуткі, чалавек з умельствам мог скора нажыць багацце... Даўно тое было. Яшчэ на парозе гэтага і мінулага вякоў.

Праўда, перад тым, як трапіць за Уральскі перавал, Яўхім яшчэ каля

года служыў на мукамольным заводзе ў Мінску. І з месяц сядзеў у турме. Казалі, нібыта ён разам з усімі на млыне бунтаваў у тыя дні, калі ў Пецярбургу расстралялі людзей, што ішлі да цара. Шмат чаго ў сяле гаварылі. Можа выдумлялі, а можа і не. Можа і не па сваёй ахвоце Яўхім выбраўся ехаць у Сібір. Можа, як казалі, іншага ходу не было.

Для Барбары, то праўда, ход быў адзін: ні аб чым іншым, як быць разам з Яўхімам, яна не марыла і не жадала. Хоць на край свету! З'явіўся ён у сяло, наказаў аб ад'ездзе, і Барбара сабралася ўмомант. Даўно чакала і гатова была на ўсё. Няхай бы ён толькі свіснуў, і яна паляцела б за ім як стаіць, хоць куды. Так яно і выйшла.

... Даўно, даўно гэта было. Шмат можна ўспамінаць. Ды ці варта?

Гневаліся бацькі Барбары і Яўхіма, што самавольна паступілі іх дзеці. Ну, што ж!..

Яўхім на ўсё глядзеў інакш. З яго сілай ды рукамі, як ён казаў, нідзе не прападзеш. Галоўнае — нажыць капейку! Ён стараўся ўладзіцца, абжыцца, каб з цягам часу прыдбаць багацце і яшчэ, вярнуўшыся ў Качай-Балота, даказаць, чаго варты Яўхім Ганчарык. Гэта была яго вечная мара.

Барбара верыла яму. Нікому, здаецца, нават богу, так не верыла яна, як Яўхіму. Калі ён абяцаў што, то заўсёды спаўняў. Ніколі не хлусіў. Гэтай справядлівасцю і верай падмацоўвалася іх каханне, якое вырасла і расцвіло ў чужой, незнаёмай старане.

Ох, як яна пільнавала яго з работы, седзячы на беразе рэчкі ля маста! Пасяліліся яны спачатку ў Омску, і Яўхім застаўся працаваць на чыгунцы. Чыгуначнае дэпо — за рэчкай, а яна штодня чакала Яўхіма на беразе шырокага, быстрага, няласкавага Іртыша. Закватаравалі ў багатым доме, гаспадаром якога быў нейкі стары купец. Яны займалі ў сенцах маленькі пакойчык, «чуланік», з акенцам пад столлю. Барбара мыла бялізну купцу, падмятала двор, садок, а Яўхім хадзіў у дэпо...

Тут, за Уральскім хрыбтом, прывыкла Барбара да новых слоў, назваў, імён. Яўхім зрабіўся Яфімам. Так яго цяпер звалі сябры. І яна адвыкла, каб яе клікалі так, як раней на вёсцы: Варка. Варвара, — толькі яна вымаўляла гэта цвёрда — Барбара!

Вяртаўся Яфім дадому, і адзінокая ў чужым горадзе Барбара смялела, станавілася раднай. Колькі чалавеку трэба таго шчасця?!. Яно магло быць вялікім, сапраўдным, калі б у жыцці ўсё складалася так, як трэба, як у іншых людзей. Але...

Мінуў год. Трэба было чакаць сям'і, а яны не чакалі. Як было думаць пра дзіця, жывучы ў такой цеснаце і нястачы?

— Складвай грошы, — казаў Яфім. — Будуць грошы, будуць і дзеці... Гэта нідзе не дзенецца. У нас, Ганчарыкаў, іх заўсёды хапае ў хаце...

Ці магла Барбара крыўдзіцца на Яфіма? Хіба ён хацеў горш?

Ну, а калі, нарэшце, абое згодны былі, атрымалася так, што жаданні іх не збыліся. Першы нарадзіўся хлопчык, ды нежывы. Колькі Барбара праплакала... Яна закупіла і паставіла яму камень-помнік на могілках... Яфім ужо не скупіўся. Ён к гэтаму часу сабраў добрую капейчыну і цяпер неяк вінавата глядзеў на яе слёзы, суцяшаў Барбару, як мог.

Нарадзіўся зноў хлопчык і зноў нежывы... А потым... Барбара захварэла цяжкай жаночай хваробай. Ёй зрабілі аперацыю, якую яна ледзь перанесла...

... Ага, што ж гэта яны тады? Тады яны назаўсёды пакінулі жыццё ў горадзе і пераехалі сюды, у Шуміліна. Каб жыць спакайней і больш клапаціцца адно пра аднаго.



У Шуміліне, калі ўзыходзіць сонца, то на заходнім даляглядзе віднеюцца папяліста-гарбатыя вяршыні гор. Гэта ў ясную пагоду. Калі ж туман або неба зацягнута смугою, уральскі краявід у Шуміліне звычайны. Наўкол цягнецца раўніна, па якой вада размыла яры, сям-там растуць хмызнякі, сасонкі. Зімою тут сіберныя марозы. Але да іх Барбара прывыкла.

У Шуміліне Барбара з Яфімам пражыла рэштку жыцця. Тут прадавалася зямля. Яны купілі зямлі. Пабудавалі дом, з налічнікамі, як ва ўсіх шумілінцаў. Хлеў і двор Яфім абгарадзіў плотам, з круглякоў-бярвенняў. Зрабіў браму. Двор стаў абнесены сцяною. На ім пасвілася жывёла, хадзілі куры.

... От яна ідзе сыпнуць ім зерня — адзіны клопат яе ля хаты. Пастарэла Барбара. Пастарэлі, пакрыліся мохам будынкі. Усё дажывае свой век. Гаспадара няма, каб паправіць, перасыпаць, паднавіць. Няма рук Яфіма... Вось толькі яна ўсё тупае, таўчэцца...

— Барбара, гэй, Барбара!— чуе яна голас.

Барбара павольна азіраецца: каля брамы пісьманосец, кульгавы Фрол. Адразу ў грудзях старой нешта пацяплела і адначасова грукнула трывогай: Фрол не дарэмна прышоў. Слязлівыя вочы Барбары хутка заміргалі. Старая зноў вяртаецца да ганка, ідзе да Фрола, а Фрол ужо кульгае ў сенцах. Адчыняе дзверы і кажа:

— Перавод на грошы прынёс.

— А пісьма?.. Пісьма няма? — пытае Барбара, следам за ім пераступаючы парог.

— Не, няма,— адказвае кульгавы Фрол.

І Барбара чуе, як пацяжэлі яе ногі. Цяжка ідзе да стала, на якім Фрол адлічвае стос чырвонцаў.

— Вось тут распішыся... Дай сваю руку, о-о, так!..

Яна добра не бачыць, дзе распісацца. Але калі яе дрыжачую, жылістую руку з пяром у пальцах паставіць на патрэбнае месца, Барбара выведзе свой подпіс. Яна гэта робіць старанна, не спяшаючыся. Хутчэй не можа — адышка. Закончыўшы такую працу, яна яшчэ пытае:

— Дык прыпіскі тут ніякай няма? Можа ён напісаў што-небудзь...

— Не,— адказвае Фрол.— Ніякай прыпіскі няма. Толькі штэмпель вайсковай фінчасці... Ну, я пайду! Мне яшчэ хадзіць многа.— І, уздыхнуўшы, дадае: — І сёння паведамленне ёсць.

— Каму? — пытае Барбара.

— Насці Балыковай, — кажа Фрол і кульгае да дзвярэй. — Бывай здарова!

«Юстын Балыкоў», — успамінае сабе Барбара Насцінага мужа, забываючыся падзякаваць Фролу і развітацца з ім. Насціна гора ў сэрцы Барбары робіцца большым, чым яе ўласнае гора старэчай адзіноты. Фрол нясе паведамленне: няма больш Юстына. Зараз Насця заглосіць, хопіцца за валасы. Нейкі час Барбара сядзіць над грашыма і нічога не бачыць. Што ж ёй гараваць? Вось жа прыслаў... Каб не было Аляксея, то не прыслаў бы...

— Лёша, сынок мой! — шэпча Барбара, устае і ідзе да партрэтаў. — Барані цябе божа!..

На сцяне партрэты Яфіма з позіркам ва ўпор, з расчасанымі на бакі вусамі, як тады па модзе насілі мужчыны, і партрэт маладога лейтэнанта. Той яшчэ бязвусы, усміхаецца, на пятліцах два квадрацікі. Ён пазірае на Барбару шчыра. Яна, як цяпер, чуе голас сына і шэпча ў адказ:

— Лёша, родны мой!

Яна здымае Аляксееву фотакартку, углядаецца, нясе да акна. Не, з ім не павінна здарыцца няшчасця. Ніколі! Варожыя кулі не крануць яго! Не павінны! Не для таго Барбара прытуліла яго да сэрца, выратавала ад смерці і выгадавала яго, сваю душу аддала. Пры ёй ён падняўся, як дубок, моцны, каб жыць і жыць.

Гэта ж яна падняла яго на рукі, забрала ад халодных грудзей сканаўшай жанчыны, каб замяніць яму маці. Хто яна, тая кабета, Барбара не ведала. І яго бацьку — таксама не ведала. Людзі паміралі тады ад тыфу, а яна асмелілася ўзяць яго, абсыпанага болькамі, і вылечыла, выняньчыла.

Яфіма не было. Ён ваяваў. А калі вярнуўся, Барбара зусім не чакала, што ён так абрадуецца яе хлопчыку. І малы, як да бацькі, прыгарнуўся да вусатага салдата. Пажылыя, яны, Яфім і Барбара, усцешыліся, нібы свайму дзіцяці, далі яму імя. Так іх лёс, нарэшце, сагрэў Аляксей, Лёша — прыёмны сын.

Толькі Яфім усё быў нездаровы. Тая вайна была яму пагібельнай. Ён расказваў, што перш-на-перш ваяваў у белых. Потым у чырвоных. Казаў, што моцна помсціў белым у чапаеўскай дывізіі пад Уфой, ды, ходзячы ў разведку, трапіў у палон. За гэта не даравалі калчакоўцы Яфіму. Расстраляць не расстралялі, а прыбілі да смерці. Такім ён і вярнуўся пасля вайны — нядужы, усё харкаў крывёю. Які ўжо з яго быў работнік? Ляжаў, хварэў, а Барбара ўсю працу, усе клопаты несла на сваіх плячах.

Вернецца, бывала, у хату пасля работы, а Яфім трымае на каленях малога Лёшу, расказвае пра вайну. А той рад, захапляецца. Ужо бегаў, гаварыць пачаў. Начапляе малы на сябе папругі, а Яфім кажа:

— Так, так... Будзеш ты ў нас чырвоны камандзір. Я цябе навучу ваяваць...

...От жа ўдасца корч, жывучы чалавек!.. Столькі год прайшло пасля, а Барбара ўсё жыве, таўчэцца і канца няма!..

Яна хацела ў тую заўдавелую восень спрадаць маёмасць і паехаць на бацькаўшчыну. Шумілінцы адгаварылі. Абвыкла яна тут, стаў блізкім гэты халодны край. Ніхто з Качай-Балота не прысылаў пісьмаў. І Барбара не помніць, калі ўжо туды пісала. А тут — свая хата, двор. І курган насыпаны за Шуміліным у сасонніку. Вечна ішла яна за Яфімам і цяпер не магла аднаго тут пакінуць, разлучыцца з ім.

І Аляксей! Лёша! Трэ' было гадаваць яго, не цягацца па свеце. Маці яна яму. Нават больш. Другі бацька і маці не глядзяць так сваё роднае, як глядзела Барбара Лёшу.

А ці лёгка гэта? У Шуміліне, як і ўсюды, былі розныя людзі—злыдні і ненавіснікі.

Неяк Лёша прыбег са слязьмі. Светлыя кроплі застылі на шчоках.

— Хто цябе пакрыўдзіў?— запыталася Барбара. — Хто цябе набіў?

Лёша стаяў нейкі спуджаны, насуплены.

— Ён кажа, што я без мамы. Не было ў мяне таты і мамы...

— Хто гэта кажа? — запыталася Барбара.

Сэрца ёй кальнула балючая крыўда, не менш, чым Лёшу малога.

— Хакім!

Хакім Абдулін! У Шуміліне былі багацеі Абдуліны. Яшчэ некалі Яфім з Барбарай кланяліся ім, лезлі ў пазыку да Абдуліных, каб пабудаваць дом. Цяпер не тое. Але гэтыя ябеднікі выхоўвалі сваіх нашчадкаў такімі ж, як самі. Ну, хіба ўсё растлумачыш малому Лёшу?..



Яна ўзяла яго на рукі, пацалавала. І, адчуўшы ласку, Лёша бадзёра, нават ваяўніча сказаў:

— Ён дражніць, што я куплёнік. Кажа, што мяне купілі... малога... А я яму за гэта каменем ля вока!..

— Сынок мой! Родны! — абнімаючы Лёшу, казала Барбара, а сама хвалявалася. — Мой адзіны... любімы... лепшы за ўсіх!.. Хто цябе так абзывае? Не гуляй з імі! Не хадзі да Хакіма! Ты вырасцеш не такім, як ён. Вырасцеш слаўным, вялікім...

Барбара гладзіла па галоўцы Лёшу і казала :

— А маленькіх усе бацькі купляюць. Заўсёды. Так трэба... От бачыш: цётка Фрося зараз у калысцы маленькага Міцьку калыша. Дзядзька Павел і цётка Фрося купілі яго. Паехалі ў горад і купілі. Маленькіх дзяцей заўсёды купляюць... Купляюць, і яны потым растуць. От і мы цябе купілі. Я табе мама. А тата твой летась памёр... Помніш тату?

— Помню, мама.

Ці шмат трэба ўгавору дзіцяці, каб яго вочкі сталі яснымі і ён забыўся на крыўду? Лёша ёй быў, як ад свае крыві. Ён слухаўся. Барбара навучала яго, цярпліва гадавала. Выпэцкае ён адзенне, рукі, ногі, парве кашульку, яна тут жа абмые, ушые гузікі, каб ён быў чысценькі і акуратны. Ніколі яго не біла. Барбара пашыла яму гарнітурчык з матроскай. Такога прыгожага гарнітурчыка ні ў кога з дзяцей у сяле не было.

Праўда, гадаваўся Лёша калючым. Але Барбара і рада была, што ён рос ужо не такім падатлівым, ціхоняй, а быў з характарам, мог пастаяць за сябе. Вясковы нораў часамі, як хвароба. З ім трэба біцца. Дзеці, падбухтораныя старэйшымі, не пераставалі дражніць Лёшу «куплёнікам». На ўсё яго маленства лягла кляймом гэтая мянушка. Лёша адбіваўся ад яе. Ён прыходзіў у сіняках, з гузамі на ілбе, але не скардзіўся. Пасля тае памятнай размовы пра Хакіма Абдуліна ён больш ніколі не ўспамінаў аб гэтым.

Адным словам, ён рос. Пайшоў у школу. Школа дапамагла Барбары, каб яе сын выйшаў у людзі. І Лёша вырас.

Пры гэтым бабскія языкі не маглі быць у баку. Дасужыя пляткаркі нацкоўвалі Барбару:

— Адрачэцца ён ад цябе. Пойдзе вучыцца і кіне. Вядома, прыёмны...

— Няхай ідзе... Няхай вучыцца, — адказвала Барбара. — На тое я яго і гадавала.

Барбара ганарылася, што яна маці. Ліха ведае, адкуль такія іншыя думкі паяўляліся ў бацькоў пра сваіх дзяцей? Абыякавыя, чужыя...

Вось гэты ж былы багацей Абдулін так разважаў:

— Свет настаў не той. Цяпер я не бацька над дзецьмі. Яны самастойныя. Улада іх навучыць, накорміць, адзене, абуе... Дзеці цяпер дзяржаўныя...

Адна дачка Абдуліна пасля гэтага ўцякла ў горад. А потым вярнулася з байструком. Так і цяпер сядзіць дома. У сяле яе дражняць «бацькава дзяржаўная дачка».

...Што гэта Барбара думала?.. Эт, прывязалася глупства!.. Аб чым яна раней разважала? Фрол прынёс грошы. Вось яны! Ага!

Не, не забывае Алёша маці. Ніколі не забываў і не забудзе. На фронце вось помніць. Кожны месяц ёй прыносяць пераводы на грошы. Кожны месяц!

Барбара бярэ са стала чырвонцы, нясе гэты жмук, адмыкае куфэрак і хавае. Яна вяртаецца і стаіць доўга пасярэдзіне хаты.

Як бы рада была яна бачыць Аляксея! Апошні раз ён сядзеў тут на лаве летам перад вайной. Прыехаў у вайсковым адзенні, як і марыў абгэтым некалі Яфім... Лёша канчаў танкавае вучылішча...

— Сынок мой! Сынок! — каторы раз шэпча Барбара.

Ну, што гэтыя пераводы! Усё грошы ды грошы. Няхай бы пісьмо якое падрабязнае напісаў. Няма часу? Фронт... Вайна! А яна?..

У Барбары замітусіліся думкі ў галаве, ногі слабеюць. Яна прысела на ўслон, пасядзела, потым стала шукаць жакета.

Яна зноў ідзе. Ідзе вуліцай да школы. Памаленьку, не спяшаючыся, а ўсё адно — адышка сціскае грудзі. Здаецца, яна бяжыць, бяжыць каторы кіламетр.

Настаўніца Галя прыветлівая. Яна памагла распрануцца, пасадзіла Барбару на канапку.

— Чулі зводку, цётка Барбара? Па радыё нядаўна перадавалі, — пытае настаўніца. — Можа Аляксей пісьмо прыслаў?

Галя ўзрушаная, радасная, усхваляваная. Яна пытае Барбару, і гатова сама адказаць на тое, што пытае. Бо на фронце поспехі. А Барбара не слухае, зморана абводзіць позіркам пакойчык настаўніцы і цяжка дыхае, як пасля бегатні.

— Прыслаў, — нарэшце адно вымавіла яна.

— Прыслаў?! — яшчэ больш узрадавалася Галя. — Ой, які сёння дзень, цётка Барбара!.. Шчаслівы!

Галя з Барбарай сустракаюцца заўсёды.

Барбара прыходзіць да настаўніцы, калі сын прысылае пісьмо. Настаўніца забягае да Барбары часцей. Яна маладая, ногі, вядома, у яе лягчэйшыя. Галя, сама шумілінская, вось як за гэтыя гады вырасла!.. На ёй вязаная кофта зграбна аблягае постаць. Бываючы ў Барбары, яна падоўгу глядзіць на фота Аляксея. Усе пісьмы, якія ён прысылае, настаўніца чытае. І адпісвае. У старой Барбары вочы кепска свецяць. Старая дзеліцца ўсімі сакрэтамі з Галяй, а тая ёй памагае.

— Прыслаў перавод на грошы, — аддыхаўшыся, сказала Барбара.

Галя не заўважае, што Барбара гэтым падкрэслівае сваю незадаволенасць. Яна чакала і чакае пісьма.

— Сёння зводка такая харошая, цётка Барбара... Скора нашы да граніцы дойдуць. Б'юць фашыстаў!..

Потым яна прыкмячае, што чырвоныя вейкі ў старой часта міргаюць. Яна пытаецца пра здароўе. А Барбара адказвае, што кульгавы Фрол аднёс паведамленне Насці Балыковай. Мужа забілі на фронце...

Як заўсёды, успомніўшы ці пачуўшы нядобрую вестку, яны сядзяць нейкі час моўчкі. Потым старая просіць напісаць пісьмо. Галя бярэ ліст паперы, ручку. У такіх выпадках яна не настаўніца. Нібыта вучаніца, глядзіць у вочы Барбары, а тая дыктуе, як дыктоўку. Першыя словы, вядома, прывет, а далей старая кажа:

— Пішы: «Сынок мой!.. Рада я, што ты б'еш бандытаў праклятых. Але няма майго цярпення чакаць цябе. Хачу пабачыцца з табою. Адпрасіся ў начальства хоць на адзін дзянёк...»

— Гэта, мусіць, нельга, цётка Барбара. Вы ж помніце, як ён пісаў? Фронт, — трымаючы ручку над лістом паперы, кажа Галя.

— Цяпер на фронце перамена. Лягчэй стала, адпусціць, — тлумачыць сваё Барбара. — Пішы... «Чакаю цябе... Калі не адпросішся... не прыедзеш... чуе маё сэрца... нядоўга пражыву»...

— Цётка Барбара! — усхапілася Галя. — Ну што вы надумаліся?!



Куды ж я так напішу? Там ідуць баі... кроў... А вы яму гэтакія песімістычныя словы...

— Што? — не зразумела, ці то не дачула маці, і голас яе здрыгануўся. — От, пішы! «Калі не прыедзеш... у скорасці... то не ўбачымся. Памру я...»

Галя заўважыла, як скрывіліся, уздрыгнулі пасінелыя вусны старой, і зразумела, што трэба напісаць. Не напісаць — немагчыма, няможна!

## II

Гвардыі старшы лейтэнант Аляксей Ганчарык атрымаў пісьмо ў перапынку паміж баёў. Танкавы батальён, у якім ён камандаваў узводам, пазаўчора наблізіўся да пярэдняга краю абароны і стаў, замаскаваўшыся ў лесе. Танкі застылі на рубяжы, некаторыя закапаліся ў зямлю. І салдаты адпачывалі сабе спакойна, бо, калі не лічыць рэдкіх перастрэлак з таго і з другога боку, на тутэйшым участку фронта, як кажуць, панавала зацішша.



У такую пару заўсёды прыносілі пошту. Пісьмы з дому, ад родных і блізкіх, бывала, доўга шукалі сваіх адрасатаў-танкістаў. Вадзіцелі браніраваных машын падоўгу не затрымліваліся на месцы, асабліва за апошні час. Але пісьмо, якое Аляксей Ганчарык хутка перачытваў раз, другі, паглядзеў на дату, на паштовы штэмпель адпраўкі, — прышло хутка. Яго нядаўна пісалі ў Шуміліне.

Аляксей на момант задумаўся. Шуміліна!.. Далёка яно ад гэтых паламаных, скарэжаных гарматным агнём беларускіх сосен. Далёка яго ўральскае сяло, дзе жыве старэнькая маці, і, здаецца, як сон, не тры, а дзесяць ці дваццаць год прайшло, калі ён бачыў яе... Помніцца, яшчэ ў маленстве ён хварэў на воспу, ад якой засталіся на шчоках, як варонкі пасля бамбёжкі, невялікія ямкі. Маці яго ратавала. А ён ёй казаў: «Як падрасту, мама, буду

табе ваду насіць... Насаджу вакол хаты зялёны садок...» Нешта сціснула сэрца Аляксея Ганчарыка. Думкі шуганулі ў галаве. Нібыта птушкі з-пад замаскаванага куста ў лесе, дзе ён цяпер сядзеў ля танка. Сэрца ірванулася да маці, якая клікала яго да сябе.

Толькі як жа гэта зрабіць? Хто яго цяпер адпусціць? Усе жылі адным пачуццём — наступаць. Яго танкі стаялі нерухома, а гарматы глядзелі на захад. Яны чакалі баявой каманды. Чакаў яе і ён, гвардыі старшы лейтэнант Ганчарык. Чакаў яе таксама і камандзір батальёна, да якога ён мог звярнуцца з просьбай. Усе чакалі. Вось-вось можа прыдзе баявы загад.

Абветраны смуглявы твар Ганчарыка з ясным быстрым позіркам добра ведалі байцы ў баі. Яны са сваім камандзірам нямала завяршылі атак. У перапынках між баёў ён жартаваў з усімі, ніколі не сумаваў. А тут раптам постаць старшага лейтэнанта ссутулілася, вочы паніклі ўніз. Стралок Нічыпаренка спытаўся ў яго, адкуль пісьмо, але той не пачуў. Аляксей сядзеў і ўсё думаў.

— Ты нешта сёння невясёлы, таварыш гвардыі старшы лейтэнант, — заўважыў яму і камбат, калі пад вечар па выкліку ўсе афіцэры збіраліся ў штабной зямлянцы.

— Нічога... Пісьмо атрымаў з дому, — адказаў Аляксей Ганчарык.

Камандзір батальёна, пакуль не ўсе былі ў зборы, пацікавіўся пісьмом. Ён узяў з Аляксеевай рукі ліст, прачытаў усё да канца і запытаўся:

— Сама табе піша?

— Не, папрасіла некага... Сама не можа...

— Адна, старэнькая?

— Адна... старэнькая, — быццам абрадаваўся Аляксей Ганчарык. — Бацька памёр, калі я пацаном яшчэ бегаў...

Але камандзір батальёна буркнуў:

— Не ведаю, брат, што табе і парадзіць...

Ён вярнуў Аляксею Ганчарыку пісьмо і, быццам тут жа забыўся на яго, загаварыў:

— Усе ў зборы? Дык вось, таварышы, якая задача...

У сэрца Аляксею Ганчарыку штосьці балюча ўкалола. Ці так павінен быў камбат адказаць на яго пісьмо? Магчыма і так, ды толькі настрой ад гэтага сапсаваўся яшчэ больш. Хоць выгляду ён не падаваў. Аляксей Ганчарык разглядаў аперацыю, якая мелася быць. Ён уважліва слухаў камбата, разам з усімі пільна глядзеў на карту, дзе чырвоныя стрэлкі паказвалі на чорны кружок пасярэдзіне з надпісам «Бабруйск». Ён слухаў і разумеў сваю задачу ў наступленні, якое распачнецца сёння пад раніцу. Але ў грудзях яго, як ніколі, шчымела. Перад самым пачаткам бою Аляксей аж прылажыў руку да сэрца. Чаго яно так баліць? Раней з ім так не здаралася.

Адказ быў адзін — нянавісць. Страшэнная, лютая нянавісць да ворага паліла яго. Гэта перш-на-перш адчуў экіпаж танка, потым узвод, якому неяк крыху жорстка і злосна ён падаў каманду. І нарэшце — праціўнік...

Уздрыгнула зямля, калі машыны рушылі з месца. Іх гарматы зніштачалі ўсё на сваім шляху. І ўнутры Аляксея, як агонь, бушавала помста за маці.

Толькі праз двое сутак танкавы батальён зноў напаткала «зацішша». Бабруйск ужо быў за плячыма. Зноў палявая пошта шукала танкістаў. Некаторых яна не знаходзіла. А Аляксея Ганчарыка — абмінула. Шуміліна яго больш не шукала. Вялікая адлегласць была між імі. Ён разумеў і адчуваў, што чым далей рухаецца на захад, тым усё больш расце гэтая балючая адлегласць.



Але як ні бязлітасны фронт да людзей, як ні суровая да салдата вайна, часамі здараюцца такія выпадкі, якія здзіўляюць сваёй цеплынёй клопатаў аб чалавеку. Нешта такое чакала і Аляксея Ганчарыка. Ніколі на гэта ён не спадзяваўся. І вось здарылася.

Як і належыць баявому афіцэру, гвардыі старшы лейтэнант Ганчарык прыбыў на каманднага пункт да камандзіра палка і адрапартаваў, што па выкліку яго з'явіўся.

— Мне паведамілі ўчора, што вас кантузіла, — гледзячы на Аляксееву павязку, запытаўся палкоўнік, сівы ўжо чалавек, якога Ганчарык мала ведаў, хоць і часта з ім сустракаўся. — Вы чаму не ў шпіталі?

— А што... нічога асаблівага не здарылася са мной. Я сябе добра адчуваю, таварыш палкоўнік, — адказаў ён, хоць на самай справе рана яго на галаве яшчэ балела. — А машыну я адрамантаваў... сваім экіпажам. Усё ў спраўнасці, таварыш палкоўнік.

Камандзір палка пільна паглядзеў на Аляксея Ганчарыка і чамусьці загаварыў, што ідзе папаўненне тэхнікі ў полк, уся дывізія атрымлівае новыя машыны. Гэтыя машыны, зробленыя нашымі рабочымі, трэба атрымаць на заводзе. А завод дзесьці на Урале. У штабе дывізіі дакладней ведаюць месца завода.

Аляксей Ганчарык слухаў і думаў, навошта яму ўсё гэта палкоўнік расказвае, чаго ён выклікаў?

— Добра, калі ваша машына ў спраўнасці, — нарэшце сказаў камандзір палка. — У вас ёсць каму часова здаць камандаванне ўзводам?

Аляксей Ганчарык здзівіўся, нават спалохаўся:

— Як... чаму? Я не разумею, навошта, таварыш палкоўнік?

— Паедзеце атрымліваць матчасць для палка. На завод. А гэта, я кажу, дзесьці на Урале, — паўтарыў палкоўнік. — Вы самі, здаецца, родам адтуль?

Сэрца ў грудзях Аляксея Ганчарыка закалацілася ўсхвалёвана. Ён здагадаўся, што заданне ён атрымлівае не без рэкамендацыі свайго камбата. Вядома, Аляксей Ганчарык нарадзіўся там! Але, але! І родная Шуміліна старшы лейтэнант адразу ўявіў сабе перад вачыма. Адлегласць да яго ўжо здалася не такой безнадзейна вялікай.

З каманднага пункта палка Аляксей Ганчарык не выйшаў, а выбег. Хутчэй у дарогу! Хутчэй!

Эх, вайсковыя дарогі! Спачатку кароткія, франтавыя, на машынах, а потым далёкія на цягніках. Не так лёгка дабірацца, ехаць па іх, асабліва, што раз, то далей ад фронта. За ўсю вайну Аляксей Ганчарык упершыню гэтак надоўга адлучаўся ад пярэдняга краю, упершыню так ехаў у глыбокі тыл. Набраўся ў дарозе ён шмат чаго, нават такога, што абурыла, узлавала яго, хоць ён і меў пры сабе важнае тэрміновае накіраванне.

Станцыі і вакзалы былі перапоўнены такімі, як ён, франтавікамі. Усе ехалі. Усе спяшаліся. Ахрыплыя каменданты не хацелі выслухаць яго просьбу. Куды? На фронт? Калі ласка!.. Куды? У тыл? Пачакай!.. Тады ён даставаў свае дакументы, і яму дапамагалі. Аднак было ясна, што без чаргі ішлі эшалоны на фронт. Усюды было напісана — «Усё для фронта!» Цягнікам у той бок у першую чаргу падымалі руку семафоры.

Сэрца ж Аляксея Ганчарыка не магло чакаць. Яно рвалася ехаць

хутчэй, хутчэй... Яму яшчэ трэ' было сэканоміць час, каб наведаць Шуміліна. Там жа ад Чалябінска добры кавалак дарогі.

Спадарожнікі Ганчарыка, малодшы ваентэхнік і капітан суседняга палка, з якімі ён пазнаёміўся ў штабе дывізіі, відаць, не надта спяшаліся. Яны ехалі спакваля, так, як дазваляла камандзіроўка. Заданне ўсім было аднолькавае, і з'явіцца яны павінны былі ў аднолькавы тэрмін. І на завод, а потым назад — у дывізію.

Але, як усе франтавікі, капітан і ваентэхнік былі свае, дружныя хлопцы. Яшчэ на першым харчпункце пры станцыі яны прапанавалі Аляксею Ганчарыку пакаштаваць «баявыя сто грамаў» з флягі, якую захапіў з сабою ваентэхнік. Аляксей Ганчарык не адмовіўся.

Аднак, глынуўшы пякучага спірту і закусіўшы кансервай, ён пачаў гаварыць пра хутчэйшы маршрут. Як хутчэй даехаць?

— Чаго ты хвалюешся,— спакойна адказаў ваентэхнік.— Якім цягніком ні паедзем, усёроўна там будзем.

— Не-е! — не згодзен быў старшы лейтэнант. — Мне ў Чалябінск раней трэба... Скарэй дабрацца...

Франтавыя сябры зразумелі адзін аднаго з паўслова. Што тут доўга тлумачыць? Дазнаўшыся, што Аляксей Ганчарык хоча заехаць дадому, яны абодва адразу прыняліся абдумваць шпарчэйшы шлях. Мо' праз Бранск—Куйбышаў? Ці праз Маскву? Дамоўленасць франтавікоў, як прысяга ў баі. Вырашылі, што Аляксей Ганчарык адлучаецца. Няхай хоць на самалёце ляціць!.. Толькі ў пэўны дзень яны разам спаткаюцца на вайсковым заводзе.

Сэрца Аляксея ляцела, ды не мела толькі крылаў. У Маскву ён сапраўды дабраўся хутчэй за сяброў. Але, прачакаўшы ў Маскве два дні цягніка Масква — Чалябінск, які адпраўляўся па чотных чыслах, ён сеў у яго і на супынку аднае станцыі заўважыў праз акно сваіх спадарожнікаў. Ваентэхнік і капітан таксама ехалі гэтым жа цягніком. Марна была яго паспешлівасць. Яму нічога не заставалася, як перасесці да іх у вагон і далей ужо ехаць разам. Ён не ведаў, як інакш апярэдзіць сяброў. І парашыў не разлучацца.

Вось дарогі!.. Цяпер, стоячы ля акна, ён глядзеў, як бягуць палеткі і лясы, глядзеў, як мінае цягнік станцыі і паўстанкі, і з кожным кіламетрам было ўсё бліжэй і бліжэй да ўральскіх мясцін. Праплывалі вёскі і гарады, дзе ўсё выглядала так, як і да вайны. Ні руін, ні папялішчаў, якія з горкай дакукай нядаўна рэзалі вочы франтавіка. Ноччу ў гарадах гарэла святло. Здавалася, іх падарожжа ляжыць у шчаслівую даваенную пару.

Прыехалі яны на завод, а іх ужо чакалі. Адразу гара клопатаў узвалілася на плечы танкістаў. Турботы цяжкія, але і прыемныя. Новенькія машыны стаялі на двары. Магутныя «Т-34», што вось-вось сышлі з канвеера завода. Іх былі сотні. Толькі сэрца воіна магло ацаніць гэта, адчуць усю баявую радасць за такую тэхніку. У задымленых вопратках, з гонарам хадзілі за танкістамі рабочыя, а яны толькі ўдзячна ўсміхаліся ім — стваральнікам гэтай грознай зброі.

Гвардыі старшы лейтэнант меркаваў, што адпросіцца ў сяброў адразу на паездку, але як ўзяўся за прыёмку машын, то пабеглі гадзіны, ноч і дзень, ды так усе дні.

— Калі ж ты дадому?— пацікавіўся аднойчы ў яго сам капітан.— Яшчэ на суткі работы... Мы ўдвух з ваентэхнікам кончым...

— Я вось і думаю,— нібыта ачнуўся Аляксей Ганчарык і, успомніўшы, як ён хацеў іх апярэдзіць у дарозе, вінавата ўсміхнуўся. Потым



нахмурыўся. Ён прызнаўся, што дадому адсюль яшчэ сорак шэсць кіламетраў!

— Ого, дык ты не марудзь, давай хутчэй!

Аляксей Ганчарык выцер кудзеляй запэцканыя змазкай рукі. Чамусьці паглядзеў на сонца. Ён нічога не мог прыдумаць, як цяпер дабірацца ў Шуміліна. Хоць думаў пра гэта ўсё падарожжа.

— Ідзі да дырэктара,—параіў капітан.—Дзядзька ён, здаецца, свой... памяркоўны. Папрасі палутаркі... А мы тут управімся... пачакаем!

Аляксей Ганчарык павесялеў. Сапраўды, дырэктар завода мог яму дапамагчы.

...Дырэктар сядзеў у сваім кабінеце і нечым нагадваў камандзіра палка. Такі ж спакойны, строгі. I сівізна ў валасах, як у палкоўніка. Ён уважліва выслухаў старшага лейтэнанта, потым сказаў:

— Ведаю Шуміліна. Гэта будзе з паўсотні кіламетраў... Летась мы адтуль бульбу вазілі. Калгас для нашых рабочых бульбу адсыпаў... Нішто калгас!

На смуглявым твары старшага лейтэнанта засвяцілася радасная ўсмешка. Але дырэктар завода тут жа яе патушыў.

— Ды няма ў мяне транспарту. Проста прызнацца сорам. Я багацейшы за Форда, а без машын. Усе паламалі!.. Сваю легкавушку зусім заганяў. Толькі па горадзе можа поўзаць...

Старшы лейтэнант убачыў, што гэты строгі чалавек неяк саромеецца перад ім.

— Дарога... самі ведаеце, як туды дабірацца. Прасёлачная. Пашлі легкавушку, не вернецца. Грузавых няма, усе дабілі!.. Вось і ўся задача!..

Старшы лейтэнант разглядаў ужо не дырэктара, а яго тэлефонныя апараты. Не хацелася слухаць.

— Я гатоў, знаеце, дапамагчы, чым магу... Вы наш, так сказаць, зямляк... і бачу, ганаровы... Толькі вось з паездкай... Сам не ведаю!.. I рэйса туды ніякага не прыдумаеш!..

Старшы лейтэнант павярнуўся павольна, нібыта ён так і ведаў, што яго ў дырэктара чакае адмова, ступіў да дзвярэй кабінета і раптам пачуў голас:

— Пачакайце!

Дырэктар яшчэ пазваніў кудысьці, штосьці запытаўся. Старшы лейтэнант стаяў, чакаў.

— А ведаеце што?! — сказаў ён нарэшце. — Дам вам «Т-34». Праверце нашу тэхніку! Так сказаць, проба матора! Сур'ёзна!.. Можаце абкатаць? Гаручага мы дадзім поўныя бакі. А вадзіцеля... ну, кіраваць вам не навінка...

Старшы лейтэнант аж спацеў ад такой прапановы. Свет не без добрых людзей. Ён не ведаў, як за чуласць аддзякаваць гэтаму чалавеку.

На двары «Т-34» стаяў напагатове. Учора Аляксей Ганчарык яго сам правяраў. Прыгожая машына! Тоўстая браня танка была пафарбавана ў густа-зялёны колер, на вежы свяцілася чырвоная зорка. Унутры машыны — усё было адшліфавана, рабочыя дбайна прыладзілі, падагналі дэталь да дэталі. Усё дагледжана, змазана. Прыемна ў трансмісійным аддзяленні пахла свежае масла.

Старшы лейтэнант адчыніў пярэдні люк. Ён сеў на месца механікавадзіцеля і ўключыў матор. Роўны гул матора зліўся з біццём яго сэрца. Паслухмяна павярнулася аграмадзіна-махіна, нават не скрыпнулі тракі, і лёгка кранулася з месца.

Праз адчынены люк Аляксей Ганчарык бачыў на двары праважатых. Капітан і ваентэхнік усміхаліся яму: да скорай сустрэчы! Ён памахаў ім рукой.

З варот завода танк выскачыў, як звер на волю. Ён адразу павярнуў на шлях, па якім не хадзілі такія транспарты. Гусеніцы яго злёгку сакаталі па бруку.

За горадам Аляксей Ганчарык павёў машыну на пятай перадачы. Танк ірвануўся, зямля задрыжала. Гул матора абуджаў родныя, заснуўшыя прасторы Урала.

## III

Барбара заплюшчыла вочы. Яна ляжала на ложку. Успаміны патухлі. Ёй не хацелася думаць.

І нібыта гром, гром навальніцы пракаціўся над Шуміліным. Пракаціўся і не заціх. Стаіць і грукоча. А потым Барбары здалося, што гэты грукат мацнее, набліжаецца...

Старая адчыніла вочы. Што гэта? Няўжо настае тая хвіліна, калі нехта заве чалавека ў нябыт?.. Божачка! І нікога ў хаце няма. Галя прыдзе толькі ўвечары...

Але гул нарастаў, прыбліжаўся сапраўдны, не навальнічны. Падлога і сцены ў хаце пачыналі дрыжаць. Шыбы ў вокнах забразгацелі.

Барбара заплюшчыла і зноў хуценька адчыніла павекі. Не! Гул стаяў на вуліцы... Вось, аж ложак трасецца. Гэта штосьці бушавала за акном. Ні то ламаліся бярозы, ні то грукаталі каменні. Уся хата захадзіла ходуном.

Барбара мусіла падняцца, каб зірнуць у акно.

На вуліцы, акурат насупраць Барбаравай хаты стаяла велізарная машына, ахутаная сінім дымам. Гэта яна грымела на ўсю вуліцу. Сіні дым з языкамі полымя пыхаў з яе. Ад страшэннага тарахцення ў Барбаравых вокнах шыбы маглі вось-вось высыпацца.

І раптам машына заглухла. Наверсе паказаўся чалавек, вайсковец. Ён вылез на вежу. Ды гэта ж, здаецца, Лёша!.. Божухна! Барбара не верыла сваім затуманеным вачам. Ці не сон які?

— Прыехаў... Лёша! — зашаптала Барбара імя, якое цяпер, калі яна злягла ў пасцель, штодня не зыходзіла ў яе з вуснаў. Старая пачала ўставаць.

У гэты момант у сенцах ляснула клямка, потым у хаце. На парозе паказаўся той вайсковец, што вылазіў з машыны. Гэта быў сын.

Ён убег у хату, як убягалі танкісты першымі не ў адзін дом пры вызваленні акупіраваных сёл на фронце. Забег і спыніўся. Дзе тут... хто тут жывы?..

— Мама! — крыкнуў Аляксей, заўважыўшы сівую бабульку, якая хацела злезці з ложка.

Ён падбег, каб дапамагчы ёй ці то злезці, ці то легчы латвей на пасцелі... Матуля, родная! Як яна высахла за гэты час! Зрабілася лёгенькай пушынкай, як робіцца лёгкім высахлы лісток на дрэве ў познюю восень. А некалі яго на гэтых высахлых руках насіла!.. Мама! Адзін голас захаваўся такім, як у маленстве, ласкавы, і клікаў Аляксея:

— Лёша! Сынок! — слёзы ёй не давалі гаварыць, яна ўсхліпвала ад радасці. — А я сніла... Я так і знала, што ты прыедзеш. Прыехаў! Дзіцятка маё! Сокал мой!..





Незнаёмы і дужы, прапахлы нейкім церпкім дымам, апяразаны папругамі, з узнагародамі, у гэтым чорным, круглым, як галоўка капусты, шлеме, ён быў ёй родны і даражэй за ўсё на свеце. Яе мокры ад слёз твар адразу ўткнуўся яму ў грудзі з гэтымі папругамі і ордэнамі.

— Мама, не плач, — прасіў, абнімаючы, Лёша. — Не трэба... супакойся!..

А на вуліцы вакол танка збіраўся натоўп. Усё сяло бегла сюды, да Барбары. У Шуміліне, дзе пра вайну толькі чулі па радыё, на слых з газет, дзе вайсковых машын, акрамя самалётаў, рэдка пралятаючых на вялікай вышыні, зблізку ніхто не бачыў, — франтавы госць быў цудам. І старыя, і малыя падыходзілі да машыны, краталі пальцамі браню, гусеніцы, краталі і ўсміхаліся. Усміхаліся ад радасці... Вось чым ваюе на фронце наша Армія! Вось ад якіх гармат уцякае на захад вораг! «Паспрабуй, стрымай такую сілу!» — моўчкі думалі шумілінцы.

Кульгавы Фрол падбег апошні да танка, але, як знаток і аўтарытэт на сяле, першы выказаў словы:

— Наш та, уральскі. Бог вайны!..

Гэтыя словы былі кожнаму па сэрцы. Асабліва дзецям, якія падхапілі і панеслі па сяле: «Бог вайны!» І гэта пра Аляксея Ганчарыка!..

Зняважлівая мянушка, што пайшла ў дзяцінстве на Лёшу, знікла, і склаліся аб ім гэтыя два, як сам танк, словы.

Людзі аглядалі машыну і памаленьку накіроўваліся ў хату: пабачыць франтавіка, прывітацца, пагаварыць. Праз гадзіну ў Барбары хата была поўна народу.

Старая не адчувала ніякай хворасці. Жанчыны помнілі, бывала, як яна войкала, стагнала, а то усю хваробу нібыта рукой зняло. Не, сіла яшчэ захавалася ў старой! Барбара мылася, прыбіралася, кажучы сама сабе або да шумілінцаў:

— Госць у мяне... Свята вялікае... Падай ручнічок!

Ёй вельмі дапамагала дзяўчына ў новым плацці. Вітаючыся з Аляксеем, яна ўсміхнулася яму. Хто яна? Ён яе не ведаў. І тут маці, нібы адгадаўшы думкі сына, сказала:

— Галя... учыцелька! Гэта яна табе напісала, каб ты прыехаў...

У натоўпе весела загаманілі. Пасыпаліся жарты.

— Во, бач, граматная!

— Яны ўдваіх згаварыліся выхадатальстваваць з фронта!..

— Няхай бы майго Цярэнця выпісалі, — уздыхнула адна баба.

Мужчыны збіраліся па-аднаму. Яны кідалі прывет амаль з сенцаў, а потым праціскаліся да стала, каб яшчэ паціснуць руку госцю з фронта.

Прышоў старшыня калгаса. Прывітаўся і з Барбарай, і з Аляксеем.

Ніколі гэта хата не бачыла столькі людзей. Цэлы дзень не зачыняліся дзверы. Ішла гамонка.

Аляксей быў сярод землякоў вясёлы, радасны, але нейкі скупы на словы. Шумілінцы разумелі, што такім зрабіла яго вайна, але ўсё ж не пераставалі распытваць:

— Ну, дзе цяпер ідуць сражэнні? — пытаўся дзед. — Дзе нашы войскі?

— Думаю, Беларусь канчаюць вызваляць, — адказаў Аляксей.

— Дзякуй богу, сынок! — падхапіла Барбара. — Ачысцілі нашу бацькаўшчыну.

Яна яшчэ хацела выказаць думку пра Качай-Балота. Можа ён быў праездам ці можа будзе там? Але яе перабілі шумілінцы:

— Ну, а далей як?

— Далей, пойдзем далей, — усміхнуўся старшы лейтэнант. — Да Берліна пойдзем.

— На ёй і махнеш да фронта? — паказаў дзед на танк за акном.

— Адразу на перадавую.

— Калі?

— Заўтра.

— Гэта што ж, персанальная машына та? — спытаўся кульгавы Фрол.

— Мая, — адказаў Аляксей Ганчарык.

Так было і за сталом, дзе шумілінцы даўно не збіралі такі калектыўны пачастунак.

Разыходзіліся позна. Што яшчэ можна было запытацца ў франтавіка? Што танкіст мог дадаць да таго, што красавалася ў яго на грудзях. Восем ордэнаў і медаляў! Калі прыдзе чаканая перамога? Вось яна стаяла на вуліцы!.. З прыездам на танку Аляксея Ганчарыка ўсе вяскоўцы зразумелі, што хутка канец вайне.

— Раз на такіх машынах дадому прыязджаюць нашы служывыя, — казаў дзед, — знама... скора Гітлеру канец.

Але шчаслівей за ўсіх была Барбара. Яна думала, што гэту машыну з фронта сыну далі спецыяльна, каб ён прыехаў да яе. З такімі думкамі ніякай хворасці старая не адчувала. Яна выздаравела. Сама хадзіла да танка, глядзець гармату, якая хоць тут, у мірным Шуміліне, а грозна пазірала на захад, дзе хавалася за далёкія горы сонца.

Застаўшыся толькі ўдваіх, як гэта было некалі даўно-даўно, маці і сын збіраліся адпачываць. Барбара пасцілала сыну пасцель.

— А можа яшчэ дзянёк пагасцюеш?

— Не, не магу, мама. І так пазнюся, — адказаў сын.

Ён распрануўся, разуўся, як дома. Аляксею не хацелася прызнавацца маці, што на такую прыемнасць ён проста забыўся, адвык распранацца на вайне.

— А цяпер ёсць у мяне сакрэт, — сказала маці, паклаўшы сыну падушку. — Вазьмі лямпу, ідзі за мной!..

Сын устаў і паслухмяна пайшоў услед за старой на другую палавіну хаты. Там быў ложак, дзе ляжаў некалі хворы бацька. Між ложкам і сцяною ад вуліцы стаяў гаматны куфар. На зэдлі ўзвышалася дзяжа.

— Падымі века, — адамкнуўшы куфар, загадала маці.



Аляксей адчыніў крышку гэтай велізарнай хароміны, дзе, як яму здавалася, маглі змясціцца чатыры скрынкі са снарадамі. Тут заўсёды ляжаў матчын скарб, палатно. Цяпер ён зірнуў туды і здзівіўся. Там былі грошы.

— Вось, сынок! — паказала Барбара. — Скажы мне, што рабіць з імі?

— Адкуль гэта? — здзівіўся Аляксей.

— Твае, сынок, — сказала Барбара, і вочы яе ад радасці пачалі слязіцца. Лямпа стаяла высока на дзяжы, асвятляючы яе маршчакаваты твар.

— Чаму маё?

— Усё тваё, сынок! Гэта, што ты прысылаў пераводамі... За тры гады. Усё чыста тут!

Сапраўды, у куфры ляжалі паперкі грошай розных купюр. Такіх, якія маглі прыносіць пісьманосцы грашовымі пераводамі з пошты. Дробных купюр, бадай, было больш, чым буйных. Трох-, пяці,- дзесяцірублёвыя паперкі ляжалі няроўна. А праз гэта здавалася, што іх амаль поўны куфар. Цэлая кіпа грошай!

— Дзеля цябе берагла, сынок! — сказала Барбара і ўсміхнулася скрозь слёзы. У гэтым было шмат ад таго, чым жыла яна пры Яфіме, чые словы — беражы капейку — былі запаветам, былі самым галоўным на свеце.

Але сын не разумеў гэтага.

— Мама, мама! — з дакорам паківаўшы галавою, сказаў ён. — Нашто гэта?.. Ды гэта ж я вам прысылаў...

— А я табе хавала. Як прыедзеш, думаю, спатрэбяцца. Усё як знойдзецца...

— Нашто мне? Мне ўсяго ўдосталь!.. А вось вы нават сабе хусткі не купілі. А я ж прасіў, пісаў...

— Ну, якая маці ды не дбае пра свайго сына?.. Лёша, родненькі мой, дзеля цябе!

Аляксею не хацелася крыўдзіць маці. Ён сядзеў, абыякава ўспёршыся над куфрам. Ад змораннасці ў яго зліпаліся павекі.

— Як сабе хочаце, мама, — стомлена сказаў сын. — Рабіце з імі, што хочаце. Мне яны не трэба... І не пытайцеся больш.

Столькі бяссонных начэй, трывог за плячыма было ў Аляксея. Гэта ўральская глухая цішыня прыцiскала франтавіка. Ён гаварыў і спаў. Гаварыў і ўжо спаў.

Маці абняла яго за плечы і сказала:

— Сынок мой, перайдзі на пасцель!.. Ляж, я ж паслала табе... Хадзем!

Сын падняўся і пайшоў, трымаючы маці за руку. А яна ўсё гаварыла:

— Засні, сынок. Сонца маё! Я цябе буду пільнаваць... І машыну выйду павартую...

Аляксей як кінуўся на пасцель, дык, здаецца, праваліўся. Больш ён нічога не чуў і не адказваў ёй.

А Барбара сядзела над ім, гладзіла сынавы плечы, накрывала іх і думала думку. Яна думала пра свой лёс і пра яго лёс. Шаснаццаць год яна яго гадавала. Потым ён пайшоў у людзі. Ці як Абдулін казаў: пайшоў на дзяржаўны кошт, дзе яго адзенуць, абуюць, накормяць. А яго, Абдуліна, — справа старана!.. Як гэта ўсё не па-роднаму, па-чужому!

Барбара не магла ўявіць сабе, што такое дзяржава... А вось цяпер крышку зразумела... Вось ён які, яе Алёша! Ён яе родны, такі, якім яна шаснаццаць год гадавала! Яму не патрэбны яе грошы. Ён ужо вырас. Не малы... Ах, каб яна яшчэ мела такога малога сына?! Ці дачку!.. Толькі што гэтая слабасць усюды... і кружыцца галава... Нічога, Галя дапамагла б. Колькі цяпер сірот на белым свеце!.. А што, каб ім гэты скарб пакінуць?..

— Дзеці, дзеці! — шаптала маці.

... Раніцай Аляксей ад'язджаў. Усім сялом сабраліся шумілінцы праводзіць земляка. Машыну акружыў натоўп.

Блішчалі гусеніцы на танку. Пад сонцам чырванела зорка на вежы. Старая Барбара выйшла паглядзець.

— А знутры як? — спыталася маці. — Дзе там месца тваё ў машыне?

Нехта з вяскоўцаў прымчаў драбіну. Лёша яе падставіў да танка. Сам ускочыў на вежу. Узлез, адчыніў пярэдні люк, і Барбара, падняўшыся на пярочкі драбіны, зазірнула ў сярэдзіну машыны. На вуліцы ўсе заціхлі. Знутры, куды глядзела Барбара праз адчынены люк, як з металёвай бочкі, гучаў магутны Алёшаў голас:

— Вось тут, мама, маё месца... А тут стралка, які страляе з гарматы...

Усе чулі яго словы і ўяўлялі, як дзесьці на фронце ў гэту ясную раніцу імчацца такія машыны на ворага. Вызваляюць Радзіму!

Калі Лёша развітваўся, Барбара не заплакала. Ёй не хацелася быць са слязьмі перад сынам. Няхай усе глядзяць, што яна не плача. Праўда, не вытрывала. Маленькага Лёшу яна прыціскала да грудзей. А цяпер сама, як малое дзіцё, туліцца да яго...

— Шчасліва табе, сыночак мой! — сказала яна яму ў дарогу. — Хутчэй... вяртайся...

Танк загудзеў, крануўся, агнявыя языкі полымя з дымам вырваліся з-пад машыны. Дзеці пабеглі за ім па вуліцы, а Барбара засталася ля брамы. Яна глядзела з усімі ўслед пайшоўшаму танку, які, быццам гром, ад якога дрыжыць зямля, калоцячца хаты ў Шуміліне, усё аддаляўся і аддаляўся.

За сялом машына прыбавіла скорасць. Аляксей Ганчарык спяшаўся да сяброў. Яны чакалі яго на платформах эшалона. Там чакала ўсё. Чакала зваротная дарога на фронт.

А старая Барбара засталася ў Шуміліне. Ногі яе аслабелі пасля ад'езду сына. Яна, бадай, ужо не чакала Лёшы, але шчаслівейшай маці за яе не было на свеце.



Анань **ВЕРАБЕЙ**

# СОНЦА



Устаўшы спешна раніцою,
Нібы старанны вартаўнік,
Выходзіць сонца залатое
На пост штодзённы ў вышыні.

Як дбайнай мацеры, хапае
Турбот і спраў яму заўжды:
Зямлю азеляніць у маі,
Абсыпаць квеценню сады.

Бацькоўскай ласкай і пяшчотай
Сагрэць бясконцыя палі,
Пакрыць загоны пазалотай
Калоссі золатам наліць.

І кожны дзень старанна гэтак
Нясе пачэсны каравул,
Што к долу на зыходзе лета
Ад стомы хіліць галаву.

І траціць яркі бляск увосень,
І грэць зямлю перастае,
Бо сваё золата калоссям,
Цяпло загонам аддае.



Яфім ЦЫПІН

# НЕПАТРЭБНЫЯ КЛОПАТЫ

## Апавяданне

Мал. Л. Дубара.

Ірына Мацвееўна прытрымлівалася таго правіла, што і праз дваццаць год пасля вяселля трэба падабацца мужу. «Ніхто не дасць мне маіх 45-ці», — думала яна, любуючыся перад люстэркам белай свежасцю свайго твару, карымі вачамі і цёмнымі густымі валасамі, закручанымі ў прыгожы тугі вузел.

Яна рыхтавалася да нялёгкай размовы з мужам. Гэтую размову трэба будзе павесці разумна і ўмела, каб тое, чаго яна будзе дамагацца, здалося мужу яго ўласным жаданнем. Гэта — выпрабаваны сродак. Калі Ірыне Мацвееўне хацелася пашыць сабе новае паліто, сукенку або паехаць на курорт, справа паварочвалася такім чынам, нібыта Аркадзь Міхайлавіч настойвае на гэтым. Так і на жаніцьбе іх настаяў, канешне ж, ён.

Ірына Мацвееўна крыху адышлася ад люстэрка, адчуваючы, як ва ўсім целе пераліваецца па жылах яшчэ не патрачаная сіла, імкліва, па-дзявочы крутнулася на тоненькіх абцасіках і накіравалася са спальні ў сталовую, дзе Аркадзь Міхайлавіч чытаў газету.

— Мой любы, — сказала яна, сеўшы ля стала насупраць мужа, — ты заўсёды чым-небудзь заняты. Трэба ж калі-небудзь і са мной пагаварыць...

— Адну хвілінку, — сказаў Аркадзь Міхайлавіч і паспешліва пачаў вадзіць вачамі па радках артыкула, які, відаць, вельмі зацікавіў яго.

Ірына Мацвееўна цярпліва чакала. Яна помніла словы мужа: «Калі я не прачытаю газету, — гаварыў ён, — тады мне здаецца, што недзе нешта адбылося без майго ўдзелу»... Такім ужо ён ёй дастаўся: заўсёды заняты больш за ўсіх, заўсёды куды-небудзь спяшаецца, быццам ён не галоўны інжынер глаўка, а сам старшыня Саўнаргаса...



Хаваючы пазяхоту, Ірына Мацвееўна сціснула губы і прыжмурылася, потым пачала разглядваць мужа, хоць рысы яго твару былі даўно вывучаны да самых найдрабнейшых зморшчынак. «Рана пастарэў, — падумала яна, — і выглядае старэй за свае пяцьдзесят гадоў. І калі я выглядаю гадоў на дзесяць маладзейшаю, то розніца паміж намі будзе гадоў на дваццаць...»

Аркадзь Міхайлавіч адклаў у бок газету, скінуў акуляры і затуманеным позіркам глянуў на яе.

— Добры артыкул, — сказаў ён з зайздрасцю і кіўнуў у бок газеты.

— Праўда? — прамовіла Ірына Мацвееўна такім своеасаблівым тонам, які адразу напомніў Аркадзю Міхайлавічу, што яна не дзеля гэтага прышла.

Аркадзь Міхайлавіч пачухаў свой чубок, які застаўся ад некалі густой чупрыны, зганяючы стомленасць, «умыў», як кот, адной рукою твар і, адкінуўшыся на спінку крэсла, спытаў:

— Пра што ж мы будзем гаварыць?

Ірына Мацвееўна падняла бровы: яна ведала, што гэта ёй вельмі да твару.

— У мужа і жонкі, — сказала яна, — не павінна быць зададзеных тэм для размовы. Сям'я — гэта ж не рабочы кабінет у глаўку....

Убачыўшы па выразу твару, што такі пачатак размовы не вельмі падабаецца мужу, яна мякка сказала:

— Я сумую цэлы дзень без цябе.

— Усе, хто нічым не заняты, сумуюць...

— Ты, Аркаша, павінен быць вышэй за тых мужчын, якія папракаюць сваіх жонак, што яны сядзяць дома. Я выхоўваю сына і не адчуваю тваёй падтрымкі...

— Мая маці выхавала васьмярых і вельмі мала звярталася да бацькі за дапамогаю.

— Іншыя часы былі, не забывай пра гэта, — сказала Ірына Мацвееўна, але, успомніўшы вялікія, спрацаваныя, жылістыя рукі сваёй свякрухі, прыняла са стала свае голыя рукі, белізною якіх яна любавалася.— Некалі дзеці бедных бацькоў былі рады крамнай адзежыне, кавалку хлеба і не думалі пра адукацыю. Так што тваёй маці было лягчэй.

— Яны задавальняліся гэтым, бо бачылі, што лепшага не было адкуль узяць. А думала мая маці пра сваіх дзяцей не менш, чым ты думаеш.

— Не спрачаюся. Але мы цяпер маем магчымасць спраўдзіць мары тваёй маці і даць нашаму сыну ўсё, што патрабуецца маладому чалавеку ў наш час.

«Куды яна хіліць?», — імкнуўся зразумець Аркадзь Міхайлавіч.

— У Ігара ёсць усё, што трэба, — сказаў ён.

— Не, не ўсё, — запярэчыла Ірына Мацвееўна і дадала: — Яму трэба атрымаць вышэйшую адукацыю.

— Дык ён жа падаў дакументы ў медінстытут.

— Гэтага мала, дакументы можа кожны падаць. Трэба, каб яго прынялі.

— Здасць экзамены і прымуць.

— А калі не здасць?
— У Ігара вельмі трывалыя веды, і я ўпэўнены, што ён вытрымае.
— Упэўнены, — нецярпліва перабіла Ірына Мацвееўна. — Ты не ведаеш, што робіцца зараз у інстытутах.
Аркадзь Міхайлавіч сурова паглядзеў на жонку.
— Прашу цябе, Іра, не будзь абывацелькай. Я разумею, на што ты намякаеш, але што датычыць медінстытута, дзе дырэктарам Сяргей Якаўлевіч Бальшакоў, то там людзі сумленныя.
— Ты ўпэўнены?
— Абсалютна, — сказаў Аркадзь Міхайлавіч і з дакорам паглядзеў на жонку: ён пакрыўдзіўся за свайго сябра прафесара Бальшакова.
«Глядзі на мяне, як хочаш, але ўсёроўна ўсё будзе па-мойму», — падумала Ірына Мацвееўна і мякка прадаўжала:
— Табе ж не цяжка заручыцца падтрымкаю Сяргея Якаўлевіча... Ён табе многім абавязаны...
«Ага, дык вось у чым справа», — нарэшце здагадаўся Аркадзь Міхайлавіч і рашуча сказаў:
— Нічым ён мне не абавязаны.
— Як? А тое, што ты яго раненага вынес з агню пад Берлінам...
— Нічым ён мне не абавязаны, — упарта і з нейкай злосцю паўтарыў Аркадзь Міхайлавіч.
— Хіба жыццё чалавека не варта таго, каб мой сын быў прыняты ў інстытут... — лісліва настойвала Ірына Мацвееўна.
Аркадзь Міхайлавіч пачырванеў ад абурэння.
— Ты, — сказаў ён, і голас яго задрыжаў, — не ганьбі дружбу, змацаваную крывёю...
— Дзівак, — сказала Ірына Мацвееўна з раздражненнем, таму што ўпершыню за многа год адчула сваё паражэнне. — Простае пытанне, якое выедзенага яйка не варта, ты ўзводзіш у нейкі абсалют... Не хочаш ісці, не ідзі. Я сама да яго схаджу.
— Не пасмееш! — закрычаў раптам Аркадзь Міхайлавіч, і вочы яго бліснулі шалёнай злосцю.
«Ён страшны... Як я гэтага раней не заўважала», — падумала Ірына Мацвееўна і з ледзяным спакоем, якім намервалася прывесці мужа ў раўнавагу, сказала:
— Ты цяпер падобны на Івана Грознага, які схіліўся над недабітым сынам. Але я свайго сына выратую.
Яна выйшла са сталовай, нават не глянуўшы на Аркадзя Міхайлавіча.
Прайшло некалькі дзён.
Ірына Мацвееўна ўвайшла ў прыёмную дырэктара медінстытута. Ля дзвярэй дырэктарскага кабінета за столікам сядзела маладзенькая сакратарша і нешта друкавала на машынцы.
Ірына Мацвееўна падышла да яе і з адценнем уладнае настойлівасці ў голасе запытала:
— Сяргей Якаўлевіч у сябе?
— У сябе, — адказала дзяўчына трошкі разгублена, здзіўленая прыгажосцю і патрабавальным тонам незнаёмай жанчыны. — Толькі ён сёння не прымае. У яго нарада.
— Нічога, мяне ён прыме. Я напішу яму запісачку, мне няма часу чакаць.
Яна дастала з прыгожай жоўтай сумачкі маленькі блакноцік, тоненькім аловачкам напісала ў ім некалькі слоў, вырвала лісточак і, склаўшы яго папалам, працягнула дзяўчыне.
— Калі ласка, аддайце Сяргею Якаўлевічу.
— Але ў яго нарада...
— Прашу, — нецярпліва паўтарыла Ірына Мацвееўна.
Дзяўчына ўстала і, узяўшы запіску, знікла за масіўнымі дзвярыма. Праз хвіліну следам за ёю амаль выбег з выразам яўнага спалоху на твары высокі і мажны Сяргей Якаўлевіч.
— Што здарылася? — хрыплым ад хвалявання голасам спытаў Сяргей Якаўлевіч, падыходзячы да Ірыны Мацвееўны і паціскаючы ёй руку.
— Нічога асаблівага, — адкідваючы сваю прыгожую галаву назад і пранікнёна гледзячы прафесару ў вочы, сказала Ірына Мацвееўна.
— Вы напісалі, што неадкладна хочаце мяне бачыць. Што-небудзь з Аркадзем Міхайлавічам здарылася?
— Ах, вы заўсёды толькі пра Аркадзя Міхайлавіча і клапоціцеся...
— А як жа не клапаціцца? З тыдзень назад ён быў у мяне. Яго здароўе выклікае сур'ёзную трывогу...
— Супакойцеся, дарагі прафесар, мой муж здаровы. Мяне другое прывяло сюды...
— Што ж менавіта? — усё яшчэ не суняўшы хвалявання, спытаў Сяргей Якаўлевіч.
Ірына Мацвееўна ўказала вачамі на сакратаршу: пры ёй няёмка гаварыць. Сяргей Якаўлевіч узяў яе за руку і павёў у дальні канец прыёмнай, да акна.
— Я вас слухаю, — сказаў ён, і ад яго ўсмешкі павеяла дабратою.
— Мяне трывожыць цяпер другі пацыент... — сказала Ірына Мацвееўна, прыкусіўшы прыгожую ніжнюю губку, што выразней за словы гаварыла аб яе нерашучасці прадаўжаць размову.
— Ігар? — няўпэўнена прамовіў Сяргей Якаўлевіч, успомніўшы здаравяку-юнака, якога яму цяжка было нават уявіць хворым.
— Вы здагадаліся... — Ірына Міхайлаўна адступіла на крок, успляснула рукамі і з захапленнем паглядзела на прафесара. — Я заўсёды гаварыла мужу, што вы — цудоўны чалавек.
— Прабачце, Ігар хворы?
— Што вы, што вы!— пявуча сказала Ірына Мацвееўна, імкнучыся інтанацыяй гэтых слоў накіраваць думкі Сяргея Якаўлевіча ў патрэбным ёй кірунку. — Ігар зусім здаровы... але яму патрэбна некаторая дапамога...
— Не разумею, — паціснуў плячыма Сяргей Якаўлевіч.
— Я вам растлумачу...
— Калі ласка, — падбадзёрыў яе позіркам Сяргей Якаўлевіч.
— Вы павінны прыняць майго Ігара ў інстытут, — сказала яна і ўздыхнула з палёгкай. «Вы бачыце, як цяжка мне было прамовіць гэтыя словы», — гаварыў яе позірк.
— Прабачце, але ж экзамены яшчэ ніхто не здаваў...
— Ведаю. Я таму і прыйшла загадзя. Спадзяюся, што Ігар пры вашай дапамозе добра здасць экзамены.
Яна ўбачыла, як яго добрыя зморшчынкі каля вачэй сталі жорсткімі, а позірк — нейкім халодным і безуважлівым. Такім позіркам глядзяць на людзей, якіх пры сустрэчы не хочуць пазнаваць. Ірына Мацвееўна дакранулася да яго рукі.
— Зразумейце мяне і не сярдуйце... Мы спадзяемся на вас...

— Мы? — выдыхнуў Сяргей Якаўлевіч, нібы яму нехапала паветра. — Гэта значыць, і Аркадзь Міхайлавіч? Не можа гэтага быць...

Глянуўшы на Сяргея Якаўлевіча, Ірына Мацвееўна зразумела, што зайшла вельмі далёка, аднак яна засталася пры думцы, што сябар яе мужа — чалавек вельмі няўдзячны.

* * *

У клініцы прафесара Бальшакова быў цяжкі дзень. Прафесар зрабіў дзве цяжкія аперацыі і вельмі стаміўся. Ды і сэрца яго ў апошні час нешта стала здаваць. Трэба адпачыць. Ён папрасіў дзяжурную сястру выклікаць машыну, а сам сеў чакаць яе ў прыёмным пакоі. На двары, ля самых дзвярэй загула машына, і Сяргей Якаўлевіч выйшаў на ганак. Але гэта была «хуткая дапамога». Санітары выцягнулі з яе насілкі, на якіх ляжаў чалавек, і пачалі падымацца на ганак. Сяргей Якаўлевіч глянуў на хворага, і твар яго спалатнеў. На насілках ляжаў Аркадзь Міхайлавіч. Каб цвярдзей ступаць, прафесар узяўся за край насілак і пайшоў побач з імі.



— Чаго вы вярнуліся? — спытаў яго дацэнт Смалякоў, калі ён разам з санітарамі ўвайшоў у прыёмны пакой.

— Ды вось хворага прывезлі. Я сам павінен яго агледзець...

Аркадзь Міхайлавіч быў у непрытомнасці. Ён цяжка дыхаў, пульс



яго біўся ледзь-ледзь. Прафесар хутка агледзеў яго і коратка загадаў дацэнту:

— На стол.

А старшай сястры:

— Рыхтуйце інструменты.

Калі аперацыя была закончана і хворага павезлі ў палату, Сяргей Якаўлевіч нарэшце паехаў дадому. Дацэнту Смалякову ён загадаў пазваніць яму і далажыць аб стане хворага.

Ля пад'езда вялікага дома шафёр спыніў машыну. Пачакаў хвіліну-другую, а прафесар усё не выходзіў. Ён аглянуўся назад і ўбачыў, што Сяргей Якаўлевіч спіць, уткнуўшыся галавою ў куток сядзення. Шафёр выйшаў з машыны, адчыніў дзверы насупраць прафесара і лёгка дакрануўся да яго рукою.

— Дайце сюды трубку, — хрыплым ад сну голасам сказаў Сяргей Якаўлевіч.

— Якую трубку? — здзівіўся шафёр.

— Што? — падхапіўся Сяргей Якаўлевіч. — Мне здалося, што я дома і звоняць з бальніцы.

* * *

У медыцынскім інстытуце ішлі прыёмныя экзамены. Юнакі і дзяўчаты пісалі ўкладанне. Ім было прапанавана некалькі тэм. Ігар выбраў вобраз Нілаўны з аповесці Горкага «Маці». Ён захапіўся сваёю тэмаю і забыў, што знаходзіцца на экзамене. Юнаку здавалася, што побач з ім сядзіць сама Пелагея Нілаўна і расказвае яму пра сваё простае, шматпакутнае жыццё.

Здаўшы спісаныя аркушы прыёмнай камісіі, Ігар, усё яшчэ ўсхваляваны, выйшаў у калідор.

Тут увесь яго святочны настрой як рукой зняло: ён убачыў, што ў вестыбюлі, каля вешалак, стаіць яго маці і пра нешта гаворыць з чалавекам, у якім Ігар пазнаў сакратара прыёмнай камісіі. Уся кроў прыліла яму да твару. Ён хацеў непрыкметна прашмыгнуць у дзверы, але Ірына Мацвееўна пазвала яго.

— Ты знаёмы з гэтым дзядзем? — ззяючы ўсмешкаю, спыталася маці.

— Не, не знаёмы.

— Дык знаёмцеся... Глядзіце, які вымахаў у мяне сын... Ён будзе гордасцю інстытута... Чаму ж ты руку не падасі?..

— Прабачце,— звярнуўся да сакратара Ігар, чырвоны да слёз.— Дакументы мне можна забраць?

— Можна, калі ласка...

— Ды не слухайце вы яго... Ігар, што ты робіш? — заламала рукі Ірына Мацвееўна.

Яна дагнала сына толькі на вуліцы.

— Ігар, што ты надумаў?

Ігар паглядзеў на яе засмучаным позіркам і з горыччу сказаў:

— Мама, чаму ты не такая, як Нілаўна!..

— Якая Нілаўна?.. А-а, Нілаўна! Дурненькі ты, дык то ж час быў іншы...

Правёўшы маці дадому, Ігар зноў вярнуўся ў інстытут. Сакратар прыёмнай камісіі сказаў яму:

— Вам, малады чалавек, няма сэнсу забіраць дакументы. Толькі што правяралі вашы работы. У вас ужо адна пяцёрка ёсць. Так што рыхтуйцеся да наступнага экзамена.

Прайшло дзесяць дзён. У палату, дзе ляжаў Аркадзь Міхайлавіч, увайшла Ірына Мацвееўна.

— Як ты сябе адчуваеш, мой любы? — накіроўваючыся да мужавага ложка, спыталася яна на хаду. — Можаш быць задаволены: нашага Ігара прынялі.

— Віншую цябе,— адказаў Аркадзь Міхайлавіч не вельмі ахвотна.

— Ты не рады? — спыталася яна томным голасам.

Ён не адказаў.

Яна, нібы просячы за яго прабачэння, паглядзела на двух забінтаваных хворых, што ляжалі ў гэтай палаце. «Ён у мяне капрызны»,— гаварыў яе позірк.

Дзверы ў палату адчыніліся, і ўвайшоў Сяргей Якаўлевіч. Ён накіраваўся да Аркадзя Міхайлавіча, але, убачыўшы Ірыну Мацвееўну, адразу павярнуўся да другіх хворых.

А яна здзіўлена ўскінула бровы: «Што ж гэта я зрабіла такое гэтаму чалавеку, што ён нават не прывітаўся?» Праз момант недзе ў самых далёкіх закутках яе свядомасці ўпершыню варухнулася нясмелая думка: «А можа і на яго баку праўда, хто яго ведае... Клопаты ж мае, акрамя шкоды, нічога не прынеслі...»



Авяр'ян ДЗЕРУЖЫНСКІ

# ШУМЛІВАЕ МОРА



Шумлівае вольнае мора,
Аб чым твае хвалі гавораць,
Чаго яны грэбні ўздымаюць,
Чаго супакою не знаюць?

Таксама ў грудзях маіх сэрца
Наперад, наперад імкнецца,
Ніколі не знае спакою,
Як хвалі твае ў час прыбою.

А выпадуць зрэдку часіны —
На гладзі тваёй цёмна-сіняй
Вясёлыя промні зайграюць
І бераг пяшчотна кранаюць.

Спакойна бывае на моры,
А сэрца маё — непакора,
Ніколі спачыну не знае
І крылаў сваіх не складае.



Р. Няхай нарадзіўся ў в. Сяліба Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці ў 1915 г. У 1935 годзе закончыў Мінскі белпедтэхнікум, літфак настаўніцкага інстытута. Працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры Калодзішчанскай сярэдняй школы Мінскага раёна. З 1939 года — у арміі. Удзельнічаў у Айчыннай вайне, а таксама ў партызанскіх атрадах Украіны. Пасля дэмабілізацыі з Савецкай Арміі працаваў у рэдакцыях газеты «Літаратура і мастацтва», часопіса «Полымя» і рэдактарам мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР.

Друкавацца пачаў у 1935 годзе. За гэты час выйшлі тры зборнікі вершаў: «Па сонечных узгорках» (1939), «Маё пакаленне» (1950) і «Вялікі мой і ціхі акіян» (1954).

Р. Няхай — аўтар літаратурнага запісу дакументальнай кнігі В. Лівенцава «Партызанскі край». У бліжэйшы час у Дзяржаўным выдавецтве БССР выходзіць зборнік аповесцей і апавяданняў Р. Нехая «Навальнічнае рэха».

**Рыгор НЯХАЙ**

# У АДНОЙ СЯМ'І

Аповесць

Мал. Ф. Бараноўскага.

## ЗРУЙНАВАНЫ ГОРАД

Ножкі ў Галі тоненькія, слабенькія, заплятаюцца. Здаецца, яны вось-вось надломяцца, як саломінкі, і ўпадзе яна — не дойдзе.

Дзень быў бязветраны, гарачы. Дзеці змарыліся, запылелі. Пыл пакрыў іх вопраткі, рукі, твары.

Валя то несла Галю на сабе, то вяла за руку, але малое ўжо канчаткова выбівалася з сіл.

— Вы не кінеце мяне, цёця? — пыталася Галя. Слова «не», відаць, не супакойвала малую, і яна прасілася: — На ручкі!..

Валя несла.

Усіх падарожнікаў — і дзяцей, і Валю — палохала здзічэлае наваколле. Дарога пуставала, нібы яна даўно ўжо была пакінута назусім. Ніводнай жывой істоты. Нават птушка і тая пралятала нясмела і палахліва хавалася ў лясным гушчары. Бярозы паніклі, панурыліся. На дарогу маўкліва схіляліся каласы здратаванага жыта. Неміласэрна пякло сонца, зацягнутае мутнай пеляной. Зямля задыхалася. Паветра было густое, аж цяжка дыхаць.

Невялічкая сямейка дзяцей брыдзе і брыдзе ад самага рання без вады, без ежы. Далёка ззаду ў сасновым бары застаўся апусцелы піянерскі лагер, ціхая лясная рэчка, залацісты пясок на беразе, знаёмыя сцежкі...

— Піць! — жаласна просіць Галя.



Валя маўчыць, адварочваецца ў бок і, каб не бачылі дзеці, выцірае слязу. Колькі дзіцячай пакорлівасці і маўклівасці! Брыдуць дзеці, заплятаюцца ножкі...

— Адпачнем!

Усе, як непрытомныя, падаюць у цянёк, на мяккую траву; меншыя туляцца да Валі, кладуць галоўкі ёй на калені і просяць піць. Валя гладзіць іх успацелыя валасы, спрабуе што-небудзь расказваць, але голас абрываецца.

Большыя хлопчыкі, на чале з Жорыкам, не падавалі выгляду, што стаміліся.

Пакуль Валя з малымі адпачывала, яны шнырылі навокал, і калі знаходзілі крыніцу ці ручаёк, прыносілі ўсім вады. Так і брылі.

Яны ж цімураўцы! Іх абавязак — дапамагаць меншым.

— Цёця Валя, а куды мы ідзём? — дапытваліся малыя: — Чаму мы не на машыне?

— Навошта ж нам машына? Мы і ножкамі дойдзем. Абавязкова дойдзем, дзеткі, і ўсіх знойдзем. Вось, скажуць дома, якія вы малайцы...

— А мая мама купіць мне марожанае, — хвалілася чарнявая з тоненькімі косамі дзяўчынка, якую звалі Марыйка. — І кніжку яшчэ абяцала пра Чука і Гека...

— У мяне дома столькі кніжак, — перабіў яе Жорык, — што і за год не перачытаеш. Там і пра Робіна Гуда ёсць, і пра Алёшу Паповіча.

Дзеці ізноў ішлі.

Чым бліжэй да горада, тым больш інакшай станавілася мясцовасць. Поле было перакапана акопамі. Дрэвы вывернуты з карэннем або перабітыя напалам, быццам тут прайшоў страшэнны буралом. Пакрэмсаная гусеніцамі дарога чарнела варонкамі. Усюды трапляліся на вока патрушчаныя павозкі і скрынкі, танкі і гарматы, забітыя людзі і коні. Мухі роем гулі ў паветры. Валя клікала дзяцей, займала іх размовамі, каб яны смялей ішлі за ёю. Далёка на небасхіле ўжо відаць былі абрысы горада. Ён чамусьці страціў сваю белізну і быў зусім чорны, нібы абсыпаны сажай. Над ім віселі хмары густога дыму.

За пералескам Валя спынілася, прыклала далонь да вачэй і пачала пільна ўзірацца. Злева, па шырокай магістралі, у некалькі радоў ішлі машыны, імчаліся матацыклісты, па абочынах расцягнуліся салдаты. Зямля ажно стагнала ад машын.

— Цёця! Што гэта? — трывожна спытала маленькая Галя, якую Валя несла на руках.

У Валі замёрла сэрца.

— Пойдзем, дзеткі, не бойцеся, — падбадзёрыла і дзяцей і сябе Валя. — Вы ж са мной.

І дзеці зноў ішлі. Гэтае шэсце нагадвала нейкую вельмі сумную працэсію. Пыл, пясок, сонца і непакрытыя, панура апушчаныя галоўкі.

Пачынала вечарэць, калі Валя спынілася каля невялікага дома на самай ускраіне горада. Дзверы і вокны ў доміку былі парасчынены. На падаконніках цвілі вазоны. Па двары прашмыгнуў з абсмаленым бокам кот. Ён крыху асмеліўся, падышоў да дзяцей і пачаў церціся каля ног. Дзеці ажывіліся і пачалі яго лашчыць. Валя зайшла ў дом. Там нікога не было. Відаць, жыхары пакінулі яго. У беспарадку валялася мэбля, падушкі, розныя хатнія рэчы. Валя тое-сёе хуценька прыбрала і гукнула дзяцей. Яны, ледзь перастаўляючы ногі, пайшлі ў пакой. Кот, відаць, абрадаваўся людзям, ускочыў на акно. Гэта заспакоіла дзяцей. Яны рас-

селіся хто дзе, не цікавячыся ні цацкамі, ні карцінамі на сценах. Валя, нібы спрактыкаваная гаспадыня, шукала ім есці. Прынесла вады, знайшла хлеба, цукру. Усе памыліся, перакусілі, не распранаючыся, паляглі і заснулі. За вячэрай яны амаль ні аб чым не гаварылі, не распытвалі, бо, відаць, і іх маленькія сэрцы ўжо адчулі нейкую бяду. Твары іх былі трывожнымі, насцярожанымі.

Валя зачыніла вокны і зашчапіла дзверы. Было ўжо зусім цёмна, калі яна ў задуменні схілілася над дзецьмі. Яны спалі, забыўшыся аб усім, што рабілася на зямлі. Вось яны прытуліліся адно да аднаго, як родныя брацікі і сястрычкі. З краю Жорык, з другога боку белагаловы Васілёк, крыху меншы за Жорыка, ціхі і паслухмяны хлопчык. У сярэдзіне — яшчэ меншыя. Марыйка і Галя абняліся. Верачка спіць, як і ў лагеры, неспакойна. Ніна, самая большая з дзяўчынак, напэўна, толькі так зажмурыла вочы. Яна аб нечым думае...

А дзе цяпер іх бацькі? Ды і не ўсіх бацькоў Валя ведае ў твар. Куды ж ёй цяпер дзецца з гэтаю немалою сямейкаю?

Дзеці неспакойна кідаліся ў сне. У вокнах стаяла барвовае зарава, пахла дымам. Валя цяпер адчула, што з дзецьмі ёй было смялей. Адчула яна яшчэ і тое, што нейкія нябачныя, моцныя ніці звязалі яе з імі: цяпер Валя была для іх усім — і маці, і настаўнікам. Яна павінна іх зберагчы.

...Раніца выпала ў нядзелю цёплая, росная. Яшчэ напярэдадні група дабраахвотнікаў запісалася на экскурсію ў лес. З імі пайшла Валя. Калі яны позна вечарам вярнуліся назад, лагер ужо спаў. Не спалі толькі важатыя і начальнік лагера. Яны сядзелі за кухонным сталом, гаварылі. Да вячэры яны, відаць, і не дакраналіся. Устрывожаная, Валя кінула маўклівы позірк на Міхася. Ён быў зусім не такі, якім яна прывыкла яго бачыць заўсёды. Замест вясёлай усмешкі былі спахмурнелыя вочы, дзве глыбокія зморшчынкі ляглі над пераноссем. У глыбокім роздуме ён схіліўся над сталом і, здаецца, не заўважаў Валю.

— Сядай, Валя,— сказаў хтосьці з прысутных.

— Ну, чаго ж змоўклі? Гаварыце, — сказала яна.

— Як прайшла экскурсія? — спытаў начальнік лагера.

Валя маўчала.

— На вас прыдзецца пакінуць пакуль што і лагер, і дзяцей, — раптам сказаў начальнік лагера. — Абвешчана ўсеагульная мабілізацыя. Мы павінны ехаць у горад. Дзецям у лесе будзе спакайней. Пра далейшае не турбуйцеся. Пра вас паклапоцяцца...

Апрача дзяцей, у лагеры гэтай ноччу ніхто не спаў. Валя абышла палаткі. Некаторыя з іх былі пустымі. Многіх дзяцей бацькі забралі сёння, калі прыязджалі на водведкі. Ідучы да кухні, Валя заўважыла на лавачцы постаць Міхася. Ён ласкава ўзяў яе за руку.

— Бачыш, зорка ўпала?

— А чыя ж гэта зорка?

— Хто яго ведае, — уздыхнуў Міхась. — Раніцай мы паедзем. Ты застанешся тут, гэта неяк і лепей. Спакайней на душы. А ворага мы раз'ём там жа, на граніцы. Прыду я да цябе і заспяваю тваю любімую песню: «Город на Каме, матушке-реке...» Памятаеш?..

— Ага!

— Дык вось, — ужо з вясёлымі ноткамі пачаў Міхась. — Казак ідзе на вайну. Што ж ты яму падаруеш?



Валя падакляравала хусцінку.

— А яшчэ?

— Ну, і сэрца.

Ёй чамусьці стала весела.

— Э, не! Калі рыцары ішлі на подзвігі ў імя справядлівасці на зямлі, праслаўляючы добрае імя сваё і імя каханай, яны бралі з сабой пасму валасоў, — і ён імгненна дастаў з кішэні маленькія нажнічкі і адстрыг у Валі пасмачку каля вуха.

— Што ты нарабіў, свавольнік ты гэтакі!.. — хапілася яна за галаву і інстынктыўна паднесла да твару люстэрка.

Міхась радасна сказаў:

— Вось гэтую рэліквію я загарну ў хусцінку і пранясу скрозь агонь...

...І цяпер яшчэ не выходзіў з галавы гэты бесклапотны жарт, а ў вушах чуўся Міхасёў голас. Які ён звонкі быў і прыемны! Валя ўздыхнула. Калі б цяпер быў з ёю Міхась!

А далей на світанні ён разам з другімі сеў на машыну і, здаецца, бліснула сляза ў яго на вачах. Ён доўга з дарогі махаў Валі падараванай хусцінкай.



Разам з важатымі ў горад выехалі і большыя дзеці. Валя засталася толькі з малымі. Яшчэ прыязджалі бацькі і не ведалі, што рабіць. Забіраць дзяцей з сабой небяспечна: на горад безупынна сыпаліся бомбы, кругом гулі пажары. Дзецям тут, у лесе, спакайней, але як жа бацькам расстацца з імі ў такі час?.. Адны забіралі, другія не. Лагер пусцеў з кожным днём.

Нарэшце сама Валя з цімураўцамі пачала гатаваць страву. А потым скончыліся харчы, і Валя рашыла ісці шукаць бацькоў.

Перад ёй паўставалі гэтыя страшныя дні і яшчэ страшнейшыя ночы. Цёмныя, панурыя лясныя цені, далёкія выбухі, вогненнае неба, ціхі шэпт дзяцей, збітых у кучку ў адной палатцы, і яна, Валя, паміж імі. Храбрыўся толькі адзін Жорык, жвавы рослы хлапчук, першы яе памочнік.

— Думаеце, нашы здадуць горад? Не! У нас во якая сіла!..— даказваў ён усім.— Я чытаў, як Чапаеў пад Перакопам...

— Жора, Чапаеў пад Перакопам не ваяваў,— паправіла яго Ніна, стройненькая і поўная дзяўчынка.

— А хіба я кажу, што пад Перакопам? Ён ваяваў, я знаю дзе. На кані. Храбры такі. Як секане шабляй...

Так ён не сунімаўся, пакуль усе не засыналі.

Аднойчы ў лагер наведалася маці маленькай, з тоненькімі ножкамі Галі. Яна працавала ў сталовай на фабрыцы.

— Божа мой, божа мой, што робіцца,— бедавала яна, трымаючы на каленях Галю.— Колькі таго дабра гіне, Валечка. Жудасна робіцца, калі падумаеш. Гудуць і гудуць над галавой. Пазаўчора бомба ў цэх ударыла,— яна закрыла рукою твар.— Хай Галечка тут пабудзе, тут спакойней. Можа як пацішэе ў горадзе, тады забяру. За горадам акопы капаюць. А якая сіла народу ідзе на ўсход... Дык вы ж, калі што, паведаміце. Я недалёчка ад рынка жыву, на Чэрвеньскім тракце...

За акном пачуўся выбух і кулямётная траскатня. Валя ўздрыгнула ад нечаканасці. Дзеці пападымалі галовы. Пачуліся трывожныя галасы:

— Цёця Валя!

— Я тут, дзетачкі, з вамі. Спіце.

Упэўніўшыся, што Валя іх не пакінула, дзеці зноў супакоіліся. Марудна ішоў час. Новыя і новыя думкі трывожылі Валю...

Уласна кажучы, што ж яна сама ўяўляе сабой? Учарашняя дзесяцікласніца, маладая камсамолка... Гэтым летам першую зарплату павінна была атрымаць. Сэрца ірвалася да маці, бо яна ж яшчэ жыла за матчынымі плячыма, не ведала гора. А што цяпер з маці? Ці жывая яна? Што з кватэрай? Можа прыдзеш, а там толькі вуголле тлее...

...На світанні Валя выйшла з хаты. На суседнім двары яна заўважыла старую жанчыну і паклікала яе.

— Што, дачушка? — ахвотна адклікнулася старая, бо, відаць, і сама была рада чалавеку, хоць і незнаёмаму.

— Бабуська, як мне дабрацца да Камсамольскай вуліцы? Я не адна тут. Са мною дзеці...

— Не ведаю, мілая, не ведаю,— склала на грудзях рукі старая.— Тут поўна немцаў. Што там, у цэнтры, не ведаю. Калачуся от уся, з двара не выходжу. Анодысь як пайшоў мой Валодзька ў райком ці ў ваенкамат, я і сама не ведаю, дык няма і няма. Усе вочы прагледзела. Можа ўжо дзе забілі. Учора тут матацыклісты праскочылі. Чорныя ўсе, як тыя чэрці. І твару на іх не пазнаць. Неяк на людзей не падобны. Чужыя... Што ж табе параіць, мілая, сама не ведаю...



Валя зайшла з ёй у хату, але, як толькі пераступіла парог, не стрымалася і заплакала.

— Дзіцятка ты маё. Такая яшчэ маладзенькая,— спачувала ёй слязьмі старая. — Але што ж зробіш, каму пажалішся? На вось, з'еш,— працягнула яна Валі кавалак хлеба.

Валя скрозь слёзы падзякавала і загарнула хлеб у касынку.

— Ты ж камсамолка, відаць?

Валя кіўнула галавой.

— Усім цяпер гора. Ты хоць яшчэ здаровая. А то колькі калек: без рук, без ног. І дзеткі... Што ж яны вінаваты? І тут не соладка, і тым не лёгка, што пайшлі з гэтага пекла куды вочы глядзяць.

— Бабулька, даражэнькая,— пачала прасіць Валя.— Паглядзіце дзяцей. Дапамажыце мне. Трэба ж ім якой рады даць.

— Так, так, мілая. Дапамагу, а як жа! Хто ж дапаможа, калі не людзі?..

Дзеці яшчэ спалі. Валя пакінула на стале парэзаны на роўныя кавалачкі хлеб і разбудзіла Жорыка.

— Пойдзеш, Жорык, са мной. Пашукаем маму і тваю, і маю.

— Я не баюся, цёця, не! — з гатоўнасцю адазваўся Жорык.— Эх, калі б пісталет! — уздыхнуў ён.

Вуліца пуставала. На тэлеграфных слупах, як павуцінне, звісалі правады. Адзін дом увесь быў пасечаны асколкамі, страха яго з'ехала і ўпёрлася ў плот. Пад ёю чарнелі вывернутыя, абпаленыя кусты бэзу. Кветкі былі засыпаны зямлёй. Увесь плот трымаўся на адным слупе. Далей к цэнтру былі разбураны цэлыя вуліцы і кварталы. Пакрышаная цэгла змяшалася з зямлёй, пашматанай вопраткай, паперай, пакалечанай мэбляй. Ад усяго гэтага патыхала ўдушлівым, горкім пахам дыму. Разбураныя дамы на цэнтральных вуліцах нагадвалі раскрыты вулей. Стаялі адны сцены з дзесяткамі пакаёвых ніш на кожным паверху. У гэтых нішах відненіся ложкі, буфеты, кухонныя пліты, вешалкі, усё, што якім-небудзь чынам зачапілася і не паляцела ў сметнік руін.

Людзі паказваліся рэдка. Палахліва азіраючыся, яны пераходзілі вуліцу або праходзілі подбегам сотню — другую метраў па тратуары і стараліся схавацца ў памяшканне.

На адной з уцалелых вуліц, выстраіўшыся адзін за адным, стаялі прыземістыя танкі з жоўтымі крыжамі на баках. Каля іх сядзелі і стаялі салдаты, чужыя, незнаёмыя, агідныя — ужо таму, што чужыя. Адзін, тоўсты і рыжы, відаць, афіцэр, пачуўшы за сабой крокі, павярнуўся, расставіўшы ногі, і нахабна зарагатаў:

— О! Фрэйлян! Гут! Ха-ха! Ха-ха!

Валя сціснула руку Жорыка і павярнула ў завулак. Ззаду чуўся рогат і незнаёмыя воклічы. Доўга прыйшлося Валі кружыцца вуліцамі і завулкамі, пакуль яна абышла танкавую калону. На другіх вуліцах было тое ж самае. У вушах стаяў рогат чужых салдат, іх насмешкі. Валя не адварочвалася, глядзела проста перад сабой і не выпускала руку Жорыка. Так ішлі яны, адзінокія паміж чужых, праз увесь горад.

Калі ступілі на знаёмую вуліцу, Валя адчула, як нешта сціснула яе горла, грудзі, а вусны нібы абмярцвелі. Вуліцы не было, дым уядаўся ў вочы. Валя і Жора спыніліся каля разбуранага дома. У гэтым доме прайшло Валіна маленства, школьныя гады... А цяпер самага даражэйшага для Валі кутка на зямлі ўжо не існавала. Пастаялі моўчкі. Азірнуліся. То там, то сям у руінах капаліся людзі, нешта раскопвалі, нечага

шукалі, панурыя, злосныя, запэцканыя пылам і брудам. Чулася галашэнне і стогны. Яны даносіліся нібы з-пад зямлі...

Нейкая злосць і адчай ахапілі Валю. Яна прытуліла да сябе рукой Жорыка і пайшла ў двор. Дзверы з кватэры ніжняга паверху, дзе жыла дворнічыха, былі расчынены. Каля парога поўзала бруднае дзіця.

— Валечка! Родная! — пачуўся аднекуль з глыбіні кватэры пранізлівы жаночы голас.— Як жа гэта ты?! А я думала, што ніколі ўжо нікога не сустрэну са свайго дома!..

Марыя Іванаўна і радавалася і плакала, абдымаючы Валю, як родную дачку.

— Я ж толькі ўчора вярнулася з бомбасховішча. Выйшла і бачу, няма ўжо нашых. Зайшла туды з аднаго свету, а выйшла ў другі. Выйшлі мы, бачым, хаваюцца людзі, пуста кругом. Неяк жудасна на душы зрабілася. Абышла гэты дом. Усе закуткі аблазіла, нідзе ні душы. Папарадкавала трохі ў сваім кутку, і чакаю вось нямаведама чаго. Бо куды ж мне з малым дзецца?

Валя адразу хацела спытацца пра маці, але не знаходзіла ў сабе сілы, а Марыя Іванаўна, відаць, не хацела пачуць гэтае пытанне і абыходзіла размову.

— І як гэта ты адважылася цераз увесь горад? Ну, заходзь, заходзь. Памыйся, паснедаем. А гэта чый хлопчык? — паказала яна на Жорыка.

— З лагера. Са мной прыйшоў. Бацька яго на заводзе імя Кірава працаваў.

— Ну, добра, добра. Хадзі, хлопчык, сюды... Дзе адно, няхай там і другое...

— Не, Марыя Іванаўна! Не адзін ён у мяне,— цяжка ўздыхнула Валя.— Васьмёра дзяцей са мной, а гэта дзевяты. І што мне з імі рабіць — сама не ведаю. Хоць бы сваю маму знайсці.

— Усе мы цяпер аднолькавыя, і старыя і малыя,— махнула рукой Марыя Іванаўна.— Не ведаем ні што рабіць, ні да чаго рукі прыкласці. А дзе ж астатнія твае?

— Там, на ўскраіне,— кіўнула галавой Валя.

Так прагаварылі яны доўга. Успаміналі суседзяў, знаёмых. Аднаго пытання баялася Марыя Іванаўна — аб Валінай маці. Ёй хацелася, каб Валя крыху звыклася з тым, што здарылася, а тады ёй лягчэй будзе ўспрыняць гэтую цяжкую вестку.

Марыя Іванаўна, карыстаючыся сумятнёй у горадзе, паспела зрабіць некаторыя харчовыя запасы з магазінаў. «Як ні круціся, а жыць трэба, — апраўдвалася яна.— Прыдуць нашы, тады разлічымся, калі жывы будзем. Усёроўна ворагам застанецца, а так хай хоць свае людзі спажывуць...»

Цяпер яны ўжо, як гаспадыні, абмяркоўвалі, што рабіць далей. Першна-перш трэба было паспрабаваць знайсці дзецям бацькоў. Калі ж застануцца адзінокія, прыладзіць да каго-небудзь добрага або ўзяць да сябе. Дзе адно, там і двое...

— Табе, Валя, адной цяпер нельга на вуліцу паказвацца. Гэтыя чужыя, яны нас за людзей не лічаць. Я вось збяру што-небудзь паесці тым тваім, астатнім. Малую на рукі, кватэру на замок і пойдзем усе ўчатырох. Так не прычэпяцца — дзіцё на руках...

Гэтыя разважанні падбадзёрылі Валю, і ёй зрабілася неяк весялей.

Калі Марыя Іванаўна з клункамі і дзіцем на руках і Валя з Жорыкам дабраліся да бабулінага доміка на ўскраіне, усе дзеці гулялі на



двары. Старая зачыніла фортку на вуліцу і, прысеўшы на зэдлік каля сцяны, загледзелася на дзіцячыя гульні. Ёй раптам здалося, што нічога на свеце не здарылася, што жыццё цячэ сваёй ціхаю, мірнаю плынню. І яшчэ думала бабуля: як мала трэба дзецям! Ім цёпла, яны не галодныя, ёсць чым заняцца, вось ім і весела.

— Якія добрыя дзеткі,— пачала расказваць Валі старая.— Я ім бульбачкі зварыла, чайку згатавала, памыла, прычасала. А яны мне: «Дзякуй, бабунька!» Так мая душа і зайшлася...

Параіўшыся, жанчыны вырашылі зрабіць так: Жорык няхай глядзіць малых, не выпускае нікога на вуліцу, старая будзе гатаваць абед, а Валя і Марыя Іванаўна з малою на руках пойдуць шукаць бацькоў.

## ПОШУКІ

Галачка адразу ж падняла крык:

— Я хачу да мамы! — і пусцілася бегчы па вуліцы ўслед за Валяй. Жорык яе дагнаў і затрымаў.

— Хай ідзе,— рашыла Марыя Іванаўна.— Хутчэй знойдзем, дзе яна жыла.

Галачку ўзялі з сабой.

Цяжка было дабрацца да Чэрвеньскага тракта. Вуліцы, што прымыкалі да стадыёна, былі зруйнаваны. Сярод гэтых руін неяк уцалела толькі школа, у якой вучылася Валя. Вокны яе былі накрыж заклеены палосамі паперы, сцены пашарпаны асколкамі. На школьным двары цягнуліся да сонца маладыя дрэўцы, пасаджаныя мінулай вясной. «Трэба было б іх паліць»,— падумалася Валі. Але гэтая думка адразу ж забылася.

Раён горада, куды дабіраліся Валя і Марыя Іванаўна, быў забудаваны пераважна аднапавярховымі драўлянымі дамамі. Галачка здалёку пазнала сваю хату і кінулася бегчы. Жанчыны заспяшаліся ўслед за ёю.

У хаце нікога не было, але па ўсім адчувалася, што тут жывуць людзі. Суседзі сказалі, што Галіна маці вельмі трывожыцца за сваю дачку. Яна не знаходзіць сабе месца дома. Вось зноў некуды пабегла, можа нават у лагер. Параіўшыся, Валя і Марыя Іванаўна вырашылі крыху пачакаць. Неўзабаве ў хату ўбегла Галіна маці. Ні з кім не прывітаўшыся, яна кінулася да Галі і доўга не магла прамовіць ніводнага слова.

Потым сядзелі ў пакойчыку, вокны якога выходзілі ў двор. Галіна мама расказвала:

— Сталовую нашу закрылі. Прадукты вартаваць паставілі паліцая. Белая павязка на рукаве. Недзе я яго бачыла, а дзе — прыпомніць не магу. Стаіць гэты злыдзень з вінтоўкай і зверам на ўсіх пазірае. Нібыта мы перад ім у чым вінаваты. А тут яшчэ аб'яў панавешвалі: камуністам і камсамольцам на рэгістрацыю, яўрэям на рэгістрацыю, рабочым, дзе хто працаваў, таксама. І ўсё з пагрозаю...

У Валі моцна заныла сэрца. Яна адчула, наколькі ўскладнілася і без таго цяжкае становішча яе, дзяцей... Што ж рабіць? Зарэгістравацца і ісці працаваць... А на каго працаваць?.. А калі не пайсці на працу,

дык чым карміць дзяцей? А можа, паспрабаваць прабірацца да сваіх. Разам з дзецьмі, канешне... Яна ўголас выказала свае думкі.

— І не думай, Валечка. Бежанцаў вяртаюць назад. Што ім да нас? Як-небудзь разам будзем гора гараваць,— пачала суцяшаць Валю Галіна маці.

— Праўду Раманіха кажа,— падтрымала Галіну маці Марыя Іванаўна.— Так ты і дзяцей загубіш і сама прападзеш. Заставайся ў мяне. Так-сяк перакідаемся. Вось яшчэ Раманіха можа каторае возьме...

— Вы пра дзяцей? — ажывілася Раманіха.— Вазьму, а чаму ж не?

Раманіха адвяла дачушку да суседзяў, якія жылі ў зямлянцы на агародзе, а сама пайшла разам з Валяй і Марыяй Іванаўнай на пошукі другіх бацькоў. Але больш нікога ім знайсці не ўдалося. Ды і небяспечна было ў такі час хадзіць па горадзе. На развітанне Раманіха ўзяла сабе Марыйку, з якой найбольш дружыла Галя, і павяла яе дадому.

Бабулька, у якой спынілася Валя з дзецьмі, папрасіла пакінуць ёй каго-небудзь.

— Адзінокая я, як бачыце. Нявестка эвакуіравалася з заводам. Сын пайшоў па прызыву ці то ў райком. Унука чакала. Не дачакалася. Дык хай будзе ў мяне малое. Я ўжо дагледжу, не бойцеся. Агародзік ёсць, садзік. Як-небудзь пракідаемся.

Валя са слязьмі кінулася ёй на шыю.

— Не трэба, дачушка. І табе кепска будзе — прыходзь. Усім месца знойдзецца. А ім весялей будзе, калі двое застануцца. Вось гэтага хлопчыка яшчэ пакінь,— паказала яна на Васілька.

Але хлопчык не захацеў застацца, бо яго лепшы дружбак Жорык ішоў з цёцяй Валяй.

У бабкі Манухінай засталася адна толькі Верачка.

Валя сабрала ў хаце ўсіх дзяцей і, як магла, расказала аб тым, што здарылася. Таіцца перад імі цяпер не было чаго. Ды яны і самі пачыналі разумець, што ідзе вайна, што яны засталіся ў горадзе, занятым ворагам.

Ніякіх запісаў Валя не рабіла. Толькі папрасіла Марыю Іванаўну запомніць тых, у каго былі пакінуты дзеці.

Хутка яны развіталіся са сваім часовым прытулкам — домікам на ўскраіне — і рушылі на кватэру Марыі Іванаўны.

* * *

У двух пакойчыках было цесна. Пярэдні, які служыў адначасова і кухняй і сталовай, заняла Марыя Іванаўна.

— Тут, Валя, буду спаць я. Мне, як гаспадыні, зручней быць каля ўваходу. А ты з дзецьмі там будзь, у спальні.

Ложкаў нехапала, таму дзецям прышлося легчы на падлозе. Тут жа аблюбаваў сабе месца і кот, якога Жорык захапіў з сабой і назваў чамусьці «Маркізам». Маркіз прывык да дзяцей і не адставаў ад іх ні на крок.

— Вось калі б яшчэ сабачку дзе знайсці,— марыў Жорык.— Была б у нас своя гаспадарка... І жылі б мы тут, як Рабінзоны.

І сапраўды, навакол былі адны руіны, ад якіх павявала пустэчаю. Нават гэты напаўразбураны вуглавы дом, у якім засталася жыць Валя з дзецьмі, знешне не паказваў ніякіх прыкметаў жыцця. Валя з Марыяй Іванаўнай прыбралі кватэру, вынеслі непатрэбную мэблю, ачысцілі частку двара, і жыллё было гатова.

Ад Валінай кватэры нічога не засталося. Яна была ў другім крыле, якое дарэшты было разбурана. Думкі аб маці не выходзілі з галавы. Дзе яна цяпер? Блукае дзе-небудзь сярод бежанцаў ці ляжыць мёртвая пад грудамі цэглы? А можа пайшла шукаць Валю і не вярнулася? Ой, мама, мама! Якая ты добрая была, якая клапатлівая... Не так многа зарабляла настаўніца пачатковых класаў, але Валя, дачка яе, заўсёды была, як за сцяною-аховаю. Сукеначка на ёй была хоць просценькая, але акуратна пашытая. І ў кіно, бывала, у выхадны дзень у Валі было за што схадзіць. Родная матуля! Не знала з табою дачка ніякага гора. Падрасла. Колькі ў Валі сяброў завялося! Заўсёды бывала весела ў хаце. А цяпер сама дачка стала за маці, гэтулькі дзяцей на яе клопаце ды яшчэ ў такі час...



У Валі балела галава, думкі блыталіся. Твар стаў хваравіты. Дзеці не адступаліся ад яе. Сумавала яна, сумавалі і яны. Смяялася Валя, былі вясёлымі і дзеці. Яны, як пчолы, гатовы былі накінуцца на любога, хто пакрыўдзіць іх матку. Валя пагладзіць па галоўцы аднаго, другога і неяк міжвольна ўсміхнецца...

— Цёця Валя ўжо вясёлая! — першы падхоплівае Жорык.

Яго імгненна падтрымліваюць астатнія:

— Вясёлая! Вясёлая!

Ім, здавалася, больш нічога і не трэба было...

* * *

Каля гарадской управы, якая знаходзілася непадалёку ад кватэры Марыі Іванаўны, штодня збіраліся натоўпы людзей. Марыя Іванаўна бывала тут, прыглядалася, распытвала, каго сюды збіраюць і навошта. Яна прайшла ўжо рэгістрацыю, пазнаёмілася з панамі начальнікамі, якія чамусьці называлі сябе «спадарамі». Праходзячы калідорам, яна заўважыла ў пакоі да таго знаёмы твар, што ажно жахнулася. За сталом сядзеў і прымаў наведвальнікаў малады бялявы чалавек з кучаравымі валасамі. На левай шчацэ ў яго адна пры адной чарнелі дзве радзімкі. Не было ніякага сумнення, што гэта быў завуч адной з гарадскіх школ, у якой Марыя Іванаўна адзін час працавала прыбіральшчыцай. Але ж яго забралі ў армію. Як жа ён сюды трапіў? Проста дзіва дый годзе...

Марыя Іванаўна ўжо некалькі разоў выходзіла на расчыстку вуліц і за гэта атрымлівала кавалак хлеба і чарпак мутнай баланды.

Гітлераўцы ўстанаўлівалі ў горадзе свае парадкі. Усё бралі на ўлік. Абяцалі ў хуткім часе выдаць прадуктовыя карткі, адкрыць магазіны. Аб усім гэтым Марыя Іванаўна расказвала дома Валі, і яны раіліся, што рабіць далей.

Між тым сям'я, гэты маленькі адасоблены ад усяго навакольнага калектыў, жыў сваім жыццём. Валя памыла дзецям вопратку. Жорыка яна папрасіла схадзіць у школу, у якой яна вучылася, і набраць кніжак. Так дома з'явілася свая невялічкая бібліятэка, якую схавалі ў руінах. У вольны час Валя збірала дзяцей і чытала ім. Разы два-тры ў тыдзень у зручны час яна з Марыяй Іванаўнай наведвалася то да бубулькі на ўскраіну, то да Раманіхі. Дзеці, якія засталіся там, былі вельмі рады. Яны садзіліся Валі на калені, цалавалі яе, называлі «наша цёця». Раманіха і бабулька расказвалі свае навіны, што ім давялося за гэты час пабачыць, пачуць і перажыць.

Бабулька Манухіна жыла па-ранейшаму, нікуды, апрача суседзяў, з двара не выходзіла, даглядала агарод, садзік. Усё гэта яны рабілі разам з Верачкай, дзяўчынкай, што засталася ў яе.

Валя кожны раз слухала яе спакойны голас, пазірала на адкрыты, поўны твар, на поўныя вузлаватыя рукі і ўсё больш і больш упэўнівалася, што Верачцы з ёю будзе добра. Манухіна хваліла Верачку, расказвала, як акуратна яна выполвае кожную травінку на градках.

— Вы не думайце, Валечка, што я прымушаю яе. Не. Але і не адгаворваю. Хай займаецца, чым ёй хочацца, абы не журылася. Ды і праца ніколі нікому не была шкоднай... А там, дасць бог, нашы прыдуць. Зноў вучыцца пойдзе.

Манухіна ніколі не выпускала Валю з пустымі рукамі. То бульбы накапае, то агрэсту ці парэчак дасць.

— У вас жа там няма агарода. А яны, — мела яна на ўвазе акупантаў, — хутчэй забяруць, чым дадуць дзіцяці. На вось, звары дзецям маладой бульбачкі, хоць нішчымную, але з'ядуць.

Раманіха ж была бойкая, смелая жанчына. Яна прывыкла нікому не зважаць, нікога не баяцца. Гэтыя звычкі, відаць, у яе з'явіліся таму, што сямейнае жыццё яе склалася няўдала і дзяцей прыйшлося гадаваць самой. За першага мужа, Рамана, яна выйшла па прымусу бацькоў. Ён быў з багатай сям'і. У час нэпа трымаў краму. Потым, калі адчуў, што яго гандлёвым нэпманскім справам прыходзіць канец, наступаюць другія часы, распрадаў усё спекулянтам, забраў грошы і знік невядома куды. Ад яго застаўся сын — Пятрок. Каб пракарміць сына, яна пайшла працаваць у рабочую сталоўку. Спачатку мыла пасуду, потым выбілася ў повары. Жыццё наладзілася. Пятрок закончыў сямігодку, паступіў вучнем на станкабудаўнічы завод і вучыўся ў сярэдняй школе. У першыя дні вайны разам з заводам ён эвакуіраваўся ў глыбокі тыл. Галачка была ад другога мужа — Стася. Ён быў чалавекам нетутэйшым, працаваў вадаправодчыкам. Справу ён сваю ведаў, не ленаваўся «падналегчы на плячо», як ён гаварыў, але любіў узяць лішнюю чарку. Першыя два гады жыццё нібы ішло на лад. Выпіваў, але і ў хату прыносіў капейку. Яго майстэрскія рукі ведала ўся вуліца, і таму пасля звычайнай працы яго часта прасілі на кватэры то адрэгуляваць калонку, то зрабіць што-небудзь другое.

Стась меў прыробак. Да сям'і нібыта ён адносіўся нядрэнна. Праўда, Пецю ён ніколі не прыгалубіў, як бацька, не цікавіўся яго справамі, але і не быў грубы з ім. Жылі так у адной хаце, і нібы не заўважалі адзін аднаго. Аднак нечаканая вестка парушыла ўвесь сямейны лад. Выявілася, што Стась уцёк ад жонкі і дзяцей і яго шукае міліцыя. Калі гэта стала вядома, загаварылі і суседкі.

— Дык ён жа, Раманіха, і табе няверны. Ці ты не бачыла дагэтуль? Да чужых баб заляцаецца, — і яны расказвалі, дзе, калі і з кім яго бачылі. Цяпер усё абярнулася супроць Стася.

— Прыдзе вадаправод папраўляць, а сам так і наровіць, каб ушчыкнуць гаспадыньку. На чорта ён табе? Гані з хаты. Хай ідзе да сваёй першай жонкі. Раз ён адной стаў няверны, дык і з табой будзе тое ж самае. Чым з такім жыць, лепш адной.

Раманіха даўга абдумвала, што рабіць. Нарэшце рашылася. Пеця ўжо вырас, сам на сябе заробіць, а Галачку яна і сама пракорміць. Дык навошта ж ёй, сумленнай, працавітай жанчыне, быць пасмешышчам для ўсёй вуліцы? Хопіць, што выпіўкі яго цярпела, а гэтага ўжо сцярпець нельга.

— Ідзі, Стась, адкуль прыйшоў, — цвёрда заявіла яна.

Стась спачатку зрабіў выгляд, што прымае гэта за жарт і, усміхаючыся, запрапанаваў памірыцца. Ён быў лёгкі на слова і думаў гэтым улагодзіць Раманіху. Але яна была неадступнай.



— Я не хачу з табой сварыцца, але ідзі з хаты, каб і нагі тваёй тут не было. Я памылілася, гэта мая віна. Нічога ад цябе не хачу. Ідзі і ўсё.

Стась зразумеў, што гэта не жарты, што словамі яе ўлагодзіць нельга, разгневаўся і злосна прашыпеў:

— Пашкадуеш, Клава! Зваць будзеш — не прыду. Папомніш маё слова. А такую, як ты, знайду ўсюды.

Пагрозы яшчэ больш разгнявілі Клаву.

— Ах ты, валацуга, хвартушнік! Ты яшчэ паграseverжаць будзеш! Вон з маёй хаты! Бо міліцыю пазаву і цябе вытураць сілай.

— Бачыш, дачушка, якая твая мама: тату з хаты праганяе, — спрабуючы разжалабіць дзіця, звярнуўся ён да Галі. — Відаць, новага тату знайшла.

Галачка мала што разумела ў гэтай сварцы, плакала, прытуліўшыся да маці, а Петрык быў нахмураны, суровы. Ён сядзеў у камбінезоне каля свайго невялічкага варштату з інструментам, гатовы ў любую хвіліну кінуцца на дапамогу маці.

Стасю не хацелася пакідаць цёплага кутка, дзе яму так утульна і прывольна жылося. Сорамна было вяртацца і да першай жонкі. Але рабіць не было чаго. Ён, абзываючы Раманіху самымі апошнімі словамі, збіраў у мяшок свае рэчы. Позна вечарам, не сказаўшы нават дабранач, ён выйшаў з хаты і больш не паказваўся. Хто яго ведае, можа ён з самага пачатку прадбачыў такі канец, а магчыма і шчыра шкадаваў, што так здарылася, аднак аб бацькоўскіх абавязках чалавек забыўся і нічым не дапамагаў гадаваць дзяцей. Раманіха ўжо і не думала пра Стася, як суседзі аднойчы сказалі ёй, што бачылі яго ва ўправе: ён там нейкі начальнік, і немцы адносяцца да яго з пашанай.

Жанчына расказвала аб гэтым Валі і Марыі Іванаўне і сама сябе заспакойвала:

— Ліха яго бяры! Не баюся я гэтага мярзотніка. Хай паспрабуе толькі прычапіцца.

Валю гэтая вестка моцна напалохала.

— Цёця Клава, не трэба так. У іх жа зброя, сіла. Хітрэй трэба неяк...

— Не трэба, не трэба, Клавачка. Барані божа, — пацвердзіла Марыя Іванаўна.— Так можна і сябе і дзяцей загубіць. Што ты адна з імі зробіш? Пачакаць трэба. Я ўжо за гэтыя дні і добрага і дрэннага наслухалася. Кажуць, што ў парку нехта іхнія машыны з бензінам падпаліў. Усю ноч гарэлі. Другія расказваюць, што на заводзе, дзе ваш сын працаваў, якія і засталіся станкі, то за ноч іх нехта разабраў і след яго прастыў. Ёсць, значыцца, у горадзе свае людзі.

Раманіха расказала яшчэ, што на заводзе, дзе яна працавала, прыехаў нейкі немец з Прусіі, сабраў рабочых і абвясціў сябе гаспадаром.

— Усё, — кажа, — цяпер належыць мне: і завод і вы, рабочыя. А сам тоўсты, як япрук. Морда тая, як ражка. Цьфу! Глядзець брыдка. А ўсё пагражае, хваліць свае парадкі. Прымушае з'яўляцца на работу. Вось я і хацела з вамі параіцца, што мне рабіць. Як ты думаеш, Валечка?

Хоць Валя была намнога маладзейшая, але чамусьці іменна ў яе пыталася Клава, што рабіць.

Валя адкінула з ілба светлыя кучаравыя валасы і зачырванелася. На дапамогу ёй прыйшла Марыя Іванаўна.

— Ну, чаго ж, Валечка. Дзеці ж у нас, і свае, і чужыя. Карміць іх трэба. А дзе што возьмеш? Я думаю, Клава, табе трэба ісці на сваё старое месца, на кухню. Усё ж каля прадуктаў будзеш... Глядзіш, тое-сёе

прынясеш і дзецям. Ніхто цябе за гэта дрэннага слова не скажа. А прыдуць свае, тады разбярэмся, што і да чаго.

Крыху пазней усе яны ўпэўніліся, што было прынята правільнае рашэнне. Клава, калі пачала працаваць у сталоўцы, старалася то лішні чарпак супу падліць рабочым, то кавалак хлеба падсунуць. Ёй удавалася пераправіць дадому тое-сёе з ежы. Жорык або Валя ці Марыя Іванаўна амаль штодня прыносілі дзецям страву, кавалкі хлеба. І дзеці не галадалі.

## КАМІСАРЧЫК

Непадалёку ад кватэры Марыі Іванаўны адкрыўся прадуктовы магазін. Тым, хто быў на ўліку і хадзіў на працу, тут акупанты давалі па картачках мізэрныя нормы асцюкаватага аўсянага хлеба. У магазіне заўсёды стаяла вялікая чарга, было людна і шумна. Сюды прыходзілі не толькі тыя, што мелі карткі, наведваліся галодныя дзеці, адзінокія старыя і ўвогуле збіраўся ўвесь галодны люд у надзеі выпрасіць або вымяняць на што кавалак хлеба. Паліцаі былі тут поўнымі гаспадарамі. Любога, хто ім не падабаўся, яны маглі прагнаць з чаргі або забраць у паліцыю. Таму пры з'яўленні іх гул заціхаў, людзі скоса, з непрыязню пазіралі на бязлітасных гітлераўскіх прыслугачоў.

Аднойчы Валя паслала ў магазін ціхага хлапчука Васілька з картачкай Марыі Іванаўны. Хлапчук заняў чаргу і стаў чакаць хлеба. Ён ужо быў недалёка ад прылаўка, падрыхтаваў картачку і грошы. Раптам, расштурхоўваючы людзей, у магазін зайшоў паліцай. Ён спыніўся каля прылаўка і хмурым позіркам абвёў чаргу. Ва ўсіх закалаціліся сэрцы. Было бачна, што ён шукае, да каго б прычапіцца. Раптам яго позірк спыніўся на Васільку. Паліцай змяніўся з твару і з расшыранымі зрэнкамі падышоў да Васілька.

— Пакажы, што ў цябе ў руках!

Васілёк перапалохаўся, заморгаў вачыма і пакорліва паказаў картачку і грошы.

— Картачка, дзядзя, на хлеб, — голас Васілька дрыжаў. Слёзы гатовы былі пырснуць з вачэй.

Паліцай здаравеннай рукой моўчкі ўзяў яго за каўнер, адхіліў галаву назад і зларадна ўсміхнуўся.

—Га-га-а-а! Камісарчык! Нямала бацюхна твой крыві з нас папіў. Бач, картачка! Ён па хлеб прышоў. Ах ты, бальшавіцкае шчанё! — грозна крыкнуў ён, замахваючыся на Васілька. — Я табе пакажу картачку! Будзе табе хлеба і да хлеба!

Васільку было балюча і крыўдна. Не, не ад болю, што каўнер давіў яму горла, не таму, што паліцай абражаў яго, здзекаваўся, а таму, што гэтага кавалачка горкага асцюкаватага хлеба чакала дома шэсць сяброў. Яны, апрача рэдзенькага бульёну, ад раніцы нічога не елі. Ды і ў самога Васілька ад голаду кружылася галава. Што ж ён скажа цёці Валі і Марыі Іванаўне? Картачкі і грошы былі ўжо ў руках паліцая. А дзеці недзе сядзяць каля акна і чакаюць свайго «старэйшага брацікa» з хлебам. Якімі вачыма паглядзяць яны на пустыя Васількавы рукі?..

А над Васількавай галавой не змаўкаў жудасны голас:



— Хто табе даў гэтыя картачкі? Гавары, шчанюк! Дзе ты іх узяў? Гэта табе не пры Саветах! Мінуліся вам курорты ды машыны. Дзе бацька, гавары! Маўчыш! А ну, пайшлі са мной! Ты мне ўсё скажаш!

Васілёк заплакаў горка, горка. Жанчыны спачатку палахліва прыціхлі, потым дружна самкнулі чаргу і захінулі хлопчыка сабой ад паліцая.

— Чаго ты прычапіўся да дзіцяці! Сораму ў цябе няма! Ну на, страляй. Жывымі паеш, крывапівец. Нябось і ў самога дзеці ёсць! Што яны вінаваты! Мала вас, гадаў, на Салаўкі адпраўлялі! — сыпалася з усіх бакоў.

Паліцай не мог нават разабраць, хто крычыць. Крычалі ўсе. Забраць усіх ён не мог. Звярынымі вачыма, пачырванелымі ад злосці, глядзеў ён на натоўп, а потым, уцягнуўшы галаву ў плечы і адступаючы, падаўся да дзвярэй.

— Бунт! На ўладу руку падымаць! — хрыпеў пагрозліва ён. — Запомніце вы мяне!

Ён праціснуўся ў дзверы і, як шалёны, пабег у паліцэйскі ўчастак. Натоўп не заціхаў.

— Пазналі вы яго, людзі? Гэта ж на станкабудаўнічым у ахове працаваў!

— Гадзюкай прытаіўся, а цяпер, бач, як кусае!

Калі выгаварыліся ўволю, жанчыны ўспомнілі пра Васілька. Ён прыхінуўся да сцяны і ўвесь дрыжаў.

— А ты не бойся, хлопчык. Бяжы хутчэй, пакуль не прышлі тыя сабакі,— раілі яму адны.

— Чый гэта хлопчык? — чулася з другога боку.

— Інжынераў! Добры чалавек быў. Я яго ведаю,— данеслася з другога кутка.

— Пара і нам разыходзіцца,— спахапіўся нарэшце нехта.— Бач, пані прадаўшчыца за дзверы схавалася. Хлеба больш нікому не адпускае.

— Накармілі...

— Кроўю ім гэта выйдзе!

Магазін пачаў пусцець. Спачувальныя цёткі правялі хлопчыка і, даведаўшыся, дзе ён жыве, паказалі дарогу дадому праз двары і руіны.

Паліцаі амаль подбегам з вінтоўкамі спяшаліся да магазіна. Марыя Іванаўна ў гэты час ішла дадому, але, заўважыўшы сумятню і паліцаяў, спынілася на супрацьлеглым баку вуліцы. Паліцаі пачалі затрымліваць любога сустрэчнага. Усіх затрыманых гналі перад сабой да магазіна. Найбольш стараўся той, што чапляўся да Васілька. Марыі Іванаўне некаторыя кабеты ўжо тое-сёе паспелі расказаць. І паказалі на таго паліцая. Яна добра да яго прыглядзелася, нават падышла бліжэй і з вялікім здзіўленнем пазнала ў ім былога вартаўніка завода. Яна ведала яго самога і ўсю яго сям'ю. Гэта так уразіла Марыю Іванаўну, што яна не магла сысці з месца. Вялікі гнеў і абурэнне закіпела ў яе душы. Сын гэтага вырадка Жорык — такі добры хлопчык, быў з Валяй у піянерскім лагеры. Яна разам з другімі дзецьмі прывяла яго ў горад. Цяпер Жорык жыў дома ў Марыі Іванаўны, яна яго карміла, даглядала, як сваё роднае дзіцё... І вось гэта бацька — люты звер — пакінуў сёння дзесяткі такіх жа малых, як яго сын, галоднымі. Марыя Іванаўна была цяпер у такім стане, што ёй нічога не было страшна.

Па выгляду Васілька Валя здагадалася, што здарылася няшчасце. І да гэтага яна трывожылася, прадчувала нядобрае, а цяпер не стрыма-

лася і заплакала перад дзецьмі. Яна схілілася над сталом, і буйныя, як боб, слёзы пасыпаліся на абрус. Васілёк забіўся ў куток і ні на кога не пазіраў. Астатнія дзеці абступілі Валю з усіх бакоў. Адны прасілі яе не плакаць, другія самі плакалі. У такім стане застала іх Марыя Іванаўна.

— Ты плачаш, Валя?! Кінь! Я ўсё ведаю. Слёзы не памогуць. Кінь, Валя! — не папрасіла, а загадала нарэшце Марыя Іванаўна.

— Я не магу, не магу, цётачка, ніяк...

— Эх ты! А яшчэ вучоная, камсамолка,— з папрокам пачала Марыя Іванаўна.— Позна плакаць. Яны толькі радавацца нашым слязам будуць. Не так трэба...

Яна не дагаварыла і ўзялася паласкаць бітончык.

— Трэба падумаць перш, як дзяцей накарміць. А вечарам пагаворым. Я збегаю да Раманіхі, можа чаго і разжывуся. А ты зачыніся і сядзі.

Марыя Іванаўна вярнулася з супам. Валя ўжо супакоілася. Твар яе стаў задумённым, шчокі ўпалі, нос завастрыўся, сінія кругі пад вачыма пагасілі вясёлыя блакітныя агеньчыкі. Марыя Іванаўна паглядзела на яе і спачувальна ўздыхнула. Так-сяк пакармілі дзяцей і паклалі спаць. У гэты вечар Валя асабліва пяшчотна адносілася да Васілька. Яна ніколі не думала, што так моцна можна любіць дзяцей. Яе любоў да іх раней была зусім другая. Цяпер жа ў душы зрабіўся нейкі пералом, і Валя не спускала вачэй з пакрыўджанага, напалоханага хлапчука. Васілёк маўчаў увесь вечар і не ўзяў есці. Не было, напэўна, на свеце такіх слоў, якімі б ён мог выказаць свой боль і крыўду. Ён доўга не мог супакоіцца, усхліпваў у сне, крычаў нешта незразумелае, а раніцай прачнуўся хворым.

Марыя Іванаўна з Валяй шапталіся да поўначы. Вестка аб тым, што Жорык — сын таго самага паліцая, які так жорстка пакрыўдзіў Васілька, канчаткова збянтэжыла Валю. Што ж цяпер рабіць? Аддаць сына бацьку, пазбавіцца лішняга роту? А ці мае яна права зрабіць гэта? Сын жа добры хлопчык, піянер, а бацька — паліцай, вораг... Ды невядома яшчэ, як ён аддзякуе Валі за сына, калі даведаецца, хто яна і ў якім становішчы апынулася.

— Цёця, што ж рабіць з Жорыкам?— трывожна шаптала яна Марыі Іванаўне.— Можа вы што надумалі?

— Я думаю, Валечка. А што, як дабяруцца і да нашага дома?? Пранюхае, паганец, пра сына, тады бяда нам усім... А можа яго да маіх сваякоў адправіць, у вёску,— з роздумам гаварыла яна.— Толькі як жа разлучыць хлопчыка з сябрамі? І да цябе ён прывык. Душа будзе балець, Валечка. Заўтра што-небудзь прыдумаем.

Але Валя не спала. Толькі заплюшчыць вочы, як пачынае мроіцца нешта жахлівае. Валя прачынаецца, падымаецца на локці. Дзеці спяць. Гэта яе супакойвае, і яна зноў кладзецца, каб заснуць. Але заснула толькі пад раніцу.

Калі дзяўчына прачнулася, праз акно свяціла сонца, дзеці мыліся. Жорык цёр чырвоныя пасля сну шчокі. Валя ласкава прытуліла яго да сябе і моцна пацалавала бялявую мокрую галоўку.

— Ты будзеш заўсёды з намі!

Дзеці здзіўлена паглядзелі на Валю, а Жорык сарамліва ўсміхнуўся.

Пасля снедання Валя непрыкметна для дзяцей пашапталася з Марыяй Іванаўнай.



— Добра, добра, Валечка. Хай пакуль што пабудзе там...

Валя паклікала Жорыка і пачала апранаць яго ў чужую вопратку.

— Дык гэта ж не маё, цёця Валя. Яно мне не лезе,— запратэставаў Жорык.

— Нічога, нічога. Цяпер усё наша. Што ёсць у хаце, тое і наша. Нам далёка ісці, а яшчэ раніца...

Жорык у чужой вопратцы выйшаў з Валяй.

Недалёка ад дому з ёй параўняліся два паліцаі. Яны ішлі па другім баку вуліцы. У Валі закалацілася сэрца. Не азіраючыся па баках, яна сціснула руку Жорыка. Ішла проста наперад. Паліцаі спыніліся прыкурыць, і яна інстынктыўна адчула на сябе калючыя, чужыя позіркі. Боты ізноў затрукаталі на тратуары. Паліцаі ішлі крыху ззаду, але не спускалі Валю з поля зроку. Валя яшчэ мацней сціснула потную руку хлопчыка і дала знак вачыма, каб ён маўчаў. Хлопчыку хацелася, як заўсёды, загаварыць, распытваць, але і ён адчуў нешта небяспечнае і маўчаў. Ды ён не парушыў бы маўчання і тады, калі б Валя не падала знаку — такі ў яе быў напалоханы твар.

— Што гэта за птушка такая? Ты яе не ведаеш?

— А чаго цырымоніцца. Спадабалася, дык затрымаем. Што загадаем, тое і зробіць.

— Няёмка. Малы з ёй,— адказаў першы паліцай.

— Малы! — перадражніў другі.— Можа такі ж самы камісарчык, як той, што ў магазіне ўчора. Стаіць сабе. Яму хлеба трэба. Я вытраўлю ўсю гэтую заразу. За ногі ды аб вугал! Гэта ім не пры Саветах. Машыны ды курорты...

— Ты вось падцягніся. Бач, немцы ідуць.

— А што мне немцы? Я і іх не баюся, — ужо больш стрымана загаварыў першы.— У мяне недзе сына звезлі. Дзесяты год. Казаў жонцы, на чорта табе той лагер... Згарыць ён. І дома добра. Дык не, аддала. Ну, гэта ёй так не пройдзе. Я каленам яе!.. У заўком скардзіцца не пабяжыць. Цяпер я ёй і заўком і нарком...

Паліцаі параўняліся з немцамі, прывіталі іх. Праз момант ізноў пачуўся той жа хрыплы, абрыдлівы голас:

— Дык што? Затрымаем?

— Як хочаш!..

— Гэй! Дамачка ў касынцы! — узвысіўся хрыплы голас. Валя адчула небяспеку, хуценька павярнула на больш людную вуліцу і прыскорыла крокі. Жорык амаль подбегам ішоў побач.

Бабка Манухіна была рада Валі і сустрэла яе, як заўсёды, ветліва. Яны сядзелі адна супраць адной на кухні. Старая паклала рукі на калені. На іх выступалі сінія прожылкі, а далоні і пальцы былі пабіты дробнымі чорнымі палоскамі. Відаць, яна з таго часу, калі навучылася нешта рабіць, не мела спачынку. Валі стала сорамна прасіць дапамогі ў гэтай бабулькі. Але старая ўжо сама аб нечым здагадалася.

— Ну, чаго ж ты, дачушка, маўчыш? — спытала яна. — Відаць, нездарма прышла. Мо' здарылася што?..

Валі не было чаго таіцца, і яна расказала аб усім па парадку.

— Ненадоўга! Не! Мы потым што-небудзь прыдумаем...

— Што ты, галубка! Хіба ж ты вінавата ў гэтым? Бяда, яна наша, агульная. А дзяцей я не адно выгадавала. Калі ў мяне застануцца двое, дык ім нават і весялей будзе. Падрастуць, дзякуй скажуць... Ты б мо'

што-небудзь перакусіла. Я зараз, ды і дзяцей паклічу. Не плач. А спытаюць, скажу: унучкі засталіся. Бацькі пад бомбамі загінулі. Суседзі ў нас добрыя, змоўчаць...

Так Валя рассталася з Жорыкам — сваім любімым выхаванцам.

## ВОСЕНЬ

Добра, калі асенняй непагаддзю з яе дажджамі і золкімі вятрамі ёсць над галавой дах, у хаце ўтульна і цёпла, а на стале знойдзеш і бульбіну, і яблык, і свежы хлеб, і кавалак мяса. А вечарам закрыеш вокны фіранкамі, п'еш гарачы чай і пры яркім электрычным святле чытаеш любімую кнігу. Хай нават зазлуецца мама, што ты позна заседзелася. «Яшчэ адна старонка, мама, і ўсё...»

Другі тыдзень ходзіць Валя са сваёй школьнай сяброўкай Зінай па асенніх дарогах. На нагах — буркі, пашытыя са старога салдацкага шыняля, старыя мужчынскія галёшы падвязаны вяровачкамі, за плячыма — прамокшая на дажджы торба. Там ляжыць некалькі пар такіх жа, як на нагах, бурак, некалькі старых, але чыста вымытых і залапленых мужчынскіх кашуль ды дзесяткі паўтара самаробных запальнічак, якія выпрасіла Раманіха ў знаёмых нібыта для сябе. Вось і ўсё Валіна багацце, уся яе сённяшняя надзея...

«Як там дзеці? — думае яна.— Ці елі яны сёння? Ці не выгналі іх на вуліцу, размяшчаючы на кватэры гітлераўскіх салдат?»

Горка на душы.

Сонца выглянула і зноў схавалася, мабыць ужо да самага заходу.

— Зіна! — звяртаецца яна да сяброўкі.— А што, каб нас сустрэлі партызаны і мы расказалі ім, як нам цяжка? Паверылі б?..

— А ты думаеш, яны самі не ведаюць? Ды дзе яны? Глядзі, каб не прычапіліся паліцаі. У нас жа ніякіх дакументаў няма. Тады што?

— Не ведаю, Зіначка, што тады, але так я ў рукі не дамся. Сама не ведаю, што зраблю, але вырвуся... У мяне ж дзеці.

Валя цяжка ўздыхнула і паправіла ношку за плячыма. У ношцы ўжо тое-сёе было: дзве буханачкі хлеба, крыху сухароў, сушаны сыр і кавалачак сала.

Дзяўчаты не толькі выменьвалі ў сялян харчы на свае няхітрыя рэчы, але і зараблялі, калі каму патрэбна была дапамога па гаспадарцы. Прыходзілася — лён цёрлі, жорны круцілі, у аднаго гаспадара нават студню чысцілі. І за гэта ім давалі прытулак, ежу ды яшчэ тое-сёе перападала з сабой. Дзіўна было глядзець, адкуль так хутка з'явіліся ў людзей жорны і іншае старасвецкае начынне. Вядома ж, людзям трэба было жыць, і яны вышуквалі спосабу, каб не памерці з голаду.

Наперадзе паказалася вёска. Няўтульна раскінуліся хаты пад голымі мокрымі дрэвамі. Дрэвы гнуліся пад ветрам, краналіся галінамі чорных заімшэлых дахаў. Нудная восень заглядвала ў шыбы хат, нібы хацела ўпэўніцца, ці ёсць там хто жывы, бо вуліца і двары пуставалі.

Дзяўчаты пастукалі ў першую хату, якая трапілася на дарозе. Ім адчыніла згорбленая кабета. На камінку палалі сухія трэскі. Зыркае полымя абдало дзяўчат цяплом. Радыя прытулку і адпачынку, яны адразу селі на лаўку насупраць камінка. Гаспадыня спынілася каля парога і зыркімі вачыма ўзіралася ў паружавелыя пры агні твары дзяўчат.



— Газы нястача...— як бы апраўдваючыся, сказала яна.— Камендант забараніў без дазволу начаваць... А вы адкуль будзеце?

Валя як магла прыветней растлумачыла, чаго і куды яны ідуць.

— Вось хіба сын прыдзе...— неахвотна прыняла тлумачэнні старая і ўзялася гатаваць вячэру.

Па тым, як бразнулі дзверы і засаўкі ў сенцах, дзяўчаты зразумелі, што ідзе гаспадар. На парозе з'явіўся рослы чалавек у даматканай паддзёўцы, ботах і галіфэ. Ён хацеў нешта сказаць маці, але адчуўшы, што ў хаце чужыя людзі, стрымаўся і толькі вылаяўся:

— Халера на яго! — Потым перавёў позірк на дзяўчат і прывітаўся. Далей ужо, здавалася, ён іх зусім не заўважаў, а бачыў перад сабой толькі адну маці. Распранаючыся, гаварыў ёй: — Малатарня добрая. Дык на ліха яна ім, мама? Усёроўна ж калгас разбегся. Дык хто цяпер пацягне гэтую малатарню??. Хіба да каменданта схадзіць?

— Усёроўна не дасць ён табе малатарню задарма. Дзе ты бачыў? Лепш сабе забярэ. Казала ж табе: ідзі і бяры. Дык ты ж не паслухаў.

— Думаў, Саветы вернуцца.

— Бач, вярнуліся... Вячэрай, сынок.

Сынок — каржакаваты, шыракаплечы дзяцюк, смачна мыўся, фыркаў у кутку над шырокай балеяй, а старая ставіла на стол вячэру. Пакуль сын памыўся, на стале з'явілася вараная бульба, стаяла міска з агуркамі і збан кіслага малака. Дзяцюк сеў у покуце, як гаспадар, зрабіў нейкі знак старой, яна запаліла лямпу і паспешліва выйшла ў бакоўку.

— Проша за стол, паненкі! — прагучаў яго грубы голас.

Дзяўчаты пераглянуліся і нерашуча пачалі распранацца. Дзяцюк не зводзіў вачэй з Валі.

За сталом нейкі час было ціха. Гаспадар пад'еў, закурыў, прагна паглядзеў на дзяўчат, якія сядзелі на ўслончыку насупраць.



— Дык кажаце, з горада? А дакументікі ёсць у вас?

Валя дастала пашпарт, што атрымала толькі вясной.

— Не, не гэтыя. Пропускі, пропускі ад камендатуры, аўсвайс, што вам дазволена хадзіць па сёлах...

Дзяўчаты адмоўна заківалі галовамі:

— А хіба такія патрэбны?..

— Вы не ведалі? Як бы не так! Відаць, абедзве камсамолкі і наўмысля збеглі з горада. Па тварах бачу. Прыдзецца адвесці ў камендатуру, — дзяцюк цяжка падняўся з-за стала. Нешта падумаў і загаварыў больш лагодна: — Вось што... Усёроўна вас дзенебудзь затрымаюць. Не тут, дык у другім сяле. Хто яго ве-

дае, чаго вы ходзіце і што вышукваеце... Вайна... Нікому нельга верыць. Шкада мне вас. Ты, бялявая, — паказаў ён на Валю, — заставайся ў мяне. Вось мая хата, гаспадарка. Работы хопіць. Слухай маці, што яна скажа, тое і рабі. А гаспадар тут я. Табе таксама знойдзецца цёплы куток, — звярнуўся ён да Зіны. — Будзеш у дастатку. Адным словам, лепшага і шукаць не трэба. А дакументы мы аформім. Гэта я паклапачуся ўжо...

Калі спачатку Валю браў страх перад гэтым грубым, адзічэлым чалавекам, то цяпер ёю завалодалі абурэнне і нянавісць. Як гэта? Стаць наймічкай у гэтага будучага кулака? А дзеці? Ды і не толькі дзеці. Чалавечая годнасць не дазваляла ёй нават уявіць сябе ў такім становішчы. Валя моўчкі кіўнула сяброўцы і пачала апранацца. Дзяцюк стаў сярод хаты і знарок зарагатаў на ўсё горла:

— Ха-ха-ха! Камсамолачкі! Ды вас сабакі парвуць на вуліцы.— А потым ужо без смеху.— Ніхто ў нашым сяле вас не пусціць у хату. Гэта я, дурны, прытуліў ды яшчэ павячэраць даў. Не пабаяўся. А хай другі хто паспрабуе... Нікуды не дзенецеся. Заўтра сустрэнемся, але ўжо ў другім месцы. Чуеце?! — грозна дадаў ён.

Калі ж дзяцюк пабачыў, што дзяўчаты ўжо закінулі клункі за плечы і збіраюцца ісці, на яго зноў напаў нейкі ненатуральны, дзікі рогат.

— Можа яшчэ правесці вас, валацужкі? Га! Пад ручкі... Ха-ха-ха!..

Дзікі рогат нёсся ім услед скрозь дзверы, чуваць быў і на двары, а потым груба і раптоўна абарваўся.

## ВОПЛЕСКІ

Жорык сумаваў па Валі. Ніколі яшчэ не было, каб яна так доўга не прыходзіла. Ён цэлымі днямі сядзеў з Верачкай каля акна і пазіраў на вуліцу. Верачцы надакучала падоўгу сядзець, яна бралася за лялькі. Жорык заставаўся адзін. Сэрца білася: ідзе цёця Валя! Не, не яна. Праходзіла незнаёмая жанчына. Вопратка ў яе зусім такая, як у цёці Валі. Можа яна ўжо зусім больш не прыдзе? Забылася і на лагер, і на гульні, і на іх, малых. А абяцала ж, што ніколі не пакіне... Не, не можа быць, калі цёця Валя сказала, то прыдзе. Мусіць, нешта здарылася. Жорык усё больш і больш пераконваў сябе — трэба даведацца, што з цёцяй Валяй, што з яго сябрамі? Ён жа не маленькі, піянер... Па лесе хадзіць не баяўся. А тут хіба ён пабаіцца?

Жорык цяжка ўздыхнуў. Шыбы трымцелі ад ветру. Хмары навіслі нізка над зямлёй. На дахі, на гразкі брук сыпаўся халодны асенні дождж. Птушкі хаваліся пад стрэхі. Сумна і няўтульна было кругом. Добра было, калі прыходзіла цёця Валя, прычэсвала Верачку, жартавала, што-небудзь прыносіла. Праўда, не такое ўжо смачнае, але ж прыносіла, не забывалася. «Ну, добра вам тут?» — пыталася заўсёды яна. Нічога, што калі-небудзь пакрычыць на яго, Жорыка. Ды што гэта за крык? Хай бы яна цяпер прыйшла і крычала б сабе, колькі хацела. А што калі пайсці і аб усім даведацца? Ад гэтай думкі Жорык ужо не мог адчапіцца. Бабцы сваёй ён нічога не гаварыў, бо ведаў: усёроўна не пусціць. Ды і Верачцы нельга нічога наперад гаварыць. Што яна яшчэ разумее? Выдасць, тады ўсё прапала. Праўда, узяць яе з сабой можна, весялей будзе, толькі не гаварыць ёй нічога да часу.



І вось пасля снедання, калі бабка выйшла да суседзяў, дзве дзіцячыя постаці выслізнулі з хаты — малая дзяўчынка, абвязаная цёплай хусткай пад пахі з вялікім вузлом на спіне, і хлопчык у старэнькім паліто — падарунку бабкі. На вуліцы яны спыніліся.

— Ты, Верачка, пойдзеш са мной?

— Пайду,— не задумваючыся, адказала яна.

— А калі сустрэне бабка, скажаш, што мы проста так гуляем?

— Скажу!

— Дык глядзі ж!

Непадалёку, дзе пачыналася поле, шумелі на могілках дрэвы. Дзеці весела пазіралі па баках. Жора быў захоплены сваімі думкамі. Радасць сустрэчы з цёцяй Валяй, з сябрамі ўсё засланіла перад ім. А бабка хай не крыўдзіцца, яны ж вернуцца к вечару.

Узняты настрой пanaваў не доўга.

— Ой, што гэта, Жорык?! — раптам закрычала Верачка.

Жорык і раней чуў нейчы шматгалосы плач, але думаў, што гэта вецер шуміць. А цяпер перад ім адкрылася нешта незвычайнае. Па папярочнай вуліцы, у якую ўпіралася тая, дзе жылі Жорык з Верачкай, ішло шмат людзей. Жанчыны неслі на руках дзяцей, а большых вялі, мужчыны былі з клумкамі. Большасць былі без шапак, апранутыя па-летняму, а паабапал ішлі здаравенныя дзяцюкі ў нямецкай форме. Тых, хто адставаў, яны білі прыкладамі па галаве, штурхалі нагамі, валялі ў гразь.

— Баюся...— прашаптала Верачка.— Жорык!

— Дай руку.

Узяўшыся за рукі, яны ціхенька, як бы крадучыся, пайшлі ў бязлюдны завулак. І тут здарылася тое, чаго Жорык ніяк не чакаў. Ён заблудзіўся. Наперадзе ляжала незнаёмая вуліца. І ўсё тут было зруйнавана. Цэгла, каменне, гліна, іржавая бляха. Нехта пратаптаў між гэтага друзу сцяжынку. Вось па ёй, напэўна, і трэба ісці. Верачка спатыкалася, дрыжала ад холаду, а Жорык пачынаў на яе злавацца.

— Вось баязліўка! Пабачыла натоўп людзей ды чужых салдат і ўжо збаялася... А яшчэ хацела ў піянеры паступаць!

— Я іду, Жорык. Гэта я так. Слізка тут.

Наперадзе паказалася зусім незнаёмая будыніна. Пуня не пуня, хлеў не хлеў. Збіта яна з дошак, пафарбавана, чарапічны дах... Людзі тоўпяцца каля яе. І малыя там ёсць. Дапытлівасць узяла верх над Жорыкавай развагаю, і ён умомант апынуўся каля групы такіх жа хлапчукоў, як і сам.

— Што тут такое?

— А ты не бачыш?! — з выглядам знатака адказаў шустры мурзаты хлапчук. — Гэта ж кіно. Замежнае. Толькі без грошай туды не пускаюць. Нават і не думай. Салдацкага хлеба атрымаеш, — і ён зрабіў пэўны рух нагой.

Вялікая задача паўстала перад Жорыкам. Ён так даўно глядзеў кіно. Бывала, не прапускаў ніводнай карціны, а тут быць побач і не пабачыць! Некалькі хвілін ён пастаяў у роздуме. Потым нешта цюкнула ў галаву, і ён рыўком пацягнуў Верачку за сабой.

У натоўпе былі толькі падлеткі і дзеці. Дарослых было вельмі мала. Жорык праціснуўся да дзвярэй, дзе стаяла жанчына-кантралёр. Калі праходзілі немцы, яна адступала ў бок і далікатна нахіляла галаву. Амаль з такой жа пашанай прапускала яна і людзей з белымі павязкамі на рукавах. Моўчкі праходзілі і тыя, што з білетамі. А як жа прайсці яму, Жорыку?

— Цётачка, пусці нас з сястрычкай, — жаласліва прапішчаў Жорык, — мы бедныя... сіроткі.

Цётачка нічога не адказала. Нават і не паглядзела на яго з «сястрычкай». Прайшоў афіцэр з паненкай. Боты з высокімі халявамі і блішчаць, як люстэрка. Жорык яшчэ заўважыў галіфэ і крыжы на грудзях. А шапку разгледзець не паспеў.

— Цётачка, пусці ... Хоць раз, — Жорык паспрабаваў упіхнуць у дзверы Верачку, а за ёю прашмыгнуць і самому. Але «цётачка» прытрымала абодвух, азірнулася кругом і рукою, як бульбу з печы, згарнула іх у залю.

Па старой звычцы Жорык праціснуўся наперад і сеў з Верачкай сярод дзяцей. Хай цяпер разбяруць, хто тут з білетам, а хто без білета! У залі панавала непрывычная цішыня, толькі дзеці перашэптваліся паміж сабой. Верачка, радая цяплу, прытаілася, як мышаня.

Раптам святло пагасла і экран ажыў. Жорык не мог зразумець ні таго, аб чым гаварыў дыктар, ні надпісаў на экране. Ён толькі глядзеў. Вось ідуць у наступленне нямецкія танкі. Іх гэтулькі многа. Узлятаюць слупы зямлі і дыму. Падаюць людзі. Некаторыя падымаюць рукі ўгору. Неба пакрываецца хмарамі самалётаў. Яны кружацца нізка, кідаюць бомбы. Вёска загарэлася. Аднекуль з саду б'юць зеніткі. Белыя воблачкі разрываў акружаюць самалёты... Заля прытаілася, нахмурылася, прыціхла. Усе бачылі, што гэта ідзе бой савецкіх часцей з наступаючымі гітлераўцамі. Франтавая хроніка... Бой усё разгараўся. Разрывы зенітак усё бліжэй лажыліся каля самалётаў. І вось... Адзін з іх, ахоплены полымем, паляцеў на зямлю. А за ім другі, трэці. У гэты момант заля як бы ўзарвалася. Парывам буры з канца ў канец прагучалі воплескі, дружныя і гарачыя. Яны заглушылі дыктара, скрозь зачыненыя дзверы вырваліся на вуліцу і імгненне замоўклі. Уключылася святло. Немцы ўсхапіліся з месц, але ўсе ў залі сядзелі ціха. Пачулася нямецкая лаянка. Насцеж расчыніліся шырокія дзверы, паабапал якіх стаялі салдаты з гумавымі палкамі. Перакладчык нервова абвясціў, што сеанс больш прадаўжацца не будзе і ўсе грамадзянскія гледачы павінны пакінуць залю. Да дзвярэй, уцягнуўшы галовы ў шыі, пабрыла шарэнга людзей. На пярэдніх пасыпаліся ўдары палак. Натоўп напіраў, але яго адцясняялі салдаты і прапускалі па адным. Кожны атрымліваў па дзве палкі — справа і злева.

Жорык пачаў быў ужо цікавацы, ці нельга схавацца пад крэсламі. Але ж Верачка абавязкова зарумзае і выдасць. Ды і ззаду падганялі: «Шнэль, шнэль».

Натоўп напіраў і, хочаш не хочаш, але выносіў к выхаду. Жорык моцна прыціснуў да сябе Верачку і захінуў яе галаву рукою. Вось і яны, дубінкі... Жорык уцягнуў галаву ў плечы і хацеў прашмыгнуць між падросткамі непрыкметна. Але апошні салдат, што стаяў ужо на вуліцы, падставіў яму нагу, і Жорык паляцеў носам у гразь. Верачка заплакала, моцна выцеўшыся аб брук. Жорык падняў яе, адвёў убок і пачаў рукавом выціраць гразь з твару.

— Вось і паглядзелі мы кіно, — прыгаварваў ён. — Верачка, не плач... Гэта ж нашы зеніткі збілі тры фашысцкія самалёты. Бачыла, як яны гарэлі? Дык чаго ж плакаць? Што ты, ніколі не падала на зямлю? Я не так ударыўся і то маўчу. А можа там мой ці твой тата з гэтых зенітак страляў? Вось вернуцца з вайны, усё раскажуць...

Цяжка было суцешыць Верачку. Ёй было холадна, хацелася есці ды яшчэ так моцна ўпала на брук. Яна цяпер толькі ўсхліпвала. А Жорык



ужо думаў аб другім. Куды цяпер ісці? Як знайсці вуліцу, дзе жыла цёця Валя? І ён спыніўся ў нерашучасці. З усіх бакоў пазіралі на яго пустыя чорныя праломы разбураных дамоў.

— Дзеткі, каго вы шукаеце? — ласкава нахілілася да іх гарадская кабета ў белай пуховай хустцы.

— Цёцю Валю, — паспела адказаць раней за Жорыка дрыжачым голасам Верачка.

— Цёцю Валю? А якія ж вы брудныя. Хіба вас прыме такіх цёця Валя?

— Прыме! — упэўнена пацвердзіў Жорык. — Яна наша... — баючыся сказаць слова піянерважатая, нясмела прамовіў Жорык. — Ну, мама...

— Дзіўна. І цёця, і мама, і Валя. А дзе ж яна жыве?

— Дзе гарсавет быў. Там на рагу вуліцы дом разбураны.

— Пойдзем хутчэй, — сціснуўшы іх за рукі, прашаптала незнаёмая. — Ужо вечарэе, а позна хадзіць забаронена. Нас арыштуюць.

Дзеці пайшлі амаль подбегам. Паліцаяў яны абыходзілі, як было зручней, а салдатам саступалі з дарогі.

Марыя Іванаўна, пабачыўшы брудных, запэцканых дзяцей, толькі ўспляснула рукамі.

— Ах вы, няшчасныя! Жорык, Жорык! Што ж гэта ты нарабіў?! Валечка, бедненькая, толькі што з дарогі прыйшла, ногі ў сіняках, і адразу ж пабегла да вас. А аб вас ні слуху, ні духу. І бабулька рукі ломіць ад гора. Бедная Валечка! Яна назад прыбегла ды зноў пабегла шукаць нямаведама куды...

Марыя Іванаўна закончыла свае прычытанні і загадала мыцца. Слёзы самі капалі з вачэй Жорыка. Толькі цяпер ён пачынаў разумець, колькі клопатаў прычыніў ён гэтым добрым людзям. Плакаў ён не таму, што быў галодны і на твары шчымелі сінякі. Плакаў ён ад ласкі чужых людзей, ад таго, што прынёс ім шмат болю. І што з таго, што яго кругом абступілі сябры і пазіралі як на героя? Ён, можа, і раскажа ім пра кіно, але толькі тады, калі цёця Валя, і бабулька, і Марыя Іванаўна даруюць яму і перастануць хвалявацца.

На незнаёмую, што прывяла дзяцей, спачатку ўсе забыліся. Яна моўчкі стаяла каля парогу і нічога не магла зразумець. Што гэта? Адна сям'я ці дзіцячы дом, ці яшчэ што? Марыя Іванаўна спахапілася, запрасіла яе сесці.

— Не, не! Каменданцкі час, — адмовілася тая. — Я пайду. Толькі скажыце, што гэта за дзеці? І не падобныя адно да другога, і дружаць, як родныя?

— Сіроткі. Бацькі загінулі. Не пакінеш жа іх на вуліцы...

Незнаёмая мянялася ў твары. Нейкія душэўныя сілы — ні то папроку самой сабе, ні то спачування — бурлілі ў ёй.

— Запомніце мяне. Калі трэба дапамагчы ў чым, што магу, тое і зраблю. Добрыя вы людзі. Жадаю вам шчасця, — сказала яна на развітанне.

## ДАРОГА Ў ПЕКЛА

Неспакойныя дні, неспакойныя ночы. А колькі іх прамінула! А весткі, колькі б іх ні прыносілі людзі, былі нярадаснымі. Дзе фронт, што там робіцца, ніхто дакладна не ведаў. Па вуліцах горада насіліся ма-

тацыклісты, то там, то тут чуліся стрэлы, і абавязкова былі забітыя, арыштаваныя. Так што вечарам і святло запаліць было боязна. Прыходзілася завешваць вокны, нават гаворка за цаглянымі сценамі вялася напаўголаса або шэптам. Дзеці, павячэраўшы, адразу кладіся спаць. А гаспадыні доўга не маглі заснуць: на іх ляжаў вялікі клопат.

Бывала, вернецца Марыя Іванаўна з горада, навін прынясе: таго павесілі, таго арыштавалі... А то з фронта вестачку прачуць удалося. У Сталінградзе баі ідуць.

Калі вестка сумная, сядзе Марыя Іванаўна, зажурыцца. І Валя маўчыць. Чакае, пакуль што-небудзь скажа Марыя Іванаўна. А калі вестка была радасная, тады абедзве жанчыны рабіліся гаваркімі, вясёлымі. Валя больш за ўсё ўспамінала Міхася. Марыя Іванаўна заўважала:

— Нічога, Валя. Не вечна ж жыць нам у гэтым пекле. Калі-небудзь ды пасвятлее. Яшчэ вяселле згуляем, пабачыш...

Загаворацца яны так, а на вуліцы прагучыць які-небудзь крык ці стрэл, паспешліва затупае нехта па тратуары. Тады газніца імгненна тушыцца, і ў хаце наступае цішыня.

Праўда, ці мо' таму, што непадалёку знаходзілася гарадская ўправа, але ў раёне, дзе жылі Марыя Іванаўна і Валя з дзецьмі, было ціха. У другіх раёнах, на ўскраінах, не было спакою ні днём, ні ноччу.

Ды вось аднойчы адбылося нешта неспадзяванае.

Раніцай пад дзвярмі ляжала паперка. Марыя Іванаўна дрыжачай рукой падняла яе, расштурхала Валю.

«Валя! — пісалася ў запісцы. — Мы ўсё пра цябе ведаем. Так магла зрабіць толькі сапраўдная патрыётка. Ты пайшла на вялікі подзвіг, і ведай, што ты не адна. У цябе шмат сяброў тут, блізка, кругом. Рабі тое, за што ты ўзялася. Мы ва ўсім табе дапаможам. Чакай нашага наступнага слова.

Твае сябры».

Валя прыціснула запіску да грудзей і заплакала ад радасці. Хто пісаў, яна пазнаць не магла. Ці то пісалі яе школьныя сябры, што засталіся ў горадзе, ці то зусім незнаёмыя людзі, што як-небудзь даведаліся пра яе лёс і рашылі падбадзёрыць добрым словам, не маючы нічога іншага. А можа і Міхась, родны Міхась з сябрамі ходзіць дзе-небудзь блізка па руінах і не мае магчымасці зазірнуць сюды...

Свае людзі, хто б яны ні былі, але і за гэта дзякуй. Сапраўды, яна ж тут не адна. Марыя Іванаўна, Раманіха, бабка Манухіна... А хіба мала такіх людзей у горадзе! Яны ж свае, савецкія...

Першая радасць толькі падражніла Валіна сэрца. Колькі пасля гэтага дзяўчына ні чакала новай весткі ад сваіх невядомых сяброў, але яе ўсё не было. І колькі ні глядзела Валя праз акно на людзей, што праходзілі міма, нікога распазнаць не магла. Нікому не было справы да іхняй кватэры.

Праўда, аднойчы госці заглянулі, але не тыя, якіх чакала Валя. Позна вечарам, калі дзеці ўжо спалі, зайшлі афіцэр, перакладчыца, два паліцаі.

— Божухна, — вырвалася з грудзей Марыі Іванаўны, калі яны з'явіліся на парозе. Яна пабялела і асела на зэдлік.

— Спакойна. Праверка дакументаў, — абвясціла перакладчыца.

Валя замерла каля пліты, баючыся бразнуць пасудай. Паліцаі адчынілі дзверы ў спальню. Афіцэр асвятліў ложкі і сцены ліхтарыкам. Адышоў ад парога, нешта ціха сказаў перакладчыцы і паморшчыўся. Паліцаі ж доўга шныпарылі ў пакоі, заглядалі пад ложкі, у шафу, а потым выйшлі і паказалі на пальцах, моў, толькі шасцёра малых дзяцей.



— Кіндэр, кіндэр, — у такт заматала галавой перакладчыца. — Кляйнэ. Зэкс...

— Фраў гут, — з усмешкай працадзіў афіцэр, паказваючы на Валю, і нешта яшчэ дадаў па-нямецку.

— Пан афіцэр пытае, чые гэта дзеці і дзе іх бацькі, — перадала яго словы перакладчыца.

— Дзеці нашы. А чые ж яшчэ, — з прытворным спакоем адказала Марыя Іванаўна. — Яе муж кінуў... Яе самае меньшанькае. А маіх пяцёра. *Мой як пайшоў* у першы дзень вайны на завод, дык і цяпер няма. Можа дзе бомбай забіла...

Валя сапраўды за гэты час настолькі пастарэла, што яе можна было прыняць за кабету. Пад вачыма ляжалі сінія кругі, твар схуднеў, выцягнуўся, там-сям з'явіліся маршчынкі.

— Ой, Валечка, — пачала прычытаць Марыя Іванаўна, калі афіцэр і паліцаі вышлі, — калі зайшоў той рабы паліцай, я ледзьве прытомнасць не страціла. Гэта ж Жорыкаў бацька. Здалося мне, што ён усю маю душу бачыць наскрозь і вось-вось спытае: дзе вы хлопчыка дзелі? Што тады было б яму сказаць? Гэта ж жах адзін з такім зверам гаварыць.

— А мне, цёця, цяпер чамусьці нічога не страшна. Неяк звыклася я з нашым становішчам і нічога ўжо не баюся.

— Яно так, Валечка: калі чалавек верыць у сваю праўду, дык яму нічога не страшна. Але ты заўважыла, якія страшныя ў яго вочы. Вось, здаецца, з'есць цябе, як той воўк. Цяпер ужо ад іх адбою не будзе. Нешта нядобрае прынеслі яны ў нашу хату, я гэта адразу адчула.

Узрушаныя прыходам нечаканых гасцей, Валя і Марыя Іванаўна прашапталіся да рання.

Прадчуванні Марыі Іванаўны спраўдзіліся. Праз некалькі дзён Валі прышла павестка з'явіцца ў гарадскую ўправу. Неўзабаве прышоў і нарад з паліцыі. Той самы рабы паліцай нічога і слухаць не хацеў.

— Дзеці? Што дзеці? Фюрэр заклікае нас, хто не страціў сумленне, замяніць доблесных воінаў на вытворчасці, каб быць вартымі перамогі і карыстацца яе здабыткамі. Фюрэр заклікае цябе паслужыць еўрапейскай цывілізацыі, тупая твая галава, — заключыў нарэшце ён. — Збірайся!

— А як жа дзеці? Пашкадуйце дзяцей... — залемантавалі Валя і Марыя Іванаўна.

— Дадзім і дзецям парадак. Гэта не ваш клопат. Фюрэр выхавае з іх сапраўдных воінаў, — і рабы адвярнуўся, калі пабачыў, як шчыльна абступілі Валю босенькія, перапалоханыя дзеці. — Напладзілі тут...

Ён падышоў да Валі, чэпкімі рукамі адарваў яе і штурхнуў у плячо. Валя вымушана была ісці. Працэсія апынулася на вуліцы. Наперадзе Валя і паліцаі, а за імі з плачам і крыкам малыя басаногія дзеці.

— Не пакідайце нас, — чуўся енк на ўсю вуліцу.

Рэдкія прахожыя на момант спыняліся і, робячы выгляд, што нічога не заўважаюць, прыцішаным крокам ішлі далей.

Валю пагналі хутчэй, і дзеці пачалі адставаць. Яна час-ад-часу азіралася, махала рукой, але дзеці ўжо не чулі яе слоў.

...Пасля рэгістрацыі ва ўправе Валя трапіла ў тую ж школу, у якой вучылася. Цяпер школа была ператворана ў зборны пункт па адпраўцы беларускай моладзі ў Нямеччыну. Школьны двор, абгароджаны высокім плотам, ахоўваўся з усіх бакоў. Варта стаяла і ў памяшканні. Сотні людзей былі сагнаны сюды з горада і навакольных вёсак. Людзі размяшчаліся дзе хто. Адны сядзелі пад плотам, пад маладымі дрэўцамі. Другія ў школьных калідорах і класах. Трэція туляліся між незнаёмага натоўпу, шукаючы нямаведама чаго. Вясковыя мелі пры сабе торбы з ежай, гарадскія найбольш былі з пустымі рукамі. Былі тут і жанчыны з дзецьмі, былі і зусім маладыя хлопцы і дзяўчаты.

Адной думкай і адзіным жаданнем Валі ў гэты час было знайсці выхад і, чаго б гэта ні каштавала, збегчы адсюль. Яна, не звяртаючы ні на каго ўвагі, абышла двор, агледзела класы.

Ні калідора, ні класаў пазнаць было нельга. Замест партрэтаў на сценах былі развешаны фашысцкія плакаты, якія ўсхвалялі нямецкі «райх» і заклікалі дабраахвотна ехаць у Германію. На адным плакаце каляровымі фарбамі была намалявана белая ўкраінская мазанка з вішнёвым садком і мальвамі. Каля ганку на лавачцы сядзелі шчаслівыя муж і жонка, а побач белая каза шчыпала траву. Вось якая ідылія чакае тых, хто дабраахвотна згодзіцца працаваць у Нямеччыне. Свая зямля, свой домік, свая каза, свой куток, дзе можна спакойна дажыць да старасці. На другім плакаце малады рабочы паказваў рукой на нямецкія прамысловыя гіганты і заклікаў брацъ з яго прыклад — дабраахвотна ехаць у цывілізаваную Нямеччыну, каб набыць спецыяльнасць і ўнесці свой уклад у перамогу над «азіятамі з Усходу».

Валя з агідай адвярнулася ад плакатаў і намерылася выйсці на двор, але нехта крануў яе за руку.

— Пойдзем са мной!

Валя азірнулася. Перад ёй стаяў зусім малады паліцай са знаёмым тварам. У класе, куды яны зайшлі, нікога не было. Паліцай паказаў на школьную дошку, на якой акуратнымі літарамі мелам было выведзена: «Мы — не рабы!»

— Хто гэта напісаў?

— Адкуль я ведаю? Мне дадому трэба! Навошта вы мяне трымаеце тут? Адпусціце. Вы ж свой, наш чалавек. Я вас недзе бачыла...

— Вы мяне нідзе не бачылі і не маглі бачыць, — прыгразіў пальцам паліцай і перайшоў на шэпт.— Хутка прыдзе агітатар, кіраўнік беларускай моладзі... Вас паклічуць на мітынг на школьнай пляцоўцы. Вядзіце сябе прыстойна. Мяне як быццам не ведаеце. Што рабіць далей, скажу. Прывітанне ад Міхася, — адказырнуў паліцай і выйшаў.

Валя выйшла з памяшкання і села пад клёнікам. «Няўжо і Міхась з імі? Няўжо ён так лёгка мог расстацца з камсамолам і пайсці служыць ворагу? А я ж кахала яго, клялася чакаць да канца вайны...»

Мітынг пачаўся пасля абеду. На невысокую трыбуну, каля якой калісьці праходзілі піянерскія зборы, падняліся тры немцы, некалькі рускіх, сярод якіх Валя пазнала таго, бялявага, якога бачыла Марыя Іванаўна ў гарадской управе. Кучаравыя белыя валасы, роўныя белыя зубы... Так, гэта ён. Валя пазнала яго адразу. Ён прысутнічаў калісьці на экзаменах, калі Валя заканчвала дзевяты клас. Толькі прозвішча яго Валя ўспомніць не магла. Падысці бліжэй яна баялася. Каля трыбуны і ля прыступак стаялі паліцаі. Рабы, відаць, быў сярод іх старэйшым, бо яго загады выконвалі ўсе астатнія. Ён расштурхоўваў людзей, падганяў бліжэй да трыбуны тых, хто стаяў воддаль.



Валя адшукала вачыма таго, з якім гаварыла ў класе, і ёй чамусьці зрабілася весялей. Нейкая няўлоўная сімпатыя была ва ўсім яго вобліку. А Міхася не было. Дарэмна яна хвалявалася. Валя праціснулася бліжэй да трыбуны і стала непадалёку ад гэтага маладога паліцая, але не падавала выгляду, што ведае яго.

Першым пачаў гаварыць гарадскі галава, лысы, сярэдніх год, у чорным новым гарнітуры. Ён гаварыў нядоўга, пачціва пакланіўся, даючы слова немцу з сівымі скронямі. Прадстаўнік улад па набору ў Нямеччыну, пераймаючы свайго фюрэра, гаварыў энергічна, з запалам, уздымаў угору кулакі. Яго мала хто разумеў. Але вось наперад выйшаў «арганізатар беларускай моладзі», шэф па набору ў Нямеччыну — бялявы школьны інспектар.

— Панове, спадары! На вашу долю выпаў вялікі гонар быць першымі добраахвотнікамі вялікай арміі працы, якая рушыла з усёй Еўропы да сваёй вызваліцельніцы Нямеччыны. Доблеснае нямецкае войска нас вызваліла з-пад няволі, дало магчымасць будаваць сваю самастойную дзяржаву Белую Русь. А каб заваяваць права быць будаўніком сваёй незалежнай дзяржавы, трэба канчаткова дабіць Саветы і на Уральскім хрыбце ўзняць сцяг перамогі. Ужо блізкі гэты час. Нашы войскі атакуюць апошні рубеж — бальшавіцкі Сталінград. Дык дапаможам жа нашым вызваліцелям дасягнуць гэтай высокай мэты. Да вас звяртаецца фюрэр і ўся германская нацыя...

— Хто яшчэ хоча сказаць? — звярнуўся да прысутных галава.

Натоўп маўчаў.

— Смялей, панове! Гэта ж не пры Саветах. На Салаўкі не сашлюць, калі што-небудзь не так...

З натоўпу выйшаў мужчына ў рабочай ватоўцы. Шапку ён трымаў у руках. Доўгая, нястрыжаная чупрына звісала на лоб. Цёмная няроўная барада рабіла яго твар не па гадах старым.

— Мне можна? — спыніўся ён каля трыбуны.

Галава стаяў у нерашучасці. Немец, што гаварыў першым, дабрадушна ўсміхнуўся і ў знак згоды кіўнуў галавой. Чалавек у ватоўцы падняўся на трыбуну. Усе затаілі дыханне.

— Тут высокія паны гаварылі аб вызваленні,— пачаў прамоўца цвёрдым голасам. — Дзякуй вам за такую ласку, — і ён пакланіўся тым, хто стаяў на трыбуне. — Вызвалілі вы нас, а мы ад радасці не ведаем, што рабіць, не ведаем, да чаго рукі прыкласці. Праўда, калі вызвалялі наш горад, мая хата згарэла, жонка і сын загінулі пад бомбамі. Дык я сабе зямлянку выкапаў і жыву сабе нічагусенькі. Ды вось бяда — ніяк да толку не дайду. Вось гэты пан, — паказаў ён на «арганізатара моладзі», — учора яшчэ гаварыў, я сам чуў, што немцам туга пад Сталінградам, а сёння другое гаворыць. Выходзіць, нікому нельга верыць.

Немцы непрыязна паглядалі на «арганізатара». Рабочы ў ватоўцы гаварыў больш упэўнена. Цяпер ён ужо спяшаўся.

— Не верце ім, усім вось такім, — кіўнуў ён галавой на трыбуну. — Да вайны стопрацэнтным начальнікам быў, а цяпер ужо чужы сцяг над Уралам хоча падняць. Хай ужо гэтыя вызваліцелі гавораць, дык на тое яны прыйшлі сюды. А ён чаго лезе? Што яму трэба? Хто падымае руку на брата, на бацьку... Яны кажуць, што не сашлюць. Дык затое на шыбеніцу ўздымуць...

Але тут дагэтуль спакойны афіцэр рэзка штурхнуў у грудзі рабочага. Натоўп загудзеў, скрануўся з месца, і раптам усю трыбуну акружылі паліцаі. Яны нацэліліся на людзей. Вінтоўка маладога паліцая глядзела проста на Валю. Яна толькі крыху падалася назад і спакойна зірнула ў вочы знаёмаму паліцаю. Яго адкрыты позірк і даверліва адтапыраныя губы заспакоілі яе. Нешта сваё, блізкае адчула яна ў гэтым юнаку.

Акрываўленага рабочага павялі к машыне.

— Не верце... падлюкам... Германія катарга, а не рай... Працаваць на ворага... — крычаў ён, як мог, на хаду.

Апусціўшы вочы ўніз, прайшоў «арганізатар моладзі», гарадскі галава і ўсё начальства. Па камандзе афіцэра паліцаі пачалі заганяць людзей у памяшканне школы. У дзвярах паставілі ахову. Людзі размясціліся проста на падлозе. Дырэктарскую занялі «шэфы» з Нямеччыны. Настаўніцкая была адведзена паліцаям. Туды час-ад-часу выклікалі тых, хто трапляў на вочы, найбольш дзяўчат, і адтуль па калідоры, як рэха, разносіўся вясёлы рогат. Дзяўчаты выходзілі са слязьмі і хаваліся ў самыя далёкія куткі.

Для пагрузкі ў вагоны на таварную станцыю людзей адпраўлялі ноччу невялікімі групамі пад узмоцненай аховай. Вуліцы былі змрочнымі і пустымі. Ахвотнікаў існці першымі было мала, а таму людзей вырывалі з натоўпу сілай. Разлучалі сяброў і сябровак, братоў і сясцёр, землякоў і суседзяў. У школе стаяў суцэльны лямант.

Валя разам з усімі выйшла на двор і ў зручную хвіліну падалася да агарожы. Але ў цемры нехта моцна схапіў яе за руку і штурхнуў пад святло ліхтарыкаў.

— Вы бачылі? Уцякаць задумала, — задыхаўся ад злосці паліцай, што затрымаў Валю. — Дык табе новы парадак не падабаецца? А? Гавары. Супраць улады бунтаваць уздумала?

— У канцылярыю! — пачула Валя голас канапатага. — Там разбярэмся, хто яна і што. Там яе навучым...

Тут з цемры вынырнуў той малады паліцай, з якім Валя гаварыла днём.

— А-а-а! Папалася. Вітаю. Ну, што ж, пойдзем! Там цябе правучаць, — злосна пагражаў ён. — Дазвольце, спадар начальнік, учыніць ёй суд.

— Давай, — махнуў канапаты.

Калі яны адышліся ўбок, паліцай прашаптаў:

— Што ж гэта вы так? Жартуеце? Хіба ж так робяць? А калі б мяне не было, то што б тады? Вась завуць Валяй?

— Так.

— Вось што, Валя. Пастарайцеся быць у калоне, з якой пайду я. Можа ўдасца адпусціць вас. Але, ведайце, мне таксама рызыкаваць нельга. Міхася я добра ведаю. Ён гаварыў мне пра вас. Ды я вас бачыў часта разам. Напэўна, забыліся. — Ён сунуў Валі ў рукі нешта цяжкое, жалезнае. — Калі не ўдасца тут, дык адбівайце люк на хаду. Толькі скачыце не назад, а наперад, па ходу цягніка... —А потым шэптам дадаў: — Партызаны ўвесь час узрываюць чыгунку. Можа і вам пашанцуе... Ну, усяго, Валя, — перайшоў ён на «ты» і моцна пацiснуў ёй руку.

Валя нічога не разумела. Яна хацела спытаць, як гэты хлапец, сябар Міхася, трапіў у паліцыю, дзе цяпер Міхась, — але не паспела. Паліцай адразу знік.

Аднак на гэты раз Валю не адправілі. Немцы былі злосныя і нервовыя. Замест таго, каб садзіць людзей у вагоны, іх сагналі ў памяшканні



таварнай станцыі і там трымалі некалькі дзён. Усе шапталіся аб тым, што недзе на чыгунцы была зроблена буйная дыверсія, і рух нямецкіх цягнікоў спыніўся.



Нарэшце, зноў пачалася адпраўка. Грузілі ў таварныя вагоны з-пад вугалю. Жанчын асобна, мужчын асобна. У вагонах было цесна.

Каб крыху сагрэцца, людзі прыхіналіся адно да аднаго. Многія плакалі, развітваючыся з роднай зямлёй, з сем'ямі і бацькамі.

Сэрца ў Валі заныла. Няўжо яна назаўсёды рассталася з дзецьмі і ніколі іх не пабачыць? Як яны будуць, калі штонебудзь здарыцца і з Марыяй Іванаўнай, або з бабкай Манухінай, або з Раманіхай?

Праз шчыліны прабівалася дзённае святло, і толькі адным вокам можна было пабачыць заснежаныя палі, зацярушаныя снегам хаты, сівыя дрэвы.

Эшалон, нагружаны дапаўна, спяшаўся на захад. Усе ў вагоне чамусьці з трывогай пыталіся, ці пераехалі граніцу. Валя думала аб тым жа. Яна, прыгнечаная і ўражаная тым, што адбылося за гэтыя дні, забылася нават, навошта даў ёй паліцай важкую жалезіну. Калі б яна не адчувала сябе такой самотнай, мела верных падруг, то тады яна не сядзела б так. Яны б ужо прабівалі сабе шлях на волю.

— Хутка Брэст. А там ужо і не думай вырвацца, — шаптала яе суседка. — За Брэстам граніца, — уздыхнула яна. — Чужая зямля пачнецца... Куды вязуць, хто ведае? Можа дзе ў шахты павыкідаюць ці ў лагеры запруць...

Неразгаданыя пытанні... Сумныя думкі... Набалелыя сэрцы.

На станцыях за дашчатымі сценамі вагонаў чуліся нейчыя галасы, смех, грукат ботаў па перонах. А цягнік зноў ішоў далей на захад. Ён то імчаўся на ўсю хуткасць, то падоўгу стаяў на станцыях. Людзі, стомленыя няспыннымі трывогамі, пачыналі ўжо драмаць, калі раптам пачуўся страшэнны выбух. Вагоны здрыгануліся. Людзі papadaлі адзін на аднаго. Ад вугальнага пылу нельга было дыхнуць.

Услед за выбухам пачулася страляніна. Кулі прабівалі сцены вагона. Усе кінуліся на падлогу з радасным крыкам: «Нашы! Партызаны! Ла-

жыся!» Па-суседству ўжо трашчалі сцены вагона, відаць, там былі мужчыны.

Страляніна набліжалася, чутно было: «Ура!» Раптам адчыніліся дзверы. Валя ўбачыла людзей з аўтаматамі, у ватоўках, кажухах. Яны заглядалі ўнутр і крычалі:

— Хто жывы, вылазь!

Збоку стаяла з узнятымі ўгору рукамі нямецкая ахова эшалона. Валя толькі цяпер адчула ў руках жалезіну і інстынктыўна шпурнула яе ў бок немцаў. Недзе наперадзе бездапаможна чмыхнуў паравоз. Эшалон пачаў гарэць.

Па камандзе ўсе пачалі адыходзіць у лес. Недзе на чыгунцы ў цемры завязаўся бой. Гарачая кулямётная і аўтаматная перастрэлка наводзіла страх на вызваленых.

Ішлі ўсю ноч лясамі, балотамі, палянкамі. Начная цемра паглынала ўчарашніх нявольнікаў і партызан.

У лагеры сярод замёрзшых балот на хвойнай выспе гарэлі вогнішчы. Пад шатамі дрэў віднеліся буданы. Усім дазволілі грэцца каля агню. Толькі тут палоннікі змаглі паглядзець у твар сваім выратавальнікам. Партызаны з незахаванай цікаўнасцю слухалі пра парадкі ў горадзе, расказвалі аб франтавых падзеях.

Раніцай усіх па чарзе выклікалі ў штаб — прасторную, утульную зямлянку з нарамі і печкай-буржуйкай, распытвалі, хто адкуль, чым займаўся да вайны і пры акупацыі, як трапіў у лагер на адпраўку ў Германію. Гэта, відаць, быў адзін з перадавых пунктаў партызанскай зоны, бо днём пешшу і конна з'яўляліся групы партызан і зноў знікалі ў гушчары лесу.

Мала хто выказваў жаданне вярнуцца дадому.

Калі Валя зайшла ў штабную зямлянку, то адчула нейкую разгубленасць і баязлівасць, хоць ёй і не было чаго хавацца ад партызан. Яна акінула вачамі ўсіх, хто сядзеў за сталом. Пажылы мужчына з ледзь прыкметнай лысінай, у целагрэйцы быў пасярэдзіне. Збоку чыста паголены, у шынялі ў накідку — вайсковец. І з другога боку — жвавы і шчуплы сярэдніх год мужчына.

— Раскажыце, хто вы... — прапанавалі ёй.

Валя паспешліва расказала пра сябе і чамусьці заплакала. Усе прысутныя пераглянуліся.

— Што ж, вы добрую справу зрабілі. Добра, што і гэтага хлопчыка, Жорыка, не аддалі бацьку-паліцаю. Малайчына, Валя! Аб вас мы паведамім у штаб, у Маскву, і атрадам, што стаяць бліжэй к гораду, каб падтрымлівалі з вамі сувязь і па магчымасці вывелі дзяцей у лагер. Вам лепш вярнуцца к дзецям, — гаварыў вусач. — Ваш лагер быў у Зялёным лесе? Ведаю... Пасля абеду мы яшчэ раз сустрэнемся.

Валя выйшла са штаба і адчула, што жыццё для яе набыло цяпер нейкі іншы сэнс. Ёй хацелася застацца ў партызанах, быць сярод сваіх. Але яна ўспамінала дзяцей — сіратлівых, нячэсаных, нямытых, і, здаецца, ужо самі ногі неслі яе ў горад. Ёй трэба быць з дзецьмі. Валя цвёрда наважыла прасіць, каб ёй дазволілі вярнуцца ў горад.

Пасля абеду з ёй гаварыў толькі камісар.

— Вазьміце вось гэты «аўсвайс»,— падаў ён Валі паперку.— У ім напісана, што вы працавалі ў нямецкім шпіталі ў Брэсце і звольнены па хваробе. На цягнік сядзеце ў Гарадзеі або Стоўбцах, бо тут, дзе мы разбілі эшалон, і нямецкі пропуск не дапаможа. Затрымаюць. Ёсць весткі, што многіх, хто разбегся з эшалона, затрымалі ў навакольных вёсках і адправілі ў канцлагеры. Асцерагайцеся. Вазьміце вось крыху грошай — нямецкіх марак і савецкіх. Паёк вам выдадзім па нямецкай норме, каб ніхто не чапляўся...



Ноччу партызаны правялі Валю да хутара, ад якога была ўжо відаць чыгунка. Валя пайшла далей адна.

Зноў агарнулі яе невясёлыя думкі, адзінота і страх перад невядомым. Ці паверань яе дакументам? Ці ўдасца сесці на цягнік? Ці дабярэцца да горада? У чыстым полі дзьмуў халодны, калючы вецер. Дзікай і непрыглядпай здавалася мясцовасць. Доўга ішла Валя ўздоўж чыгункі даўно пратаптанай сцяжынкай, пакуль не трапіла на станцыю.

Перон быў пусты. Валя зайшла ў невялічкае памяшканне вакзала і пачала грэцца каля печкі. На лаве сядзелі тры дзядзькі, пілі гарэлку і закусвалі цыбуляй.

— Ото, халера, моцная!.. Аж за душу шчыпле, — выціраючы вусы, хваліў гарэлку адзін з дзядзькоў.

Валі стала весялей: усё ж побач былі жывыя людзі, што некуды ехалі, нечага шукалі.

Адзін з іх, маладзейшы, раз-по-раз выбягаў на перон і, вяртаючыся, паведамляў:

— Няма яшчэ.

І толькі калі загрукатаў па рэйках таварняк з вугалем, усе мігам выскачылі з памяшкання. За імі паспяшалася і Валя.

Таварняк стаяў на запасным пуці, а праз некалькі хвілін міма яго праімчаў без прыпынку эшалон з гарматамі і танкамі. З класных вагонаў чуліся песні на нямецкай мове, даносіліся гукі губных гармонікаў. У тамбурах таварняка стаялі з ліхтарамі ў руках цёпла апранутыя правадзікі. Валя папрасілася ў аднаго з іх, пажылога паляка, дазволу сесці ў вагон. Той заматаў адмоўна галавой, а потым, выглянуўшы з тамбура ў адзін, другі бок і ўбачыўшы, што ні немцаў, ні паліцаяў блізка няма, міргнуў Валі. Тая ўскочыла на падножку. Цягнік рушыў з месца. Валя працягнула праваднiку тры маркі.

— Ніц, ніц, паненка! — замахаў той рукамі. — Бронь божа, — гаварыў ён па-польску.

Стары растлумачыў, што і яго дачка блукае невядома дзе — у Нямеччыну забралі. Усім цяпер цяжка — і рускім, і палякам, і чэхам. Усіх крыўдзяць швабы... На прыпынках Валя хавалася за старога, і толькі перад горадам стары прапанаваў ёй злезці, бо ў горадзе эшалон будзе правяраць камендант...

* * *

Нарэшце Валя апынулася дома. З'яўленне яе і на гэты раз было для Марыі Іванаўны такой жа нечаканасцю, як і ў першыя дні акупацыі.

Дзеці, пачуўшы голас Валі, адразу ж павыбягалі з другога пакоя, дзе яны ўжо кладіся спаць. Першым з'явіўся Васілёк, потым Леначка і Воўка, а за ім прытэпала малая Раіска — дачка Марыі Іванаўны. Праўда, яна яшчэ зусім не разбіралася ў тым, што адбываецца навокал, але даўно прывыкла да Валі і заўсёды цягнулася да яе ручкамі. Валя пачаста-

вала іх «зайцавым» хлебам — падарункам партызан. У дарозе яна не адшчыкнула ні крошкі ад яго, усё берагла дзецям. Пакуль дзеці прагна елі хлеб, сапраўдны хлеб, якога яны даўно не бачылі, Валя разулася, памылася, прычасалася.

Яна прылягла з дзецьмі. Толькі тады, калі яны паснулі, хліпаючы ў сне ад хвалявання, Марыя Іванаўна нагаварылася з Валяй уволю. Здаецца, не так шмат часу прайшло, калі яны расталіся, а колькі падзей адбылося ў іх цяжкім і небяспечным жыцці.

Валя не магла стрымацца, каб не расказаць аб партызанах, аб тым маладым паліцаі, што гаварыў з ёю, калі адпраўлялі ў Нямеччыну.

— Ведаеце, я і давярала яму і баялася яго. І як ён трапіў у паліцыю? Ды і што гэта за дружба ў іх, калі Міхась б'е фашыстаў, а гэты іх абараняе?..

— Эх ты, Валя! Як кажуць, маладое яшчэ, зялёнае... Я за гэты час мудрэйшай стала, шмат аб чым даведалася, — перабіла яе Марыя Іванаўна. — Калі цябе нястала, схапілі гэтыя гады, я адчула, што на мне цяпер ляжыць увесь клопат аб дзецях. Бо што ж паробіш інакш? І вось пабегла па знаёмых, можа хто чым дапаможа. І, ведаеш, першую спаткала Зіну. І не дарэмна. Яна ведае таго ў лагеры, аб якім ты гаворыш. Яго паслалі ў паліцыю падпольшчыкі. Ён шмат дапамагае людзям. Дык Зіна ў мяне перш-на-перш і спытала: а ці вярнулася Валя? Што ж я магла ёй казаць? Няма. А мы спадзяваліся, кажа, на Колю! Гэта яна пра таго. Аж, бачыш, хлопец што мог, тое і рабіў, каб табе дапамагчы. Сярод сваіх людзей не прападзеш. Гэта праўда. На другі дзень Зіна прынесла мне тое-сёе з ежы, нават з вопраткі. Падпольшчыкі паклапаціліся. А цябе, Валя,— перайшла на ціхі шэпт Марыя Іванаўна, — яны лічаць сваёй у арганізацыі. Так мне сказала Зіна, бо ёй нечага было больш таіцца перада мной. Кажа, мы робім адну агульную справу.

Яны памаўчалі.

— Марыя Іванаўна, а што ж вы пра астатніх нічога не сказалі? — запыталася Валя. — Пра бабку Манухіну, пра Раманіху. Гэта ж таксама наша, адна сям'я... Як яны жывуць?

Марыя Іванаўна пачала па-парадку расказваць і пра іх.

Так яны прагаманілі ўсю ноч.

## ЦІ БЫВАЕ ГОРШ?

Не, напэўна, не бывае. Так здавалася Валі і Марыі Іванаўне, калі пачалі хварэць дзеці. Спачатку тэмпература з'явілася ў Леначкі. На твары яе выступілі чырвоныя плямы. Яна не хацела ні піць, ні есці. Потым захварэла Раіска — дачка Марыі Іванаўны.

Спачатку Валя пасялілася ў бабкі Манухінай, але, калі даведалася, што дзеці пахварэлі, махнула на ўсё рукой і прыбегла да Марыі Іванаўны.

— Што рабіць? Што рабіць?— ламала яна рукі ў адчаі.— Ні доктара, ні аптэкі.

— Дасць бог, ачуняюць... Хадзі, памажы мне тут...

Валя гладзіла гарачы лоб Леначкі і выходзіла на кухню.

— Было, Валя, яшчэ горш у тую вайну. Якраз немцы прышлі. Усё дабро вывезлі. Людзі галадаць пачалі. Бывала, заскочаць у хату, як



апантаныя, і патрабуюць: «Матка, давай яйка, бальшавікаў біць!» Так і ачысцілі ўсё. А тут тыф, дызентэрыя пачалася. Ляжаць усе ўпокат. Ніякага ратунку няма. У маёй цёткі хлопчык малы быў. Яна, бывала, чорт ведае куды па малако збегае. Прынясе кубачак, згатуе, дае малому. А той: «Не трэба, мама!» і не п'е. «Можа табе вадзічкі гатаванай?» Той матае галавой і шэпча: «Не трэба, мама!» Што яна ні рабіла, а хлопчык усё шаптаў: «Не трэба, мама!» Так і памёр ён... Людзі, як мухі мерлі. Потым нашы прышлі, шпіталяў нарабілі. Ледзь адратавалі людзей.

Назаўтра Марыя Іванаўна забрала апошнія маркі, што прынесла Валя, і накіравалася на рынак — адзінае месца, дзе можна было цяпер штонебудзь купіць, хоць і за вялікія грошы. Яна прынесла банку згушчанага малака, скрылёк сала, саматужных цукерак і невялічкі пачак стрэптацыту.

Дзяжурылі каля хворых па чарзе. Ужо за вокнамі па-веснавому шчабяталі вераб'і. Часцей заглядала сонца праз шыбы, а хвароба ўсё не выходзіла з хаты. Часам дзяжурыць прыходзіла Раманіха, дзялілася сваім мізэрным набыткам са сталовай. Яна з ног збілася, шукаючы каго-небудзь са знаёмых дактароў.

— Па суседству добры ўрач жыў якраз па дзіцячых хваробах. У гета забралі. Відаць, загінуў ужо. Другія невядома куды падзеліся... Тут, Валечка, як-небудзь да цёплых дзён дажыць, а там хлопцы дапамогуць... Кампрэс трэба к нагам. Кампрэс ад усякай прастуды добра.

Лена зусім ужо ледзьве дыхала. Нічога не брала есці. З мукі, што прынесла Раманіха, зварылі зацірку. Але ад заціркі яна адварочвалася і толькі прасіла піць. Валя амаль не адыходзіла ад Леначкі.

А над горадам праляталі савецкія самалёты. Людзі пазіралі ўгору з радасцю і надзеяй — «Нашы! Нашы ляцяць!»

Зеніткі стралялі, а ў такт ім, ашалелыя ад злосці і страху, пачыналі паліць з вінтовак і паліцаі. Яны спаганялі злосць на жыхарах, заганялі ў пад'езды будынкаў, арыштоўвалі.

Бурліла ручаямі вясна, іскрылася на сонцы...

Недзе ў лясах расцвіталі першыя кветкі вясны — пралескі. Дзьмулі паўднёвыя вятры. І так хацелася дыхаць на поўныя грудзі... А Леначка памірала... Над ёю стаялі тры жанчыны, якія шмат чаго бачылі і перажылі ў сваім жыцці. Аднак слёз яны ўтрымаць не маглі. «Не трэба, мама!» — як рэха, гучалі ў вушах Валі словы хлопчыка, што паміраў шмат гадоў таму назад ад нішчымніцы і скрухі...

Утраіх збівалі дамавіну і неслі праз увесь горад. Ішлі па Ленінскай, па Савецкай, як заўсёды хадзілі з маленства. Інакшых вуліц для іх не было. У горадзе быў вораг, чужаземец, а вуліцы засталіся савецкімі...

Каля маста да іх далучылася жанчына. Яна спачатку доўга глядзела на гэтую працэсію, нешта распазнавала, а потым падышла і кранула Валю за плячо. То была Зіна. Ці мала дарог яны прайшлі асеннімі начамі? Ці мала перажылі цяжкіх хвілін?

— Ты запіску чытала? — спытала Зіна.

— Чытала...

— І больш мы нічым не маглі дапамагчы. Нічым. Арыштавалі нашых хлопцаў. Стася, Міколу...

Валя кіўнула галавой. Перад яе вачамі ўсплыў вобраз таго маладога паліцая, што паказваў ёй на школьную дошку з надпісам «Мы — не рабы!» Гэта быў Мікола.

Трывожна шумелі на могілках хвоі, іскрыўся залацісты жвір пад нагамі, над галавой плылі празрыстыя воблакі, глыбокая сінява неба, а з галавы Валі не выходзілі словы: «Мы — не рабы!» З могілак яна адразу ж пабегла на ўскраіну, бо і там было няладна: занядужала бабка Манухіна, і даглядаць дзяцей ёй было цяжка. Калі Валя зайшла ў хату, тая ляжала на канапе і на чым свет стаіць лаяла немцаў.

— Не трэба так, пачуюць,— паспрабавала перасцерагчы Валя.

— Што там пачуюць? Хай чуюць. Мне цяпер усёадно. Хай яны перадохнуць, праклятыя!

Бурчэла яна і на Жорыка, хоць яны моцна пасябравалі паміж сабой, жылі ў згодзе. Яму найбольш перападала за непаседлівасць. Жорык завёў сабе на вуліцы дружбакоў. Яны ўсёй хэўрай накіроўваліся на могілкі і гулялі ў вайну. Верачку не прымалі ў гульню, а калі прымалі, то давалі ёй самую нязначную ролю. Тая крыўдзілася і бегла скардзіцца бабцы. Тады яна брала дубец і дапытвалася:

— Дзе ён, свавольнік? От я яму!

Жорыку было забаронена выходзіць са двара. Дзеці хадзілі каля плоту і толькі дражнілі хлопца. Аднойчы яны паклікалі Жорыка да сябе. Той, азіраючыся, падышоў бліжэй.

— Жорык, чуеш?.. — шапталі яны. — На вось паглядзі, што мы дасталі.

Яны падалі Жорыку скамечаны лісток паперы. Жорык разгладзіў яго і пачаў чытаць:

«Браты і сёстры! Хутка наступіць дзень вызвалення. Савецкая Армія б'е гітлераўцаў на ўсіх франтах, гоніць іх на захад. Наша армія заняла Варонеж, Растоў. Вядзе баі на падступах да Харкава і Арла...» Жорык стараўся ўспомніць, далёка гэта ці блізка ад яго роднага горада.

— А ведаеш, дзе яна ляжала? Каля могілак пры дарозе. Я чуць на яе не наступіў, — выхваляўся ўчарашні памочнік Жорыка па гульні ў вайну.— Яны кажуць, што гэта з самалёта скінулі. А я кажу, што не. Гэта нашы падпольшчыкі надрукавалі, каб на немцаў страх наганяць.

І тут жа ў дзяцей нарадзілася думка: гуляць у падпольшчыкаў.

— Я нават ведаю, дзе зброя ляжыць. У акопчыку на могілках. Прысыпана пяском. Толькі нікому не кажыце. Падпольшчыкі не выдаюць тайны, — сказаў адзін з хлапчукоў. — Хочаце, я магу зараз паказаць гэты акопчык.

Жорык падумаў:

— Я згодзен. Але падпольшчыкі павінны дзейнічаць ноччу, бо якія ж гэта падпольшчыкі днём.

Так і вырашана было: у бліжэйшую ноч сабрацца на могілках. Дзяўчынак не запрашаць — румзаць будуць. Ды яшчэ тайну выдадуць.

Калі Валя даведалася аб гэтым, ёй ажно млосна стала. Яна прачытала лістоўку, якую знайшлі хлапчукі.

— Дзе ты яе ўзяў? Ты ведаеш, што за гэтую лістоўку магло быць усім нам? Гэта ж — смерць, — сказала Валя. — Колькі я табе гаварыла, Жорык, слухай старэйшых. Больш сіл у мяне няма. Леначка памерла. Есці няма чаго. Абарваныя ходзім, як старцы. Кожную хвіліну бойся, калаціся. А ты яшчэ сам наклікаеш на сябе бяду... Пайду я, Жорык. Пакіну я вас і больш не вярнуся. Можа так лепей будзе...

Жорык плакаў. Можа толькі цяпер да яго дайшло тое, да чаго магло прывесці яго свавольства.

— Не хацеў я нікога пакрыўдзіць... Вы ж самі казалі, што фашысты — гэта ворагі. Не даюць нам вучыцца...



Валі стала шкада Жорыка. Яна прытуліла яго да сябе і пачала гладзіць мяккія ільняныя валасы.

— Дурненькі ты яшчэ, мой хлопчык. Нічога не разумееш. Правільна, што фашысты нашы ворагі. Яны ва ўсім вінаваты. Яны пайшлі вайной на нас. З імі трэба змагацца. Але ж гэта справа дарослых. Яны дужыя, разумныя. У іх зброі шмат. Яны б'юць фашыстаў і хутка вызваляць нас. А вы ж дзеці яшчэ, слабенькія, малыя, нічога не разумееце. Вось і твой тата на фронце як герой ваюе з ворагам, — Валя ніколі не гаварыла Жорыку праўды пра яго бацьку.

Калі Жорык пачуў, як смела ваюе з фашыстамі яго бацька, у яго радасцю заіскрыліся вочы.

— Ну, скажы мне, што ты больш не будзеш так рабіць, мой хлопчык.

Жорыку ажно горача стала, і тое, аб чым гаварыла яму Валя, ён ужо добра разумеў.

## АДНА СЯМ'Я, ХОЦЬ І КУТКІ РОЗНЫЯ

Сувязь з Марыяй Іванаўнай і Раманіхай была штодзённая. Праўда, Валі было ўсё цяжэй дабірацца да іх, бо яна лічылася высланай у Нямеччыну і было небяспечна трапіць на вочы каму-небудзь з паліцаяў, якія яе ведалі, асабліва рабому. Ідучы на кватэру Марыі Іванаўны, яна апранулася ў рыззё, не прычэсвалася. Часта бывала тут і Раманіха. Яна даўно ўжо вяла з сувязнымі перагаворы, каб пры зручным выпадку перадаць дзяцей у партызанскі лагер. Але пры неспакойным партызанскім жыцці не заўсёды знойдзеш такі выпадак — то зіма не дазваляе, то блакада, то падрыхтоўка да якой-небудзь важнай аперацыі.

Раманісе так і перадалі, што цяпер сапраўды партызаны збіраюцца ў адказны рэйд. Камсамольская арганізацыя атрада абмежавалася тым, што прыслала крыху ежы, сёе-тое з вопраткі і паабяцала не пакідаць дзяцей без увагі. «Іх трэба выхоўваць, як савецкіх патрыётаў. Яны яшчэ спатрэбяцца Радзіме», — так пісалі камсамольцы.

Да сэрца прышліся Валі гэтыя словы. Яны адкрывалі перад ёй нязведаны рамантычны свет, светлы і шырокі. Уяўляліся мірныя дні перамогі, светлае неба. Думала Валя і пра сваю маці. Ці ўдасца адшукаць яе? Ніхто ж не бачыў сваімі вачамі, што яна загінула ў першыя дні вайны. Ніхто не бачыў таксама, што яна эвакуіравалася. Валя верыла, што яна знойдзе маці.

Калі аднойчы Валя прышла да Марыі Іванаўны, тая насцярожана пазвала яе на кухню.

— Добра, што ты пайшла ад нас, Валечка. Можна сказаць, выратавала нас усіх. Нехта сказаў рабому, што нібыта бачыў яго сына, Жорыка, каля нашага дома. Прыляцеў той, як шалёны, дзяцей перапалохаў. Прыстаў да мяне: «Дзе сына падзелі?!» Да сцяны ставіў, гад пракляты. Я малюся-прашуся, што не ведаю ніякага яго сына, што нехта абазнаўся. А ён сваё чаўпе: «Дзе тая, што ў вас жыла? Яна ведае!» Гэта ён пра цябе гаворыць. Дык я і кажу, што вы ж забралі яе ў Нямеччыну. Адкуль жа мне ведаць, дзе яна? Вы забралі, вам і ведаць. Доўга ён тут крычаў, каб яго немач. Дзеці ў плач. І я калачуся ўся. Такі вар'ят што хочаш можа зрабіць. Адстаў нарэшце. Пайшоў, грозячыся. Бач, чужых бойся, а сваіх гадаў яшчэ больш. І цяпер яшчэ часта каля нашага дома ходзіць: а можа я схлусіла, сына ад яго хаваю. Так што, Валечка, табе тут нель-

га паказвацца. Бяжы хутчэй. Калі што трэба, дык я сама прыду, або Раманіху пашлю. А ты сядзі там. Не бегай...

Валя адразу ж сабралася ісці. Марыя Іванаўна яе папярэдзіла:

— Пачакай. Я выйду пагляджу, каб не было каго, а то адразу і пападзешся. Цяпер жа ведаеш, які ў іх перапалох пайшоў. Партызаны ўсе чыгункі пашкодзілі. На станцыі столькі нямецкіх эшалонаў збілася, што няма куды іх дзяваць. Дык фашысты шалеюць ад злосці. Не, цяпер глядзі! Нявіннага падчэпяць. Лепш я цябе праваджу.

Валя пайшла. Яна цяпер старалася не выходзіць з хаты.

Аднойчы Валя не вытрымала і рашыла наведаць Марыю Іванаўну. Ёй хацелася параіцца. Яна адна не магла ва ўсім як след разабрацца. Горад напаўняўся старастамі і паліцаямі, якія ўцякалі разам з немцамі. Размяшчаліся новыя акупацыйныя ўстановы і шпіталі, прыбывалі воінскія часці для перафарміравання. Па вуліцах гналі ваеннапалонных. Моцная ахова і аўчаркі суправаджалі кожную калону. Многія палонныя падалі на месцы і не маглі ўжо ўстаць. Іх тут жа прыстрэльвалі. Пасля кожнай калоны заставаўся крывавы след. Людзей выганялі падбіраць трупы і хаваць у брацкай магіле ў загарадным парку... Чуткі, што Савецкая Армія наступае і ўступіла ўжо на тэрыторыю Беларусі, не маглі ўтаіць і самі акупанты. Значыць, яна хутка будзе тут. Значыць, цяпер трэба быць асабліва асцярожным, каб захаваць жыццё малым...

Калі Валя падышла да знаёмых дзвярэй, яе ўразіў незвычайны малюнак. Каля сцен стаяла багатая мэбля, ляжалі нейкія скрынкі. Валя асцярожна адчыніла дзверы. На яе дыхнула пахам парфумы. У чыстым пакоі стаяла трумо, устаўленае бутэлечкамі і пудраніцамі, і перад ім сядзела чыста апранутая маладая жанчына.

Валя спынілася ў нерашучасці на парозе.

— Хто там? — пачуўся ўпэўнены голас. — Спадар Аўсей, заходзьце, — і ў дзвярах з'явілася дзябёлая жанчына з усмешкай на вуснах. Яна раптам ахнула і адступіла назад. — У нас няма чаго падаць жабракам!— абуралася гаспадыня.

Выгляд Валі быў такім, што яе сапраўды можна было прыняць за жабрачку.

— Я не прасіць прыйшла... Я... я... не разумею. Тут жыла мая знаёмая... Дзеці...

Валя яўна разгубілася і не магла сабрацца з думкамі.

— Дзеці... Знаёмая, — зняважліва перадражніла гаспадыня, а потым перайшла ў наступальны тон: — Гэта наш дом. Тут жыве спадар Абабурка. От, я зараз яго паклічу.

Валя, адступаючы назад, адкрыла спіной дзверы, выбегла на вуліцу і пабегла руінамі прэч.

«Спадар Абабурка, — паўтарала сабе Валя. — Ці не той рабы? Што ж гэта здарылася?..»

У Раманіхі Валя знайшла ўсіх. Марыя Іванаўна з журботным выглядам корпалася на кухні. Дзеці, замурзаныя, грэліся каля пліты, у якой тлела бадылле сланечніка.

Прыходу Валі былі рады ўсе. Малыя абступілі яе, чапляліся хто за рукі, хто за вопратку. Валя ўсіх пацалавала.

— Ах, вы мае, любыя! Як вы падраслі, пахарашэлі.

Марыя Іванаўна павесялела.

— Я хацела бегчы да цябе, ды не сабралася. Выгнаў жываглот з кватэры. Павыкідаў усё. Апошнія харчы забраў, што хлопцы з лесу



прыслалі. Ну, хіба не будзе на яго божай кары! — зноў перайшла на пагрозы Марыя Іванаўна.

Каторы раз, пакуль дзеці сёрбалі нішчымную зацірку, сядзелі яны ўчацвярых, успаміналі мінулае і абмяркоўвалі, што рабіць.

Гэтым жа днём над горадам праляцеў савецкі самалёт. Ён пакружыўся і недзе знік за хмарай. Наступіла чарговая трывожная ноч. І вось апоўначы ўсё загуло, затрашчала. Гул набліжаўся раўнамерна і ўсё нарастаў і нарастаў. Раптам затрашчалі зеніткі і кулямёты, паспешліва, густа, быццам не паспеюць настраляцца. Потым у небе ўспыхнулі яркія ліхтары, асвятліўшы змрочны горад. Самалёты ішлі хваля за хваляй і запаланілі ўсё неба. У розных месцах успыхнулі пажары. А самае яркае і шырокае полымя ўзнялося над таварнай станцыяй. Адтуль чуліся частыя глухія выбухі і траскатня. Зеніткі паступова пачалі замаўкаць. Пад барвовым небам чорнымі глыбамі ляжаў стомлены, абяссілены горад. А неба гуло і гуло...

Ніхто гэтай ноччу ў горадзе не спаў. Для адных савецкія самалёты прынеслі радасную вестку, а для другіх — вестку аб пагібелі...

Выбухі на станцыі чуліся яшчэ і раніцай. Паветра напоўнілася пахам гару, копаццю. Акупанты мітусіліся на вуліцах, нешта некуды перавозілі, крычалі і лаяліся. Боязна было ім пападацца цяпер на вочы. Яны помсцілі жыхарам за свой страх, за ахвяры і страты... А людзі адчувалі сябе па-святочнаму. Як маланка, разнеслася ва ўсе куткі горада вестка, што знойдзены лістоўкі — зварот савецкіх лётчыкаў да насельніцтва, у якім яны прасілі, каб людзі выбіраліся падалей ад вайсковых аб'ектаў. Сотні гестапаўцаў, паліцаяў і пераапранутых шпікаў расшуквалі, як яны называлі, «чырвоных лазутчыкаў», якія нібыта падавалі сігналы, дзе знаходзіліся ваенныя аб'екты.

## ПАД НЕБАМ ВЫСОКІМ

Праходзілі дні за днямі. Той жа страх і тое ж гора, той жа бразгат парожніх місак на кухні, тое ж чаканне невядомага... У адным людзі былі ўпэўнены: хутка прыйдзе вызваленне.

Пасля таго, калі Абабурка выгнаў Марыю Іванаўну з дзецьмі з кватэры і яна пасялілася ў Раманіхі, трэба было шукаць нейкае выйсце. У Раманіхі і так было двое дзяцей, а тут прыбавілася яшчэ чацвёра — трое Валіных і Раіса з Марыяй Іванаўнай. Хата і да таго была цеснай, а ў Раманіхі клопатаў, хоць адбаўляй.

Валя не магла без дазволу бабкі Манухінай забраць да яе дзяцей. Але хіба бабка Манухіна будзе супраць? Не, яна дазволіла, і Валя забрала Васілька і Ніну. У Раманіхі застаўся Воўка. Дзяцей падзялілі пароўну, вырашылі — хай будзе чацвёра там і чацвёра там.

Па заданню падпольшчыкаў Зіну прыладзілі працаваць перапісчыцай у гарадской управе, бо ёй было даручана дапамагаць Валі тым, што яна там заробіць. «Арганізатар моладзі» аднёсся да яе прыхільна і сам рэкамендаваў галаве, як сваю былую вучаніцу. Да яе пад выглядам роднай цёткі час-ад-часу заходзіла Марыя Іванаўна. «Пляменніца» была рада яе прыходу і ўсяляк расхвальвала перад начальствам. Часамі ў калідоры Марыя Іванаўна сустракалася з Абабуркам. Той крывіўся на яе і незадаволена бурчэў.

— Ты ўжо сюды швэндаеш, праклятая баба!

— Швэндаю, ды не да цябе,— здзекліва адказвала Марыя Іванаўна. Яна стала ва ўправе прывычным чалавекам і ведала ад Зіны пра Абабурку, пра яго сямейнае жыццё і аўтарытэт.

Самае важнае, што вынесла Марыя Іванаўна з управы, гэта перасцярога, што трэба берагчы дзяцей. У горадзе прыбавілася шпіталяў. Раненым гітлераўцам патрэбна была кроў для пералівання. Дабраахвотных донараў не знаходзілася. А той крыві, што высмактвалі з людзей у турмах і канцэнтрацыйных лагерах, у гета, ужо не ставала. Тады гітлераўцы прыдумалі звярыны спосаб — браць кроў у дзяцей. Калі Зіна даведалася, як каманды эсэсаўцаў акружалі прыгарадныя сёлы, урываліся ў дамы і сілай забіралі дзяцей ад бацькоў, у яе аж валасы станавіліся дыбам. Нават спадары пачалі хвалявацца. Але што яны маглі зрабіць тым, каму прадаліся з галавой?

Эсэсаўцы нахабна гаварылі дзецям: «Мы вязем вас на бойню; там у вас высмакчуць усю кроў, і вы паўміраеце». Старэйшыя дзеці спрабавалі ўцякаць, але іх тут жа расстрэльвалі.

— Хавайце дзяцей,— папярэджвала Зіна.— Калі што, зрабіце іх хворымі, толькі не давайце ў рукі кравапіўцам...

— Добра сказаць — хавайце, — ламала рукі Марыя Іванаўна. — А дзе ж іх схаваеш?

— Хоць бы дажыць. Хоць бы дажыць, — малілася Валя, пачуўшы такую вестку. — Мне б толькі на сваіх паглядзець, а дзецям жыць трэба. У іх усё наперадзе.

Яна ўспамінала сваё бесклапотнае маленства, лясныя сцежкі, лагерныя песні і кастры, сустрэчы з Міхасём... Новая сустрэча з Міхасём уяўлялася казкай, нечым такім, што ніколі не зможа збыцца...

Дзеці часамі пыталі:

— Цёця Валя, а ці паедзем мы яшчэ ў лагер?

Лагер! Дзіўна цяпер гучыць гэтае слова! Дзіўна і балюча. Валя стрымлівалася, калі чула яго.

— Дзеткі! Вось зараз сагрэецца зямля, і мы сагрэемся. Пойдзем мы з вамі туды, адкуль прыйшлі. У лес, у зялёны лагер, на жоўты пясок... Будуць ззяць нам зоркі, а мы яшчэ запалім кастры. Зноў Жорык будзе пацяшаць нас сваімі прыгодамі, — Валя, гаворачы гэта, не адчула і сама, якой яна стала бадзёрай і жыццерадаснай. — Жорык, — паклікала яна. — Падыдзі сюды, да нас. Ну, хіба табе не прыемна, што я пра цябе так гавару?

Жорык засаромеўся, што з ім рэдка бывала, і нейк няўклюдна падышоў да гурту. Валя абняла дзяцей рукамі і павяла перад сабой па агародзе, уздоўж градак.

— Вось так мы і пойдзем. Усе разам. Забудземся пра ўсё. Будзем песні спяваць. — І Валя адчула сябе зноў піянерважатай, камсамолкай...

Але не паспелі яны дайсці да канца градак, як у брамцы паказалася знаёмая постаць.

— Валечка! Нашы наступаюць! — прыбегла ўсхваляваная Зіна. — І ведаеш як: па ўсім фронце. На Віцебск, Оршу, Магілёў, Бабруйск. Сваімі вушамі чула, як шапталіся ва ўправе спадары. Месца сабе не знаходзяць. Хапаюцца хто за што. Адны за жонак, другія за мэблю, трэція за немцаў... Учора частка ўцякла на Слуцк у аўтамашынах, а сёння ідзе бойка на станцыі за вагоны, каму першаму ехаць... Ой, Валечка, ты не ведаеш, што робіцца. Як мышы рудыя, разбягаюцца, хто куды. Вось табе і



спадары... Рабы, дык гэты ніяк ад новай жонкі не ўцячэ. Куды ён, туды і яна. Усё крычыць: «Спадар Абабурка! Які ты жорсткі! Не ўцячэш ад мяне, не ўцячэш!» Я кінула ўправу. Трэба хлопцаў збіраць і ратаваць, што можна... Ну, я пабягу, Валечка! — І Зіна знікла так жа хутка, як і з'явілася.

Немцы да апошняй хвіліны намагаліся падтрымаць строгі парадак у горадзе. Аднак, як толькі непадалёку пачуліся артылерыйскія залпы, усе чужаземцы адразу зніклі.

Сон гэта, ці не... — Валя не магла зразумець.

Але савецкія самалёты цэлы дзень бамбілі дарогі вакол горада, чыгуначную станцыю і забітыя абозам вуліцы. Машыны, абганяючы адна адну, імкнуліся вырвацца на шырокія дарогі. Аднак толькі яны дасягалі лесу, як адразу там узнімалася страляніна і машыны паварочвалі назад.

У розных канцах горада таксама пачыналася страляніна, загулі міны і снарады. Хто адкуль страляў, Валя не магла разабрацца. Адно было ўсім, як і ёй, зразумела, што наша армія наступае, што пачынаецца вызваленне горада.

Як шкадавала Валя, што яна стаяла ў баку ад падзей. Зіна пабегла. Ёй знайшлася справа. А Валя не магла пакінуць дзяцей адных са слабай бабкай Манухінай. Моцна білася яе сэрца ў прадчуванні такога далёкага і цяпер зусім блізкага. Міхась! Можа, ён зусім блізка, там, дзе і ўсе яны, слаўныя... Але як яго адшукаць? Як ён адшукае яе ў гэтым далёкім куточку горада? А можа яго даўно няма. А маці? Дзе яна? Ці знойдзе калі яе Валя... О, каб толькі ведаць, дзе!..

Валя сядзела з дзецьмі ў сырым, халодным склепе. Цвіллю пахлі сцены. Раз-по-раз чуўся гул выбухаў. Сыпаўся пясок на галаву. Што там рабілася наверсе, Валя не ведала. Бабка Манухіна адмовілася лезці ў склеп.

— Мне ўжо ўсёроўна, ці жыць, ці памерці. А вы лезьце, пераседзеце там. Я зверху пабуду. Калі што, пакліччу...

Дзень ці ноч на двары — Валя не ведала. Дзеці цісануліся да яе, каб сагрэцца, смакталі параныя буракі без хлеба. Гэта была іх адзіная ежа на працягу ўжо некалькіх дзён.

Зверху пачуўся шоргат крокаў і прагучаў бадзёры голас бабкі:

— Эй, вы там, мышы! Жывыя яшчэ? Вылазьце. Унь, партызаны ідуць.

Усе мігам апынуліся на вуліцы. Дзеці жмурылі вочы ад яркага сонечнага святла. Усюды было ціха. Толькі зрэдку дзе-ні-дзе гучалі адзіночныя стрэлы. З лесу ў горад цягнулася калона партызан з абозам, коннікамі. Ішлі старыя дзядзькі і маладыя хлопцы, жанчыны і нават дзеці. Апрануты былі хто ў што. Але ў кожнага на шапцы красавалася чырвоная істужка і на грудзях у дарослых вісеў аўтамат. Пасярэдзіне калоны важна ішоў барадаты казёл. Да некаторых павозак былі прывязаны каровы.

Дзеці прыніклі да плоту, захопленыя такім незвычайным відовішчам. Як яны зайздросцілі тым дзецям, што ішлі з партызанамі!

Недзе ў цэнтры горада грымела «ўра», чуліся аўтаматныя чэргі. Але гэта не падобна было на бой. Гэта, відаць, адбываецца нейкая радасная сустрэча людзей.

«Ісці туды, дзе ўсе. Сабрацца разам»,— цвёрда рашыла Валя.

Яна хуценька сабрала дзяцей, апранула іх ва ўсё лепшае з рызманоў, пацалавала бабку Манухіну, папрасіла ў яе прабачэння, паабяцала, што неўзабаве вернецца і пайшла.

Добра было ісці ёй з дзецьмі па вуліцах. І адкуль столькі народу ўзялося, здзіўлялася Валя. То, бывала, ідзеш, сустрэнеш аднаго — двух чалавек, што стараліся хутчэй знікнуць з вачэй. А цяпер усе вуліцы раптоўна ажылі, загаманілі. На дамах засталіся нямецкія надпісы з рознымі паведамленнямі і перасцярогамі. І тут жа віселі чырвоныя палотнішчы сцягоў. Сям-там, акружаныя цесным натоўпам, савецкія салдаты і афіцэры гаварылі з грамадзянскім насельніцтвам і партызанамі. Па бруку вялі палонных немцаў і іх прыслужнікаў. Людзі ачышчалі ад бруду і смецця сваё жыллё, праветрывалі пакоі.

На адной з вуліц стаяла танкавая калона. Люкі былі адкрыты. Танкісты ў цёмных шлемах і куртках сабраліся вакол баяніста. Той іграў песню пра трох танкістаў, а ўсе хорам падцягвалі.

Зноў, як і ў 1941 годзе, Валі прыйшлося праходзіць каля танкістаў. Але якое было адчуванне тады і цяпер! Тады хацелася хутчэй прайсці, прабегчы каля чорных грамадзін са свастыкамі. Заткнуць вушы, каб не чутна было здзеклівых галасоў чужых людзей, пілікання губных гармонікаў. Тады страшна было глянуць у вочы рыжаму ефрэйтару...

Цяпер Валя з дзецьмі ішла павольна, разглядала твары прыгожых і вясёлых хлопцаў, якім усялякія страхі і цяжкасці здаваліся ні па чым. Заўважыўшы Валю з яе малымі спадарожнікамі, танкісты змоўклі і здзіўлена павярнулі галовы ў яе бок.

— Вось гэта здорава! — заўважыў нехта. — Цэлае аддзяленне вядзе. Экіпаж машыны баявой.

Валя не разгубілася.

— А што ж? Будзе вам добрае папаўненне...

— Эх, грамадзяначка, — пляснуў далонню аб далонь адзін з танкістаў. — Мы зараз жа запішам вас у маці-гераіні...

— Пачакайце. Тут трэба разабрацца, — выйшаў наперад старшына. — Усе вашы? — паказаў ён вачамі на дзяцей.

— Мае! — горда адказала Валя.

— І гэты? — кіўнуў ён на Жорыка.

— І гэты...

Той развёў рукамі.

— Нічога не разумею... Колькі ж вам год?

— Колькі ёсць — усе мае...

— Гм...

Жорык не ўтрымаўся.

— Гэта наша цёця Валя. А гэта — Верачка, піскля... А гэта...

Верачка нездаволена надзьмулася, апусціла вочы і пачала нагой шоргаць па бруку. Танкісты пачалі дзецям совАць ласункі, хто галеты, хто цукар.

— Ты, хлопча, хутчэй падрастай, — стукаў па плячы Жорыка каранасты танкіст. — Гвардзейцам будзеш. У свой экіпаж запішам.

Дзеці ішлі ад танкістаў з поўнымі рукамі. На кожнай вуліцы іх захаплялі новыя і новыя ўражанні. То праходзіла пяхота з плашч-палаткамі ў накідку і аўтаматамі на грудзях, то грымела па бруку артылерыя. То вясёлыя дзяўчаты, абняўшыся з ваеннымі, зацягвалі песню. Горад як быццам прачнуўся пасля доўгага сну.

Марыя Іванаўна ўжо завіхалася ў сваім двары, куды яна адразу вярнулася, калі ўцёк Абабурка. Ёй дапамагалі дзеці. Марыя Іванаўна з Валяй абняліся, пацалаваліся, як быццам вельмі даўно не бачыліся. Марыя Іванаўна казала Валі:



— І навошта ён, гэты рабы жываглот, столькі дабра нацягаў. І канапы, і крэслы мяккія, і трумо. Адзежы ўсякай. Усё ж гэта чужое, нарабаванае. Нават падсвечнікі медныя і тыя тут. Ну, распранайся, памагай...

Ачысціць кватэру ад чужога дабра каштавала не мала клопатаў.

— Ну, глядзі вось: дзіцячыя кашулі. Навошта яны яму былі? Старую жонку кінуў, узяў сабе маладую кралю — дачку галавы, — бурчала Марыя Іванаўна.— Каб ён дзе галаву скруціў. Не ўцячэ!

Валя слухала Марыю Іванаўну, а сама глытала слёзы. Ну, вось і прыйшла радасць доўгачаканая, а сэрца спакою не мае. Цяпер, якраз у гэтыя светлыя хвіліны, яна асабліва адчула сябе адзінокай. Дзе маці, дзе Міхась? Дзе прывабны дамашні ўтулак, што так радаваў яе да вайны? Яна паглядзела на сябе. Бруднае, абшарпанае плацце адзінае на целе. На нагах атопкі без панчох. На галаве выцертая, як сіта, хустка... З чаго пачынаць жыццё?..

Пачалі жыццё так, як падказвалі абставіны. Дзеці радасна бегалі па двары. І яны адчулі, што прыйшло тое роднае, чаго яны чакалі тры гады.

Раманіха ўзяла ў рукі кіраўніцтва дамамі ў сваім раёне. Яна размяшчала бежанцаў, бяздомных сірат, кіруючыся адзіным законам — сумленнем.

— Потым разбярэмся. А пакуль што людзям трэба прытулак даць ды да справы прыставіць...

Для дзіцячага дома яна выбрала прасторны аднапавярховы будынак з садам на адной з ціхіх вуліц на ўскраіне.

— Іх адсюль ніхто не выселіць. Гэта законныя жыхары, бо тут і да вайны быў дзіцячы дом.

Раманіха дабілася ад каменданта харчавання для дзяцей, «давольствія», як яна казала, прасцін і коўдраў з нямецкіх складаў, а Валю прыставіла адказнай за дзіцячы дом. Уся лішняя мэбля, што сабраў рабы, была аддадзена дзецям.

Зноў малыя сабраліся ў адну сям'ю. Сюды прыводзілі мурзатых, нячэсаных, адзічэлых хлопчыкаў і дзяўчынак, а праз дзень — два яны рабіліся непазнавальнымі. Толькі Валіны выхаванцы трымалі сябе смела і незалежна ад усіх.

Да Валі часта наведваліся яе знаёмыя, сяброўкі. Пасялілася яна ў невялікім пакойчыку дзіцячага дома. Бадзёра шумелі за вокнамі маладыя таполі. Спакойны, ціхі куток ажыўляўся штодня разнастайнымі дзіцячымі галасамі. Дзеці рыхтаваліся ў школу, хадзілі на вычыстку двара, падмяталі класы і мылі падлогу. Даўно яны сядзелі за школьнымі партамі, акуратна выводзячы ў сшытках: «Мы — не рабы!» Занятая працай, Валя не магла нікуды адлучыцца, таму рада была кожнай сустрэчы, кожнаму свежаму слову.

Асабліва шмат навін прыносілі Раманіха і Зіна, якая працавала ў райкоме камсамола.

— Я, Валя, кожнага чалавека, што бярэцца на ўлік, распытваю пра тваійго Міхася, — паведамляла Зіна. — Але мала хто ведае пра яго. Толькі адна партызанка расказала, што ён быў камандзірам падрыўнікоў у іхнім злучэнні. Пры ўзрыве чыгуначнага маста быў цяжка паранены і адпраўлены на самалёце ў Маскву. А што далей з ім было, не ведае. Адно, бачыш, ясна, што ён жывы, бо ў Маскве не дадуць памерці...

— Можа яна памылілася? Ведала другога Міхася?

— Не! І вонкава апісала акурат такім. І прывычкі ведае. Што? Хіба не Міхась мог спяваць: «Не дойти ногами, не достать руками...»

— Ён, Міхась! Ён мне гэтую песню спяваў у апошні вечар,— пачырванела Валя.

— Мы праз партызанскі штаб даведаемся яго адрас і напішам калектыўнае пісьмо...

Раманіху цікавіла другое:

— Знайшлі гада! Знайшлі рабога! Партызаны перахапілі ў лесе паліцэйскі абоз. Абабурка першым ехаў з нагrabленым дабром, а краля следам за абозам ішла. Відаць, прагнаў з воза ды замест яе сала налажыў. От, бандзюга быў, бандзюгам і застаўся, каб яго халера! Дык ты ведаеш, што за парадкі: не падпускаюць да яго. Мы ўжо з Марыляй хацелі адбіць яго ды так усыпаць, каб дзесятаму заказаў. Аж не. «Мы яго законным савецкім судом судзіць будзем!» Па-мойму, так: над намі ён здзекваўся, дык мы і павінны яму адпомсціць... І яшчэ, Валя, я табе хацела сказаць, каб ты схадзіла ў гарадскі аддзел асветы і афармілася на работу. Хутка зарплату плаціць будуць, дык трэба аформіцца. Схадзі, а я з дзецьмі пабуду...

Марыя Іванаўна гаварыла зусім аб другім:

— Скажу я табе, Валя, добрая ў цябе маці была. Паважалі яе ўсе. Таму і цябе паважаюць...

Яна старалася падвесці Валю да весткі аб тым, што яе маці ўжо даўно няма жывой. Яна загінула ў першы дзень вайны ў сваёй кватэры пад варожымі бомбамі.

— Не плач, Валя. Слязамі гору не паможаш... Наляцелі, як шалёныя, пачалі кідаць бомбы, ажно свет дагары нагамі пераварочваўся. Я ўжо выбегла з хаты, калі бамбёжка закончылася. Ды так і прасядзела ў сховішчы, пакуль яны не прыйшлі. А далей сама ведаеш, папялішчы адны засталіся. Маці твая, добра помню, у тую раніцу дома была. Збіралася прыгарадным да цябе ехаць... А мо' дзе і жывая, хто яе ведае... — уздыхнула Марыя Іванаўна.

Валя і сама добра разумела, што маці магла загінуць. А калі і ўдалося выбрацца з горада, дык у яе гадах наўрад ці можна было вынесці ўсе нягоды вайны...

Яшчэ не прыходзілася Марыі Іванаўне так адкрыта гаварыць з Валяй пра яе маці. Але рана ці позна гэта трэба было зрабіць.

Валя доўга вагалася — ісці ці не ісці афармляцца на работу. Па-першае, у яе няма належнай адукацыі, па-другое, яна хацела вучыцца далей, паступіць у інстытут. Таму так нясмела пераступіла яна парог гарадскога аддзела народнай асветы, які размяшчаўся ў двух цесных пакойчыках. У першым сядзела пасівелая з буйным тварам жанчына і праглядала нейкія спісы.

— К вам можна? — нерашуча спытала Валя.

— Заходзьце...

Валя зайшла.

— Што вы хацелі? — строга спытала жанчына.

— Мне вось на работу трэба аформіцца.

— На работу? Давайце, будзем афармляцца. Сядайце, расказвайце, — пры гэтым жанчына прыкрыла рукою рот, каб не пазяхнуць. — Хто вы? Дзе раней працавалі? Якую адукацыю маеце, стаж...



Валя разгубілася.

— Адукацыя ў мяне сярэдняя. Дзесяцігодку закончыла. А працаваць яшчэ толькі пачала, піянерважатай. Вучыцца хацела.

— Піянерважатая — гэта яшчэ не настаўніца, — рэзонна заўважыла жанчына. — Значыць, педагагічнай адукацыі ў вас няма. У школе не працавалі. Сама толькі што са школы. Дык чаго ж вы прыйшлі? Ні адукацыі, ні стажу... А ў часе акупацыі дзе былі?

— Тут, у горадзе... Мне сказалі ў лагеры застацца з дзецьмі...

— Не! Не, мілая! — перабіла яе жанчына. — Няма работы ў нас такой... Тут яшчэ разабрацца трэба. Зайдзіце ў будаўнічы аддзел.

— Дык я ж працую. У мяне дзеці.

— Дзеці? Якія дзеці? Дзе яны?

Валя назвала свой дзіцячы дом.

— Гэта нікуды не варта. Школьніцу прыстаўляць да дзяцей. Дзеці і так пакалечаны. Ім увага, клопаты патрэбны. А тут што такое робіцца!

Жанчына хуценька запісала нешта ў блакнот і прывычным рухам пацягнулася да тэлефоннай трубкі.

— Як жа вы рабілі ўлік? За такую работу вас саміх пагнаць трэба,— крычала яна ў трубку.— Дзяржава клапоціцца аб камуністычным выхаванні, а вы чым займаецеся? Так нельга адносіцца да справы...

Валя выйшла з пакоя. Ёй стала душна. Цяжка было дыхаць. Уласна, думала яна, нічога такога не здарылася. Тое, што яна не мае неабходнай адукацыі, дык гэта факт. Тое, што не мае ніякага педагагічнага вопыту і стажу, таксама праўда. Разам з тым у душы яна адчувала сябе пакрыўджанай. Прычым тут адукацыя? Чаму ў яе не спыталі пра дзяцей, як цяжка было з імі? Чаму яе не хацелі выслухаць, падтрымаць добрым спачувальным словам. У будаўнічы аддзел... На будаўніцтва яна пойдзе. Нічога там страшнага няма. Будзе працаваць і вучыцца. Але ж размова ў гарана не выходзіла з галавы, разбіла яе многія спадзяванні.



Раманіха, калі даведалася пра гэтую размову, замахала кулакамі.

— Я ведаю яе. Гэта старая бюракратка. Яна ў міністэрстве асветы працавала. Адкуль ёй ведаць, што робіцца ў жыцці? Яна толькі са сценамі гаварыць прывыкла, а не з людзьмі. Пакінь Жорыка за старшага. Пойдзем разам. Бач ты яе, бюракратка!.. Адседзелася недзе...

Раманіха бурчала ўсю дарогу. Аднак Валя заўважыла, што Раманіха ідзе не ў гарсавет, а ў гарадскі камітэт партыі.

— А ты не бойся. Чаго баяцца? Дзяцей ты выгадавала? Выгадавала. Ворагу не служыла? Не служыла. Дык чаго ж

ад цябе хацець. Пойдзем да сакратара. Хай ён ведае пра такіх бюракратаў.

У гарадскім камітэце партыі Раманіха хацела пачаць з наступальнага тону, але, пачуўшы спакойны, разважлівы голас сакратара, супакоілася і пачала ўсё па парадку пра Валю і яе подзвіг.

— Сядайце, Валянціна, — запрасіў сакратар. — Ды кіньце слёзы. Што ж вы? Такую смеласць праявілі, а цяпер слязу пускаць. Гэта ўжо нікуды не варта.

Калі перад сакратаром вырысавалася ўся карціна Валіных паводзін, ён падняўся і ад усяго сэрца паціснуў ёй руку.

— Вы зрабілі сапраўдны подзвіг, Валя. Захавалі нам дзяцей. Нашу будучыню. Ды вас узнагародзіць трэба! Дарэчы, я і маці вашу памятаю. Добрая настаўніца была. Вопытная. Дзе яна цяпер?.. Не ведаеце? Шкада... Ну, я тут разбяруся, — сказаў сакратар і ўзяўся за тэлефонную трубку.

— Гарана? — чула ў дзвярах Валя. — Мне Анну Ільінічну. Анна Ільінічна? Слухайце, ды што вы там творыце?.. У людзях разабрацца не можаце? Ды за такую работу вас саміх...

Зусім па-другому павярнулася справа ў гаркоме. Валя не ведала ад радасці, на якім свеце знаходзіцца.

— Я ж табе казала, што бюракратка яна. З кабінета ніколі не вылазіла. Што ад яе хацець... Пойдзем да Зіны.

А Зіна сама ўжо бегла насустрач.

— Я пачула, што вы пайшлі ў гарком. Бягу к вам. Пісьмо. Пісьмо табе, Валя, ад Міхася. Піша з нейкага горада на рускай рацэ, са шпіталю...

У вушах Валі зноў загучала любімая Міхасёва песня: «Не дойти ногами, не достать руками — город на Каме, матушке-реке»...

Мінск, 1957.




# НЕВЫЧЭРПНАЯ КРЫНІЦА

**Гутарка з дырэктарам Інстытута торфу Акадэміі навук Беларускай ССР, членам-карэспандэнтам АН БССР П. І. БЯЛЬКЕВІЧАМ**

Вядома, што Беларусь валодае вялікімі запасамі торфу. Прыродныя ўмовы — адсутнасць каменнага вугалю, прамысловых запасаў нафты, памяншэнне лясных багаццяў выклікалі неабходнасць развіцця магутнай тарфяной прамысловасці і шырокага прымянення торфу ў народнай гаспадарцы рэспублікі.

Асноўная маса электрычнай энергіі ў БССР выпрацоўваецца за кошт спальвання торфу. У агульным паліўным балансе ён займае больш пяцідзесяці працэнтаў. Мільёны тон торфу штогод уносяцца ў глебу і забяспечваюць рост ураджайнасці сельскагаспадарчых культур, спрыяючы тым самым уздыму жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

Нягледзячы на такое шырокае прымяненне торфу ў народнай гаспадарцы, трэба прызнаць, што мы далёка не поўнасцю выкарыстоўваем багацці, закладзеныя ў ім.

Створаны дваццаць пяць год таму назад, наш інстытут правёў вялікую даследчую работу па вывучэнню торфу. Перш за ўсё мы займаліся вырашэннем такіх задач, як вызначэнне ўмоў яго ўтварэння і залягання, распрацоўка метадаў здабычы і механізацыі тарфяной прамысловасці, атрыманне новых відаў тарфянога паліва і пошукі спосабаў атрымання з торфу каштоўных хімічных прадуктаў. Асабліва значны ўклад у навукову распрацоўку гэтых пытанняў унеслі прафесары В. Е. Ракоўскі і Ф. А. Апейка. Іх даследчыя працы вядомы не толькі ў Савецкім Саюзе, але і за мяжой.

Немагчыма ў кароткай гутарцы расказаць аб усіх навуковых даследаваннях, якія праводзяцца ў інстытуце. Таму я хачу галоўным чынам спыніцца на тых выніках нашай работы, якія маюць значэнне для выканання гістарычных рашэнняў майскага Пленума Цэнтральнага Камітэта КПСС аб паскарэнні развіцця хімічнай прамысловасці і вытворчасці сінтэтычных матэрыялаў і вырабаў для задавальнення патрэб насельніцтва і народнай гаспадаркі.

Важным момантам у дзейнасці любой навукова-даследчай установы з'яўляецца вызначэнне запасаў матэрыялу, над вывучэннем якога яна працуе. Таму наш інстытут шмат увагі аддаў вывучэнню запасаў торфу ў Беларусі. Гэтая марудная і цяжкая работа, у якой нам дапамагаў цэлы шэраг навукова-даследчых устаноў Савецкага Саюза, у асноўным закончана ў 1953 годзе. У выніку былі выдадзены кніга «Тарфяны фонд Беларускай ССР» і карта «Тарфяныя месцанараджэнні БССР».

Пры выкананні гэтай работы кандыдат тэхнічных навук А. В. Цішковіч вынайшаў новыя буравыя інструменты для разведкі тарфяных месцанараджэнняў: зандзіровачны бур ІТАН-05 і бур для адбору проб ІТАН-І. Перавагай гэтых інструментаў з'яўляецца тое, што яны дазваляюць рабіць адбор проб з непарушанай структурай і натуральнай вільготнасцю з любой глыбіні залягання торфу і павялічваюць прадукцыйнасць працы разведчыка ўдвая.

Для правільнага выкарыстання тарфяных багаццяў рэспублікі вельмі важна ведаць хімічны склад торфу. Торф — маладое паліва. Ён утварыўся з рэшткаў адмёрлых раслін. Таму хімічны склад яго вызначаецца па тых раслінах, з якіх ён узнік. Супрацоўнікі інстытута шмат папрацавалі над вывучэннем гэтага пытання. Даследавана звыш 60 узораў трыццаці прадстаўнікоў розных тыпаў торфу. На аснове сабранага матэрыялу член-карэспандэнт Акадэміі навук В. Е. Ракоўскі распрацаваў новую тэорыю аб паходжанні цвёрдых паліваў. Апрача таго, накопленыя веды аб складзе торфу адыгралі вялікую ролю ў далейшых даследаваннях інстытута па пытаннях арганізацыі і хімічнай перапрацоўкі гэтага выкапня.

Вывучэнне водна-фізічных уласцівасцей торфу і яго аблогаў дало магчымасць распрацаваць новую схему асушэння тарфяных балот — схему глыбокага асушэння. Глыбокае асушэнне тарфяных аблогаў нізіннага тыпу стварае лепшыя ўмовы для работы машын на балоце і павышае здабычу фрэзернага торфу на 25 працэнтаў з адзінкі плошчы.

Цяпер гэтай схемай карыстаюцца ўсе торфапрадпрыемствы ў нашай рэспубліцы і за яе межамі.

Інстытут тэарэтычна абгрунтаваў новую, цыліндрычную форму тарфянога кавалка, якая ўжываецца зараз у прамысловасці. Цыліндрычны торф павялічвае прадукцыйнасць газагенератараў на 40 працэнтаў і дае магчымасць механізаваць працэсы сушкі кавалкавага торфу, якія раней выконваліся ўручную.

Для механізацыі сушкі торфу супрацоўнікі інстытута пад кіраўніцтвам прафесараў Ф. А. Апейкі і І. Г. Блоха распрацавалі канструкцыю новай машыны (МСК). Гэтая машына замяняе цяжкую працу 80 рабочых.

Тарфяная прамысловасць зараз здабывае кавалкавы і фрэзерны (пылевідны) торф. Здабыча кавалкавага торфу менш механізавана, і ён каштуе ў два—тры разы больш, чым фрэзерны. Але апошні мае шмат недахопаў: самазагаранне пры захаванні, вялікія страты пры перавозках і інш. Неабходна ліквідаваць гэтыя недахопы фрэзернага торфу, захаваўшы яго галоўную перавагу — таннасць.

Вырашыць задачу магчыма толькі шляхам стварэння новых відаў тарфянога паліва — зярністага, грануляванага ці крошкападобнага торфу. Зараз інстытут займаецца гэтымі пытаннямі.

Танны фрэзерны торф спальваецца на электрастанцыях і іншых прамысловых прадпрыемствах. Але ён нязручны для ацяплення жыллёвых памяшканняў. Таму яго пасля спецыяльнай падсушкі прасуюць і робяць з яго тарфяныя брыкеты. Іх зручна перавозіць і захоўваць. Адна тона тарфянога брыкету дае столькі ж цеплыні, колькі даюць 3,5 кубічнага метра бярозавых дроў. Таму вытворчасць брыкетаў няспынна пашыраецца. Наш інстытут распрацаваў новую, больш эканамічную тэхналогію вытворчасці тарфяных брыкетаў. Зараз па ёй ажыццяўляецца будаўніцтва торфабрыкетнага завода «Верцілішкі».

Я ўжо гаварыў, што торф у Беларусі шырока ўжываецца ў сельскай гаспадарцы. Інстытут працуе над удасканаленнем механізацыі здабычы торфу для сельскагаспадарчых патрэб. Намі вынайдзена канструкцыя шыроказахватнага бульдозера з капіравальным прыстасаваннем. Паспяхова прайшла выпрабаванне сканструяваная па нашых праектах машына для механізацыі парніковай гаспадаркі. Гэтая машына дазваляе ў восем разоў паменшыць кошт тарфяных кубікаў.



Мы вывучаем таксама ўплыў гідраторфу на ўраджайнасць пясчаных глеб. Папярэднія вынікі даследаванняў паказалі, што калі ў пясок унесці пэўную колькасць торфу ў выглядзе гідрамасы, то карэнным чынам змяніцца структура гэтых глеб і значна павялічыцца іх урадлівасць — прыкладна на пяцьдзесят працэнтаў. Пры гэтым вельмі важна, што ўплыў торфу на пясчаныя глебы носіць працяглы характар.

Майскі Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС распрацаваў вялізную праграму развіцця хімічнай прамысловасці ў нашай краіне. У ажыццяўленне гэтай праграмы ўносіць свой уклад і наш інстытут.

Для забяспечання шкляной прамысловасці, а таксама награвальных печаў газападобным палівам у Савецкім Саюзе пабудаван рад буйных газагенератарных станцый, на якіх газіфікуецца кавалкавы торф. У працэсе вытворчасці побач з газам атрымліваюцца ў якасці пабочных прадуктаў тарфяная смала і падсмольная вада. Нажаль, перапрацоўка гэтых прадуктаў яшчэ не наладжана. Больш таго, падсмольная вада мае ў раствораным выглядзе ядавітыя рэчывы, якія атручваюць вадаёмы. Гэтым наносіцца шкода народнай гаспадарцы.

Супрацоўнікі інстытута пад кіраўніцтвам прафесара В. Е. Ракоўскага распрацавалі новыя тэхналагічныя схемы перапрацоўкі тарфяной смалы і падсмольнай вады. Гэта дае магчымасць атрымаць новыя каштоўныя хімічныя рэчывы і, апрача таго, абясшкодзіць атрутныя воды газастанцый.

Зараз будуецца першы даследча-прамысловы завод па вытворчасці воску з торфу. Мы пастараемся зрабіць усё, каб завод атрымаў магчымасць паспяхова ажыццяўляць вытворчасць гэтага каштоўнага хімічнага рэчыва.

Шмат і іншых задач стаіць перад нашым інстытутам. Яны прадугледжаны перспектыўным планам на 1959—1965 гады.

Мы будзем працаваць над стварэннем двух торфахімічных камбінатаў па комплекснаму выкарыстанню тарфяных аблогаў верхавога тыпу. З верхняга слою мяркуем выпрацоўваць тарфяную падсцілку для сельскай гаспадаркі і торфаізаляцыйныя пліты для будаўніцтва; з сярэдняга—бітумінознага слою — атрымаем тарфяны воск, а з адыходаў васковай вытворчасці — тарфяны брыкет. Нарэшце, з ніжняга слою выйдзе тарфяное паліва.

Плануем мы разгарнуць даследаванні вугляводнага комплексу, азоцістых злучэнняў, бітумаў, гумінавых кіслот — асноўных кампанентаў торфу. Вывучэнне хімічнага складу гэтых рэчываў дазволіць распрацаваць новую тэхналогію вытворчасці фурфуролу, шчавелевай кіслаты, азоцістых угнаенняў, фенолаў, антысептыкаў і іншых прадуктаў, патрэбных народнай гаспадарцы. Дзякуючы ім можна будзе сэканоміць вялікую колькасць харчовай сыравіны (у прыватнасці цукру, які ідзе на вытворчасць шчавелевай кіслаты) і даць зыходны матэрыял для вырабу пластычных мас, штучных і сінтэтычных валокнаў.

С. КУХАРАЎ

# ГЛЫБОКІЯ БАРОЗНЫ

**Нарыс**

**1**

Мікола прышоў са сходу ўзлаваны. Злосна шпурнуў шапку на лаву, патупаў пасярод хаты і, не падымаючы вачэй, цяжка сеў за стол. Жонка, зусім маладая, як дзяўчо, кабецінка, моўчкі паставіла на стол збанок, паклала ружовы бохан і адышлася.

Невідушчымі вачыма глядзеў Мікола на тэты выглянцаваны збанок, а думкі былі зусім не пра вячэру. Невясёлыя думкі. За акном, у мораку, клекатала, як у гаршку; па шыбах сцябала снежнымі крупамі. Пранізлівы вецер раз'юшана шкуматаў голле вішняку...

— Занялася халадэча, — нясмела азвалася жонка і прыпала да шыбы, намагаючыся разгледзець, што рабілася там, у пякельнай цемры.

Мікола як бы і не чуў гэтых жончыных слоў. Нібы скамянелы, сядзеў, забыўшыся на збанок са свежым малаком. Нейкая няўцямная злосць віравала ў сэрцы на сябе, на надвор'е, на ўвесь свет.

Гэта ж летась такою парой работа аж кіпела. Мікола на сваім «Дабрынічу» бадай што за сотню гектараў адмахаў. Рабілі ў дзве змены — днём сяўба, а ўначы — ворыва. Канешне, і трактар у Міколы быў не абы-які, не якая там ламачына, а лічы што новая машына. «Дабрыніч» і цяпер такі — толькі кранi яго, і матор заспявае.

Але няўжо і сапраўды давядзецца Міколу расстацца з любімай машынай? Можа, яе аддадуць Хартасевічу ці таму ж Каражанцу? А раптам яго «Дабрыніч» прыпадзе Яфімчыку — гэтаму лайдаку, тады лічы, машына прапала. Эх, дзівак, не мог змоўчаць!.. Усё гэта праз свой характар.

На сходзе, з якога толькі што вярнуўся Мікола, абмяркоўвалі сацумову на сёлетні год. І хтосьці з хлопцаў-трактарыстаў упікнуў Міколу за яго малое абавязацельства — 1 250 гектараў.

— Нішто сабе перадавік! — за спіной у Міколы з'едліва азваўся Міцька Каражанец. — На такой машыне можна сплючы даць паўтары тысячы...

— Садзіся ты ды зрабі, а потым гавары! — не вытрымаў Мікола, а калі ішлі дадому, прапанаваў: — Давай, браток, садзіся на «Дабрыніча», а я на твайго... карліка.

— Давай!.. — смела выгукнуў Міцька. — Ды глядзі, каб заднюю не ўключыў...

Гэтыя ўпіканні цяпер ён успамінаў. Мікола раптам хапіў кубачак з малаком, апаражніў яго і кінуўся на канапку. Але сон да яго яшчэ доўга не ішоў. Перад вачыма стаяў рыжы Міцька з сінімі насмешлівымі вачыма і ўсё крычаў: «Што, баішся?» Потым аднекуль з-за вялізнай пазалочанай гары выплыў Міколаў «Дабрыніч» і чалавечым голасам крычаў: — «Мікола, братка, не пакідай мяне, пашкадуй!..»

Калі прахапіўся і расплюшчыў вочы, ледзь не захліпнуўся ад радасці: у вокны цёплымі, жывымі хвалямі шчодра лілося святло. У яго зіхатлівых промнях віхрыліся мяккія залацістыя пылінкі. Побач стаяў ружовашчокі Алёша Баранаў, новы брыгадзір калгаснай трактарнай брыгады, і тармашыў яго за плячо:

— Ну і спіш ты, брат, не раўнуючы, як той мядзведзь!.. — Алёша ўрачыста працягнуў Міколу папяросу. — Уставай, брат, пойдзем на поле, паглядзім, дзе можна пачаць культывацыю пад лубін.



— Што тая культывацыя, — махнуў рукою Мікола і размашыста пакрочыў у мыцельнік. — Мне гэтая культывацыя ў пячонках сядзіць! Я ўжо колькі разоў гаварыў, што на нашых землях адной культывацыяй хлеба не возьмеш. Гэта ўсё праз агранома таго: толькі знае адно — культывацыя...

Ішлі па вуліцы моўчкі. Але вось Алёша хітравата падміргнуў і таямніча паведаміў Міколу:

— Дык, брат, не гаруй. Будзеш на сваім «Дабрынічы». Старшыня сказаў, што не варта мяняцца машынамі. Хлопцы абодва вы добрыя, і кожны на сваім месцы. Зразумеў?..

Мікола маўчаў. Але па тым, як тарганулася ў яго левае брыво і недзе ў строгіх прыжмураных вачах мільганула гарэзлівая іскрынка, брыгадзір здагадаўся, што Мікола задаволены.

Напрадвесні, як закупілі машыны, узнікла пытанне: а як іх рамантаваць, ці знойдзецца чалавек, які мог бы залезці ў чэрава трактара, хутка адрамантаваць сеялку ці малатарню, адным словам, належным чынам дагледзець вялікі машынны парк. Адразу ў адзін голас крыкнулі:

— Курпана! Івана Іванавіча! Нават блыху падкуе, не тое што трактар ці камбайн дагледзіць...

А хто такі Курпан? Звычайны слесар. Яшчэ ў войску прыахвоціўся да тэхнікі. Вярнуўшыся дадому, пайшоў у МТС. Нічым асаблівым не вызначаўся. Цяпер жа, калі ўступіў у калгас, як бы перамяніўся, наважыўся паказаць, на што здольны семежаўскія ўмельцы. Стварыў такую май-

стэрню, што залюбуешся! І інструмент розны, і такарны станок здабыў, усю тэхніку сваімі рукамі яшчэ раз перабраў, хоць яна і прайшла праз рамонт у МТС.

Інакшымі сталі тыя ж трактарысты. Раней хто-кольвечы мог і пазагараць у зацішку, зрабіць абы-як, а цяпер нельга. Учора на сходзе старшыня калгаса паставіў пытанне цвёрда:

— Хлопцы, давайце ўмовімся: калі рабіць, дык па шчырасці, на шармачка — не выйдзе!

А ў Семежаве добра пераканаліся: іх новы старшыня калі што скажа, то ніколі не адступіцца. Цвёрдая рука ў Аляксея Паўлавіча!

Мікола і Алёша доўга хадзілі па ўзгорках, недалёка ад рэчкі, дзе звычайна зямля раней паспявае, і радзіліся, прабавалі пругкасць глебы, бралі ў рукі цяжкія камякі зямлі і раз-по-раз пазіралі ўгору, на нізкае хмарнае неба.

Назаўтра, ледзь займалася на золак, Мікола Кажаноўскі вывеў за аселіцу свайго прыгажуна «Дабрыніча».

## 2

Вясна вельмі пазнілася. Ужо май быў на зыходзе, а сады ў Семежаве яшчэ не зацвіталі, толькі апырснуліся кволым, празрыстым зяленівам.

У пачатку мая, праўда, выдалася некалькі цёплых дзён, і працавітыя семежаўцы паспелі зрабіць многа. Пачалі на поўны разгон работу механізатары. Адзін перад адным на поле імчаліся грузавікі з угнаеннем. Па абочынах палявых дарог забялелі гурты мяхоў з насеннем. У пульхную, прыгрэтую першым цяплом глебу лягло адборнае зерне. Прачнулася ад зімовага сну і на вачах ажыла рунь пасля шчодрай мінеральнай падкормкі. Каб пастаяла трохі надвор'е, сяўбу можна было б закончыць у кароткі тэрмін, не больш як за дзесяць дзён, хоць плошча і не малая — 1 300 гектараў. Але раптоўна неба завалаклося бруднай воўнаю воблакаў. З-за пагорка коршакам наляцеў ледзяны вецер, расшкуматаў лёгкую веснавую абнову на вішнях, завіхрыў пылам на дарогах, ударыў халодны дождж-лівень. За два дні наліло столькі, што зямля не прымала вады. Лужыны шкліліся на гародах, як увосень.

Тэхніка збавіла тэмпы. Праца ў начную змену зусім прыпынілася. Нельга было як след разгарнуцца з трактарамі і днём, бо поле зыбілася, нібы рошчына. Увесь заляпаны гразёю, у лубяным дажджавіку і ў выцвілых кірзавых ботах Алёша Баранаў віхрам насіўся па полі. Прыбегшы да іншага трактарыста, сам садзіўся за руль, спрабаваў рычагі, «падбаўляў газку», але машына зарывалася ў зямлю, і ён, злосны, учарнелы, плёўся ў другое месца. І там яго сустракалі невясёлымі навінамі: або нешта псавалася, або зноў жа не цягнуў матор па такому месіву.

Машыны на гусенічным ходзе яшчэ так-сяк корпаліся на пагорках, а калёснікі зусім засумавалі. Некаторыя трактары «Беларусь» яшчэ нават не паспелі выбрацца з двара. Іх гаспадары цяпер зусім паапускалі галовы, зайздросцячы тым таварышам, якія хоць і гаравалі, але былі ў полі.

Мікола, паставіўшы пашыральнікі, паспеў падрыхтаваць цэлае поле пад кукурузу ў чацвёртай брыгадзе. Можа таму, што тут глеба выдалася лягчэйшая і з брыгадзірам ён загадзя абышоў усе





палеткі і нават выязджаў сяды-тады працаваць ноччу. А можа ўсё з-за таго, што не давала спакою думка — узяць тыя 1 500 гектараў, пра якія ён намякнуў Міцьку, калі з тым пагаварылі, як кажуць, па душах. А з Міколам жарты вядома якія!

«Я дык выцягну, — разважаў хлопец сам з сабою, увішна аруднуючы рычагамі. — Выцягну ва ўсякае надвор'е. Мне не прывыкаць, а іншы хвалько ці зробіць — не паручуся!»

Падмінаючы пад сябе волкую, гразкую зямлю, трактар ДТ-54 рухаўся марудна, але напорна. Справа і злева навокал яго ляжалі цемнаватыя скібы тлустай вільготнай раллі. Узараны загон ладны — ужо быў блізка палудзень.

Мікола азірнуўся праз акенца, і яму здалося, што на плугах прычэпшчык драмаў, абхапіўшы аберуч вінт, і на ворыве сям-там жаўцеўся вывернуты на паверхню сыпец-пясок. Ён тарганула рычаг, каб сцішыць матор, але пад нагамі нешта скрыгатнула, бязладна забразгацелі гусеніцы, і трактар спыніўся. Міжвольна бліснула думка: «Паломка!»

Вось табе і маеш!.. Цяпер, напэўна, так хутка не выкруцішся. Давядзецца ехаць зноў у Бялевічы, у МТС. Дні тры патраціш... Мікола выскачыў з кабіны і хутка пачаў абмацваць халодную гразкую сталь тракаў. Рукі чамусьці не слухаліся, былі як адубелыя, у грудзях нешта трымцела.

Выявілася, што паломка нязначная, але без зваркі, мабыць, не абыйдзешся. «Тры дні правалтузішся, аруднуючы гаечным ключом, — падумаў Мікола і горка ўсміхнуўся. — Гэта ж, як той казаў, ты на гару, а чорт за нагу»...

— Давай, брат, пасабі, — паклікаў Мікола прычэпшчыка, учэпіста ўхапіўшыся ключом за гайку.

... На дарогу, з-за маладых, апырсканых бледнай зелянінай яблынек жвава выпаўзаў рухавенькі малышок — трактар ДТ-14. Мікола яшчэ здалёк пазнаў на ім Міцьку па ўскудлачаных рыжых валасах, якія зухавата выбіваліся з-пад зашмальцаванай аблавушкі. Міцька з пераможным выглядам сядзеў на трактары, нібы любуючыся сабою.

Перш за ўсё хацелася куды-небудзь схаваць гэтую праклятую жалезіну, якую Мікола трымаў на плячы, аперазаўшы яе салдацкай папругай, а потым самому куды-небудзь хоць збочыць. Ён рыўком падняў сваю ношку і порстка рушыў краем дарогі, бязлітасна трушчачы цяжкімі ботамі мяккі, кволы падарожнік і гледзячы некуды паверх Міцькавай аблавушкі. Вось ужо і трактар побач, у твар тхнула гаркавым перагарам, але Мікола як бы нічога перад сабою не бачыў.

— Як справы, Мікола? — Міцька, параўняўшыся, удала затармазіў машыну і намерыўся саскочыць з сядзення, каб павітацца, але заўважыў за плячыма ў таго жалезіну і збянтэжыўся: — Як жа гэта... Вось нечаканасць...

— Для каго нечаканасць, — бліснуў калючымі вачамі Мікола, — а для каго, можа, і пацаха, — і размашыста пашыбаваў са сваёю ношкай. Ветрам данесла Міцькавы словы: «Не бядуй, Мікола! Цяпер табе не давядзецца лятучкі чакаць днямі, як некалі. Курпан усё заварыць мігам, далібог!» Гэтыя шчырыя словы спа-



чування чамусьці толькі больш разварушылі тую скруху, якая тачыла сэрца.

Міцька не памыліўся. Міколу ісці далей, як у сваю кузню, дзе цяпер побач з кавалямі гаспадарыў новы механік Іван Курпан, не давялося. Тут так хутка і трывала зрабілі рамонт, што Мікола аж здзівіўся. Ён, не марудзячы, узваліў трак на плечы і паімчаўся да напарніка, каб завідна дабрацца да трактара. Якраз пачало і выпагоджвацца. Нарэшце, сціхлі абложныя дажджы, утаймаваўся ледзяны вецер. Надвячоркам пацяплела, і ў паветры запахла парнасцю. Калі добра змерклася, буйным засевам высыпалі зоркі. Неба стала высокае, неабсяжнае, яно лашчыла вока сваім мяккім аксамітам.

Уладаром на зямлі, нарэшце, стала вясна.

... Быў прыгожы маёвы вечар, бадай што першы за ўсю вясну, і нікому не хацелася сядзець дома. Людзі высыпалі на вуліцы, па святочнаму расселіся на прызбах. Парасчыняліся вокны хат, і доўга ў густой духмянасці чуліся галасы, плавалі песні і не сціхаў гул матораў, нечым да болю знаёмым хвалюючы душу.

Пачуўшы прызыўны грукат, Алёша Баранаў пакінуў хлопцаў і непрыкметна знік у змроку. Неўзабаве ён у сваім неразлучным дажджавіку стаяў на пагорку, падставіўшы грудзі свежаму ветру, і ўважліва ўслухоўваўся ў ракатанне матораў, на слых стараўся ўгадаць, хто дзе працуе. З боку лесу данёсся роўны з пералівамі гук — гэта Андрэй Бабейка газуе; злева чуўся зычны з уздыхамі грукат — там Міхал Ленька на сваім багатыры С-80 скібы варочае; прайшоўся крыху далей — улавіў галасы другіх машын. Значыць, заступілі на вахту і Міколаў напарнік, і Міхал Харковіч, і Васіль Курпан — адным словам, усе хлопцы, згодна нараду. Удзень, калі гэтак будзе пагода стаяць, можна і за сяўбу брацца.

Алёша пастаяў крыху, нібы ў роздуме, што далей рабіць, і размашыста рушыў узрэччам на агеньчык, які дрыжаў і пераліваўся ў цёплым змроку, як жывы.

«Пайду да Міколавага трактара, — рашыў брыгадзір, — пагляджу, як у яго там пасля рамонту...»

## 3

Аднаго разу ўначы прашумела над Семежавым яшчэ адна, самая страшэнная за ўсю вясну навальніца. Гаворка пра яе, мабыць, і цяпер не сціхла. Тады ўначы здарылася тры пажары. Людзі, як апантаныя, падхопліваліся, выбягалі з хат, глядзелі, дзе гарыць, але ўбачыўшы, што далёка, зноў разыходзіліся, трывожныя. Пажарная каманда не ведала, у які бок выязджаць. Пярун біў, не сціхаючы. Сінія, сляпучыя маланкі крышылі густую парнасць ночы, ірвалі на шматкі неба.

Пасля, пад канец мая, насталі спякотныя дні. І адразу перамяніліся палі, буйна і прыгожа зацвілі сады — над бясконцымі семежаўскімі вуліцамі нібы застыла пахучае бледна-ружовае воблачка... Надрэчча заіскрылася густой, сакавітай травою. Пастухі са статкам адразу выбраліся на летнюю дачу, і даяркі кожны дзень, папрыбіраўшыся, як на кірмаш, урачыста выпраўляліся на дойку. Па дарогах пылілі грузавікі, поўныя бітонаў сырадою.

Добрай пагодзе, можа, ніхто так не нарадаваўся, як трактарысты і шафёры. У іх нібы вырaслі за плячыма крыллі. Увесь час над Семежавым стаяў няўмолны густы гул. Ён чуўся зранку, у цэнтры, дзе стаяла калона калгасных грузавікоў, рэхам адгукваўся на дасветны сігнал старшынёўскай «Волгі», якая нядаўна з'явілася тут, як знак шчырага прызнання заслуг новага старшыні-трыццацітысячніка.



Семежаўцы — цікавы народ. У іх асаблівы дамавіты гонар за ўсё сваё, семежаўскае. Некалі, бывала, калі едзе семежаўскі чалавек на кірмаш у Цімкавічы ці ў Капыль, дык адразу бачна: і вазак апрануты ахайна, і конь-стаеннік і вупраж аж блішчыць. Выбіся з сіл, недаспі, не даеш, а гонару не ўрані, каб кожны сказаў: «Глядзі, гаспадар — семежаўскі!»

Здаўна семежаўцы дбаюць, каб быў парадак і на двары, і ў хаце. Вясковая гаспадыня будзе шкрабсці палавіцы дзень і ноч, калі хто ненарокам кіне слова, што вунь у яе суседкі ў доме чысцей. Або, скажам, адзін гаспадар на вуліцы накрыў хату гонтамі, і адразу пайшлі суседзі адзін за другім здзіраць саламяныя стрэхі; другі здабыў сабе недзе чарапіцы — і адразу ў яго знаходзяцца некалькі паслядоўнікаў. У вёсцы больш сямісот двароў, і ўсюды дбайны парадак.

У Семежаве захаваліся свае выдатныя краўцы, бондары, вышывальшчыцы, калеснікі. На вуліцы можна сустрэць дзяўчыну ці кабеціну, апранутую ў сваёй работы вышываны палатняны каптан. У людзей крамніны хапае, і ёсць за што купіць яе, але і сёння ўсё надрэчча заслана кужалёвымі палотнамі.

Важна, што добрыя традыцыі шанавання сваёй працы і гонару ёю перадаюцца моладзі. У Семежаве злыднем і валацугам называюць таго, хто надумаўся б пакінуць родную вёску і недзе прыстроіцца на лёгкі хлеб.

Хіба маглі такія людзі дапусціць, каб іх калгас быў горшы, каб у іх не было новых машын і наогул усяго таго, што павінен мець добры гаспадар! Між іншым, заслуга новага старшыні Аляксея Паўлавіча Краснеўскага, напэўна, перш за ўсё тая, што ён здолеў падгледзець гэту семежаўскую працавітасць і накіраваць яе ў рэчышча калектыву. Іменна пры новым старшыні ўсё больш пераконваюцца людзі, што калгаснае — гэта маё.

Яшчэ да рэарганізацыі МТС у Семежаве было пяць маленькіх трактараў ДТ-14. Іх давялося набываць з вялікімі цяжкасцямі. Тут якраз і адыграла сваю ролю семежаўская ўпартасць: калі надумаў што — разбіся, а зрабі!

Тыя ж трактары-карлікі вунь як сябе апраўдалі. Імі і кукурузу сеялі, і буракі абворвалі, чысцілі насенне і сіласавалі, і нават малолі зерне. Перад імі давялося чырванець нават некаторым эмтээсаўскім хлопцам з іх магутнымі машынамі.

— Можа таму і жывёлагадоўля наша пайшла ўгору, — робіць свой вывад старшыня калгаса, — што машыны ў нас у пашане.

Напрадвесні, калі перадавалі з МТС у калгас трактары і іншыя машыны, з усіх бакоў чуліся галасы калгаснікаў: «Не скупіся, старшыня. Калі ўжо браць, дык толькі новае!»

— Здарова, хлопцы! — павітаўся старшыня з Міколам, які вылез з кабіны, прыветна кіўнуў галавой у бок мужчыны і чарнавокай дзяўчынкі, што стаялі пры се-



ялках. — Што гэта ў вас семяправоды пазабіваліся зямлёю?

Мікола злёгку пацiснуў адубелай сваёю рукой старшынёвы пальцы і пачціва адступіўся. Шырокі, загарэлы яго твар пасуровеў, сышліся крутыя залацістыя бровы.

— Семяправоды — нішто, паправім. А вось скажыце, Аляксей Паўлавіч, з чыёй гэта ласкі робім прастоі?

Мужчына, што стаяў на прыступках сеялкі, бегма кінуўся паправляць гумоўкі-семяправоды, дзяўчынка з цікаўнасцю і здзіўленнем пазірала на ўсіх.

— Што? Якія прастоі? — прытворна насцярожыўся старшыня. Ён ужо здагадваўся пра намёк трактарыста, але не падаваў выгляду. Яшчэ зранку да яго прыбягалі брыгадзіры Васіль Ленька і Уладзімір Рымжа скардзіцца на агранома, які невядома дзе падзеўся, і сеялкі адрэгуляваць няма каму. — Дык што вы, дзівакі, не ведаеце, як сеялку ўстанавіць? — з насмешкай у голасе прагаварыў старшыня, думаючы гэтым прыпыніць Міколавы намёкі.

Нахмурыўшыся, з прыхаванай у засмяглых прыпухлых вуснах усмешкай Мікола маўчаў. Цень імгненнай збянтэжанасці прабег па яго спацелым твары і знік; упэўненая рашучасць сабрала дробныя зморшчынкі вакол зеленаватых вачэй.

— Мы, таварыш старшыня, можа, ведаем, як і што, — смела сказаў Мікола. — І вось, бачыце, працуем. Але чаму таго агранома днём з агнём не знойдзеш? Апроч таго, вы ж далі ўказанне, каб без яго ніхто не дакранаўся да сеялкі... Дык што нам было рабіць?

Не знайшоўшыся, што сказаць у сваё апраўданне, старшыня прымірэнча загаварыў пра тое, ці дасеюць сёння ў брыгадзе лён і як Мікола думае наконт падрыхтоўкі глебы пад ячмень: абмежавацца культывацыяй, як раіць аграном, або пераараць.

— Канешне, пераараць! — радасна ўсклікнуў Мікола, забыўшыся, што толькі што злаваў на старшыню, і ўжо з кабіны гукнуў: — Будзем араць, на поўную глыбіню каб былі барозны!

... Машына старшыні імчалася далей полем. Вакол млелі на сонцы палеткі, удалечы — цямнеўся сіні дыван азіміны.

Седзячы побач з шафёрам, Аляксей Паўлавіч павольна пакручваў рукаятачкай у радыёпрыёмніку. «Нарэшце, выпагадзілася, — думаў ён. — Цяпер мы адсеемся. Яшчэ дзянькі два—тры, і з бульбай скончым. Лубін ужо ўзыходзіць. Трыста гектараў...»

Наперадзе мільганула развілка дарог. Шафёр нерашуча кашлянуў:

— Куды паедзем?

— Прама. Паглядзім, як узышла кукуруза, — старшыня левай, пакалечанай на вайне рукой прайшоўся па яшчэ не пасівелых, хвалістых валасах і нечакана для шафёра загаварыў пра яго брата: — Скажы, Васілька, гэты ваш Мікола — хлопец з характарам. Баявіты!..

Аляксей Паўлавіч усміхнуўся, лёгка гайдануўся на сядзенні і сцішыў радыё:

— Што скажаш... Ага!..

Хлопец заліўся чырванню, як дзяўчынка. Але вочы, поўныя іскрыстай маладосці, цвілі ад задавальнення. Ён у гэтую хвіліну быў вельмі падобны на свайго старэйшага брата-трактарыста. Крыху счакаўшы, Васіль гаварыў:

— Мікола ў нас такі з маленства. Нас траіх хлапчукоў у мацеры... Гадаваліся пры айчыме — бацька з вайны не вярнуўся. Дык мы яшчэ сяк-так, а Мікола ні разу айчыма бацькам не назваў, усё «дзядзька Ваня»...



Старшыня злавіў сябе на думцы, што захапляецца гэтымі людзьмі — семежаўцамі, з якімі вось ужо два гады працуе разам. Аляксею Паўлавічу хацелася сказаць нешта цёплае пра іх, але прамаўчаў, а потым зноў успомніў Міколу.

— Гэта добра, што характар у твайго брата цвёрды. Ага!..

Шафёр плаўна пераключыў машыну на большую скорасць.

Там, дзе нядаўна шчэццю з раллі ружавелі тугія парасткі ўсходаў, цяпер весела шуміць, горбіцца ў лёгкіх хвалях зялёнае мора вакол Семежава, з трох бакоў цесна сціскае вёску з бяскрылымі млынамі на ўзрэччы. Млыны гэтыя выглядаюць цяпер недарэчнымі, бо на высокім пагорку ўзняўся ў блакіт бляшаны комін калгаснай электрастанцыі. Яна дае не толькі святло ў кожную хату, але і зерне меле, дрэва пілуе, ваганеткі на фермах ганяе...

Нібы малады, густы пераснік, шуміць сакавітая кукуруза. Набіраюць сілу яравыя. Закусцілася бульба, хутка ўжо і барознаў не будзе відаць. Палі без канца і краю...

Недзе між зялёных прастораў загубілася старшынёўская «Волга». Загубілася, а потым зноў мільганула бліскучым блакітам, спынілася на дарозе. З ільнянага палетку ўзнялі галовы дзяўчаты. Адна з іх, чарнавокая смуглянка ў чырвонай хусцінцы, падышла да машыны, смела падала Аляксею Паўлавічу загарэлую руку.

— Дык гэта вы і ёсць тая дзяўчынка, што з Міколам лён тады сеяла? — здароўкаючыся, запытаўся старшыня. — Як лянок, звеннявая?

— Ды вось... як бачыце, — макам успыхнула дзяўчына, пырснула цяплом чорных вачэй, і сама ў сваю чаргу кінула пытанне: — А скажыце, Аляксей Паўлавіч, гэта ў нас ільнакамбайн будзе?

— А як жа, будзе! Гэтулькі ільну. Трэба каб быў! — Потым, задумліва памаўчаўшы, старшыня дадаў: — Трэба было б, дзяўчаткі, буракі падкарміць. Толькі глядзіце, не перабаўце норму.

— Мы ведаем! — бойка адказала звеннявая і подбегам кінулася да сяброўак.

Аляксей Паўлавіч падумаў: «Усё ж, як ні кажы, якая там ні вучоба, а інакшы робіцца чалавек. Дзесяцігодка — гэта нешта значыць», — і ціха крануў за плячо шафёра:

— Як там Мікола, усё яшчэ не памірыўся з Каражанцом?

— А чаго ім крыўдаваць. На дошцы ж гонару — побач... Гэта ў Міколы толькі такі характар!..

Шчоўкнула рукаятачка, і з радыёпрыёмніка пачуўся бадзёры голас дыктара — перадавалі, што заўтра будзе добрае надвор'е.

**Калгас імя Сталіна Чырвонаслабодскага раёна.**



*Размова аб майстэрстве*

Янка КАЗЕКА

# МАЙСТЭРСТВА НЕ ПРЫХОДЗІЦЬ САМО

У адзін з тых жалобных жнівеньскіх дзён, калі бясконцая людская ручаіна плыла да Мінскага палаца культуры прафсаюзаў, я сустрэў на Цэнтральнай плошчы старога настаўніка Васіля Гарбацэвіча, аўтара шырока вядомай у свой час п'есы «Чырвоныя кветкі Беларусі». З групай сваіх вучняў з Дукоры ён прыехаў развітацца з вялікім беларускім песняром Якубам Коласам. Даўно я не бачыўся з Васілём Савічам, з чыёй дапамогай рабіў калісьці першыя крокі ў настаўніцкай працы. Пры іншых абставінах размова зайшла б пра школу, у якой разам працавалі, пра агульных знаёмых — настаўнікаў і былых вучняў. У той жа дзень было не да ўспамінаў: нашыя сэрцы перапаўняліся смуткам і болем ад усведамлення, што з жыцця адышоў такі блізкі і родны чалавек. Занятыя кожны сваімі невясёлымі думкамі, мы толькі зрэдку перамаўляліся пацішу некалькімі словамі. Побач стаялі вучні, якія прыехалі з Васілём Савічам. Твары іх былі не па-дзіцячаму засмучаныя.

— Гэта ж яшчэ ўчора ўвечары, як дачуліся, што паеду, прышлі прасіцца, каб узяў з сабою, — сказаў пра іх Васіль Савіч. — А як было не ўзяць. Яны ж так даверліва слухалі на ўроках яго вершы.

Вось тады я і падумаў: напэўна, ніякае іншае слова так дакладна не ахарактарызуе шматгранную дзейнасць Якуба Коласа, як слова «настаўнік».

Гэта быў настаўнік, у вочы якому глядзелі мільёны даверлівых вачэй, які шчыра, сумленна служыў свайму народу, выхоўваў у людзей высакародныя імкненні і пачуцці. Не адно пакаленне пачынала свой шлях з яго бацькоўскім словам у сэрцы.

Усё сваё жыццё аддаў Якуб Колас роднай беларускай літаратуры, нястомна клапаціўся аб яе развіцці, аб выяўленні новых талентаў з народа. Яго па праву называюць настаўнікам беларускай літаратуры: выдатнае пісьменніцкае майстэрства і вялікі літаратурны вопыт яшчэ ў дакастрычніцкі час вылучылі яго на гэту пачэсную ролю.

«Чытанне твораў маладых нашых пісьменнікаў, — зазначыў народны паэт у адным са сваіх артыкулаў, — сустрэчы і гаворкі



з імі даюць перакананне, што літаратура наша расце, папаўняецца людзьмі сталымі і сур'ёзнымі, якім ёсць пра што гаварыць і падчас вельмі трапна. Гэта вялікая радасць і падтрымка асабіста для мяне, бо міжволі помняцца тыя горкія часы знявагі і няволі, калі пачыналі мы беларускую песню ўдвух з дарагім маім другам Янкам Купалам».

На апошнім годзе жыцця Якуб Колас апублікаваў артыкулы «Пісьменнік і яго праца» і «Сучаснасць і пісьменнік», прысвечаныя выхаванню літаратурнай змены. Артыкул «Сучаснасць і пісьменнік» паявіўся на старонках «Праўды» напярэдадні трэцяй усесаюзнай нарады маладых літаратараў, якая склікалася ў студзені 1956 года.

У гэтых артыкулах народны паэт падзяліўся сваімі думкамі аб творах моладзі, закрануў шмат пытанняў, звязаных з пісьменніцкай працай і мастацкай творчасцю наогул. Напісаны яны з пачуццём жывой зацікаўленасці ў лёсе роднай літаратуры, у яе будучыні.

Літаратура не можа паспяхова развівацца без няспыннага прытоку новых творчых сіл. Гэтую думку Якуб Колас з асаблівай сілай падкрэсліў у артыкуле «Пісьменнік і яго праца». Нешматлікай групе, што працуе цяпер у літаратуры, гаварыў ён, не пад сілу стварэнне такой колькасці разнастайных мастацкіх твораў, якая задавальняла б духоўныя патрэбы савецкага грамадства. Вось чаму клопаты аб выхаванні пісьменніцкай моладзі, аб папаўненні літаратуры новымі талентамі павінны стаць першачарговай справай усіх вопытных майстроў слова.

«Крыніцы нашага папаўнення, — пісаў Якуб Колас, — у глыбінях народа. Справа вопытных майстроў — убачыць сапраўдны талент, паказаць слабыя і моцныя бакі яго, з тым, каб малады пісьменнік шукаў шляхі росту самастойна, у творчай працы».

Гаворачы аб папаўненні літаратуры новымі сіламі, Якуб Колас у той жа час перасцерагаў, што ў рабоце з маладымі пісьменнікамі недапушчальны як кампанейшчына, так і «цяплічная валтузня» з асобнымі здольнымі аўтарамі. А такія з'явы нярэдка можна наглядаць у нашым літаратурным жыцці. Было ж так, калі аб пачынаючых у Саюзе пісьменнікаў і ў рэдакцыях успаміналі толькі напярэдадні чарговага з'езда або рэспубліканскай нарады маладых. Было і адваротнае: заўважыўшы па двух — трох удалых вершах новае імя, апекуны маладых талентаў узнімалі ў друку такое лемантаванне, што сам носьбіт гэтага імя пачынаў верыць, нібыта яму і не да твару ўжо ехаць разам з сябрамі ў падшэфны калгас і дапамагаць там капаць бульбу, а трэба толькі ў вершах услаўляць гэтую працу.

А каму з супрацоўнікаў рэдакцый часопісаў, газет і выдавецтваў не даводзілася сустракацца з пакрыўджанымі, непрызнанымі «талентамі», пісакамі бясконцых скаргаў?

Мы шчыра абураемся, чытаючы скаргі якога-небудзь графамана, што яго, бачыце, ігнаруюць, не друкуюць, што ён нідзе не сустракае належнай увагі і падтрымкі, але рэдка калі задумваемся аб тым, як жа мог гэты «талент», які, паводле трапнага выразу Якуба Коласа, «не выяўляе ні думкі, ні пачуцця і нават піша з грубымі граматычнымі памылкамі», паверыць, што зможа стаць пісьменнікам. Праглядаеш часам прынесеныя непрызнаным «пачынаючым», немаладым ужо на выгляд чалавекам, парыжэлыя ад даўнасці і засмальцаваныя ад частага ўжытку газетныя выразкі са слабенькімі, бездапаможнымі вершыкамі і

крыўдна робіцца, што вось збілі чалавека з панталыку, прымусілі яго ўзяцца не за сваю справу. Даслаў ён калісьці ў рэдакцыю сшытак сваіх вучнёўскіх практыкаванняў, трапіў гэты сшытак у рукі паэта, і той, выбраўшы два — тры вершы, у якіх адчуваліся сякія-такія прабліскі думкі і пачуцця, «дацягнуў» іх сам да такога ўзроўню, каб можна было надрукаваць. І вось пасыпаліся ва ўсе рэдакцыі новыя вершы, адзін горшы за другі, і іх ужо нават самы вопытны паэт не мог «дацягнуць» да друку. А ўслед за гэтым паляцелі скаргі, патрабаванні, абвінавачванні ў нячулых адносінах.

Якуб Колас прызнаваўся, што аўтары гэтых скаргаў і яго іншы раз выбіралі ў якасці своеасаблівага «арбітра», дамагаліся, каб ён выказаў «канчатковы прысуд» іх вершам і даў параду, як ім «працягваць творчую працу, як развіваць свой паэтычны талент». «У большасці такіх выпадкаў, — пісаў ён, — ні працягваць, ні развіваць нічога не варта, бо працягваць можна толькі тое, што сапраўды пачата, а развіваць — тое, што сапраўды ёсць». А калі б паэт, які аднойчы «дацягнуў» вершы пачынаючага, не рабіў гэтага сам, а сказаў бы аўтару шчырую праўду аб яго творах, растлумачыў, што ў іх добра і што дрэнна, магчыма, і не абіваў бы цяпер парогаў рэдакцый пакрыўджаны, непрызнаны «талент».

Шлях у літаратуру — нялёгкі. «Сапраўднымі пісьменнікамі, — гаварыў Якуб Колас, — становяцца толькі людзі, якія валодаюць вялікім запасам пачуццяў і думак і здольны выявіць іх у мастацкай форме — гэта значыць маюць талент і настойлівай працай выпрацавалі ў сабе адпаведнае ўменне пісаць». Не раз паўтараў ён думку, што пісьменніку трэба мець «тры рэчы»: таленавітасць, майстэрства і адукацыю, без чаго ніякая творчая дзейнасць наогул немагчыма. Акрамя гэтага, падкрэсліваў Якуб Колас, неабходна пачуцце грамадскай адказнасці за сваю працу. Само званне пісьменніка абавязвае яго быць у гушчы жыцця і не быць староннім нагляадальнікам, а актыўным удзельнікам усіх спраў народа. Інакш ён ніколі не зразумее таго, што адбываецца навакол, ніколі не зможа правяраць свае творы жыццём. Выступаючы на Другім усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў, народны паэт гаварыў: «Больш таго, мы павінны мець, а калі не маем, то выхаваць у сабе лепшыя духоўныя якасці нашых сучаснікаў. Без гэтага свет чалавечых думак, пачуццяў, імкненняў застанецца недаступным для нашага пранікнення. Перадаць натхненне працы, гераіку подзвігу, занядбанне асабістых інтарэсаў у імя грамадскіх немагчыма, не будучы самому натхнёным і гатовым да подзвігу».

Не цяжка зразумець, што гэтыя парады выдатнага майстра слова адрасаваны раней за ўсё маладым пісьменнікам. Гэта ім ён раіў: «Выхоўваць у сабе актыўныя якасці савецкага чалавека, як і шанаваць чэсць, трэба змаладу». І вельмі карысна было б, каб пісьменніцкія і камсамольскія арганізацыі, на абавязку якіх ляжыць выхаванне літаратурнай змены, клапаціліся ў першую чаргу аб павышэнні грамадскай актыўнасці маладых пісьменнікаў, аб умацаванні іх сувязей з жыццём народа.

Таго, хто сочыць за творчасцю маладых беларускіх паэтаў, празаікаў і драматургаў, не могуць не радаваць многія іх свежыя і таленавітыя творы. За апошнія два — тры гады наша літаратура сапраўды ўзбагацілася радам цікавых імён. Прыемна і тое, што моладзь, за рэдкімі выключэннямі, сур'ёзна адносіцца да сваёй працы, шмат увагі аддае форме тво-



раў, клапоціцца аб культуры мовы верша. Але пры ўсім гэтым не можа не кінуцца ў вочы пэўная тэматычная абмежаванасць творчасці маладых пісьменнікаў, дробнатэмнасць.

Сёлета мне давялося прачытаць каля дваццаці рукапісаў першых кніжак вершаў і апавяданняў маладых аўтараў. У большасці выпадкаў творы, уключаныя ў гэтыя зборнікі, напісаны ў апошнія два гады, і натуральна было б чакаць, што ў іх адлюструюцца сучасныя падзеі ў жыцці савецкай краіны. Нажаль, падзеі гэтыя рэдка ў каго з маладых выклікалі актыўны водгук.

У зборніку здольнага празаіка В. Адамчыка, уключаным у «Бібліятэчку беларускага апавядання і нарыса», усяго два творы — «Зоня» і «Свой чалавек». Абодва яны прысвечаны жыццю заходнебеларускай вёскі. Падзеі, якія складаюць змест «Зоні», адбываліся яшчэ ў давераснёўскі час; у «Сваім чалавеку» малюецца заходнебеларуская вёска першых пасляваенных год. Наўрад ці мог аўтар, які нарадзіўся ў 1933 годзе, напісаць «Зоню» паводле ўласных нагляданняў і ўражанняў, калі мець на ўвазе, што тэма гэтага твора — нешчаслівае каханне парабка і дачкі багатага хутаранца. Сумная гісторыя кахання, растаптанага няўмольнай уладай багацця, проста не магла запасці ў душу дзіцяці дашкольнага ўзросту. Зразумела, што крыніцай гэтага твора паслужыла не жыццё, а літаратура, і ў апавяданні без асаблівых цяжкасцей можна заўважыць чужыя матывы, у прыватнасці, матывы некаторых апавяданняў Я. Брыля.

Адбітак кніжнасці ляжыць і на многіх вершах у нядаўна выдадзеным зборніку маладога рускага паэта з Ваўкавыска І. Юшчанкі «На спатканне». Між іншым, змест зборніка істотна адрозніваецца ад першапачатковага варыянту яго рукапісу. Аўтар даслаў у выдавецтва сшытак лірычных вершаў, вельмі аднастайных і па сваіх матывах, і па вобразных сродках. Чытаючы гэтыя вершы, можна было падумаць, што іх аўтар — дачасна састарэлы чалавек, які сядзіць у пакоі з зачыненымі аканіцамі і наглядае, як дагараюць ў печы сухія дровы. Якія з'явы навакольнага жыцця маглі прыкаваць увагу такога чалавека, калі глядзеў ён на свет праз вузенькую шчылінку ў зачыненых аканіцах? Вершы яго гучалі старамодна, ніякіх жывых адзнак сучаснасці ў іх не адчувалася. Такія творы маглі быць напісаны і ў XIX стагоддзі. У выдавецтве параілі аўтару частку вершаў не ўключаць у зборнік, замяніць іх творамі аб працы савецкай моладзі, каханні і дружбе, змешчанымі ў свой час у перыядычных выданнях. Ад гэтага кніга толькі выйграла: тэматычна яна стала некалькі больш разнастайнай, а галоўнае — у ёй з'явіліся прыкметы жыцця нашых дзён.

Рэдка можна сустрэць у маладых паэтаў баявы публіцыстычны верш, гарачы, аператыўны водгук на тую ці іншую падзею ў жыцці краіны. Яны пішуць пераважна на так званыя «вечныя» тэмы. А каму б, як не ім, з юнацкім запалам не адгукацца на ўсё новае, што нараджаецца ў нашым жыцці! Менавіта так пачыналі сваю творчую дзейнасць і К. Крапіва, і П. Трус, і М. Чарот, і П. Броўка, і А. Куляшоў, — з твораў аб самых важных падзеях і з'явах, якія хвалявалі іх пакаленне. Яны ішлі ў літаратуру з жыцця, востра адчувалі яго пульс, надзённыя патрэбы народа. Няхай іх першыя творы і не былі спелымі ў мастацкіх адносінах (сапраўднае майстэрства прыходзіць з гадамі), але яны падкуплялі чытача гарачай зацікаўленасцю аўтараў у канкрэт-

ных справах краіны. Вось такой зацікаўленасці, такога пачуцця грамадскага абавязку і не стае многім іншым маладым пісьменнікам. Сувязі з жыццём народа ў іх нетрывалыя і неглыбокія, запас жыццёвых уражанняў вельмі небагаты. Невыпадкова паасобныя паэты і празаікі, не дасягнуўшы і трыццаці год, пачынаюць пісаць успаміны маленства. І гэта ў той час, калі навакол бурліць жыццё, калі на нашых вачах змяняецца аблічча краіны.

Жыццё ўладарна патрабуе ад пісьменніка гарачага, натхнёнага слова аб сваіх сучасніках, аб іх будзённых справах. І калі ён застанецца глухім да гэтых патрабаванняў, не прасякнецца жыватворным пачуццём часу, можа зачэзнуць і здрабнець яго талент. На думку Якуба Коласа, да працы над творам можна прыступаць толькі тады, калі сам аўтар будзе перапоўнены «магутным пачуццём усіх савецкіх людзей». А такой паўнаты пачуццяў ніколі не будзе ў старонняга наглядальніка жыцця. Толькі жывая сувязь з рэчаіснасцю і непасрэдны ўдзел ва ўсёй пераўтваральнай дзейнасці народа прыносяць пісьменніку багацце думак і ўражанняў, а значыць і багацце мастацкіх фарбаў. Нават самае дасканалае валоданне літаратурнай тэхнікай, разнастайнымі мастацкімі прыёмамі не дапаможа яму намаляваць яскравую карціну народнага жыцця, калі запас яго асабістых уражанняў будзе абмежаваны. Такі пісьменнік не створыць вобраза, які пакінуў бы глыбокі след у свядомасці і сэрцах людзей.

У лістападзе 1952 года Якуб Колас выступіў з прамовай у Доме літаратара (Масква). Сярод многіх творчых праблем, якія хвалявалі ў той час пісьменніцкую грамадскасць, ён закрануў і праблему літаратурнага наватарства, падкрэсліўшы, што найпершай умовай сапраўднага творчага наватарства з'яўляецца цесная сувязь пісьменніка з народам. «Не ствараючы новага, — гаварыў ён, — мы не будзем рухацца наперад. Мы павінны пісаць гэтак жа лёгка, як мы дышам, а для гэтага патрэбны поўныя грудзі пачуццяў, чысты і светлы розум, прасякнуты камуністычнымі ідэямі, патрэбна смелая рука, якая лёгка і ўмела абыходзіцца са словам і ўсім астатнім матэрыялам пісьменніка».

Вельмі часта размовы аб майстэрстве зводзяцца ў нас да разгляду толькі паасобных элементаў мастацкай формы, мастацкіх прыёмаў, якімі карыстаўся той ці іншы аўтар пры напісанні свайго твора. Такі вузкі і аднабаковы погляд на пытанні літаратурнага майстэрства наўрад ці зможа прынесці карысць маладым пісьменнікам, бо ён накіроўвае іх увагу выключна на пошукі ў галіне мастацкай формы, літаратурнай тэхнікі і не абуджае імкнення глыбока пазнаваць жыццё, пранікаць у свет духоўных інтарэсаў савецкага чалавека. Якуб Колас інакш падыходзіў да праблем літаратурнага майстэрства. Ён не аддзяляў мастацкіх вартасцей твора ад яго ідэйнага зместу і надзённых задач літаратуры. «Найлепшы твор, — пісаў ён у артыкуле «За высокую ідэйнасць і мастацкую дасканаласць», — гэта той, які мае найбольшую ідэйную нагрузку пры найкарацейшым і найдасканалейшым слоўным выражэнні». Без глыбокага ідэйнага напаўнення твора і натхняючага пачуцця сучаснасці пісьменнік ніколі не створыць яркіх, тыповых, выразных індывідуальных характараў, не дасягне жыццёвай шматграннасці сваіх вобразаў.

У адрозненне ад артыкулаў тых аўтараў, якія схільны разглядаць



літаратурнае майстэрства як пэўную суму паэтычных і моўных прыёмаў, коласаўскія выступленні аб майстэрстве вызначаюцца перш за ўсё шырынёй погляду на грамадскае значэнне пісьменніцкай працы. Майстэрства — гэта, на думку народнага паэта, і выразнасць палітычнай пазіцыі аўтара, яснасць яго грамадскіх ідэалаў і сімпатый; гэта і яго здольнасць глыбока адчуваць надзённыя патрэбы народа; гэта і яго ўменне пранікнуць у самыя складаныя працэсы рэчаіснасці, абагульняць і тыпізаваць жыццёвыя з'явы, «па-мастацку, у жывых паўнакроўных вобразах» выпрацоўваць сваю тэму. Майстэрства — гэта і ўменне цікава, напружана разгортваць сюжэт твора, знаходзіць новыя сэнсавыя і вобразныя адценні слова. Выказванні Якуба Коласа аб літаратурнай творчасці нічога агульнага не маюць з тымі завучанымі рэцэптамі, што нярэдка падаюцца маладым аўтарам. Калі верыць гэтым рэцэптам, нічога складанага нібыта і няма ў пісьменніцкай працы: варта толькі больш-менш удала пераняць гатовыя каноны і з'явіцца патрэбны твор. «Няхітрая справа, — гаварыў Якуб Колас, — патрапіць нагою ў пракладзены след, куды больш цяжка, але затое і ганарова, пракладваць шлях самому».

Думкі Якуба Коласа аб літаратурным майстэрстве грунтаваліся на багатым уласным творчым вопыце. На працягу ўсяго жыцця ён ішоў па някранутай цаліне, пракладваў новыя шляхі для развіцця беларускай літаратуры. У гэтых нястомных пошуках і склаліся тыя высокія патрабаванні, з якімі падыходзіў ён да сваіх твораў і твораў іншых пісьменнікаў. Ніякіх скідак не рабіў народны паэт і маладым аўтарам. У артыкуле «Аб літаратурнай працы» ён пісаў, што ні ў якім разе нельга «зводзіць ролю нашай пісьменніцкай арганізацыі да функцыі паэтычнай нянькі, якая ў дзіцячых яслях штохвілінна мяняе пялёнкі растучым талентам». Майстэрства не прыходзіць само, яно здабываецца ўпартай, настойлівай працай. Творчая дапамога з боку вопытных майстроў слова, нават самая рознабаковая, не павінна замяняць уласным пошукам і намаганням маладога пісьменніка, інакш ён ніколі не набудзе навыку «рухацца самастойна, а не хадзіць на павадку».

«Мастак можа навучыцца майстэрству толькі ў мастака», — гэтую горкаўскую думку Якуб Колас настойліва паўтараў у многіх сваіх артыкулах. Пра сябе ён гаварыў, што «выхоўваўся на паэзіі Пушкіна і Лермантава», «вучыўся ў Горкага строгай і дакладнай манеры пісьма», што менавіта Пушкін адкрыў яму «дзівосную магчымасць — гаварыць вершам». Творчасць вялікіх рускіх паэтаў і славутага ўкраінскага кабзара Т. Шаўчэнкі была адной з тых крыніц, якія жывілі талент беларускага песняра, служыла яму ўзорам рэалістычнага мастацкага майстэрства.

Выхаваны на творах класічнай літаратуры, адзначаных высокім паэтычным майстэрствам, Якуб Колас надзвычай патрабавальна адносіўся да мастацкай якасці твораў сваіх сучаснікаў. Барацьбу за ідэйнасць літаратуры ён не адрываў ад барацьбы за дасканаласць мастацкай формы. «Хочацца, — гаварыў народны паэт у артыкуле «Сучаснасць і пісьменнік», — каб кнігі маладых пісьменнікаў не толькі радавалі агульнай адаронасцю і юнацкай зоркасцю вока, а і прыкоўвалі ўвагу сваёй цэласнасцю, мастацкай закончанасцю». Не задавальнялі яго і некаторыя буйныя творы вядомых ужо шырокаму чытачу беларускіх паэтаў і празаікаў, напісаныя па-

спешліва, неахайна, без строгага адбору жыццёвых фактаў і мастацкіх фарбаў. «Ёсць дамы, — чытаем у артыкуле «Пісьменнік і яго праца», — якія вабяць вока ці тонам афарбоўкі, ці капітэлямі, ці ўдалым размяшчэннем вокан і балконаў. А зойдзеш у сярэдзіну: няўтульна, няма дзе прыткнуцца, як кажуць у народзе. Падобнае ўражанне застаецца ад некаторых тоўстых, знешне прывабных кніг. Нейкія няпэўныя фігуры вымаўляюць нейкія няпэўныя словы, робяць нейкія недарэчныя ўчынкі. Усё ў кнізе шэрае, змрочнае, ніводнай усмешкі, суцэльнае вялікапоснае богаслужэнне. Не знойдзены памеры і прапорцыі, не створана такая прастора, у якой лёгка дыхаць і рухацца людзям, няма пункта, з якога праліваўся б жыватворны прамень сонца, які прымушае страсці кіпець, а толькі ж гэта і дае кнізе ўнутранае жыццё».

Зразумела, што такія творы не захопяць чытача, не крануць яго сэрца. Да таго ж, зазначаў Якуб Колас, яны могуць зрабіць дрэнны ўплыў на маладых пісьменнікаў: могуць прывучаць іх да паспешнасці і неахайнасці ў працы, параджаць абыякавыя адносіны да мастацкай культуры, літаратурнай тэхнікі. Між іншым, Якуб Колас не раз напамінаў вопытным пісьменнікам аб іх асаблівай адказнасці за мастацкую якасць сваіх твораў, дасканаласць іх формы і чысціню мовы. У артыкуле «Развіваць і ўзбагачаць літаратурную мову» ён пісаў, што нават невялікія моўныя неахайнасці ў кнізе вопытнага пісьменніка, «дапушчаныя ці праз недагляд, ці праз паспешнасць, успрыймаюцца літаратурнай моладдзю як канон, пашыраюцца ў новых творах і пагражаюць небяспекай стаць моўнай нормай».

У гэтай сувязі вялікую цікавасць уяўляюць тыя коласаўскія артыкулы, у якіх разглядаліся мастацкія вартасці многіх твораў беларускай прозы і паэзіі. Народны паэт не абмінаў ніводнай значнай падзеі ў літаратурным жыцці рэспублікі. Аналізуючы творы старэйшых і маладзейшых пісьменнікаў, ён звяртаў увагу на самыя, здавалася б, нязначныя дробязі іх стылю. Ад яго пільнага вока не маглі схавацца моўныя недакладнасці, словы, ужытыя не ў сваім значэнні, немэтазгодныя дэталі. Маладым пісьменнікам, напэўна, вельмі карысна будзе пазнаёміцца з артыкуламі пра раман М. Лынькова «На чырвоных лядах», пра паэмы «Аманал» А. Куляшова, «Кладкі Градоўскага» М. Лужаніна і некаторыя іншыя творы.

Выступаючы ў 1934 годзе з разглядам «Аманалу» А. Куляшова, у той час яшчэ маладога паэта, Якуб Колас прыхільна ацаніў пошукі аўтара ў галіне мастацкай формы. Тое, што малады паэт ішоў «нейкім новым, сваім шляхам», шукаў «новых сродкаў для рэалізацыі сваіх творчых замыслаў», імпанавала Якубу Коласу — нястомнаму шукальніку найбольш дасканалых прыёмаў і сродкаў мастацкага пісьма. Але многае з тагачаснай творчай практыкі А. Куляшова народны паэт проста не мог прыняць. Не мог ён змірыцца з тым, што аўтар «Аманалу» выступаў, «як «свайго роду паэтычны анархіст», калечыў радок, наўмысна абстрагіраваў матывы і вобразы свайго твора, знарок выбіраў ненатуральныя сітуацыі, параўнанні і спалучэнні слоў, падаваў нейкія штучныя пачуцці людзей. Адзін з персанажаў, напрыклад, завязаўшы на шыі пятлю і адштурхнуўшыся ад дрэва:

Такое ўчуў і ўгледзеў:

«ды на той асіначцы ўдавіўся».

Зразумела, што гэта было нішто іншае, як паэтычнае штукарства, бо наўрад ці здолее чалавек з зацягнутай на шыі пятлёй слухаць песню.

Прывёўшы ў артыкуле радкі з паэмы:

Было месіку вісець сцюдзёна
Аднаму ў небе, як у карыце, —

Якуб Колас зазначыў: «Параўнанне неба з карытам надуманае і фальшывае не таму, што там багі жывуць, а таму, што неба і карыта не маюць падабенства ні ў форме, ні ў чым іншым, і не даюць яснага вобраза».

Паэт, які ў сваёй творчасці неадступна ішоў па шляху мастацкай прастаты і натуральнасці, арганічна не мог успрыняць «завілісты сказ», непатрэбнае слоўнае мудрагельства. «Паспрабуйце, — пісаў ён, — вылушчыць зерне з такой слоўнай шкарлупіны:

Недалёка за плотам лазовым
Нядзелі і заранкі
Вачыма лыпалі па сіні.
У змораных жывёльчыных вачах
— спалі сузор'і».

Сам А. Куляшоў пазней зразумеў зманлівасць такога «наватарства» і адкінуў усё наноснае, штучнае, што замінала плённаму развіццю яго рэалістычнага майстэрства.

Якуб Колас выступаў не толькі супроць слоўнага «факстроту», як называў ён падобныя штукарствы, але і супроць прыземленага бытавізму ў мове, празмернага злоўжывання дыялектызмамі. Ён крытыкаваў М. Лынькова за тое, што яго раман «На чырвоных лядах» быў перасыпан правінцыяналізмамі, не зразумелымі шырокаму чытачу. Прывёўшы вялікую колькасць прыкладаў ухілення пісьменніка ад норм чысціні мовы: няправільна пабудаваных сказаў, вульгарызмаў, дыялектызмаў, накшталт такіх, як «пуплы», «упыпіўшы», «скукарэчаны», «гіндзіцца» і г. д., Якуб Колас пісаў, што М. Лынькоў гэтым самым значна пашкодзіў мастацкасці свайго твора.

Нікому з пісьменнікаў Якуб Колас не дараваў стылёвых няўвязак і недакладнасцей, няўважлівага абыходжання са словам, а тым больш літаратарам, якія пішуць не першы год. Сустрэўшы ў такога добрага знаўца народнай мовы, як М. Лужанін, сказ: «Ніяк не можа не зірнуць на дом, што столькі дзён стаіць замкнуты на прабой», народны паэт зрабіў у артыкуле «Кладкі Градоўскага» такую заўвагу: «Будыніна замыкаецца не на прабой, а на замок». Адносна сказу «Хто начышчае аўтамат, хто рулю начышчае» заўвага была больш падрабязная: «Начышчаюць рэчы зверху: начысціць боты, бляху, самавар, але нельга сказаць: «начысціць нос, вуха».

«У літаратурнай рабоце, — гаварыў Якуб Колас, — мова з'яўляецца і матэрыялам і інструментам». І калі пісьменнік не ведае ўсіх уласцівасцей матэрыялу, з якога робіць твор, не валодае дасканала сваім інструментам, ён ніколі не стане сапраўдным майстрам. Нават пры самым вялікім запасе жыццёвых уражанняў ён не дасягне сваёй мэты, калі ў яго будзе абмежаваны моўны запас. Істотным недахопам некаторых буйных твораў беларускай літаратуры, напісаных неўзабаве пасля Айчыннай вайны, народны паэт лічыў тое, што іх аўтары, імкнучыся як мага хутчэй падзяліцца з чытачом перажытым і перадуманым, мала клапаціліся аб чысціні і сакавітасці мовы. А між тым толькі мова і можа надаць «паўнакроўнасць вобразу і свежасць твору».

У літаратурным творы аднолькава важны і выразнасць аўтарскай задумы, і мастацкая мэтазгоднасць кожнай дэталі, і культура пісьма. Часамі так званыя

«дробязі» наніўто зводзяць мастацкія вартасці твора. Бывае, праз адно слова, ужытае не ў сваім значэнні ці механічна ўстаўленае дзеля рыфмы, так і не зразумееш, што ж хацеў сказаць аўтар. Вось нядаўна, напрыклад, А. Бялевіч апублікаваў урывак з новай паэмы. І, напэўна, не адзін чытач усміхнуўся, дайшоўшы да той мясціны ва ўрыўку, дзе апавядаецца пра салдата, які пасля рэвалюцыі прывёў бедняку Пліску карову. Аддаючы яму карову, салдат гаворыць:

— Такая, бацька, справа:
Паіць ёй хлопчыкаў, дзяўчат,
Вось гэты стрыжаны атрад —
Яе прамое **права.**

Усё нарабіла рыфма. Каб дагадзіць ёй, паэт блытае каровіны «правы» і «абавязкі». Да чаго іншы раз даводзяць няўважлівасць і механічныя адносіны да слова, пасведчыць і такі прыклад. Рускі паэт К. Цітоў, малюючы ў адным са сваіх твораў гаротнае дарэвалюцыйнае жыццё сялянства, напісаў:

Ни смеха не слышно,
Ни песен не слышно, —
**Смолк** с голода **землевладелец,** —

не заўважыўшы нават, што гавораць не пра селяніна, а пра пана.

У творах многіх маладых пісьменнікаў мова вельмі бедная, абмежаваны слоўнік, сустракаецца шмат сцёртых, штампованых выразаў. Цяжка таму, у каго ўвесь моўны запас не перавышае двух — трох соцень слоў, стварыць разнастайныя чалавечыя характары, выявіць сапраўдныя перажыванні людзей. Нажаль, у некаторых маладых аўтараў не адчуваецца імкнення ўзбагачаць свой слоўнік, збіраць незлічоныя моўныя скарбы, рассыпаныя ў жывой народнай гаворцы.

Хочацца прыгадаць тут размову з адным супрацоўнікам рэдакцыі рэспубліканскай газеты. Прынёс ён у выдавецтва зборнік аднаактовых п'ес, якія друкаваліся ў свой час у піянерскіх газетах і часопісах. Нічым асаблівым гэтыя п'есы не вызначаюцца, безнадзейна ўстарэлі па свайму матэрыялу, ды і напісаны вельмі беднай, малавобразнай мовай. Выдаваць іх асобнай кніжкай не варта было, і прышлося вярнуць рукапіс аўтару. З усімі заўвагамі ён больш-менш пагадзіўся, за выключэннем адной: ніяк не мог паверыць у тое, што мова яго п'ес бедная, немастацкая. На яго думку, нават сцэна, калі бацькі героя п'есы «Тройка», недысцыплінаванага вучня Паўліка, размаўляюць дома аб выхаванні сына, напісана нібыта па-мастацку.

— Хіба ж так будуць размаўляць між сабой муж і жонка, як напісана ў п'есе? — запытаў я ў аўтара. — Паслухайце самі, што ён кажа жонцы: «Дзеці — наша будучыня. Мы абавязаны стварыць усе ўмовы для ўсебаковага іх развіцця».

— А як жа інакш яны павінны размаўляць? — шчыра здзівіўся драматург. — Так усе людзі гавораць!

Рэдагуючы некалькі год матэрыялы аб школьным выхаванні, аўтар аднаактовак сам, відаць, так заштампаваўся, што не адчувае ўжо розніцы паміж сакавітым жывым народным словам і мовай няўдалых артыкулаў.

Драматург, аб якім толькі што ішла гаворка, не адзінокі. Шмат хто з маладых празаікаў і паэтаў, як і ён, піша бясколернай мовай, засмечанай рознымі слоўнымі штампамі. А не дбаючы аб папаўненні моўнага запасу, гаварыў Якуб Колас, пісьменнік непазбежна апынецца «ў становішчы таго майстра, які не патурбаваўся загадзя аб тым, каб падрыхтаваць сваё рабочае мейсца, не забяспечыў яго інструментам і дэталямі. У такіх выпадках работа,



калі і можа ісці, дык ідзе марудна».

Народны паэт раіў маладым пісьменнікам часцей сустракацца з рознымі людзьмі, запісваць іх біяграфіі, прычым «запісваць проста, без усякіх «літаратурных» прэтэнзій», запісваць трапныя словы і выразы. Тады ў аўтара будзе дастаткова матэрыялу, тых неабходных жыццёвых падрабязнасцей, з якіх снуецца мастацкая тканіна твора. Нават «маючы творчыя крыллі, — пісаў ён, — нельга забываць, што мы ходзім па зямлі, што менавіта з шэрагу жыццёвых нагляданняў складваецца абагульненне». Раіў ён таксама не шкадаваць часу на перапісванне сваіх твораў, бо пры кожным перапісванні думка «выяўляецца больш сцісла, больш востра». Ад многіх жа твораў маладых застаецца ўражанне, што яны зроблены без чарнавіка, што аўтару нават некалі было самому перачытаць уважліва напісанае. «Калі мы любім сваю справу ва ўсіх працэсах, — зазначыў Якуб Колас у артыкуле «Пісьменнік і яго праца», — у выношванні тэмы, у лепцы вобразаў, у пабудове твора, то ніколі не стомімся і шліфаваць стыль».

Многа каштоўных парад аб працы над кампазіцыяй і сюжэтам твора, над словам і ўсімі астатнімі элементамі мастацкай формы рассыпана на старонках коласаўскіх крытычных артыкулаў. Яго артыкулы накіроўваюць увагу пісьменнікаў на адлюстраванне самага істотнага ў жыцці народа, вучаць дамагацца твораў, «вялікіх па значнасці свае ідэі, высокіх па сваім грамадскім пафасе і гучанні, сталых па сваім выкананні». Для маладых пісьменнікаў — гэта багацейшая скарбніца мудрага вопыту і высокага літаратурнага майстэрства.

## Да IV з'езда пісьменнікаў Беларусі

Ніл ГІЛЕВІЧ

# МАЛАДАЯ ПАЭЗІЯ

### Думкі і заўвагі

Пачнем з імён. Наогул, пералік, кажуць, — справа сумная і нецікавая. Гледзячы які... Нам, напрыклад, рабіць свой пералік гэтак жа прыемна і радасна, як прыемна і радасна чалавеку называць імёны сваіх родных братоў і сясцёр.

Рыгор Барадулін, Еўдакія Лось, Генадзь Бураўкін, Кастусь Цвірка, Юрась Свірко, Іван Калеснік, Алесь Наўроцкі, Уладзімір Паўлаў... Услед за імі падымаецца новая кагорта маладых аўтараў, чые вершы ўсё часцей і часцей паяўляюцца на старонках рэспубліканскага друку. Гэта: Сымон Блатун, Мікола Сіскевіч, Яўген Крупенька, Міхась Парахневіч, Уладзімір Верамейчык, Іван Сіпакоў, Анатоль Канапелька, Раман Тармола, Уладзімір Карызна.

Тры—пяць год назад усе гэтыя імёны былі невядомы нават самым заядлым аматарам беларускай паэзіі. Сёння ж без іх творчасці сапраўднае становішча на нашым паэтычным фронце абрысаваць немагчыма.

Толькі на адну хвіліну паспрабуем уявіць, што ў нас няма каларытнай, багатай трапнымі зрокавымі вобразамі паэзіі Р. Барадуліна; усхваляванай, эмацыянальна напружанай лірыкі Г. Бураўкіна; часам нязграбных, каструбаватых, але важкіх, адчувальных радкоў А. Наўроцкага; пейзажных і філасофскіх мініятур Ю. Свірко; неспакойных, узрушаных паэтычных пропаведзяў Е. Лось; дакладных, выразных і ўдумных вершаў Ул. Паўлава; па-сапраўднаму маладых, бадзёрых вершаў К. Цвіркі, — толькі на адну хвіліну паспрабуем уявіць, што ўсяго гэтага ў нас няма, што ўсё гэта нам невядома, — як са дна душы падымецца пратэст: «Няпраўда! усё гэта ёсць, усё гэта ўжо стала часткай рэчаіснасці, якую ты ўвабраў у сэрца і на якую ты ўзбагаціўся».

І сапраўды, хіба мала было перажыта радасных хвілін, гартаючы старонкі нашых літаратурных часопісаў апошніх год? Хіба не ўзбагацілася наша ўяўленне аб людзях і прыродзе, не адкрылася нам шмат цікавага і прыгожага, што было невядома раней? Хіба вершы маладых паэтаў не выклікалі ў нас роздуму і не абуджалі самых дарагіх пачуццяў? Хіба, прачытаўшы іх, нам не хацелася стаць лепшымі, не падымалася ў нашых сэрцах неадольнае жаданне



дзейнічаць, працаваць, тварыць на карысць народа?

Безумоўна, так.

А калі так, значыць, перад намі несумненна таленавітыя людзі, бо менавіта ў гэтым — сапраўднае і адзінае назначэнне паэзіі.

Пачынаючы гутарку аб маладой беларускай паэзіі, цікава перш за ўсё ўстанавіць, у якой ступені захоўвае яна вернасць галоўным традыцыям літаратуры сацыялістычнага рэалізма, сутнасць якіх вельмі ясная: сувязь з жыццём, служэнне свайму народу, служэнне справе пабудовы бяскласавага камуністычнага грамадства. Цікава прасачыць імкненне маладых аўтараў адлюстраваць — па меры сіл і здольнасцей — характэрнейшыя прыкметы эпохі, перадаць найбольш тыповыя рысы, думкі і пачуцці сучаснікаў, імкненне ўвекавечыць у памяці пакаленняў тое, што называецца гістарычным вопытам народа. Цікава высветліць, як разумеюць маладыя аўтары свае задачы і ў якой меры ўласціва ім тое галоўнае для пісьменніка пачуццё, аб якім добра сказаў А. Твардоўскі: «Гэта пачуццё — ганарлівае, радаснае і трывожнае пачуццё адказнасці перад сваім народам, які бачыць у табе свайго надзейнага сына».

Дэталёвае азнаямленне са здабыткамі маладой беларускай паэзіі апошняга году дае права сцвярджаць, што яе найбольш таленавітыя прадстаўнікі знаходзяцца на правільным шляху і ў большасці сваёй чуйна прыслухоўваюцца да патрабаванняў жыцця, да вымог часу.

Нават дзень, скажы, пражыць мне як,
Рукі склаўшы, калі знаю я:
Кінеш зерне—колас зазвініць,
Слова знойдзеш—песня узляціць,
Пакладзеш цагліны ў мур радком—
Блісне дом на сонцы вокан шклом,
Укапаеш дрэўцы рад у рад —
Па вясне сыпне пялёсткі сад,
А растопіш лёд, сагрэеш дол —
Расцвіце уся зямля наўкол!

Гэты невялікі верш К. Цвіркі ў пэўнай ступені вызначае характар адносін да жыцця ўсёй нашай маладой паэзіі. Жаданне заняць пазіцыі баявога, актыўнага, жыццесцвярджальнага мастацтва выяўляецца і ў творчасці іншых аўтараў — паэтычных аднагодкаў К. Цвіркі. Прычым у кожнага з іх гэтая важная агульная рыса выступае асобным чынам, паддаецца творчай трансфармацыі ў залежнасці ад індывідуальных асаблівасцей паэта. У Бураўкіна — гэта шчырая, сыноўняя любоў да свайго краю, раўнівае ўслаўленне яго харавства і багаццяў, высокая гордасць за свой міралюбівы і працавіты народ:

Не шукайце экзотык за морамі,
Узбярэжжаў з крыштальнымі зорамі, —
Прыязджайце да нас, на Полаччыну,
Пахадзіце яе прасторамі.

Тут азёры, як неба, сінія,
У чаротах чародкі гусіныя,
А на дне Млечным шляхам свецяцца
Касякі і гурты карасіныя.

Тут крыніцы цурчаць мілагучныя,
З гор, бягуць ручаі грымучыя.
Тут над Дрысай сасонкі звонкія,
Над Дзвіною бары пявучыя.

Тут вясёлкамі сонца акружана,
Усміхаецца з кожнай лужыны.
Тут на кожнага закаханага
Салаўёў па чатыры тузіны.

Тут ільны растуць двухмятровыя,
Тут сады налівамі поўныя.
Тут пад кожным курганам і каменем
Ці байка, ці казка чароўная...

Дык навошта шукаць за морамі
Вам экзотык з крыштальнымі зорамі? —
Прыязджайце да нас, на Полаччыну,
Пахадзіце яе прасторамі.

Такім жа высакародным пачуццём сагрэты яго вершы «Зімняя ноч у Полацку» і «Я не знаю, у каго я ўрадзіўся такі». Апошні асабліва тонка перадае лірычны настрой аўтара, яго пяшчотнае, як у закаханага, любаванне кожным дрэўцам і краскай роднай зямлі, кожнай жывой істотаю ў яе лясах, палях і водах.

Пачуццём той жа любві, толькі больш актыўнай і дзейснай, прадыктаваны і тыя вершы Бураўкіна, галоўны пафас якіх складае грамадзянскі пратэст супраць абывацельскага апашлення жыцця, супраць здрабнення пачуццяў і мяшчанскай задаволенасці «мізэрным шчасцейкам». Праўда, малады паэт часам аблягчае сабе задачу і, не стварыўшы выразнага паэтычнага малюнку, па сутнасці абмяжоўваецца толькі дэкларацыяй, накшталт: «Так жыць, каб штодзень адчувалася, што і ты неабходны свету», або: «Я хачу, каб не цесны пакой, а ўвесь свет быў маёю кватэрай».

«Любіць сваю радзіму, — пісаў В. Г. Бялінскі, — значыць горача жадаць бачыць у ёй ажыццяўленне ідэалу чалавецтва і па меры сіл сваіх дапамагаць гэтаму». Такое разуменне патрыятызму і выяўляецца ў вершах многіх маладых аўтараў. Не пасіўна-сузіральніцкае любаванне, а шчырае жаданне дзейнічаць, тварыць для шчасця свайго народа, ісці разам з народам уперад і дабівацца новых перамог. Нам здаецца, хораша выказана гэтае дарагое пачуццё ў вершы М. Сіскевіча:

Мне болей нічога  
На свеце не трэба,  
Калі ёсць Радзіма  
І роднае неба,  
Калі пачуццёўныя  
Ёсць перамогі,  
Калі непачатыя  
Маю дарогі.

У Р. Барадуліна — гаворачы аб жыццёвай аснове яго паэзіі — трэба ў першую чаргу адзначыць спробу паэта стварыць абагулены вобраз свайго пакалення, пакалення, якое дзесяцігадовымі хлапчукамі чакала ў сорак пятым бацькоў з вайны, а ў восемнаццаць гадоў, адклікнуўшыся на заклік партыі, ехала ў шумлівых цяплушках на ўсход — пакараць векавечную цаліну. Праца, дружба, каханне — вось тыя галоўныя сферы, у якіх раскрываецца духоўнае і маральнае аблічча маладога савецкага чалавека, героя вершаў Р. Барадуліна. Прычым яго лірычны герой настолькі цесна звязаны — справамі, і думкамі, і пачуццямі — са сваімі сябрамі-равеснікамі, з калектывам, што ў многіх вершах паэта замест так званага «я» выступае «мы». «Я» раствараецца ў калектыве:

На таку усе — з запалам  
Мы зграбаем зерне ў кучы.  
Яшчэ й кроплі не ўпала,  
А кашулі—хоць выкручвай.

Не толькі ў працы не адзінокі наш чалавек, ён не адзінокі і ў радасці, у светлыя, урачыстыя моманты жыцця:

Палатка, як шацёр былінны,  
Са скрынак зроблен стол адзін.  
Спраўляем мы на лад цалінны  
Адразу восем імянін.

Філасофія калектывізму — наша філасофія. У адрозненне ад моладзі капіталістычных краін, якой шматлікія духоўныя настаўнікі прычэплівають індывідуалісцкія, эгаістычныя погляды, наша моладзь выхоўваецца ў духу калектывізму. І, безумоўна, трэба лічыць сябе неад'емнай часткай калектыву, жыць яго жыццём, разам з ім радавацца і смуткаваць, каб мець права гаварыць ад яго імя, а тым больш — мець права на яго ўвагу.

Працу, як крыніцу высакародства, як стымул духоўнага росту чалавека, паэтызуе ў сваіх лепшых вершах А. Наўроцкі.



Дзякуючы смелай гіпербалізацыі, малады паэт стварыў незвычайны па сіле мастацкай выразнасці паэтычны твор. Мы бачым гэтыя рукі, яны ў нас перад вачамі. Мы міжволі ўяўляем і іх гаспадара, трактарыста або механіка, чалавека-асілка, якога не сагне ніякая цяжкасць і ў параўнанні з якім нікчэмны чыстаплюй і франт сапраўды выглядае бязрукім. І мы пранікаемся глыбокай павагай да гэтых працоўных рук.

Першаасновай паэзіі, як і ўсякага мастацтва наогул, з'яўляюцца жывыя чалавечыя пачуцці. У сапраўдным паэтычным творы пачуцце і думка неаддзялімы адно ад другога. Чым глыбей пачуцце, тым ясней думка, тым вярней замысел, а значыць — тым мацней уздзеянне на чытача. Сённяшняга чытача не ўзварушыць «пустяк, который полегше зарифмоплесть» (Маякоўскі). Знаёмы з выдатнейшымі ўзорамі айчыннай і замежнай класікі, выхаваны і патрабавальны, ён згодзен прыняць толькі той твор, які нясе вялікія ідэі і вобразы, які повен глыбокага чалавечага пачуцця. А ўсё гэта пісьменнік можа пачэрпнуць толькі ў жыцці. Мудры Гейне пісаў калісьці:

Материю песни, её существо  
Не высосет автор из пальца.  
Сам бог не сумел бы создать ничего,  
Не будь у него матерьяльца.

Несумненна, што пісьменнік, які стаіць бліжэй да жыцця народа, які непасрэдна варочаецца ў гушчах працоўных, здолен стварыць найбольш каштоўныя мастацкія творы. Гэта цалкам адносіцца і да маладых літаратараў.

Хочацца прывесці адзін прыклад.

У складзе маладзёжных брыгад, якія ездзілі ў казахстанскі стэп на ўборку ўраджаю, знаходзіліся і маладыя паэты Р. Барадулін. К. Цвірка, Р. Тармола, Ул. Карызна. Разам са сваімі сябрамі-аднакурснікамі яны цялёпкаліся па гразі, дабіраючыся пад дажджом да саўгаснай сядзібы, разам з усімі буртавалі, не разгінаючы спіны, цаліннае золата, разам з усімі глыталі гарачы пыл, а вечарам, пад крылом паходнай палаткі, засыналі сном непрытомнага. Суровая рамантыка цалінных будняў не магла не ўскалыхнуць паэтычных струн душы. І што ж? Прачытайце творы гэтых маладых паэтаў. Самае лепшае, што вы знойдзеце ў кожнага з іх, — гэта вершы аб незабыўных днях на цаліне, аб цяжкой і раднаснай працы ў дружным студэнцкім калектыве, аб тым, як расце і прыгажэе чалавек, калі ён аддае свае сілы на карысць Радзімы. Не выпадкова, што «Цалінны сшытак» Р. Барадуліна атрымаў другую прэмію на Усесаюзным фестывальным конкурсе. Гэты сшытак — значна вышэй усяго таго, што напісана ў беларускай літаратуры «аб цаліне».

Можа быць, яшчэ больш яскрава азначыўся дабратворны ўплыў «цаліны» на творчасці К. Цвіркі. Пасля таго, як малады паэт зарэкамендаваў сябе дзесяткам добрых вершаў (яны трымаліся на ўражаннях, атрыманых яшчэ дома, у вёсцы), у творчасці К. Цвіркі пачаў выяўляцца прыкметны спад. Адзін за другім пайшлі вершы нецікавыя, прымітыўныя, з мізэрнай думкай і вялымі эмоцыямі. Вось змест аднаго: малады хлопец, знаёмы чытачу па дзесяці тысячах вершаў, ніяк не можа прызнацца дзяўчыне ў сваім каханні. Ён прыходзіць вечарам пад акно яе хаты і грае на гармоніку. Дзяўчына не звяртае ўвагі. Раніцаю небарак прыходзіць зноў. «Чаго ты тут ходзіш?» — пытае хлопца яго мучыцелька. «Ды вось недзе тут планкі згубіў учора...» Гэтым і заканчваецца верш.

Складалася ўражанне, што ма-

лады паэт «выдыхаецца», што яму няма чаго сказаць і ён пачынае перапяваць знаёмыя матывы таннай эпігонскай лірыкі. Неабходна было нейкім чынам страсянуць душу, узрушыць яе, разламаць шкарлупу, якая ўсё больш і больш адгароджвала аўтара ад навакольнага свету. К. Цвірка знайшоў сродак, які дапамог яму вырвацца з цеснага кола вузка-асабістых перажыванняў. Такім сродкам з'явілася паездка на цаліну. Як жа непадобны на ранейшыя «салаўіныя ночы» і «ўздыханні на лавачцы» яго новыя, мужныя, бадзёрыя, поўныя высокага пафасу радкі!

Такія, мусіць, косці ў нас—
 Нам у пуху не спіцца,
Такія, мусіць, ногі ў нас —
 Нідзе нам не сядзіцца,
Такія, мусіць, рукі ў нас—
 Ніяк ім не ляжыцца.

Ім трэба муляцца, касцям,
 У цягніку аб дошкі.
Ім трэба пыльны стэп, нагам,
 Змяраць ушыр і ўдоўжкі,
Ім трэба лёд прабіць, рукам,
 Скалу здрабіць на крошкі.

Хай проста ў вочы дождж і гром—
 Не змусіш нас згінацца,
Хай раптам цела зморыць сном—
 Не будзеш ты хістацца,
Хай зледзянее нават лом —
 Мы не расшчэпім пальцаў.

Такія, мусіць, рукі ў нас,
Такія, мусіць, ногі ў нас,
Такія, мусіць, косці ў нас,
 Такія сэрцы ў нас!

Так шчодра ўзнагароджвае жыццё тых, хто паварочваецца да яго тварам.

Аднак, ці можна сказаць, што наша маладая паэзія цалкам адпавядае высокім патрабаванням, якія прад'яўляе ёй чытач? Нажаль, не.

Нязначнасць тэмы, нікчэмнасць замыслу — па-ранейшаму з'яўляюцца адной з галоўных яе хвароб. У жыцці краіны і свету адбываюцца падзеі велізарнай гістарычнай важнасці. Абавязак пісьменнікаў — адлюстраваць іх у яркіх мастацкіх творах. Пісьменнік не мае права раўнадушна праходзіць міма таго, што сёння хвалюе ўсё чалавецтва. Сёння голас паэта павінен быць напружаным, як ніколі. І тым не менш, многія і многія вершы, надрукаваныя за апошні год, сведчаць аб недастатковым уведамленні іх аўтарамі свайго важнейшага грамадзянскага абавязку. Цікава, напрыклад, што ў маладой паэзіі амаль выпалі такія актуальныя і значныя тэмы, як абарона міру, дружба народаў, магутнасць нашай Радзімы і інш. Больш таго, можна нават пачуць іранічныя заўвагі аб «пагоні за актуальнасцю» ў адрас тых, хто не можа абыходзіць маўчаннем вастрэйшыя пытанні сучаснасці. Але дазволена запытаць: з якога гэта часу савецкія паэты пачалі баяцца актуальнасці і надзённасці? І ці не была неўміручая творчасць «выдатнейшага паэта эпохі» ад першага да апошняга радка актуальнай і надзённай? Нават у сваёй самай суб'ектыўнай лірыцы Маякоўскі заставаўся трыбунам, агітатарам, які «ўсю сваю звонкую сілу паэта» аддаваў «атакуючаму класу».

На нашу думку, тут трэба гаварыць аб адной небяспечнай рэчы.

Усім вядома, што яшчэ не так даўно ў нашай паэзіі ў значнай меры быў уласцівы дух агульнага і няўстрымнага захаплення, пустога пафасу. Бяздушная, халодная рыторыка не сыходзіла са старонак друкаваных органаў і моцна-такі набіла аскоміну. Натуральна, што халтуры патрэбна было даць вялікі бой. Адзінай зброяй, якая здольна перамагчы халтуру і выцесніць яе з газет і часопісаў, магла быць толькі сапраўдная, глыбокая і шчырая паэзія. І менавіта ў гэты час сёй-той з маладых аўтараў дазволіў увесці сябе ў зман. Сёй-



той пачаў лічыць, што так званыя актуальныя тэмы сучаснасці, якія, па сутнасці, апашляліся ў некаторых вершаплётаў, не з'яўляюцца тэмамі для паэзіі і ад іх трэба адхінуцца. Гэтая глыбока памылковая і шкодная думка непазбежна вядзе да збяднення творчасці таго, хто яе прытрымліваецца.

У выдатнейшых нашых паэтаў хвалюючыя падзеі дня заўсёды знаходзілі і знаходзяць самы жывы і непасрэдны водгук. Вазьміце новыя вершы Пімена Панчанкі. Самыя лепшыя з іх — у гэтым няцяжка пераканацца — прысвечаны найбольш актуальным пытанням часу. Імперыялісты і іх памагатыя ўчынілі агрэсію супраць Егіпта — П. Панчанка піша верш «... Дым. Агонь. Руіны і гібель» — гарачы пратэст паэта-грамадзяніна ў адказ на зробленае злачынства. Савецкая краіна — першая ў свеце! — запусціла штучны спадарожнік Зямлі, і П. Панчанка стварае «Абеліск» — глыбока паэтычны твор, сагрэты пачуццем сыноўняй гордасці за свой народ і Радзіму. Амерыканскія дзяржаўныя і ваенныя колы вядуць небяспечную гульню з агнём, і П. Панчанка звяртаецца да ўсіх людзей добрай волі з палымяным заклікам — спыніць, пакуль не позна, вар'яцкія забавы заакіянскіх гангстэраў:

Забыўшы на прыстойнасць,
 хачу ўрывацца ў спальні,
Будзіць людзей ачмураных,
 крычаць ім: — Годзе спаць!
Вы ўжо амаль што мёртвыя,
 вы ўжо амаль што спалены!
Ільды маўклівай поўначы,
 і тыя не маўчаць.
(«Трывожныя зарніцы»)

Якой вялікай трывогай, якім высокім пачуццём адказнасці за лёс чалавецтва напоўнены гэтыя радкі! І якое высокае майстэрства! Сапраўднае майстэрства, якога нават не заўважаеш, таму што адразу і цалкам аддаешся ва ўладу паэта. Міма такога верша не пройдзеш. Яго не прачытаеш на хаду, паміж іншым. Ён прымусіць цябе вярнуцца да яго тры, пяць, дзесяць разоў, ён будзе доўгі час служыць табе зыходным пунктам для глыбокага роздуму аб людзях, аб вайне і міры.

Вось чаму прыходзіцца шкадаваць, што некаторыя маладыя аўтары, як бы пакідаючы за старэйшымі права гаварыць аб самым пільным і неабходным, трацяць паэтычную энергію на нічога нявартыя дробязі. Вершаў аб дробязях, пазбаўленых усякай эстэтычнай каштоўнасці, у нас паяўляецца яшчэ нямала. Чым, напрыклад, узбагаціць чытача верш А. Канапелькі «Ружа». Вось ён увесь:

Духмяная ружа прыгожая
Заснула, не бачыць **прахожага.**
Стаіць ля яе ён **гадзінамі** (?),
Глядзіць на **красу** яе дзіўную.
**Красою** чароўнай **закружаны** (?),
Сарваў бы, здаецца, ружу ён.
Не! Няхай і другія **прахожыя**
Дзівяцца ружай прыгожаю.

Пакінем у баку ўсе лагічныя і стылёвыя ляпсусы. Але падумаем: аб чым гэты верш? Што хацеў сказаць аўтар? Тое, што не трэба рваць кветак, а лепш любавацца імі? Так, толькі і ўсяго: рваць кветкі нельга, бо імі любуешся не адзін ты.

Марная гэта праца. Не справа паэзіі даводзіць да ведама грамадзян правілы добрапрыстойнасці. Значнасць замыслу тут абсалютна ўяўная. У сапраўднасці пісаць верш не было ніякай патрэбы.

Сказанае яшчэ больш справядліва ў дачыненні да другога верша А. Канапелькі «Камень». Гэта тыповы «верш ні аб чым». У першай страфе яго паведамляецца, што «вялікі і абросшы мохам камень навек ў зямлю урос». У другой страфе гаворыцца аб вятрах і дажджах, снягах і сонцы, да якіх абыякавы паэтычны камень. Заключныя ж радкі трэцяй і апошняй

страфы яшчэ раз падкрэсліваюць, што «вялікі і абросшы мохам камень навек у зямлю ўрос». Можа быць, тут трэба шукаць нейкі скрыты сэнс, які-небудзь паэтычны сімвал? Не. Ніякай загадкі тут няма. Проста малады паэт быў ласкавы паведаміць чытачам, што недзе ў лесе або на выгане ляжыць велізарны замшэлы камень. Ну што ж, калі ён нікому не замінае, дык няхай ляжыць, бяда невялікая. Але заяўляць аб гэтым на ўсю рэспубліку — не варта.

Шчыра кажучы, мы не верым, што звычайны камень можа натхніць на сапраўдны паэтычны твор. Калі б ён быў іменна незвычайны, асаблівы (скажам, помнік які-небудзь) — тады была б іншая справа, тады ён мог бы «загаварыць». А чым можа ўсхваляваць замшэлы камень, якіх у нас тысячы? Нічым. Гэтага хваляванні і няма ў вершы. А. Твардоўскі пісаў: «У паэзіі нельга прыкінуцца ўсхваляваным, калі не ўсхваляваны па-сапраўднаму, нельга выявіць перажыванне, калі не перажываеш на самай справе. Такіх цудаў не можа быць, каб прымусіць другіх пры дапамозе пастаўленых табой у вядомым парадку слоў і радкоў зведаць тыя пачуцці, якія табе самому невядомы».

Вершы без сапраўднага хвалявання, без «терзания мыслями» — яшчэ частыя госці нашых газет і часопісаў. Чытаеш такія вершы і бачыш, што нараджаліся яны зусім безбалесна. А між тым, прыгадаем словы Есеніна:

Быть поэтом — это значит то же,
Если правды жизни не нарушить,
Рубцевать себя по нежной коже,
Кровью чувств ласкать чужие
души.

І далей:

Соловей поёт — ему не больно,
У него одна и та же песня.

Паэт жа — не птушка, што цілікае проста так сабе. Кожны свой радок ён павінен выпакутаваць, цярпліва і любоўна вынасіць, каб плод не аказаўся мёртванароджаным.

Як ні дзіўна, але часцей за ўсё няўдачы спатыкаюць паэтычную моладзь там, дзе, здавалася б, трэба было чакаць найбольшых поспехаў — у лірыцы кахання. Вершаў аб каханні друкуецца вельмі многа, і ўсе яны, як правіла, нецікавыя, банальныя, зробленыя на адзін капыл, «аднолькавыя, як абаранкі» (Маякоўскі). Гэта, па сутнасці, вершы не аб каханні, а наконт кахання. Лірычны герой іх выступае чалавекам духоўна убогім, разважанні яго прымітыўныя, пачуцці — павярхоўныя. У вершы А. Вераб'я, напрыклад, расказваецца, як калісьці ў час вайны —

З табою мы клятву
Давалі: «Змагацца
І нават памерці —
Жывымі не здацца».

Але прайшло некалькі год:

Хоць слоў не знайду,
А прызнацца ўсё ж мушу,
Што клятву сваю
Я сягоння парушыў.
У вочы зірнуў
І нясмела прызнаўся:
«У жыцці ўпершыню
У палон я папаўся».

Патуга на гумар засталася патугай. Усмешкі не атрымалася. Баявая клятва і «любоўны палон» — асацыяцыя нацягнутая, ненатуральная, сам ход думкі — дужа прымітыўны. І ніводнага свежага радка.

Гэта ж самае можна сказаць і пра верш А. Сідаровіч «Іра-праўдніца»:

Мне адна яе усмешка
Пераблытала ўсе сцежкі.
Стаў ў аўтобусе у Іры
Пастаянным пасажырам.
Прызнаюся без сакрэту:
Аддаю я на білеты
Кожны месяц паўзарплаты,
Ды адзін хаджу дахаты.

Верш В. Ракава называецца «Бессардэчны». Хлопец закахаўся і перастаў іграць на вечарынках. Дзяўчаты празвалі яго за гэта бессардэчным. Вось і ўсё... Герой верша Ул. Бабраўнічага «У вечар зорны», ідучы на спатканне, не наламаў букета, таму што ўсмешка каханай «лепш за любы букет у вечар зорны». І ў гэтым — увесь верш.

Бывае і яшчэ горш — там, дзе аб дарагім і чыстым пачуцці гаворыцца груба, недалікатна. У вершы А. Вераб'я «Трактарыст» чытаем аб тым, як хлопец, ідучы з працы, пераймае на вуліцы дзяўчат:

Дзяўчаты ўмомант разбягуцца,
Хаця і марыць не адна,
Каб ён дагнаў яе, абняў,
Дарма, што рукі у мазуце.

Такое агаленне патаемных душэўных рухаў чалавека выводзіць верш за межы паэзіі. Любоў не павінна пад пяром паэта ператварацца ў нікчэмную мяшчанскую «любвішку». Вялікія і цэльныя пачуцці — выток сілы і духоўнага хараства чалавека. Высокі і чысты маральны ідэал — адна з выдатных якасцей нашай літаратуры.

Паўсядзённа павышаць, удасканальваць сваё майстэрства — галоўнейшы абавязак кожнага паэта. Многія маладыя аўтары добра разумеюць гэты абавязак, лепшым сведчаннем чаго з'яўляецца іх шпаркі творчы рост. Вядома, што важным стымулам такога росту з'яўляецца добрасумленнае, глыбокае вывучэнне класічнай спадчыны і творчасці сучаснікаў. Аднак прыходзіцца, нажаль, сустракацца з праявамі пагардлівых адносін да лепшых здабыткаў нашай беларускай, а таксама рускай паэзіі. «Ну, Ісакоўскі мне не паэт», — заяўляе аўтар пяці надрукаваных вершаў.

«У Купалы майстэрству не навучышся — прымітыў», — заяўляе аўтар дзесяці надрукаваных вершаў.

А аўтар трыццаці тамоў — Аляксей Максімавіч Горкі прызнаваўся ў пісьме да М. Пришвіна: «Вучуся і па сённяшні дзень, і не толькі ў Вас, закончанага майстра, але нават у літаратараў, маладзейшых за мяне гадоў на трыццаць пяць, у тых, якія толькі што пачалі працаваць, чые здольнасці яшчэ не ў ладах з уменнем, але галасы гучаць па-новаму моцна і свежа. Вучуся ж я не толькі таму, што «вучыцца ніколі не позна», але і таму, што чалавеку вучыцца натуральна і прыемна. А перш за ўсё, вядома, таму, што мастак можа навучыцца майстэрству толькі ў мастака».

Каб хто збоку паслухаў некаторых нашых маладых, мог бы падумаць, што гэтыя шчаслўцы ўжо дайшлі ў паэзіі да «геркулесавых слупоў» і ім нехапае толькі прыжыццёвых манументаў. На самай жа справе, ім нехапае шмат чаго, і перш за ўсё — звычайнай пісьменнасці, умення дакладна і ясна выказваць самую простую думку. Лагічныя няўвязкі, стылёвыя і моўныя недарэчнасці занадта густа стракацяць у творах маладых паэтаў.

Маткі, добрыя маткі ўсе!
Вам-то вайна — не госці, —

піша Е. Лось, сур'ёзна лічачы, што для некага дык вайна — гэта госці. Радок яўна не прадуманы. У другім вершы Е. Лось піша: «І крок за крокам стаўлю з асалодай». У народзе кажуць «ставіць кроквы», а ставіць крокі — яшчэ не было чуваць такога.

Шмат непрадуманага ў вершы І. Калесніка «Толькі мне не верыцца»:

Калі ж гэта выпала,
Восень сонца выпіла,
Неба звісла хмарамі
Над раллёй, папарамі,
Ззяла над крыніцаю
Брытвай-бліскавіцаю.
Высь імжэла хмарная,
Што чаканне марнае.

Пагнаўшыся за гучнымі рыфмамі, аўтар забыў, што позняй восенню, калі на двары імжыць, бліскавіцы не бывае. Затым: бліскавіцу над полем, над лесам, над возерам — можна ўявіць, а над крыніцаю — не: панятцці несуразмерныя. Крыніца — маленькая, гэта квадратны аршын плошчы, тым больш, што яна звычайна захінута кустамі або дрэвамі. Прысутнасць «крыніцы» тут растлумачыць няцяжка — вельмі ж ужо рыфма спакусная (хоць і чужая). І ўжо зусім непісьменныя апошнія радкі прыведзенага ўрыўка. «Высь імжэла хмарная, што чаканне марнае» — гэта тое самае, калі сказаць: «У гародзе рос гарбуз, што заўтра бацька паедзе па дровы», — адным словам, бязглуздзіца. Дзеяслову «імжэць» аўтар хацеў навязаць абсалютна неўласцівае яму значэнне «паведамляемасці». У другім вершы І. Калесніка чытаем: «Хлястала ноч». Але ж у беларускай мове слова «хлястала» няма.

С. Блатун у вершы «Вясновая лекцыя» піша: «На двары ківаюць ліпы веццем, быццам **манянць** выглянуць з акна». «Манянць» па-беларуску азначае «лгуць». Атрымліваецца бяссэнсіца. «І такая ў слове была радасць, што усіх расчуліла яна». Расчуліць, г. зн. выклікаць спачуванне, спагаду, можна толькі паведамленнем аб нейкай бядзе, крыўдзе, смутку, але не радасцю. У гэтага ж аўтара сустракаем: «Да іншых яно **завіталася** рана». «А сёння, пры стрэчы з табой, хваляванне душу мне **шчакоча цяплом**».

Лірычны герой аднаго з вершаў Г. Бураўкіна «цэлы тыдзень хадзіў прыгнечаным, — не гулялася, не спявалася», — усё з-за таго, што ніяк не мог спаткацца з каханай. «А сягоння зусім няпрошана,... зноў убачыў цябе, харошая». Чаму ж няпрошана, калі цэлы тыдзень чакаў гэтай стрэчы, ды яшчэ як чакаў!

Спіс падобных агрэхаў мог бы заняць яшчэ некалькі старонак, але працягваць яго — няма патрэбы. І прыведзеных прыкладаў досыць, каб пераканацца, што маладыя паэты не заўсёды патрабавальна адносяцца да сваёй працы, не заўсёды ўдумваюцца ў сэнс таго, што самі выказваюць, асабліва ж нядбайна адносяцца да мовы.

Закончыць гэтую невялікую размову хочацца так, як і пачыналі, — пералікам. У 1956 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшлі дзве першыя кніжкі маладых паэтаў. У мінулым годзе — тры. Сёлета іх выходзіць тры разы па тры — дзевяць першых паэтычных зборнікаў! Усямерна вітаючы такі радасны зрух у практыцы выдавецтва, будзем спадзявацца, што ў наступным годзе іх будзе яшчэ больш.



Аляксандр **АЛЯКСАНДРАЎ**,
заслужаны артыст РСФСР

# НА АРЭНЕ — ТЫГРЫ!

### Крыху біяграфіі

Шчыра кажучы, нічога асаблівага ў маёй біяграфіі не было. Яна падобна на біяграфіі тысяч людзей майго пакалення, якое са зброяй у руках біла контррэвалюцыю на шматлікіх франтах грамадзянскай вайны. І ўсё ж свой расказ мне хочацца пачаць здалёк, яшчэ з тых часоў, калі я мог толькі ў марах уяўляць сябе цыркавым акцёрам. Не пустое бахвальства прымушае мяне да гэтага. Па-першае, без той загартоўкі, якую я атрымаў на франтах грамадзянскай вайны і ў радах Чырвонай Арміі, з мяне наўрад ці выйшаў бы нават пасрэдны артыст. Па-другое, мой прыезд у Мінск узварушыў рой успамінаў пра тыя далёкія дні маладосці, якія былі праведзены ў гэтым горадзе. А па-трэцяе, тут, у Мінску, адбылося маё першае, крыху смешнаватае выступленне на арэне цырка, якое закончылася для мяне... дысцыплінарным спагнаннем.

Мусіць, прычын даволі, каб перш чым расказаць пра работу з леапардамі і



**Аляксандр Мікалаевіч Аляксандраў у часе рэпетыцыі ў Мінскім цырку ў 1958 годзе.**

тыграмі, затрымаць вашу ўвагу на справах, зусім не звязаных з цыркам.

* * *

Маё працоўнае жыццё пачалося рана. Аднаго разу бацька паклаў мне руку на плячо і, крыху памаўчаўшы, сказаў:

— Час, Саша, і пра свой хлеб падумаць.

Было мне тады няпоўных пятнаццаць гадоў. Вельмі хацелася вучыцца, але я добра ведаў, што мой бацька не які-небудзь буржуй, а самы просты рабочы. Хочаш не хочаш, прыйшлося з ім згадзіцца.

Уладзілі мяне вучнем да слесара ў Андрэеўскі трамвайны парк. Атрымліваў не так ужо і многа, але заробак быў сякой-такой падмогай для нашай шматгадзетнай сям'і. Так прабеглі амаль два гады.

Час тады быў цяжкі і трывожны. Гэта адчувалася не толькі ў нас, у Маскве, але па ўсёй былой Расійскай імперыі. Ішла імперыялістычная вайна. У паветры чуўся подых блізкай рэвалюцыі. Народ хваляваўся, праўда, пакуль глуха і асцярожна. Потым неяк адразу вырвалася хваля народнага гневу, скінула царызм. Цяпер перад намі кожны дзень выступалі прамоўцы. Кадэты, эсэры, меншавікі, бальшавікі — кожны даводзіў сваё, і, шчыра кажучы, такому хлапчуку, як я, цяжка было разабрацца, што і да чаго. Разумеў я толькі адно: буржуі — ворагі пралетарыята, з імі будзе лютая барацьба. Мусіць гэтае падсвядомае пачуццё і прывяло мяне ў рады Чырвонай гвардыі.

Аднаго дня ў трамвайны парк прывезлі зброю. Помню, як я праціснуўся між рабочых, схапіў вінтоўку, няўмела павесіў цераз плячо. Потым далучыўся да калоны і пайшоў на буржуяў. У той час здавалася, што ўвесь свет глядзіць на мяне, зайздросцячы хлапечаму шчасцю.

Я чотка выбіваў крок, кідаючы па баках ганарлівы позірк. Ішоў і ўвесь час чакаў: вось-вось сустрэнецца нехта знаёмы і, ашаломлены маім ваяўнічым выглядам, вымкне тую самую фразу, што найлепшай музыкай гучала ў маіх вушах: «Глядзі, Сашка Фядотаў ідзе біць буржуяў!» Але ніхто не звяртаў на мяне ўвагі. У кожнага былі больш важныя і сур'ёзныя справы. Так мы дайшлі да Вялікага тэатра.

Насупраць, у гасцініцы «Метраполь», заселі юнкеры. Мы падышлі зусім блізка, размясціліся паўкругам. Сярод чырвонагвардзейцаў, на бруку, ляжаў і я. Моцна трымаючы вінтоўку, я час-ад-часу націскаў на курок і тады чуў, як паветра разрываў стрэл. Куды ляцелі мае кулі, я, далібог, не ведаў. Ад таго, што я нізка нахіляў галаву да зямлі, руля вінтоўкі, здаецца, празмеру была задрана ўгору, а мішэнню хутчэй за ўсё быў дах славутага атэля. Тады мне і ў галаву не прыходзіла, што год праз дзесяць гэты самы незадачлівы чырвонагвардзеец стане майстрам звыштрапнай стральбы.

Неўзабаве юнкеры былі выбіты з «Метраполя», а пазней — з Крамля. Так пачалася мая служба ў Чырвонай гвардыі, а потым і ў Чырвонай Арміі.

У наступным, 1918 годзе я ўжо быў на Каўказе. Баі, кантузія, палон, турма, шчаслівыя ўцёкі цераз Каспійскае мора ў Астрахань, зноў баявыя паходы... За два гады была пройдзена складаная школа жыцця, якая навучыла мяне быць вынослівым і смелым. Гэта ўжо быў не той хлапчук, што, лежачы ля Вялікага тэатра, нямаведама куды выпускаў кулю за куляй. Я зразумеў, што выбраў правільны шлях у жыцці, калі пайшоў разам з бальшавікамі.

Першае мая 1920 года назаўсёды застанецца ў памяці. Мне, дзевятнаццацігадоваму юнаку, было прысвоена званне чырвонага камандзіра. У той час гэта не было нечым звышасаблівым. Тады ў арміі служылі дзесяткі камандзіраў, маіх аднагодкаў, якія займалі значна больш высокія пасады.

Пачыналася мірнае жыццё. Пакрысе краіна залечвала раны. Але вораг не драмаў. Праз мяжу час-ад-часу пераходзілі ўзброеныя імперыялістамі банды. Зрабіўшы сваю агідную справу, яны зноў хаваліся за кардонам. Трэба было браць граніцу на замок. На Каўказе гэта было даручана Першай Маскоўскай кавалерыйскай дывізіі, у якой мне давялося служыць камандзірам эскадрона.

З-за кардону беспераспанку лезлі наёмныя банды забойцаў. Розныя Наджафар-Кулі-Ханы, Шах-Вераны, Ісрафіль-Бекі на замежныя грошы наймалі заўзятых галаварэзаў, на ліхіх скакунах перасякалі граніцу і даходзілі ледзь не да самай Ленкарані. Усе яны былі выдатныя джыгіты, умелі валодаць шабляй і вінтоўкай. Змагацца з імі было нялёгка. Гэта прымушала і нас па-сапраўднаму джыгітаваць, трапна страляць, быць вынослівымі і смелымі. Дадайце да гэтага тое, што мы ваявалі не за грошы, а за свабоду і сацыялізм.

Нажаль, праз год я захварэў малярыяй. На гэты раз давялося ехаць на захад, у Беларусь. Пад Быхавым у вёсцы Палянінавічы знайшоў свой кулямётны эскадрон 42-га Пугачоўскага палка Самарскай дывізіі. Разам з ім пераехаў Сож, у Ветку. На пачатку дваццаць трэцяга года пачаліся славутыя манеўры. З «баямі» ад Сожа мы рухаліся к Мінску. І вось, нарэшце, паказаўся горад, атулены з усіх бакоў





**А. Аляксандраў у час службы ў радах Чырвонай Арміі.**

лясамі. Невысокія дамы, сярод якіх узвышаліся стрэльчатыя башні касцёлаў і купалы цэркваў, конка, вузкая неглыбокая рака; кажучы па праўдзе, ад сталіцы мы чакалі большага. Але хутка ўсе так зрадніліся з ёю, з людзьмі, што вось прайшло многа гадоў, а ўспаміны пра Мінск засталіся яркімі, быццам гэта было ўчора.

Маладая савецкая конніца была любіміцай усяго народа. У памяці кожнага яшчэ свежымі былі славутыя будзёнаўскія паходы, смелыя рэйды Чапаеўскай дывізіі, удалыя баі конніцы Катоўскага. Чырвоныя коннікі ў баях авалодалі тым асаблівым уменнем проста, натуральна, без крыклівай прыгажосці джыгітаваць, якая адрознівала іх ад старых прыёмаў джыгітоўкі. У мірны час камандзіры і чырвонаармейцы не толькі не забыліся пра гэтыя слаўныя традыцыі, яны значна памножылі і пашырылі іх.

Дзень быў разлічаны па хвілінах. Пачынаўся ён рана. Мы займаліся зарадкай, чысцілі коней, мыліся, снедалі, потым вучыліся коннаму спорту, стралялі, займаліся самаадукацыяй. Вельмі часта наладжваліся розныя спаборніцтвы: па пераадоленню перашкод, уменню валодаць шабляй, страляць у цэль. Не ведаю, мусіць таму, што я паказваў выдатныя вынікі, хутка мяне прызначылі старшынёй конна-спартыўнага камітэта і намеснікам старшыні стралковага камітэта дывізіі.

І ўсё ж хапала часу ўдзельнічаць і ў грамадскім жыцці горада. Хутка ад нашага палка я быў выбраны дэпутатам гарсавета. Давялося працаваць у камісіі народнай асветы. Правяралі школы, вынаходзілі сродкі для адкрыцця новых, выяўлялі непісьменных, стваралі пункты лікбезу, — работы хапала.

А тут яшчэ я пачаў захапляцца футболам і неўзабаве быў залічаны ў асноўны склад зборнай футбольнай каманды горада Мінска. У канцы жніўня 1924 года гэтая каманда на першым Усебеларускім свяце фізічнай культуры заваявала першынство па футболу. У канцы свята нам уручылі срэбныя жэтоны і пасведчанні. Пажоўклае ад часу пасведчанне хаваецца ў мяне і цяпер. Прыемна ўспомніць і сваю неспакойную маладосць, і свае першыя поспехі. Вось што напісана ў гэтым пасведчанні. «Гэта выдана ўдзельніку зборнай футбольнай каманды м. Менска т. Фядотаву ў тым, што на сараўнаваннях Першага Усебеларускага свята фізічнай культуры (пяршынства Беларусі па футболу), якія адбыліся 17—23/VIII-1924 года ім былі паказаны гэткія дасягненні: «Зборная футбольная м. Менска заняла першае месца, за што ўдзельніку яе, вышэйназванаму т. Фядотаву, выданы памятны срэбны жэтон».

Захавалася і яшчэ некалькі такіх дакументаў, якія ўваскрашаюць у памяці непарыўны ланцуг разнастайных спаборніцтваў па футболу, коннаму і стралковаму спорту, лёгкай атлетыцы. Усё гэта непрыкметна падводзіла мяне да цырка. Ім я пачаў захапляцца даўно. Любіў глядзець, як спрытна і лёгка выконваюць артысты самыя складаныя нумары. Вось гэты спрыт і не даваў мне спакою. Сам сабе я здаваўся непаваротлівым і няўклюдным, хоць на самай справе гэта было не так.

У Мінску ў тыя гады быў часовы цырк, які арандавалі вандроўныя групы акцёраў. Разам з сябрамі наведваў яго і я. Аднаго разу на плоце мы ўгледзелі афішу, якая рэкламавала бясстрашных каўказскіх джыгітаў Алі-Бек. Пайшлі ледзь не ўсім эскадронам. Алі-Бек і сапраўды джыгітавалі нядрэнна, але, не хвалячыся, мы маглі паспрачацца з імі.

— А што, Саша, мы з табой яшчэ і не такое паказалі б гэтым Алі-Бекам,— штурхануў мяне пад локаць мой сябар.

«І сапраўды паказалі б», — падумаў я. Мне вельмі хацелася выступіць на арэне, але я не ведаў, як гэта зрабіць.

Як кажуць, хто шукае, той заўсёды знаходзіць. Хутка я пазнаёміўся з Алі-Бекамі, а потым і з гаспадаром прыват-

нага цырка Яфімавым. Справы ў гэтага гаспадара ішлі, відаць, не вельмі добра, таму, пачуўшы пра маё жаданне выступіць на арэне, хітры камерсант, як кажуць, змікіціў, што тут можна падзарабіць.

— Вось што, дарагі, — сказаў ён мне. — Давайце наладзім спаборніцтва джыгітаў. Бляск, віхор, натоўпы людзей, апладысменты, слава... Я, вядома, нічога не буду мець. Проста з любві да вялікага мастацтва.

Я задумаўся: а раптам не дазволіць начальства?..

Яфімаў мае сумненні разбіў некалькімі словамі:

— Глупства, мой дарагі, абсалютнае глупства. Вы будзеце ў масцы. Вас не пазнае нават родная матуля. Ну, па руках?

Мы ўдарылі па руках і тут жа пачалі складаць праграму. Апрача джыгітоўкі, я павінен быў у канцы прадстаўлення скакаць праз вогненны абруч дыяметрам паўтара метра, умацаваны на вышыні метра ад зямлі. Нумар гэты вельмі сур'ёзны. Але на свайго каня я спадзяваўся: на дывізійных спаборніцтвах ён браў і не такія перашкоды.

Мінск быў заклеены афішамі. На іх коннік у чорнай масцы скакаў праз вогненнае кола. Вялізныя літары абвяшчалі аб «пякельным скачку таямнічага конніка праз вогненнае кола». Таямнічы коннік у чорнай масцы—я. Але пра гэта ведалі некалькі чалавек. І ўсё ж я хваляваўся. А раптам мяне пазнаюць! Настаў доўгачаканы вечар. У масцы, якая закрывала твар, я чакаў за кулісамі свайго выхаду. Нарэшце, не помню як, апынуўся на залітай святлом арэне. Выехаў я галопам, робячы разнастайныя прыёмы джыгітоўкі. Усё навокал мільгала, як у калейдаскопе. І раптам мой зрок выхапіў з соцень людзей адну знаёмую постаць. Яна паднялася ў першым радзе, намерваючыся некуды ісці. Мяне пранізаў жар. Постаць гэта — наш начпалітаддзела дывізіі, камісар Рохі, ён мяне пазнаў. Але як?

Конь галопам бяжыць па арэне. Я звісаю ў сядле да самай зямлі, потым зноў, выпружваючы цела, узлятаю ў сядло. І тут мне робіцца ўсё зразумела: ён пазнаў не мяне, а каня. Як я забыўся пра гэтыя немалаважныя абставіны?

Канчаю джыгітаваць, куляй вылятаю за кулісы, саскокваю з каня і... бачу камісара.

— Пойдзеце і даложыце дзяжурнаму, што я пасадзіў вас на дзесяць сутак гаўптвахты.

Я паўтарыў загад.

Але тут перад камісарам паўстаў Яфімаў і ўсе артысты з трупы Алі-Бек. Ды яно і не дзіўна. Становішча ў іх было горшае за маё: рэклама сабрала многа народу. Усе прагнулі ўбачыць «пякельны скачок», а тут «таямнічага артыста» проста з арэны адпраўляюць на гаўптвахту, ды яшчэ і не дазваляюць адкрыць прычыну адмены доўгачаканага скачка. Публіка магла палічыць гэта за падман, і тады невядома, чым кончылася б прадстаўленне. Камісар быў узяты ў цеснае кола, яго доўга ўпрошвалі, пакуль ён не дазволіў мне закончыць выступленне. Але гаўптвахту не адмяніў. Праўда, прасядзеў я толькі двое сутак.

Вось так закончыўся мой дэбют у цырку. Ён пакінуў у маім жыцці пэўны след не толькі як матэрыял для пацешных успамінаў, але як штуршок да ажыццяўлення маёй даўняй задумы. Цяпер я зразумеў, што ў цырку выступаюць такія ж простыя смертныя людзі, як і я, і што ўсё залежыць ад мяне самога.

Я яшчэ больш пачаў трэніравацца на турніку, на кані, разлічваючы, што прыдзе час і я зноў буду джыгітаваць на арэне цырка. Я і сапраўды трапіў у цырк, аднак спатрэбілася мне зусім іншая вайсковая спецыяльнасць.

Было гэта даўно. Група кавалерыстаў-кулямётчыкаў нашай дывізіі прыехала ў Смаленск на стралковыя спаборніцтвы. Сустрэлі яе не тое што пагардліва, але з усмешкай і кпінамі.

— Кавалерыя хоча спаборнічаць?..

— Дык жа ў нас і мішэняў такіх няма, у якія б кавалерыст пацэліў.

— У іх сто куль па малако ляцяць, а сто ім наўздагон.

Мы і самі ведалі: галоўнае ў кавалерыста шабля, на вінтоўку коннік глядзіць коса. Але да спаборніцтваў падрыхтаваліся як след.

І вось выйшлі на стрэльбішча. Першыя стрэлы сведчылі за тое, што і кавалерысты ўмеюць страляць. А калі мы занялі першае месца, дык усе змоўклі.

На тых жа спаборніцтвах у асабістым першынстве з вінтоўкі і нагана я заняў другое месца.

Гэта вызначыла мой далейшы жыццёвы шлях. Прыехаўшы ў Мінск, я сур'ёзна прыняўся за тэорыю стральбы. Вывучаў траекторыю палёту кулі, яе адхіленні пры розных змяшчэннях мушкі. Доўгія гадзіны я праводзіў у ціры, на палігоне, удасканальваючы тэхніку стральбы. Я хацеў дамагчыся таго, каб кожная куля трапляла ў вызначанае ёй месца. Гэта не заўсёды ўдавалася, але з кожным днём промахаў было менш. А я ставіў задачу значна шырэйшую. Хацелася, каб кожны чырвонаармеец



нашага палка страляў трапна, без адзінага промаху. Доўга раздумваючы над тэорыяй выкладання стралковай справы, я вынайшаў і сканструяваў прыбор, які наглядна паказваў рассейванне куль на плошчы, а таксама пападанне кулі ў цэль пры розных змяшчэннях мушкі. Прыбор гэты дэманстраваўся спачатку ў Мінску, быў прыняты на ўзбраенне Чырвонай Арміі, а хутка заваяваў папулярнасць ва ўсіх падраздзяленнях і ваенных школах.

Працуючы над канструяваннем прыбора, я зноў і зноў паўтараў тэорыю стральбы, вынаходзіў новыя законы. Але думка пра цырк не пакідала мяне. Я захварэў цыркам, так як цяпер хварэюць тысячы заўзятых балельшчыкаў футболам. Мне і ў галаву не прыходзіла, што, авалодваючы тэхнікай стральбы, я паволі, але настойліва іду да цыркавой арэны. Я ўвесь час уяўляў сябе джыгітам, а не стралком.

Прайшло нямала часу. Некалькі няўдач астудзілі маю нястрымную цягу да цырка.

— Ну, што ж, — сказаў я, — відаць, трэба думаць пра нешта другое.

К гэтаму часу я быў ужо цывільным чалавекам. Мноства дарог было перада мною. Але любімы занятак я ніяк не мог кінуць.

Прыблізна ў тыя гады ў краіне было створана дабраахвотнае таварыства Асавіяхім. Яно адразу заваявала любоў усяго народа і асабліва моладзі. Ды яно і зразумела. Міжнародная абстаноўка была напружанай. Крыжовы паход ладзіў папа рымскі. На брытанскіх астравах строіў падкопы Чэмберлен. Ярыя пілсудчыкі бразгалі зброяй. Амерыканскія дзядзі з Уол-стрыта падбухторвалі белагвардзейскую нечысць выступаць супраць маладой рэспублікі Саветаў.

Мы былі адны. Мы маглі спадзявацца толькі на сябе. І таму кожны хацеў валодаць мінімумам тых ваенных ведаў, якія маглі спатрэбіцца на выпадак нечаканага нападу. Юнакі, дзяўчаты, людзі пажылога ўзросту ўступалі ў гурткі Асавіяхіма, вучыліся абароне.

Рашэннем ЦК Асавіяхіма я быў накіраваны ў Аранбургскую губерню інструктарам губсавета Асавіяхіма. Там давялося акунуцца ў самую гушчу шматграннай работы. Як аднаму з лепшых стралкоў, мне даручылі весці стралковую работу. У гуртні прыходзілі хлопцы і дзяўчаты, якія часта не мелі ніякага ўяўлення аб вінтоўцы.

Ляжыць гэткі чубаты хлапец у ціры, пускае кулю за куляй у мішэнь, а сам заплюшчыў вочы, дула вінтоўкі занурыў уніз, і ўздымаюць кулі пыл у некалькіх кроках ад мішэні. Адстраляецца і скажа:

— Ну, з мяне стралка не выйдзе.

Тут патрабавалася настойлівасць, уменне даказаць, што ўсё залежыць ад трэніроўкі і настойлівасці. А галоўнае быў асабісты прыклад.

Неяк у Маскве я купіў малакаліберную вінтоўку і да яе найвышэйшага гатунку патроны. Якраз пачыналася распаўсюджанне першай асавіяхімаўскай латарэі, упаўнаважаным латарэйнага камітэта якой я быў прызначаны. Справа гэтая была новая, вопыту не было. Каб папулярызаваць латарэю, мы пачалі праводзіць вечары з дэманстрацыяй дасягненняў у ваеннай справе. Пасля даклада на сцэну выходзіў я, паказваючы трапную стральбу.

«А што, калі паспрабаваць страляць, адышоўшы ад устаўных правіл? Чаму я павінен страляць толькі лежачы, з калена або стоячы? А калі страляць, лежачы на баку або зрабіўшы мосцік? Будзе звалена на бок мушка. Ну і што? Законы ж балістыкі мне вядомы».

Паспрабаваў — удача. Цяпер на нашых вечарах было поўна народу. Да цырка заставаўся адзін крок, і зрабіў яго я зусім выпадкова.



**А. Аляксандраў і яго жонка Е. Сяржантава ў 30-ыя гады.**

У Аранбургу выступала трупа, якая не мела вялікага поспеху. Цырк у тыя гады перажываў своеасаблівы крызіс. Старое цыркавое мастацтва больш не падабалася савецкаму гледачу, а новае яшчэ толькі пачынала стварацца. Побач з высокамастацкімі нумарамі гледачу паказвалася нямала нумароў безгустоўных, пустых і нават пошлых, якія народ ігнараваў па-свойму: ён не ішоў у цырк. Асабліва гэта адчувалася на перыферыі, у тым ліку і ў Аранбургу.

На нейкай нарадзе, калі гаворка зайшла аб тым, што цырк не выконвае фінплана, хтосьці сказаў дырэктару:

— А вы запрасіце Фядотава. Увесь Аранбург пойдзе яго глядзець.

Відаць, справы ў цырку былі сапраўды няважныя, бо дзён праз колькі дырэктар сядзеў на крэсле супраць мяне. Не буду ўтойваць, маё сэрца моцна закалацілася, калі я пачуў прапанову выступіць у цырку. Дырэктар нават паабяцаў мне грошы. Але я адмовіўся ад іх. Затое прапанову яго прыняў. Я разважаў прыкладна так: «Агітацыя стралковага спорту павінна быць паўсямеснай. Дык чаму не выкарыстаць цыркавую арэну?» Ударылі, як кажуць, па руках, вызначылі дзень майго выступлення...

### Пападаць толькі ў цэль

У цырку модна было выступаць пад псеўданімам. Трэба было і мне ўзяць новае прозвішча. Але якое? Звычайна, артысты бралі частку свайго прозвішча, перакручвалі яго на замежны лад — італьянскі або французскі. І вось ужо выступае рускі чалавек з якім-небудзь гучным французскім прозвішчам, і не разбярэш, хто ён цяпер — рускі, француз ці яшчэ хто? Мне не хацелася быць чалавекам без нацыянальнасці. Я — рускі. Мая радзіма Масква. Чаго мне саромецца сваёй прыналежнасці да народа, які першым у свеце пачаў будаваць сацыялізм. Наперакор традыцыі, я назваў сябе самым рускім з рускіх прозвішчаў — Аляксандр Аляксандраў.

— Не гучыць! — гаварылі мне знаёмыя.

— Нічога, будзе гучаць, — адказаў я. — Важна не прозвішча, а справы.

І вось пачаўся другі этап маёй біяграфіі — цыркавое жыццё.

...Змоўклі бравурныя гукі туша. У апошні раз мільганулі на арэне акрабаты. Цыркавая прыслуга — уніфармісты — вынесла стойкі з вінтоўкамі, мішэнь, стол, крэсла.

Чарлі Чаплін, маленькі пацешны няўдачнік, хутка тэпаючы, адышоў убок, спалохаўшыся вінтовак. Аркестр зайграў вясёлы марш. З-за фарганга — прахода для акцёраў — на арэну выбеглі ў яркіх каўбойскіх касцюмах я і Елізавета Сяржантава. Адзін за другім прагучалі два стрэлы: два маленькія шарыкі, што былі прыладжаны да мішэні, разбіты.

Глядач насцярожана сочыць. Ну і фокус! Гэта можа зрабіць кожны!

Мне зразумелыя гэтыя скептычныя ўсмешкі: «Знайшлі, чым здзіўляць!» Я бяру вінтоўку ў адну руку, знарок «звальваю» яе на бок, страляю. Зноў маленькі шарык разбіты. І так стрэл за стрэлам. Я прымаю самыя неверагодныя позы: трымаю вінтоўку над галавой затворам уніз, раблю мост, павярнуўшыся спіной да мішэні, сагнуўшыся напалам, прасоўваю вінтоўку паміж ног і страляю, страляю без промаху. Нарэшце, стаўшы да мішэні спіной, я кладу вінтоўку на плячо, вымаю з кішэні маленькае люстэрка, прыцэльваюся, гледзячы ў яго, і зноў страляю. Мішэнь разбіта.

Але гэта яшчэ не самыя цяжкія нумары. Вось на арэну выносяць нешта накшталт гадзінніка. Раўнамерна вагаецца маятнік. Стрэл — і тонкая нітка маятніка перабіта. Патушаны свет. У кандылябры запальваюцца свечкі. Чуецца стрэл, адна са свечак тухне. Другі стрэл — тухне другая свечка. Калі куля патушыла апошнюю свечку — успыхнула святло пражэктараў, а разам з ім і апладысменты.

Новы нумар яшчэ больш складаны. На станку ўстанаўліваецца звычайная ігральная карта. Да мяне яна павернута рабром. Адзін, другі, трэці стрэл, і вось ужо карта разрэзана кулямі на дзве часткі.

Я расказаў пра выступленне, якое было значна пазней. Спачатку мне прыходзілася выступаць эднаму і не толькі ў гэтым жанры.

Выступленне ў Аранбургу мела выключна агітацыйны характар. Яно дапамагала нам, асавіяхімаўскім работнікам, наладжваць стралковую работу ў нізавых ячэйках. У многіх гаражан неяк адразу з'явілася цяга страляць гэтак жа трапна, як страляў і я. Усё гэта, вядома, радавала. Але, дыхнуўшы цыркавым паветрам, я зноў загарэўся жаданнем стаць цыркавым акцёрам. Падтрымлівалі мяне ў гэтым і мае новыя сябры — цыркавыя артысты. Яны раілі мне кідаць работу ў Асавіяхіме і канчаткова пераходзіць у цырк.

— Толькі гэты нумар у другіх гарадах не пойдзе, — казалі яны. — Тут цябе ведалі, таму і поспех быў. Трэба нешта больш эфектнае выдумаць.

Але што? Талентаў у мяне асаблівых не было. Джыгітаваць хіба? Толькі хто дасць коней невядомаму ў цыркавым





**А. Аляксандраў выступае на манежы цырка.**

свеце чалавеку? На шчасце, мне сустрэліся тры інструктары фізкультуры — Судакоў, Шпагін і Мячын. Усе яны нядрэнна займаліся на турніку. Таму рашылі падрыхтаваць нумар паветранага палёту. Хутка да нас далучыліся артысты цырка Галаган і Шпякін.

Рэпетыравалі ў прыватным цырку Кудраўцава (Аранбург), дзе нам дазволілі трэніравацца ад 6 да 7 раніцы. Пасля заканчэння рэпетыцыі мы павінны былі распускаць расцяжкі, адвалакваць апаратуру ўбок. А назаўтра раніцой усё даводзілася пачынаць спачатку. Гэта, як потым высветлілася, была непатрэбная работа. Наша апаратура нікому не перашкаджала. Прычына хавалася ў тым, што прыватныя цыркі не хацелі дапамагаць маладым работнікам.

Развучвалі мы свой нумар усляпую. Вучыліся лятаць, паўтараючы тое, што некалі бачылі або чулі ад таварышаў. Часта рызыкавалі жыццём, паказваючы прыклады непатрэбнай смеласці.

Наш калектыўны нумар стаў вядомы пад прозвішчам «5 Альбі». «Альбі» гэта з'явілася ад слова альбатрос, у якім чатыры апошніх літары былі адкінуты, а апошняя надавала слову італьянскае адценне. Таварышы настаялі на сваім, хоць я і супраціўляўся.

Выступаючы ў групе «5 Альбі», я не забываў пра стралковы нумар. Доўгая трэніроўка дазволіла мне дамагчыся стральбы ў «кропку» — куля ў кулю. Гэта падабалася публіцы. Калі я выклікаў жадаючых асістыраваць мне, на арэну заўсёды выходзіла многа гледачоў. Сярод іх часта траплялісі і недаверакі, якія думалі, што ўсё гэта не больш як фокусы цырка. На Урале ў горадзе Лысьва ішло прадстаўленне. Не паспеў я выканаць некалькі нумароў, як на манеж выйшаў крыху падвыпіўшы грамадзянін.

— Кінь марочыць людзям галаву. Я ведаю: у цябе тут усё падладжана.

— Не, я сапраўды страляю трапна.

— Ну? Значыць, трапна? Тады выбі ў мяне з зубоў грывенік.

У зале зашумелі. Гледачы раздзяліліся на дзве групы: адны за мяне, другія супраць. Іх спрэчку мог вырашыць толькі я. Чалавек, між тым, дастаў з кішэні манетку, зацісную яе зубамі. Ён стаяў, пагардліва ўсміхаючыся ля абабітага жалезам шчыта, а я думаў, што мне рабіць? Не страляць? Але ж гэта правал нумара, прызнанне сваёй няўпэўненасці. Страляць? А раптам промах. Не, не можа быць промаху. Я падняў вінтоўку. У зале адразу настала цішыня. Я стрэліў... Чалавак, што трымаў у зубах манетку, сагнуўся і пачаў ці то шукаць, ці то курчыцца ад болю. Я падбег да нявольнага майго спакусіцеля — крыві не было. Чалавек паволі выпрастаўся.

— Чаго вы нагнуліся? — запытаў я.

— Шукаю, куды ўпалі грошы, — адказаў ён.

Прайшло нямнога часу. І я зноў трапіў у неверагоднае становішча. Аднойчы на манеж выйшаў мужчына. Ён падзароўкаўся з публікай і спакойна пачаў распранацца. Паклаўшы паліто на бар'ер, чалавек запатрабаваў крэсла.

Уніфармісты і публіка думалі, што гэта нейкі новы нумар, а чалавек — мой партнёр. Таму крэсла яму падалі. А я стаяў, нічога не разумеючы, чакаў, чым кончыцца гэтая камедыя. Чалавек сеў на крэсла, выцягнуў партсігар, закурыў.

— Ну, перабі папяросу, калі ўмееш сапраўды страляць, — запатрабаваў ён.

У мяне быў добры настрой. Стрэл! І куля разрэзала папяросу на двое. Чалавек закурыў у другі раз.

— Страляй яшчэ...

Я стрэліў зноў, прастрэліўшы папяросу.

— А ну, яшчэ страляй...

Так прадаўжалася адзінаццаць разоў. Мусіць, на гэтым не кончылася б дзіўная стральба, але ў незнаёмца больш не было папярос.

Такія выпадкі перакаралі мяне ў тым, што трэба шукаць партнёра, што трэба адмовіцца ад «дабравольцаў» глядзельнай залі. Уявіце сабе: ідзе нумар з «яблыкам Вільгельма Тэля». Выхо-

дзіць на арэну гэткі дабраахвотнік, часта падбадзёраны чаркай, і не можа ўтрымаць на галаве яблык, у якое мне трэба папасці куляй. Я ўжо не маю цвёрдай рукі і моцнай волі, а гэта вельмі рызыкоўна.

Партнёр знайшоўся выпадкова. Ліза Сяржантава працавала ў разанскім папяровым магазіне. Неяк мы пазнаёміліся з ёй у цырку, потым я зайшоў купіць «аловак» ці яшчэ нешта такое. Адным словам, знайшоў прычыну. Мая новая знаёмая любіла цырк. Гэтага ўжо было дастаткова. Мы пасябравалі.

— Давайце, Ліза, разам выступаць у цырку, — прапанаваў я аднойчы дзяўчыне.

— Дык жа я і вінтоўкі ў руках не ўмею трымаць.

— Вось гэта і добра. Вас лягчэй будзе навучыць стральбе, — адказаў я.

Ліза згадзілася. Я паехаў у Маскву дабівацца дазволу і сродкаў на падрыхтоўку новага нумара.

Заходжу ў ЦК Асавіяхіма. Расказваю, пераконваю. Адмаўляюць. Што рабіць? Без сродкаў я не падрыхтую нумара.

Іду да Сямёна Міхайлавіча Будзённага. Думаю: кавалерыст кавалерыста зразумее. Сямён Міхайлавіч піша запіску, і мне выдаюць грошы, ствараюць умовы для работы. Выклікаю ў Маскву Сяржантаву. Пачынаем рэпетыраваць цэлы каскад нумароў, адбіраючы найбольш эфектныя з іх.

Адзін за другім мільгаюць гарады. Мая партнёрша неўзабаве пачынае страляць не горш за мяне. Біць без промаху — вось наш дэвіз. Але мы павінны знаходзіць такія трукі, якія найбольш ярка адцянілі б майстэрства снайперызму.

Помню выступленне на сцэне маскоўскага Вялікага тэатра. Быў юбілей Народнай артысткі СССР А. В. Няжданавай. Прывітанне ад імя Дзяржаўнага цырка было вырашана прыпаднесці некалькі незвычайным чынам. Словы прывітання разгортваліся ад стрэлу па мішэні. Сем стрэлаў падрад выбілі сем слоў прывітання — «Прывет прыносяць цыркачы — сто год Няжданава гучы».

Нумар у такім плане быў паказаны і ў юбілейныя дні пятнаццацігоддзя Кастрычніка ў Ленінградскім цырку. Я страляў пад купал цырка, дзе падвешаны былі палотнішчы лозунгаў. Стрэл, і адтуль, звіваючыся, разгортваліся шаўковыя палотнішчы лозунгаў.

Пазней я падрыхтаваў тэматычны нумар. Арэна ўяўляла прыфрантавую мясцовасць з надта перасечаным рэльефам. У промнях пражэктара на арэну выбягаў снайпер, паказваючы прыёмы маскіроўкі, разведкі і назірання. Ён займаў пазіцыю. Потым у варожых акопах пачыналі паказвацца галовы салдат. Снайпер паражаў іх. Ішла пяхота, ляцела конніца. Трапныя стрэлы знішчалі і іх. Нарэшце, у небе паяўляліся самалёты. Гучалі стрэлы, і самалёты ляцелі на зямлю.

Але дапытлівасць клікала мяне наперад. Я падрыхтаваў атракцыён «Лятаючая аўтатарпеда ў паветры». Гонкі тарпед, «мёртвая пятля», напэўна, у той час перавышалі дасягненні замежных нумароў гэтага тыпу.

Дзесяць год, праведзеных у цырку, загартавалі мяне, падрыхтавалі да новай цыркавой спецыяльнасці дрэсіроўшчыка.

Аднойчы мне прапанавалі групу леапардаў. Не доўга раздумваючы, я даў згоду. Пачаў вывучаць літаратуру і толькі тады зразумеў, якую адказнасць узяў на сябе. Але адступаць было позна.

### Самыя дзікія звяры

«Хітры, злосны, кроважэрны, помслівы, забівае ўсякую істоту, якую можа адолець... Зубы яго значна мацней зубоў ільва», — так піша пра леапардаў Брэм.

«Таму, хто скажа, што ён выдрэсіраваў дарослага драпежніка, я плюну ў вочы. Дрэсіраваць драпежнікаў з надзеяй на поспех трэба ва ўзросце двух — трох год. Дарослых звяроў удаецца прыручыць да чалавека, але выдрэсіраваць іх немагчыма», — пісаў некалі вядомы дырэктар фірмы па продажу звяроў Карл Гагенбек.

Такія, як кажуць, каментарыі не маглі абрадаваць, калі я, атрымаўшы групу леапардаў для дрэсіроўкі, заглянуў у даведнікі. За кароткі час я прачытаў усю літаратуру аб жыцці жывёл. На жаль, там нічога не было сказана пра дрэсіроўку драпежнікаў і ў прыватнасці леапардаў.

Узброіўшыся кнігамі аб умоўных рэфлексах, я распачаў работу. Відавочна было толькі адно: я, артыст савецкага цырка, не магу выступаць так, як гэта рабілі дрэсіроўшчыкі старога цырка. Стары цырк, з яго ігрой на нервах нават там, дзе гэтага не патрабавалася ад акцёра, назаўсёды адыходзіў у нябыт. За кароткі час у нас быў створаны новы цырк з новымі традыцыямі і прыёмамі работы.

Тое, што раней разумелі пад словам дрэсіроўка, не заслугоўвае гэтай назвы. Колішнюю дрэсіроўку хутчэй можна было назваць мучэннем звяроў. Зброяй утаймавання былі распаленае да чырвана жалеза, пазбаўленне сну, пабоі, галадоўка і г. д. Зразумела, што





Дрэсіроўка леапарда.

ў звяроў не магло з'явіцца давер'я да чалавека: яны баяліся яго, дрыжалі і... ненавідзелі. Мастацтва вучэння было прымітыўным. І хоць дрэсіроўшчык выходзіў на арэну ўзброеным, а нярэдка і ў панцыры, звер падпільноўваў свайго мучыцеля і разрываў яго. Тут драпежнік дзейнічаў пад уплывам неабходнасці.

Чаму ж не маглі старыя дрэсіроўшчыкі працаваць інакш? На гэта былі свае прычыны. Па-першае, дрэсіроўшчык баяўся канкурэнцыі. Ён ствараў вакол сябе арыёл своеасаблівай таямнічасці і звышнатуральнай выключнасці.

Даволі спаслацца на аўстрыйскага дрэсіроўшчыка Казіміра Куна, які ўпершыню выступаў у нас з леапардамі і звяроў якога я потым пачаў дрэсіраваць. Кун любіў паўтараць, што толькі яму, патомственнаму ўтаймавальніку і пры тым з найвялікшай рызыкай для жыцця, удаецца з імі справіцца. Усё прадстаўленне Куна было пабудавана так, што, калі ён заганяў апошняга леапарда ў вагон, гледачы з палёгкай уздыхалі: «Як добра, што звяры не разарвалі яго».

Калі гэты незадачлівы акцёр быў выселены з СССР, ён заявіў:

— Калі мяне не будзе, то і звяроў не стане.

Кун не перадаў «ключоў дрэсуры», і мне давялося пачынаць работу занава. Горш таго, звяры маглі ўбачыць у маёй асобе таго мучыцеля, які здзекаваўся з іх, і адпомсціць за яго мне. Толькі правільны, гуманны падыход даў магчымасць зрабіць за кароткі час тое, чаго Кун не мог дамагчыся гадамі.

Па-другое, стары цырк быў зацікаўлены ў вялізнай рэкламе. Французскі ўтаймавальнік Бендзікс у рэкламных лістках абвяшчаў публіцы, што ён выступае з тыграм Бенгалі, які ўжо разарваў утаймавальніка Мальера.

Мы, савецкія артысты-дрэсіроўшчыкі, свабодныя ад гэтага. Нам не патрэбна канкурэнцыя, мы ведаем сваю публіку, якая не любіць крыклівых рэклам, а любіць сапраўднае майстэрства. Вось чаму і метады дрэсіроўкі ў нас іншыя і поспехі ў нас большыя.

Вось аднаго разу мяне выклікалі ва Упраўленне цыркаў і прапанавалі прыняць пяць леапардаў, падрыхтаваць з імі нумар. Я згадзіўся.

Леапарды сустрэлі мяне злосным шыпеннем і рыканнем. «Нічога, — думаў я, — пройдзе час, і вы будзеце падуладны мне. А пакуль цярпенне, цярпенне і яшчэ раз цярпенне».

«Шлях да сэрца звера ляжыць праз яго жывот», — гаварыў Гагенбек. Але тут патрэбна і ласка. Падоўгу прастойваў я ля клетак, вывучаючы норавы сваіх будучых «вучняў». Прывучаў іх да сябе, да голасу. І вось леапарды на арэне. Няхай агледзяцца, прывыкнуць да новай абстаноўкі. Праходзіць дзень, два, тры, дзесяць, дваццаць. На дваццаць першы дзень я прымаю рашэнне. Адкрываю дзверы, заходжу ў клетку...

**Працяг будзе.**

# Да новых сустрэч

Калі нашы чытачы разгорнуць гэты нумар часопіса, Рычард Бутвілоўскі ўжо не будзе студэнтам-выпускніком кампазітарскага аддзялення Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. На руках у яго будзе дыплом аб заканчэнні вышэйшай музычнай навучальнай установы. Але кампазітарам юнака зрабіў не дыплом, а тыя поспехі, якіх ён дамогся яшчэ ў гады вучобы.

Рашэнне сур'ёзна заняцца музыкай узнікла ў Рычарда Бутвілоўскага ў 1949 годзе. Тады ён і выйшаў пераможцам на адным з аглядаў мастацкай самадзейнасці горада Барысава. Журы рэкамендавала яму падумаць аб вучобе ў музычнай навучальнай установе. Да гэтага, няглядзячы на тое, што Рычард па прыкладу свайго бацькі і дзядзькі пачаў іграць на розных музычных інструментах яшчэ з сямі год, усе яго сімпатыі былі аддадзены матэматыцы.


Рычард Бутвілоўскі.

Пачаліся гады напружаных заняткаў у Мінскім музычным вучылішчы. А ў 1953 г. Р. Бутвілоўскі — ужо студэнт кампазітарскага аддзялення кансерваторыі.

Але якой бы складанай ні была вучоба, колькі б радасцей яна ні прыносіла, гады заняткаў прабягаюць хутка. І вось у 1958 годзе малады кампазітар упершыню вынес на суд шырокай грамадскасці свае самыя буйныя музычныя творы. Прагучалі ўжо ў канцэртах фрагменты з яго оперы «Яснае світанне» на лібрэта А. Бачылы, сімфанічны аркестр філармоніі паспяхова выканаў першую частку з сімфоніі, аматары камернай музыкі змаглі пачуць трыё для фартэпіяна, скрыпкі і віяланчэлі маладога аўтара. Можна назваць і іншыя творы Р. Бутвілоўскага, якія ім ужо напісаны. Тут і п'еса для эстраднага аркестра, масавыя песні, хоры і многія іншыя творы, якія за гады сваёй вучобы пад кіраўніцтвам прафесара М. І. Аладава стварыў малады кампазітар. Але справа, вядома, не толькі ў колькасці напісаных Р. Бутвілоўскім твораў, не ў разнастайнасці жанраў і форм, якія ім ахоплены ў творчасці. Радасна тое, што музыка маладога аўтара дае нам права верыць, што ў сям'ю беларускіх кампазітараў уваходзіць новы таленавіты прадстаўнік.

# Рэзчык з Піншчыны

Партрэты-барэльефы, інкруставаныя шкатулкі, карціны на дрэве, якія зрабіў Аляксандр Ігнатавіч Шахновіч, можна сустрэць у музеях Масквы, Варшавы, Албаніі і Амерыкі. А яшчэ менш чым дваццаць год таму назад Аляксандр Шахновіч, сам бядняк і сын бедняка з вёскі Плешчыцы каля Пінска, не думаў, што яго мастацтвам будуць захапляцца, што яно стане яркім сведчаннем таленавітасці беларускага народа.

Верасень 1939 года, які прынёс вызваленне для заходніх абласцей Беларусі, даў магчымасць Аляксандру Шахновічу заняцца любімым мастацтвам. Юнак становіцца вучнем Віцебскага мастацкага тэхнікума. Нажаль, вераломны напад фашысцкіх захопнікаў на нашу зямлю не даў магчымасці А. Шахновічу працягваць вучобу. Праз некаторы час мы сустракаем яго ў радах народных мсціўцаў Піншчыны. Аднак і тут у рэдкія перапынкі паміж баямі ён з захапленнем займаецца разьбой, выбраўшы для сябе тэмай усенародную барацьбу супраць гітлераўцаў. Так, да сваёй зброі партызана-воіна А. І. Шахновіч дадае зброю мастака-барацьбіта.


Аляксандр Шахновіч.

Аляксандр Ігнатавіч з'яўляецца аўтарам цудоўнага барэльефа Уладзіміра Ільіча Леніна, які народны майстар выразаў з касці маманта, партрэтаў вялікіх пісьменнікаў Адама Міцкевіча, Максіма Горкага, Янкі Купалы і чэшскага нацыянальнага героя Юліуса Фучыка. Многа новых мастацкіх работ рыхтуе ён да 40-годдзя БССР. Сярод іх асаблівую ўвагу прыцягвае партрэт выдатнага дзеяча нашай партыі і савецкай дзяржавы Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага.

# Малады скульптар

Калі з народным мастаком БССР А. Бембелем пачынаеш гаварыць пра яго вучня з Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Анатоля Анікейчыка, ён характарызуе яго вельмі коратка: юнак мае ярка выражаны творчы тэмперамент і валодае выключнай працавітасцю. Таксама лаканічна расказвае пра сябе і сам Анатоль. «Па сутнасці, я яшчэ нічога не зрабіў. Ляпіць пачаў з дзяцінства. Зараз рыхтую дыпломную работу». А разам з тым, за гэтымі скупымі словамі педагога і яго любімага вучня тоіцца, няхай кароткая (бо Анатолю ўсяго толькі 25 год), але вельмі яркая творчая біяграфія аднаго з таленавітых маладых беларускіх скульптараў.

Ляпіць Анатоль Анікейчык пачаў яшчэ ў маленстве. Ужо тады гэта стала для яго нейкай жыццёвай неабходнасцю. У Барысаве, дзе ён нарадзіўся і жыў, не было ніводнага дзіцяці або дарослага, хто б «пераводзіў» столькі пластыліну і гліны, колькі ён. Ляпіў Анатоль усіх і ўсё. Сваіх блізкіх і сяброў ён прымушаў пазіраваць да таго часу, пакуль і сам, і яго натуршчык не падалі ад знямогі. І ўсё ж аматараў пазіраваць хлапчуку было многа: ён умеў здзіўляюча дакладна ствараць партрэтнае падабенства і выявіць у скульптуры рысы



Анатоль Анікейчык ля бюста Бетховена.

характару. Вось чаму скульптуры А. Анікейчыка яшчэ ў яго школьныя гады экспанаваліся на выстаўках дзіцячага выяўленчага мастацтва ў Барысаве і ў Мінску.

Калі Анатоль Анікейчык закончыў дзесяцігодку, ён не раздумваў, куды яму ісці вучыцца, кім быць. Яму было зусім ясна, што прафесіі, лепшай чым скульптар, на свеце не існуе. А пры паступленні ў Беларускі дзяржаўны мастацкі інстытут у юнака нечакана ўзніклі непрыемнасці: на першым жа экзамене па малюнку яму паставілі двойку. Уласна, нічога здзіўляючага ў гэтым не было, бо Анатоль вырашыў адразу паступіць у вышэйшую мастацкую навучальную ўстанову, не маючы неабходнай спецыяльнай падрыхтоўкі, не ведаючы аснову выяўленчага мастацтва.

Горыч юнака цяжка было перадаць, яму здавалася, што інстытут застаўся для яго толькі марай. Але пільны педагог А. Бембель здолеў разгледзець сляды таленту і ў гэтых недасканалых, згодна патрабаванняў, малюнках. Умацавалася думка аб магчымасці прыняць Анатоля Анікейчыка ў інстытут тады, калі камісія пазнаёмілася са скульптурнымі работамі юнака. Ён быў залічаны ўмоўна.

І вось цяпер, калі глядзіш такія скульптуры студэнта-выдатніка А. Анікейчыка, як бюст Бетховена, скульптура Мусаргскага, Багдановіча, як кампазіцыя «1905 год» і іншыя, становіцца зразумелым, наколькі правы былі педагогі інстытута, якія дапусцілі да вучобы Анатоля, фармальна парушыўшы інструкцыю аб прыёме ў ВНУ.

Дыпломная работа «Юнацтва». У двухфігурнай кампазіцыі, у выглядзе юнака і дзяўчыны геолагаў, аўтар хоча выказаць рамантычную ўзнёслацсь, імклівасць нашай гераічнай моладзі.

Кампазіцыю «Юнацтва» А. Анікейчык прысвячае саракагоддзю БССР. Яна, як і скульптура Багдановіча, таксама прысвечана юбілейнай даце і з'яўляецца яркім сведчаннем таленавітасці маладога беларускага скульптара.

# Кантата аб працаўніках цалінных зямель

З жыццём Паўночнага Казахстана Іван Кузняцоў пазнаёміўся яшчэ ў даваенныя гады, калі яму давялося быць настаўнікам у адной са школ Акцябрскага раёна. Вось тады ён адчуў некранутую прыгажосць гэтага велізарнага, але яшчэ маланаселенага ў тыя гады краю. Думка наведаць знаёмыя месцы, паглядзець, што здолелі зрабіць маладыя савецкія людзі, натхнёныя заклікам партыі асвоіць цаліну, узнікла ў кампазітара Кузняцова адразу, як толькі першыя камсамольскія эшалоны рушылі ў Казахстан. Іван Іванавіч захацеў прыняць пасільны ўдзел ва ўсенароднай барацьбе за хлеб, за багацце ў жыцці савецкіх людзей, дапамагчы цаліннікам сваім мастацтвам, уславіць іх працоўныя подзвігі ў сваёй музыцы.

Некалькі месяцаў прабыў кампазітар Кузняцоў у Паўночным Казахстане. Больш двух тысяч кіламетраў прайшоў ён і праехаў на машыне. На кожным кроку сустракаўся кампазітар з прыкладамі самаадданай працы савецкіх людзей, з яркімі карцінамі непарушнай дружбы паміж народамі нашай вялікай Радзімы.

Так узніклі песні Кузняцова, якія ён развучваў з маладымі цаліннікамі і спяваў з калектывамі мастацкай самадзейнасці саўгасаў і калгасаў на раённых, абласным і рэспубліканскім аглядах народнай творчасці Казахскай ССР. Тады ж узнікла ў кампазітара і задума стварыць твор буйнай формы аб героях цаліны.



І вось кантата для хору, сімфанічнага аркестра і салістаў — тэнара і барытона — набліжаецца да свайго завяршэння. Тэкст гэтага твора кампазітар Кузняцоў стварыў у садружнасці з казахстанцам К. Разганяевым і беларусам А. Дзеружынскім.

У пяці частках кантаты «Родныя краі» аўтар малюе карціны неабдымных і багатых прастораў зямлі Казахстана, прыходу новага жыцця ў стэп і пераўтварэння прыроды, веліч духу савецкіх людзей-пераўтваральнікаў, брацкую дружбу народаў.

Для стварэння кантаты «Родныя краі» кампазітар шырока скарыстаў казахскія і беларускія народныя тэмы. Асабліва цікава злучаюцца гэтыя тэмы ў фінальнай карціне вяселля, дзе беларуская дзяўчына выходзіць замуж за юнака-казаха.

Несумненна, што ў дні святкавання 40-годдзя Беларускай ССР кантата аб героях цаліны беларускага кампазітара Івана Іванавіча Кузняцова прагучыць у юбілейных канцэртах.

**В. БАРХАТАВА.**



Іван Кузняцоў.

# Пак Ен і музычная культура КНДР

Сёлетні год з'яўляецца юбілейным у развіцці музычнай культуры Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі. У маі споўнілася 500 год з дня смерці геніяльнага музыканта Карэі — Пак Ена. Музычная дзейнасць Пак Ена была сапраўды ўсебаковая: ён сістэматызаваў музычныя тэорыі, працаваў над складаннем музычнай літаратуры, рэканструяваў музычныя інструменты, вынайшаў нотны запіс пры дапамозе літар, распрацаваў методыку выкладання ігры, напісаў гісторыю музычнай спадчыны карэйскага народа і г. д.

Пак Ен першым у карэйскай музыцы павёў барацьбу са схаластычнымі тэорыямі і поглядамі і падкрэсліў, што крыніцай натхнення для музыканта з'яўляецца народ і яго музыка. Ён першы заклаў традыцыі карэйскай класічнай музыкі і з'яўляецца яе заснавальнікам.

Нарадзіўся Пак Ен у 1378 годзе ў сям'і збяднелага пана з вёскі Ендон у правінцыі Чхунчон. Ужо ў дзяцінстве ён вельмі добра іграў на духавым інструменце з бамбуку — чжоту. Потым ён пачынае вучыцца іграць на струнным інструменце — камунго, а праз некалькі год дасягае дасканаласці ў ігры амаль на ўсіх вядомых у той час музычных інструментах. Адначасова Пак Ен становіцца адным з найбольш адукаваных людзей сваёй краіны ў галіне тэорыі музыкі. Але ў той жа час ён быў і адным з самых бедных грамадзян Карэі, бо імператар не залічваў яго на дзяржаўную службу.

Толькі ва ўзросце 47 год Пак Ен атрымаў з боку ўлад сапраўднае прызнанне яго таленту. Ён прызначаецца кіраўніком усёй музычнай адукацыі і канцэртных спраў краіны і імператарскага палаца, яму даручаюць складаць музычны рэпертуар для выканаўцаў. У спецыяльным дакладзе на імя імператара ён выказвае свае заўвагі аб народнасці музычнага мастацтва, аб вывучэнні музычнай спадчыны, аб методыцы выканаўчага май-



Пак Ен.

стэрства, аб асновах музычнай тэорыі.

Гэты даклад адыграў выключную ролю ў развіцці тагачаснай музычнай культуры.

У 1433 годзе Пак Ен заканчвае напісанне сваіх буйнейшых музычных твораў — сімфоній для аркестраў ў суправаджэнні спеваў і танцаў. У такіх творах кампазітара, як, напрыклад, «Чжонтэоп», «Палсан», «Емінан», удасканалены нацыянальны аркестр народных інструментаў упершыню дасягае ў карэйскай музыцы шырокага выкарыстання. І нягледзячы на тое, што музыка тут адпавядае патрабаванням дварцовага этыкету, яна глыбока народная.

Цікава адзначыць таксама і тое, што Пак Ен быў першым, хто патрабаваў і дабіўся, каб дзеці з народа атрымалі ўжо ва ўзросце 8 год права на музычную адукацыю і каб для іх спецыяльна пісалі ноты.

Апошнія гады жыцця Пак Ена былі трагічнымі. Яго сын быў пакараны смерцю. Стары кампазітар быў таксама прыгавораны да пакарання, але за яго заступіўся адзін з тагачасных буйнейшых музыкантаў у Карэі. Пак Ен быў высланы з Сеула. Летапіс перадае, што калі ён пакідаў горад, натоўпы людзей плакалі, а геніяльны музыкант іграў перад імі ў апошні раз на флейце свае мелодыі.

Багатыя ўзоры песеннай, інструментальнай і танцавальнай музыкі стварыў карэйскі народ на працягу амаль пяці стагоддзяў пасля смерці Пак Ена. Але ствараць шматбаковую прафесійную музычную культуру народ атрымаў магчымасць толькі тады, калі стаў свабодным і незалежным. Гэта адбылося ў жніўні 1945 года, калі, дзякуючы сусветна-гістарычным перамогам Савецкай Арміі над германскім фашызмам і японскім імперыялізмам, над Паўночнай Карэяй узнялося сонца новага, свабоднага жыцця.

На працягу тых год, якія прайшлі з 15-га жніўня 1945 года — дня вызвалення Паўднёвай Карэі ад японскіх імперыялістаў — непазнавальна змянілася музычнае жыццё ў краіне. Створаны кансерваторыя, музычнае вучылішча, музычны тэатр, чатыры сімфанічныя аркестры, аркестр нацыянальных народных інструментаў, харавая капела, Ансамбль песні і танца Карэйскай Народнай Арміі і іншыя музычныя калектывы. Усе кампазітары і музыканты краіны аб'яднаны ў Саюзе музыкальных дзеячоў. У Карэі загучалі дзесяткі і сотні прафесійных музычных твораў, у якіх апавядаецца аб здзяйсненні мар народа, аб любві і адданасці сваёй радзіме.

Вызваленчая гераічная барацьба, якую тры гады вёў карэйскі народ супраць імперыялістычных агрэсараў, не зменшыла яго творчую актыўнасць. Наадварот, дзеячы мастацтва Карэі зрабілі сваю зброю больш мэтанакіраванай, узнімаючы сваёй творчасцю баявы дух воінаў і працоўных Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі.



Карэйскі музычны інструмент тхенчжон.



Добрай ілюстрацыяй да творчай дзейнасці дзеячоў карэйскага мастацтва ва ўмовах вайны з'яўляюцца наступныя радкі з артыкула «Мастацтва служыць народу» кампазітара Кім Сун Нама: «Нярэдка кампазітарам прыходзілася ісці пешкі за дзесяткі кіламетраў, каб адшукаць сабе некалькі аркушаў нотнай паперы, а часам — складаць свае песні, запісваючы іх на разлінаваных кавалках газет. Музыканты нашых сімфанічных і народных аркестраў навучыліся самі рамантаваць свае інструменты, складаць іх з парозненых частак. Колькі разоў здаралася, што прызначаная рэпетыцыя аркестра ці хору не магла адбыцца ва ўмоўленым месцы таму, што памяшканне было разбурана чарговым налётам паветраных бандытаў! Амаль не было выпадку, каб тое ці іншае масавае мастацкае мерапрыемства было сарвана».

Ствараючы нацыянальную прафесіянальную музыку, карэйскія кампазітары не абмяжоўваюцца рамкамі аднаго ці двух жанраў. Вось чаму зараз ужо існуюць карэйскія оперы, сімфанічныя творы, кантаты, араторыі, хоры, масавыя песні, творы для народных інструментаў, музыкальныя харэаграфічныя кампазіцыі.

Гаворачы аб першых карэйскіх нацыянальных операх, неабходна адзначыць оперу «Он Даў» кампазітара Хван Хан Кіна на тэмы гераічнага эпасу, оперу «Чун Хян» Лі Мен Сана аб жыцці карэйскай жанчыны ва ўмовах феадалізма, оперу «Чыр Жын» Кім Вон Юна і «Партызаны» Кім Сун Нама. Апошнія дзве оперы прысвечаны гераічнай барацьбе народа Карэі за свабоду і незалежнасць.

З песень партызанскай барацьбы карэйскага народа супраць агрэсараў вялікую цікавасць уяўляе «Песня маці партызана». Напісана яна кампазітарам Кім Ок Сенам і вельмі папулярная ў карэйскім народзе.

Ствараючы мноства патрыятычных твораў, кампазітары Народна-Дэмакратычнай Карэі аддаюць вялікую ўвагу тэме працоўнага энтузіязму, гераічнай працы.



Карэйскі музычны інструмент вагенху.

Адным з буйнейшых твораў аб мірнай працы карэйскага народа з'яўляецца араторыя аб рацэ Аннаган Кім Он Сена на тэкст паэта Цю Сон Вона. У араторыі «Аннаган» аўтары расказваюць, што вялікая рака, якая раней толькі несла ў мора свае воды, зараз месца, дзе будуецца энергетычная база Карэі — грандыёзная гідраэлектрастанцыя.

Да ліку найбольш папулярных твораў аб працы карэйскага народа належаць песні «Ля ручайка» — Юн Сін Дана; «Песня аб малацьбе» — Кім Он Сена, «Мой любы стаў героем» — Цен Дзін Ока; «Маракі» — Пан Хан Ю.

Ва ўсіх гэтых песнях гаворыцца аб палымянай любві да Радзімы, дзе праца стала справай гонару.

Музыканты Карэі ўжо дасягнулі значных поспехаў у развіцці сваёй музыкі. Яны ганарацца тым, што пяць стагоддзяў назад народ выхаваў такога геніяльнага музыканта, як Пак Ен, і, развіваючы мноства яго традыцый у нацыянальным мастацтве, ствараюць нацыянальную па форме, сацыялістычную па зместу музыку. Гэта музыка ўнясе яшчэ больш скарб у сусветную музычную культуру.

**І. НІСНЕВІЧ.**

# Разгорнем карту роднага краю

## „Але ж і ім далі!..“




Нядаўна Міністэрства культуры БССР вырашыла ўстанавіць помнік у гонар паўстання сялян вёскі Сетча Рудзенскага раёна, якое адбылося 2 мая 1907 года.

У Сетчы да гэтага часу жывуць многія непасрэдныя ўдзельнікі падзей таго далёкага часу. Якаў Станкевіч, Кузьма Дражнік, Гарасім Крывашэй, браты Белабровікі — Нічыпар і Сяргей, Тэкля Фіневіч, Наталля Дражнік, Вера Белабровік, Антоля Голуб і іншыя. Большасці з іх — за семдзесят гадоў.

Вось што расказвае аб паўстанні Вера Марцінаўна Белабровік.

— Цяжка было тады жыць, не тое, што цяпер. Галеча была ды нястача. Бывала, працуем у пана Янішэўскага на полі цалюткі дзень, не разгінаючы спіны. Увечары ідзём на панскі двор. Выйдзе Цэзары (так пана звалі) на ганак і, нібы жабракам, раздае жанчынам па грывеніку, а мужчынам па пятнаццаць—дваццаць капеек. Але і гэта было не заўсёды. Іншы раз толькі і пачуеш ад пана: «Марш дамоў!», і грошай не заплаціць. Доўга цярпелі людзі, ды не пад сілу стала, і пачалі гаварыць паміж сабой: «Дакуль жа будзем цярпець здзекі?..»

І надумалі забаставаць. А тут якраз прыехаў з Екацерынаслава Антон Белабровік. Ён і ўзначаліў забастоўку. Самая пара была садзіць бульбу, а з сетчанскіх сялян ніхто на работу не выйшаў. Затрывожыўся пан. Як жа! Не будзе бульбы — увосень спыніцца бровар (пан гарэлку гнаў з бульбы), даходаў не будзе. Дзень, другі, пяты на панскім полі нікога, а потым пан прывёз сялян з дальніх вёсак. І хітры ж: не сказаў ім, што Сетча забаставала. І пачалі тыя сяляне працаваць пад ахovаю паліцэйскіх.

Як даведаліся ў Сетчы аб гэтым, сабраліся ўсе — і маладыя і старыя, пабралі хто што: палкі, вілы, косы, а хто паклаў каменне ў кішэню і пайшлі на панскае поле. Як мінулі грэблю цераз балота, дык адразу, размахваючы палкамі, кінуліся на варту. Паўцякалі паліцэйскія, а сяляне рассыпаліся па полі, паламалі кошыкі, паабарочвалі калёсы з бульбай, парэзалі гужы і пастромкі.

— Нарабілі пану работы, — усміхаецца бабка Вера. — А потым думаем, што ж цяпер будзе? І згаварылася сяло: на сваім стаяць.

Тым часам панская тэлеграма паляцела ў Ігумен (цяпер горад Чэрвень). Назаўтра прыехала больш як паўсотні паліцэйскіх. Наперадзе — спраўнік Глыбоўскі на белым кані паблісквае бляшкамі. А сяло таксама не спала. З самага ранку на сярэдзіну вёскі па аднаму, па два, а то і групамі сабраліся ўсе. Гудзе Сетча, як патрывожаны вулей. Людзі загарадзілі сабою вуліцу — не даюць стражнікам праезду. Стражнікі спыніліся, а Глыбоўскі і пытае:

— Чаго вы хочаце?

— Мы жыць хочам! Есці хочам! Нас за людзей не лічаць!

Крыкі, шум, гоман.

— Па дамах, — закрычаў Глыбоўскі,— разыходзься!

Ніхто і не падумаў разыходзіцца, яшчэ больш зашумелі ў натоўпе. Тады ўраднік Хадыка шапнуў на вуха Глыбоўскаму, што тут адзін з галоўных зачыншчыкаў — Ілья Кудзелька.

— Арыштаваць! — скамандаваў Глыбоўскі.

Калі ўраднік пагнаўся на двор дзеда Базыля за Ільёй, сяляне звалілі Хадыку на зямлю і пачалі біць і мясіць нагамі. Той зароў. Глыбоўскі, спяшаючыся на выручку ўрадніку, падскочыў на кані да варот Базыля. Сівенькі дзядок, — я і цяпер, хоць прайшло больш як паўвека, як бачу яго, — гаворыць бабка Вера, — замахнуўся кійком на спраўніка. «Куды цябе нячыстая сіла нясе?» — паспеў вымавіць ён. Спраўнік тут жа стрэліў у Базыля. Дзядок войкнуў і, як падкошаны, павіс на варотах.







**Удзельнікі паўстання** (злева направа)—**Ілья Кудзелька, Кузьма Дражнік і Іван Крывашэй.** (Здымкі 1906 г.)

Сяляне паламалі платы і кінуліся на стражнікаў. Білі іх, не шкадуючы, хто як мог. Заціснулі іх у круг, што ім і не павярнуцца. Глыбоўскі тады скамандаваў:

— Агонь! — і пачалася стральба.

Мёртвы ўпаў Аляксей Крывашэй — каваль быў сельскі, малады ды прыгожы. Схапіўся за плячо ранены Васіль Канцавенка, Паўлюка Белабровіка ранілі ў нагу — паваліўся ён...

Не здаюцца сетчанцы, б'юцца... Доўга біліся! Але што ж: у паліцэйскіх стрэльбы, а ў нашых — кулакі ды палкі. І то як трапіўся стражнікам момант, адразу галопам выехалі цераз нейчы двор на гуменні і ўцяклі ў маёнтак.

Назаўтра мы хавалі дзеда Базыля і каваля Аляксея. Усё сяло плакала.

Праз месяц ад раны памёр і Павел Зязюльчык. Шасцёра дзяцей пакінуў.

— Вось як было, — заканчвае расказ бабка Вера. — Нашым хапіла, але ж і ім далі!..

Праз некаторы час над сетчанцамі адбыўся судовы працэс. Былі арыштаваны і сурова пакараны Марук Дударчык, Кузьма Дражнік, Антон Белабровік, Карп Станкевіч і многія іншыя паўстанцы.

**Н. СЯРГЕЕЎ.**

## Гродзенскі балет




Шмат цікавых з'яў у галіне культурнага жыцця Беларусі XVIII стагоддзя звязана з горадам Гродна. Вось адна са старонак гісторыі.

У 1762 — 64 гадах буйны магнат, стараста горада Гродна Антоні Цізенгауз стварыў тэатр і першае ў гісторыі Польшчы і Беларусі балетнае вучылішча. Паводле звестак гісторыка А. Мілера, «...Гродзенскі тэатр нарадзіўся амаль аднachасова са Слонімскім... спачатку ствараецца пры тэатры драматычная трупа і балетная школа (дзе ставіліся невялікія аперэты і балеты), а пасля і камедыі».

У 1770 годзе Цізенгауз для свайго балету, які быў набраны з беларускіх

і польскіх прыгонных (т. зв. «эканамічных сялян») запрасіў вядомага ў той час французскага балетмайстра Леду, а пасля — таленавітых танцораў Людвіга і Каэтана Петынелі. Акрамя балетнай трупы, з тых жа «эканамічных сялян» быў створаны і аркестр пры тэатры.

З 1770 года ў гэтым тэатры Цізенгауза пастаўлена некалькі балетаў. Аб балетных спектаклях тых год сучаснік Экстэрахер успамінаў: «... яны былі бліскучыя і старанна пастаўленыя. У 1778 годзе адбылося цудоўнае выступленне Магдаліны Вясельскай з Леду і Петынелі. У тым жа годзе паставілі «Вясковы балет», «Квартэт дудароў», «Балет пекараў»...

У 1785 годзе Цізенгауз прывёз балет (з 60 чалавек) у Варшаву і падараваў яго каралю Станіславу-Аўгусту IV. Кароль, пасля незвычайных па свайму поспеху выступленняў перад варшаўскім гледачом, даў славутым танцорам і балярынам вольную.

У далейшым увесь склад гродзенскага кардэбалету (балету пейзан), пасля трыумфальнай паездкі па Еўропе, склаў аснову варшаўскага балету.

**Г. БАРЫШАЎ.**




# Рэдкі партрэт

Гэты партрэт народнага паэта Беларусі Якуба Коласа ў друку змяшчаецца ўпершыню. Ён зроблены ў 1912 годзе пасля выхаду Коласа з Мінскага астрогу, куды ён быў пасаджаны за рэвалюцыйную дзейнасць. Пасля гэтага Якубу Коласу цяжка было знайсці сабе работу. Ён вымушаны быў зарабляць на жыццё прыватнымі ўрокамі. Толькі пазней яму ўдалося атрымаць пасаду настаўніка ў чыгуначнай школе ў горадзе Пінску.

Фотапартрэт Якуба Коласа ў мундзіры настаўніка чыгуначнай школы захоўваўся ў яго сястры Алены Міхайлаўны Лойка, якая жыла разам са сваім мужам на Украіне. Нядаўна гэты рэдкі і цікавы здымак паэта сястра падаравала літаратурнаму музею Якуба Коласа пры Акадэміі навук БССР.

**Л. МІРАЧЫЦКІ.**








# Мастак Ілья Лукомскі

І. А. Лукомскі нарадзіўся ў 1906 г. у Полацку. Дзіцячыя гады яго прайшлі ў Магілёве на Дняпры. Там жа ў 1920 г. ён працаваў чарцёжнікам і афарміцелем у дэкарацыйных майстэрнях палітаддзела арміі (пазней — у чырвонаармейскім універсітэце 16-й Арміі). У 1922 годзе ён паступіў у Маскоўскія вышэйшыя мастацка-тэхнічныя майстэрні, дзе займаўся пад кіраўніцтвам В. Кузняцова, Л. Бруні, В. Фаворскага і І. Чарнышова. У 1930 годзе ён скончыў аддзяленне манументальнага жывапісу.

Творчы шлях мастака фактычна пачаўся ў 1929 г. Яшчэ будучы студэнтам аддзялення манументальнага жывапісу, ён фактычна працаваў ужо як мастак. На працягу 20-ці з лішнім год І. А. Лукомскі паказаў сябе як жывапісец, горача зацікаўлены гераічнымі справамі сваіх сучаснікаў.

30-я гады з іх пафасам працы і энтузіязмам стварэння вельмі добра паказаны мастаком на выстаўцы «Мастакі РСФСР за 15 год», арганізаванай у Маскве ў 1933 г. Тут была выстаўлена яго карціна «На штурм вугалю» (1932), дзе жывапісец паказвае, як шахцёры здабываюць вугаль для заводаў і фабрык другой пяцігодкі. Гэта карціна нарадзілася з шэрагу партрэтаў і замалёвак шахцёраў, іх побыту і жыцця і была прасякнута рамантыкай працоўнага подзвігу.

На пятай выстаўцы маскоўскіх жывапісцаў, арганізаванай у 1937 годзе, а потым на ўсесаюзнай выстаўцы маладых мастакоў, прысвечанай 20-годдзю ВЛКСМ, Лукомскі экспануе шэраг карцін, у якіх паказвае радавых працаўнікоў вытворчасці. Тады ж з'явіліся і яго партрэты рабочых вытворчасці; гэтыя партрэты ляглі ў аснову карцін «Заводскі партком». Некалькі сухаватая па манеры выканання карціна захапляе сваёй прастатой, энергічнасцю характараў.

На сёмай выстаўцы Саюза маскоўскіх мастакоў у 1940 годзе І. А. Лукомскі паказаў сваю карціну «Рабочыя краіны Саветаў», у якой малюе прадстаўнікоў рабочай гвардыі Савецкай краіны.

У час Айчыннай вайны мастак дасягае высокага мастацкага ўзроўню ў жанры франтавых замалёвак. Ім створаны карціны «Абаронцы Сталінграда» (1943), «Клятва сталінградцаў» (1950), «Лётчыца Наталля Метліна» (1953) і шэраг іншых. З гэтых карцін паўстае гераічны вобраз салдата Радзімы.

Рана абарвалася жыццё нашага земляка, мастака Ільі Абрамавіча Лукомскага. Памёр ён у 1954 годзе.

**С. ПАЛЕЕС.**

# *Навука і тэхніка*

## ХІМІЯ—НАШ БЛІЗКІ СЯБАР

Гістарычнае рашэнне майскага Пленума ЦК КПСС аб развіцці хімічнай прамысловасці дало новы штуршок навукова-тэхнічнай думцы!

Кожны дзень пошта і тэлеграф разносяць па краіне весткі аб укараненні ў вытворчасць новых метадаў вырабу штучных матэрыялаў, аб адкрыццях вучоных, аб прымяненні пластмас у самых розных галінах гаспадаркі. Папулярнымі сталі словы, раней вядомыя толькі хімікам: лаўсан, нітрон, анід, хларын, энант... Чаго толькі нельга зрабіць з сінтэтычных матэрыялаў! Ад разнастайных тканін да хірургічнага інструменту, ад канатаў для кітабойных суднаў да друкарскага шрыфту, які ў дзесяць разоў лягчэйшы за свінцовы і зусім не шкодны для здароўя чалавека, ад лячэбнай бялізны да эластычных трубак, якія замяняюць крываносныя сасуды пры аперацыях на сэрцы,—усё можна рабіць і многае ўжо робіцца з пластмас.

Адзін завод, які выпускае ў год 40 тысяч тон хімічнай прадукцыі, замяняе столькі бавоўны, колькі можа быць вырашчана на плошчы каля 50 тысяч гектараў паліўных земляў, або столькі ільну, колькі яго могуць даць пасевы на плошчы 200 тысяч гектараў.

Ужо сёння ў нашай народнай гаспадарцы прымяняецца больш 2000 відаў розных вырабаў з пластмас. Пластмасы ідуць нават на выраб танкавай брані, спаборнічаючы са сталлю. Пластмасы ж замяняюць, здавалася б, самы лёгкі прадмет—корак, таму што ўдзельная вага некаторых з іх у 10 разоў меншая за ўдзельную вагу корку. Паліамідныя прывадныя рамяні служаць у пяць разоў больш за звычайныя і да таго ж дазваляюць удвая і ўтрая павялічыць хуткасць перадач.

Што з'яўляецца сыравінай для сінтэтычных матэрыялаў? У пераважнай большасці, гэта адыходы ад многіх іншых галін вытворчасці і некаторыя віды агульнараспаўсюджаных нехарчовых матэрыялаў: прадукты нафтаперапрацоўкі і коксахіміі, спадарожныя газы нафтаздабычы, прыродныя газы, калійныя солі, фасфарыты, сланцы... З нізкамалекулярных злучэнняў у гэтых відах сыравіны хімікі ствараюць высокамалекулярныя прадукты, здольныя ўтварыць валокны. Гэтыя валокнаўтваральныя злучэнні, або палімеры, могуць шмат разоў рэканструявацца. Нічога такога не адбываецца з натуральнымі матэрыяламі. Гэтая паслухмянасць волі чалавека і робіць сінтэтычныя прадукты вельмі каштоўнымі, ставіць іх вышэй у параўнанні з такімі даўно прывычнымі матэрыяламі, як натуральная шэрсць, натуральны шоўк і г. д.

Тканіны з сінтэтычнай шэрсці лёгкія, не мнуцца, вельмі трывалыя. Валокны капрона, аніда, энанта намнога трывалейшыя за натуральны шоўк. Нітка аніда таўшчынёй у 1 мм вытрымлівае вагу дарослага чалавека (75—80 кг.). Пры гэтым трэба памятаць і аб тым, што штучныя тканіны вельмі танныя. Так для вырабу тканіны на 1 000 касцюмаў патрэбна воўны з 50 авечак, або ўсяго толькі 1,7 куб. метра драўніны. У 1965 годзе нафтавая сыравіна і прыродныя газы заменяць пры вырабе мыла і духоў 400 тысяч тон харчовых тлушчаў.

Дзякуючы прымяненню пластмас тэхніка робіць новы гіганцкі крок наперад. Ад дзвярных ручак да дэталей штучных спадарожнікаў Зямлі пластмасы знаходзяць сабе самае надзейнае прымяненне. Цудоўныя ўласцівасці пластмас адкрываюць перад чалавекам шмат новых магчымасцей. Прыкладам могуць служыць штучныя каучукі. У Маскве, у Музеі Рэвалюцыі, захоўваецца ўзор першага атрыманага на зямным шары сінтэтычнага каучуку. Ён быў здабыты ў нас у краіне ў 1930 годзе. Цяпер мы выпускаем некалькі дзесяткаў новых гатункаў сінтэтычнага каучуку з самымі нечаканымі ўласцівасцямі, якімі не валодае ніводзін з вядомых гатункаў натуральнага каучуку.

З нафтавых газаў і фтору можа быць атрыман белы, як цукровая пудра, парашок. Гэты прадукт называецца «Фторапласт-4». Зроблены з яго тонкі, як шпагат, пруцік можа вытрымаць нацяжэнне ў 200 кг, а нажніцамі перарэзваецца лёгка, як папера. Фторапласт вытрымлівае тэмпературу плюс 300 градусаў. Гэта добры ізаляцыйны матэрыял.

Апісаннямі цудаў сінтэтычнай хіміі і расказамі аб перспектывах, якія адкрываюцца з развіццём прамысловасці штучных матэрыялаў, можна было б запоўніць наш часопіс ад першай старонкі да апошняй. Накіроўваючы чытача за спецыяльнымі звесткамі ў тэхнічныя выданні, мы даём ніжэй некалькі заметак, якія расказваюць аб навінах у розных галінах хімічнай прамысловасці.

### ШТО ТАКОЕ ЛАТЭКСЫ?

Сёння слова латэксы зразумелае толькі хіміку, ды і то бадай не кожнаму. Але пройдзе вельмі кароткі час, і яно стане такім жа папулярным, як, напрыклад, капрон, нейлон і да т. п.

Латэксы—гэта найдрабнейшыя часцінкі сінтэтычнага каучуку, размешчаныя ў вадзяным растворы. З іх дапамогай атрымліваецца лёгка эластычная губчатая гума, спецыяльныя эмульсійныя фарбы, якія вызначаюцца хуткасцю высыхання і не баяцца вільгаці. Гэтыя фарбы вельмі эканамічныя ўжо таму, што для іх прыгатавання не трэба раслінных маслаў. З дапамогаю латэксу вучоныя, што працуюць у Ленінградскім навукова-даследчым інстытуце сінтэтычнага каучуку імя С. В. Лебедзева, вырашаюць многія праблемы. Адна з іх—рэзкае павелічэнне стойкасці аўтамабільных пакрышак. Калектыў інстытута імкнецца стварыць такі каучук, пакрышкі з якога маглі б служыць столькі ж, колькі служыць аўтамабіль. Пры гэтым сыравіннай базай павінны быць нехарчовыя прадукты,—галоўным чынам нафтавыя і прыродныя газы. Вопытныя партыі матэрыялу для такіх пакрышак ужо атрыманы; дадзена яму і назва—поліурэтан.

Дзякуючы высокай устойлівасці супраць сцірання і нагрэву, устойлівасці супраць разбуральнага дзеяння бензіну і г. д. новыя сінтэтычныя каучукі знойдуць самае шырокае прымяненне. Для параўнання з тым, што можна назваць учарашнім днём тэхнікі, можна прывесці наступныя прыклады. Ні адна гума, зробленая з натуральнага або з вядомых да гэтага часу сінтэтычных каучукаў, не вытрымлівае тэмпературы больш 130 градусаў. У інстытуце імя С. В. Лебедзева створаны тэрмастойкі каучук. Зробленая з яго гума не разбураецца нават пры 250—300 градусах.

### ШПАЛЕРЫ «МАРА ГАСПАДЫНІ»

Якая гаспадыня не мае непрыемнасцей ад плям, што нечакана паяўляюцца на шпалерах? Пазбавіцца ад гэтых плям можна, толькі пераклеіўшы пакой нанава.

Але вось хатняя гаспадыня бярэ вільготную анучку і смела водзіць ёю па шпалерах. Паверхня ліста цямнее, але... праз хвіліну вільгаць выпараецца і шпалеры набываюць першапачатковы свежы выгляд. Мара збылася—шпалеры не баяцца вады! Як гэта зроблена?

Не думайце, што вы маеце справу з нейкім спецыяльным матэрыялам. Не! Гэта самыя звычайныя шпалеры, толькі прапушчаныя яшчэ праз адну машыну. На звычайны ліст, паверх малюнка, наносіцца вельмі тонкі пласт сінтэтычнай хлорвінілацэтатнай эмульсіі. На кавалак у 6 метраў даўжынёй ідзе каля 100 грамаў эмульсіі. Такія шпалеры можна мыць нават з мылам.

Вытворчасць шпалераў, якія можна мыць, пачата на ленінградскай шпалернай фабрыцы.

# *Шахматы*

**Пад рэдакцыяй майстра спорту**
**А. СУЭЦІНА**

## Прыклад спартыўнага даўгалецця

У самым разгары была другая палова матча-рэваншу Смыслоў — Батвіннік... Лік 10:7 у карысць Батвінніка. І каб захаваць сваё званне, Смыслоў павінен быў адыграць 3 ачкі з 7 партый, якія засталіся. Вельмі цяжкая задача! Кожную партыю, па сутнасці, Смыслоў павінен быў іграць востра на выйгрыш, не лічачыся з рызыкай. Зразумела, што ў 18-ай партыі, іграючы чорнымі, Смыслоў выбраў з першых ходаў план вельмі вострай барацьбы. Батвіннік смела прыняў выклік, ахвяраваў пешку і пачаў атаку на каралеўскім фланзе. Сотні гледачоў, што былі ў зале, з напружанай увагай сачылі за ходам барацьбы. Хутка гэтае напружанне дасягнула апагею. Батвіннік мог фарсіравана і вельмі прыгожа выйграць! Смыслоў памыліўся! Ён сыграў занадта азартна! Гэта адбылося пасля 22-га ходу чорных, калі на дошцы склалася пазіцыя, паказаная на наступнай дыяграме.



Батвіннік, які іграў белымі, думаў над сваім ходам, а ў зале прайшоў гул галасоў: 23. Kd4!!—Kd4!! І гледачы былі правыя: у чорных няма абароны ад мацнейшай атакі белых, напрыклад: 23. ...Cd, 24. Cd5+! Л:d5, 25. Ле8!!, і Смыслоў атрымлівае мат!

Але, на здзіўленне ўсіх, Батвіннік не заўважыў гэтай неабходнасці. Ён сыграў. 23. Ch3? і адразу ж Смыслоў ходам 23. ...Ке5! перахапіў ініцыятыву. Справа ў тым, што чорным удаецца перакрыць самую важную атакуючую калону белых — лінію «е». Нявыгадна, вядома, 24. К:е5 fe, 25. Л:е5 з-за 25... Ф:f2+ і г. д. Ініцыятыва перайшла да чорных. Яна ўзрастала з кожным ходам: 24. К:е5 fe, 25. f4, Cc6, 26. Фg5? Батвіннік робіць вялікую памылку. Трэба было іграць 26. Л:е5.

І зноў гледачы замёрлі ў чаканні: Смыслоў жа можа выйграць адным ходам і прытым простым—26. ...Лd2! Што рабіць Батвінніку? «Дазвольце, — гаварылі некаторыя, — Батвіннік павінен даць шах 27. Се6+». Пасля гэтага, моў, што рабіць Смыслову?.. «А 27. ... Лf7!» — даводзілі другія, найбольш «дальнабачныя» гледачы. І Смыслоў усё-такі выйграе.

Так, гэта было слушна. Але што ж думае сам Смыслоў?.. Мінуты ідуць адна за другой, іх на яго цыферблаце застаецца зусім нямнога. І вось пасля васьмімінутнага разважання Смыслоў робіць ход, але—к незадаволенасці ўсіх яго балельшчыкаў!—26. Лde8? Не заўважыў?!.

Як жа стаміліся ад нервовага напружання гэтыя «волаты» шахматаў, калі яны не заўважаюць самыя элементарныя рэчы, якія ведаюць радавыя аматары! Ці не доказ гэта таго, што шахматы — гэта спорт, з усімі вынікамі яго? Як стомлены бягун сусветнага класа можа прайграць самаму звычайнаму, нават не трэніраванаму чалавеку, так і стомлены шахматны чэмпіён можа страціць сваю асноўную зброю—«камбінацыйны зрок».

Гэты момант быў, здаецца, рашаючым для матча і ўсяго далейшага ходу гэтай партыі... Апошнюю частку 18-й партыі Смыслоў правёў надзвычай няўпэўнена і не толькі страціў перавагу, але нават і прайграў.

Калі ў самых заядлых «балельшчыкаў» Смыслова пасля гэтай партыі заставаліся яшчэ нейкія ілюзіі наконт вынікаў матча-рэваншу, дык спецыялістам шахматаў (перш за ўсё гросмайстрам і майстрам), незалежна ад іхніх «сімпатый», было ўжо ясна, што зварот Батвінніку яго чэмпіёнскіх правоў справа толькі вельмі кароткага часу...

І сапраўды, праз пяць сустрэч Батвіннік набраў неабходную яму суму ачкоў—$12\frac{1}{2}$—і зноў стаў чэмпіёнам свету.

Падводзячы вынікі матча-рэваншу, перш за ўсё трэба аддаць належнае пераможцы. Усёй сваёй працай і творчасцю Батвіннік ужо звыш дваццаці пяці год уяўляе цудоўны прыклад для нашай шахматнай (і можна смела сказаць спартыўнай!) моладзі.

Перамогі Батвінніка заканамерныя. Апрача выдатных здольнасцей, ён надзвычай працалюбівы і валодае жалезнай настойлівасцю для дасягнення пастаўленай мэты. Батвіннік не толькі правадыр Савецкай шахматнай школы, ён — буйны спецыяліст у галіне электратэхнікі, доктар тэхнічных навук. Ці не гэта прыклад глыбока прадуманай і заўсёды правадзімай ім у жыццё сістэмы працы, умелага спалучэння асноўнай вытворчай работы са спортам!

Смыслоў несумненна мае выдатныя шахматныя здольнасці, здольнасці, якія цалкам адпавядаюць тым, што патрабуюцца ад чэмпіёна свету. Чаму ж ён усё-такі прайграў матч-рэванш? Атрымаў жа ён год таму назад пераканаўчую перамогу над Батвіннікам! Напомнім, што Смыслоў на цэлых дзесяць год маладзейшы за Батвінніка і знаходзіцца цяпер у росквіце сваіх творчых сіл (яму толькі што споўнілася 37 год).

Калі звярнуцца да гісторыі, дык можна заўважыць, што чэмпіёны свету па шахматах вельмі «даўгавечныя» ў сваім



званні. Прыход новага чэмпіёна свету — з'ява зусім заканамерная, нярэдка звязаная з умацаваннем новага, больш дзейснага, прагрэсіўнага кірунку ў шахматным майстэрстве. Цярністы шлях да вышэйшага шахматнага звання, але звычайна «шахматная карона» не любіць пераходзіць з рук у рукі. У гісторыі шахматаў вядомы адзін выпадак, калі чэмпіён вярнуў сабе званне. Гэта ўдалася геніяльнаму рускаму шахматысту А. Алёхіну, перамогшаму ў 1937 годзе галандскага грасмайстра М. Эйве пасля пройгрышу яму першага матча ў 1935 годзе. Але гэта тады нікога не здзівіла. Алёхін заўсёды пераўзыходзіў па сіле і здольнасцях Эйве і першы матч прайграў, будучы зусім непадрыхтаваны ў спартыўных адносінах. Калі ж Алёхін засяродзіўся, падмацаваў здароўе і пачаў прытрымлівацца спартыўнага рэжыму (перастаў курыць, піць спіртныя напіткі), ён літаральна разграміў Эйве!

Эйве, несумненна, выключэнне ў радзе чэмпіёнаў свету, і вось Смыслову, якога ўвесь свет прызнаў і па спартыўных паказчыках і па шырыні творчых магчымасцей дастойным гэтага вышэйшага звання, прышлося падзяліць сумны лёс галандскага гросмайстра.

Прычына паражэння Смыслова, на наш погляд, перш за ўсё ў пераацэнцы сваіх магчымасцей За год, што прайшоў з часу папярэдняга матча, Смыслоў не сыграў ні ў адным турніры і наогул не ўнёс у свой шахматны «арсенал» нічога новага.

Наадварот, Батвіннік прарабіў велізарную работу. Ён карэнным чынам перабудаваў сваю матчавую тактыку і галоўным чынам змяніў сваю дэбютную стратэгію.

Батвінніку ўдалося «ашаломіць» свайго партнёра і выбіць яго з каляіны. А гэта вельмі важна ў матчавай барацьбе. У першай палове матча Батвіннік моцна захапіў лідарства. Смыслову, страціўшаму ўпэўненасць у свае сілы, нягледзячы на ўсе намаганні, так і не ўдалася настроіць сваю шахматную «ліру». Яго празмернае напружанне прыводзіла толькі да зрываў у самыя адказныя моманты барацьбы, прыкладам чаго можа служыць прыведзеная намі 18-я партыя матча.

Яшчэ год таму назад многія спрабавалі «пахаваць» Батвінніка. Цяпер чутны такія ж прадраканні наконт Смыслова. Канешне, гэта заўчасна. Смыслоў яшчэ малады, і магчыма ў наступным матчы ў 1960 годзе зможа зноў сустрэцца з Батвіннікам. Але для гэтага Смыслову трэба перамагчы ў «турніры прэтэндэнтаў»...

Нарэшце напомнім чытачам, што Батвіннік і Смыслоў сыгралі паміж сабою рэкордны ў практыцы выдатных майстроў лік партый — 91(!), з якіх 24 выйграў Батвіннік, 21—Смыслоў, 46 — закончыліся нічыйнымі.

## ШАХМАТНАЯ ВІКТАРЫНА № 1

З гэтага нумару часопіса мы пачынаем шахматную віктарыну, якая будзе давацца намі ў трох нумарах часопіса. У кожным нумары часопіса будзе змешчана па дзевяць пытанняў па гісторыі, тэорыі і кампазіцыі шахматнай ігры.

За правільнае рашэнне кожнага з гэтых 27 заданняў будзе налічвацца адпаведная колькасць ачкоў (2, 3, 4, 5 і г. д.) у залежнасці ад складанасці таго ці іншага пытання.

**Тры пераможцы, якія набяруць найбольшую колькасць ачкоў (але не менш 60 ачкоў), будуць прэміраваны рэдакцыяй часопіса «Маладосць».**

Тэрмін прысылкі рашэнняў у адрас рэдакцыі—месяц з дня выхаду часопіса з друку.

**ПЫТАННІ:**

1. Калі і ў якім спаборніцтве было **афіцыйна** ўстаноўлена званне чэмпіёна свету па шахматах? Хто і колькі год быў першым чэмпіёнам свету па шахматах? **(2 ачкі)**
2. Выдатны рускі шахматыст М. І. Чыгорын выйграў матч у Ласкера. Дзе, калі і на якіх умовах іграўся гэты матч? Які быў вынік (лік ачкоў) матча? **(3 ачкі)**
3. Колькі прадстаўнікоў Савецкага Саюза і хто іменна будзе ўдзельнічаць ў міжзанальным турніры на першынство свету, які будзе ў г. Порторожы (Югаславія) у жніўні 1958 года? **(2 ачкі).**
4. Хто з савецкіх гросмайстраў або майстроў быў **неаднаразовым** чэмпіёнам нашай краіны? Хто дамогся гэтага звання больш за ўсіх разоў і колькі іменна? **(2 ачкі)**
5. Што такое «гамбіт»? Дайце фармуліроўку гэтай назве? Калі і дзе яна з'явілася? **(3 ачкі)**
6. Што такое «сіцыліянская абарона»? Якімі абавязковымі ходамі яна характарызуецца і з якога перыяду носіць гэтую назву? **(2 ачкі)**
7. Што такое «цугуванг»? Дайце яго вызначэнне. **(2 ачкі)**
8. Знайдзіце лепшы ход. **(3 ачкі)**

Ход чорных.



9. Рашыць эцюд. Белыя пачынаюць і выйграюць **(4 ачкі).**



ЗМЕСТ







**Фашысцкія акупанты разбурылі Брэст. Цяпер горад паўстаў з руін і попелу.**
На здымку: **вакзал у Брэсце, пабудаваны пасля Айчыннай вайны.**
Фота А. Дзятлава



Карціна мастака Е. Растаргуева «Юнацтва» уваскрашае перад намі поўныя гераічнай рамантыкі дні грамадзянскай вайны. Тысячы камсамольцаў тады ішлі на фронт, каб абараніць ад інтэрвентаў і белагвардзейскіх банд першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву. У маленькім эпізодзе развітання з любімай дзяўчынай мастак здолеў перадаць дыханне той суровай эпохі. Цяпер, у дні, калі моладзь рыхтуецца да 40-годдзя ВЛКСМ, карціна Е. Растаргуева асабліва дарагая нам сваім светлым пачуццём, вялікім аптымізмам, гераічнай рамантыкай, якая так хвалюе нашу моладзь.



«Па далінах і па ўзгор'ях» — так назваў сваю карціну мастак В. Шаталін. Ужо ў самой назве мастак хоча падкрэсліць тую ідэю, што наша юнацтва расло і мужнела не ў мяккіх пуховых пярынах, а на рэйдах чырвонай конніцы, у жорсткіх баях за сацыялізм. Неспакойным было юнацтва нашых бацькоў і старэйшых братоў, якія вымушаны былі з маладых год брацьу рукі вінтоўку, каб адстойваць вялікія заваёвы Кастрычніка. Хто ён, гэты бязвусы юнак, што сурова і па-хлапечаму непасрэдна ўглядаецца ў далечыню? Паўка Карчагін, ці можа яго сябра Клімка? У мілым вобразе зусім юнага воіна мастак здолеў перадаць характэрныя рысы моладзі першых гадоў савецкай улады. Уся карціна пераносіць нас у тыя суровыя дні грамадзянскай вайны, калі вырашаўся лёс савецкай Расіі. І мы, углядаючыся ў рысы кожнага з коннікаў, адчуваем найвялікшую удзячнасць да тых, хто сорак год таму назад ішоў на змаганне за наша шчасце.



У цэху шасі Мінскага аўтамабільнага завода паспяхова дзейнічае камсамольскі штаб, які арганізоўвае барацьбу моладзі за чысціню ў цэху, рытмічнасць работы.

На здымку: кіраўнік штаба, старшы тэхнолаг цэха Міхаіл Лаўрыновіч і свідравальшчыца Ніна Яніна. Штаб ганарыцца рабочым месцам камсамолкі-свідравальшчыцы. Тут заўсёды поўны парадак.

Фота А. Дзітлава.



Вучні старэйшых класаў Лагова-Слабодскай сярэдняй школы Мінскага раёна кожнае лета працуюць на палях навакольных калгасаў. Тут размешчаны Дзяржаўная машынна-выпрабавальная станцыя, куды з розных заводаў Савецкага Саюза прысылаюцца новыя сельскагаспадарчыя машыны. Працуючы, рабяты маюць магчымасць добра пазнаёміцца з навейшай тэхнікай, і гэта многіх з іх прыводзіць у рады механізатараў.

На здымку: група выпускнікоў Лагова-Слабодскай сярэдняй школы, якія вырашылі стаць механізатарамі сельскай гаспадаркі, аглядаюць апошнюю мадэль трактара «Беларусь». Злева-направа: Мікалай Гароднікаў, Віктар Андруховіч, Яўген Жыгалка, Лілія Філіповіч і Уладзімір Тымановіч.

Фота А. Дзітлава.